БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя І. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

## ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

У тваіх руках — першая кніга залатой бібліятэкі Беларусі, унікальнага шматтомнага выдання ўсяго лепшага, усяго самага важнага, што было створана на беларускай зямлі з пачатку пісьменства і да на-шых дзён. Агульная яго назва — «Беларускі кнігазбор». Апрача кніг беларускіх аўтараў сюды ўвойдуць у перакладзе таксама лепшыя творы рускіх, польскіх і іншых пісьменнікаў, якія цікава расказалі пра зямлю нашых продкаў. На кніжнай паліцы побач стануць Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Васіль Цяпінскі, Сімяон Полацкі, Францішак Багамолец, Адам Міцкевіч, Ян Баршчэўскі, Юзаф Крашэўскі, Павел Шпілеўскі, Фадзей Булгарын, Ігнат Дамейка, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Эліза Ажэшка, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Андрэй Мрый, Кузьма Чор-ны, Вацлаў Ластоўскі, Ларыса Геніюш, Алесь Сала-вей, Максім Танк, Іван Мележ, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч… Гэта толькі асобныя імёны з вялікага сузор’я незвычайных талентаў, якіх узгада-вала і якім дала магутныя крылы для высокага палёту беларуская зямля.

«Беларускі кнігазбор» будзе складацца з дзвюх серый. У першую — «Мастацкая літаратура» — увойдуць творы славутых майстроў мастацкага сло-ва розных часоў. У другой — «Гісторыка-літаратурныя помнікі» — чытач знойдзе амаль забытыя сёння кнігі выдатных этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, філосафаў, мастацтвазнаўцаў, якія паказалі свету самабытную і багатую культуру беларускага народа. У яркіх мастацкіх вобразах і цікавых дакументальных матэрыялах «Беларускага кнігазбору» раскрыецца ўся тысячагадовая гісторыя Беларусі.

Гэтае маштабнае шматтомнае выданне, якое рыхтуюць лепшыя навуковыя і творчыя сілы Рэс-публікі Беларусь, разлічана на многія гады. Той, хто пачне збіраць кнігі гэтай залатой бібліятэкі, стане з часам уладальнікам самага дарагога скарбу, які бу-дзе перадавацца ў спадчыну яго дзецям, унукам і праўнукам. «Беларускі кнігазбор» стане для іх невы-чэрпнай крыніцай ведаў і духоўнага ўзбагачэння, своеасаблівым універсітэтам культуры.

*Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор»*

## ЯРКАЯ ЗОРКА БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

«Лёгкасць ды яшчэ агонь,
проста піндараўскі…»

*Адам Міцкевіч*

Яшчэ Максім Багдановіч сваім пільным мастакоўскім вокам здолеў разгледзець на захмараным літаратурным небе Беларусі надзвычай яркую, вельмі адметную і вабную зорку, імя якой — Ян Чачот. Называючы самых першых «будзіцеляў» нацыі, пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, якраз гэтае імя вылучыў аўтар «Слуцкіх ткачых» сярод іншых пісьменнікаў першай паловы XIX стагоддзя. У артыкуле «Беларускае адраджэнне» ён зазначыў: «Больш каштоўны ўклад у беларускую літаратуру ўнёс Ян Чачот… Шчыры дэмакрат, які горача любіў беларускі народ, ён збіраў і выдаваў творы беларускай паэзіі, пісаў па-беларуску маралізатарскага характару брашуркі (яны, аднак, не былі надрукаваны), а ў зборніку «Piosnki wieśniacze» (1844 г.) змясціў каля трох дзесяткаў сваіх беларускіх вершаў, напісаных на ўзор народных песень. Стыль быў вытрыманы Чачотам так удала, што гэтыя п’ескі неаднаразова перадрукоўваліся рознымі этнографамі як чыста народныя».

Такая высокая ацэнка творчасці Яна Чачота давалася ў той час, калі яшчэ не былі вядомыя яго некалі вельмі папулярныя сярод студэнтаў і іншай моладзі, поўныя агню і маладога шалу беларускія філаматкія вершы і песні, яго выключна цікавыя, заснаваныя на беларускіх народных паданнях балады, што зрабілі вялікі ўплыў на Адама Міцкевіча, урэшце, яго, знойдзеныя толькі нядаўна, «Спевы пра даўніх ліцвінаў» — своеасаблівая гісторыя старажытнай Беларусі ў песнях. Па сутнасці мы ўсё яшчэ адкрываем для сябе Яна Чачота, творчасць якога была распылена па розных, амаль не даступных цяпер выданнях і шматлікіх архівах. Дарэчы, яшчэ не знойдзены зборнік Чачотавых твораў, які збіраўся выдаць у Маскве сасланы туды яго сябар-філамат Ануфры Петрашкевіч…

Значэнне творчасці Яна Чачота цяжка пераацаніць. Ян Чачот — гэта досвітак новай беларускай літаратуры, яе першыя крокі, прадвесне нашага нацыянальнага адраджэння. Ён быў сапраўднай пуцяводнай зоркай для многіх пакаленняў беларусаў, яркім прыкладам самаадданага служэння свайму народу.

Нарадзіўся Ян Чачот у вёсцы Малюшычы Наваградскага павета на самым схіле XVIII стагоддзя — 24 чэрвеня 1796 г., якраз на свята

Яна Купалы — таму і атрымаў такое імя. Хрысцілі малога Яна, «сына радавітай шляхецкай сям'і Чачотаў — Тадэвуша і Клавы з дому Гаціскіх», як даводзяць метрыкі, у парафіяльным касцёле ў Варончы. Прычым ён быў ахрышчаны двойчы — спачатку, 6 ліпеня, уніяцкім, а потым, 19 ліпеня, — каталіцкім святаром, які даў яму і другое імя — Антоні. З Малюшычаў Чачоты, якія арандавалі там фальварак, праз нейкі час перабраліся пад Баранавічы. Гаспадар сям'і Тадэвуш Чачот наняўся там да пана Тызенгаўза служыць аканомам у маёнтку Рэпіхава Навамышскай парафіі таго ж Наваградскага павета (цяпер — Ляхавіцкі раён). Тут, на берагах ракі Мышанкі, і «прамільгнуў ранак жыцця» Яна Чачота, як сведчыць яго балада «Мышанка».

Адсюль, з-пад Новай Мышы, Ян Чачот падаўся на вучобу ў павятовы горад Наваградак, у дамініканскую школу, дзе шчыра, на ўсё жыццё пасябраваў са сваім аднакласнікам, таксама ўраджэнцам Наваградчыны, будучым вялікім паэтам з сусветным імем Адамам Міцкевічам. Пра пачатак гэтага сяброўства, пра гады вучобы ў Наваградскай школе святых дамініканцаў, ці «белакаптурных», як называлі іх вучні (ад адзення — белы каптур), паэтычна расказвае Адам Міцкевіч у вершы, напісаным 24 чэрвеня 1819 года ў час святкавання імянін Яна Чачота:

О Ян! Б'юцца музы за верш твой, каб быў адмысловы!
Мне ж не памагаюць! Але — сам спяваць я гатовы!
Са мной ты заўсёды — я дома ці дзесьці на волі.
Каго ж больш люблю я, хто змалку мілейшы мне болей?
Яшчэ на парозе жыццёвым, у галасе вуліц.
Адны ў нас навукі былі, перапалкі і гулі.
І хто ж апроч нас з табой, Яне, так шумна сваволіў,
Што трэсліся тоўстыя сцены, здаецца, у школе?
І хто ж да нас белакаптурным так смела пярэчыў,
Пад палкі іх горда свае падстаўляючы плечы?..
Хаця пра чарцей мы спрачаліся да пасінення,
Хаця, пра душу маю дбаючы, ў часе малення
Мяне ты з аблокаў, куды я ўсё лётаў у марах,
Ізноўку вяртаў на зямлю, таўхануўшы мне ў карак.
Адны былі думкі ў нас, як і ў навуках рахуба,
Пакуль не ўхапіў цябе ў лапы свае Людвік Дзюба.
Пачаў ты тады ўжо ад стоіцкіх цнот ухіляцца
І жыць не занадта набожна, жыццём захапляцца.
Тады, паднабраўшыся сіл, бы з крыніцы чароўнай,
Ва ўсім перамог ты Адама — фізічна й духоўна…

Як відаць з гэтых сяброўскіх прызнанняў, ні Адама Міцкевіча, ні Яна Чачота ўжо не задавальнялі казённыя, часта схаластычныя

«навукі», якія ім убівалі ў галовы з дапамогай бізуноў «белакаптурныя», каго яны не раз «абдурвалі» сваёй «шыфраванай мовай». З затхлых цемнаватых калідораў дамініканскай школы іх неадольна цягнула на волю, на прастор, дзе віравала сапраўднае жыццё, з усімі яго бядотамі і радасцямі, з яго дзівоснымі кантрастамі і супярэчнасцямі і дзе людзі рупіліся зусім іншымі, чым у школе, вельмі далёкімі ад кніжных турботамі. Неадрыўныя ад жыцця, ад свайго мінулага і сучаснасці, гэтыя людзі часта ў саміх сябе неслі гісторыю: напрыклад, бацька Адама Міцкевіча быў удзельнікам паўстання пад кіраўніцтвам авеянага легендамі Тадэвуша Касцюшкі і мог нямала цікавага расказаць сыну, як і яго сябру Яну Чачоту.

Успаміны бывалых людзей, асабліва такіх, як Мікалай Міцкевіч, паўстанцаў, мэты якіх так і засталіся няспраўджаныя, бунтавалі розум і сэрцы дапытлівых юнакоў, гэтакіх непадобных да іншых, часта старэйшых узростам («даўгіх, як чаплі») і тупаватых, няздатных да навукі, але паслухмяных «шкаляроў». Ды і самі сябры добра бачылі праявы ганебнага нацыянальнага і сацыяльнага ўціску.

Пра гэта ўжо тады, у школьныя часы, пачыналі задумвацца абодва юнакі, надзеленыя ад прыроды чулай душой і добрымі сэрцамі. Ужо тады са спагадай, з павагаю глядзелі яны на просты люд, з якім сустракаліся ўсюды — і ў самім Наваградку, і ў ваколіцах. Якраз гэта спагада, гэта павага і цягнула іх больш уважліва прыглядзецца да народнага жыцця, вывучаць вусную паэзію беларуса-селяніна, яго звычаі, абрады, вераванні. Пра зацікаўленасць Яна Чачота і Адама Міцкевіча народнай творчасцю ў часы навучання ў Наваградку сведчыць іх блізкі сябар і зямляк, таварыш па Віленскім універсітэце і Таварыстве філаматаў Ігнат Дамейка, які піша ў сваіх успамінах: «Два нашы студэнты Наваградскай школы з гадоў маленства добра ведалі наш літоўскі (гэта значыць беларускі. — *К.Ц.*) люд, палюбілі яго песні, прасякнуліся яго духам і паэзіяй, да чаго, вядома ж, прычынілася і тое, што малое мястэчка Наваградак не шмат чым адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было хутчэй сельскае. Сябры хадзілі на кірмашы, на царкоўныя ўрачыстасці, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і хаўтурах. У тыя школьныя часы ўбогая страха і народная песня распалілі ў абодвух першы паэтычны агонь. Адам хутка ўзнёсся да высокай сферы сваіх цудоўных твораў. Ян жа да смерці застаўся верны народнай паэзіі…»

У 1815 годзе, развітаўшыся часова з Наваградкам, Ян Чачот і Адам Міцкевіч скіравалі ў Вільню — шукаць сваю долю. Не здолеўшы трапіць у лік «казённакоштных» студэнтаў Віленскага універсітэта, як гэта ўдалося Адаму Міцкевічу, Ян Чачот мусіў шукаць нейкую працу. Спачатку меў невялікі заробак за паслугі віленскім адвакатам, а потым знайшоў пасаду пісара, альбо «пішчыка», як ён сам сябе называў, у Масе радзівілаўскай — створанай царом Аляксандрам I спецыяльнай

камісіі для разбору архіваў нясвіжскіх Радзівілаў пасля смерці апошняга іх нашчадка Дамініка Радзівіла.

Толькі праз год пасля пераезду ў Вільню Ян Чачот змог ажыццявіць сваю мару — стаць студэнтам «галоўнай школы Літвы» — Віленскага універсітэта. Паступіў ён на факультэт маральных і палітычных навук з мэтай вывучыцца на адваката. Таму заўсёды хадзіў «пад руку» са «Статутам Вялікага Княства Літоўскага». «Так я заглыбіўся ў «Статут», — пісаў Чачот сябру Ануфрыю Петрашкевічу, — што калі з Жэготам (Ігнатам Дамейкам. — *К.Ц.*) пачынаем спяваць, то ён з кнігі нямецкай, а я са «Статута» што-небудзь спяваю». Праўда, вучобу трэба было спалучаць са службай у Масе.

Разам з тым дзейсны па натуры Ян Чачот не мог адгарадзіцца ад свету стосамі папер ды кнігамі. Гэта ж быў час нарастання грамадска-палітычнага руху, накіраванага супраць царскага самадзяржаўя, барацьбы за адмену прыгонніцтва. Абвешчаныя Вялікай французскай рэвалюцыяй палымяныя лозунгі свабоды, роўнасці, братэрства былі з энтузіязмам падхоплены перадавымі грамадскімі коламі многанацыянальнай Расійскай імперыі.

Калі ў 1817 годзе ўтварылася тайная арганізацыя студэнтаў Віленскага універсітэта Таварыства філаматаў (аматараў навук), Ян Чачот, не задумваючыся, уступае ў гэтае згуртаванне, каб прыняць у ім самы актыўны ўдзел. Разам з Тамашом Занам, Адамам Міцкевічам, Юзафам Яжоўскім, Ануфрыем Петрашкевічам, Францішкам Малеўскім, Міхалам Рукевічам, Юзафам Кавалеўскім, Ігнатам Дамейкам і іншымі сябрамі-філаматамі ён рабіў усё, каб аб'яднаць беларускую моладзь для актыўнай грамадскай дзейнасці. Чачот надзвычай актыўна выступаў на філамацкіх пасяджэннях са сваімі творамі, з разглядам творчасці сяброў, з навуковымі паведамленнямі, рабіў агляды варшаўскага друку. Аб грунтоўнасці і сур'ёзнасці яго выступленняў сведчыць хаця б прачытаная на адным з такіх пасяджэнняў рэцэнзія на баладу Адама Міцкевіча «Курганок Марылі». Але больш за ўсё любілі філаматы Яна Чачота за яго вясёлыя і смелыя песні і вершы, якія ён пісаў да ўсіх сходак і вечарынак філамацкай сям'і. Ян Чачот быў як бы штатным «песняром», ці «дударом» згуртавання. Прычым, як падкрэслівае «Польскі слоўнік біяграфічны», «спецыяльнасцю яго былі беларускія песні, якія ён складаў да падзей дня на ўзор народных песень».

Паколькі розныя згуртаванні, тым больш тайныя, строга забараняліся, філаматы былі вельмі асцярожнымі ў падборы новых сяброў. Выбіраліся толькі надзейныя і здатныя да навуковай дзейнасці і літаратурнай творчасці студэнты. Таму Таварыства філаматаў было нешматлікай арганізацыяй. За ўвесь час свайго існавання ў яго ўваходзіла толькі дзевятнаццаць чалавек. Але гэта было па сутнасці толькі ядро больш шырокай арганізацыі моладзі. Філаматы

імкнуліся пашырыць свой уплыў на ўсю моладзь акругі Віленскага універсітэта — гэта значыць Беларусі, Літвы і часткова Украіны. Таму яны шмат намаганняў прыкладалі для стварэння больш прадстаўнічых арганізацый. Першы імі быў створаны Саюз сяброў, у які за адзін год увайшло 30 студэнтаў. У 1820 годзе намаганнямі Тамаша Зана было арганізавана Таварыства прамяністых, якое пасля было пераўтворана ў тайнае Таварыства філарэтаў (прыхільнікаў маральнай чысціні), якое падзялялася на чатыры аддзелы — фізіка-матэматычны (ён падзяляўся на саюзы — Малінавы, Ружовы, Зялёны), юрыдычны (саюзы — Белы, Ліловы), літаратурны (Блакітны саюз) і медыцынскі (Цёмна-сіні саюз). Ян Чачот узначаліў літаратурны аддзел. Ён вельмі актыўна ўзяўся за згуртаванне мясцовых творчых сілаў, за выхаванне літаратурнай моладзі, з вялікай патрабавальнасцю ставячыся да яе творчасці, за што маладыя літаратары жартам празвалі яго Ментарам.

Кажучы пра філамацкі перыяд Чачотавай біяграфіі, нельга не адзначыць і яго дзейнасці як выдаўца і рэдактара твораў Адама Міцкевіча. Якраз Чачоту — як сябру і выдатнаму паэту — даручыў Міцкевіч выдаць у Вільні зборнік сваёй паэзіі. Сам ён у гэты час настаўнічаў у Коўне і не заўсёды мог адтуль прыехаць. Ян Чачот, нягледзячы на вялікую загружанасць, з усёй адказнасцю ўзяўся за працу. Ён быў і рэдактарам, і карэктарам Міцкевічавай кнігі. Аўтар быў пастаўлены ў жорсткія тэрміны, таму спяшаўся дапісваць сваю кнігу. Ён сам адчуваў, што ў творах не ўсё ладна, але тут ён поўнасцю пакладаўся на паэтычны густ свайго рэдактара, якому даручаў папраўляць дзе трэба тэкст. Чачот уважліва чытаў прысланыя з Коўна творы сябра, рабіў у іх неабходныя праўкі. З некаторымі аўтар не мог згадзіцца, некаторыя ж з удзячнасцю прыняў. З гэтымі Чачотавымі папраўкамі мы і сёння чытаем асобныя творы вялікага Адама Міцкевіча.

Увогуле Таварыства філаматаў — была праўдзівая сям’я пабрацімаў, надзіва моцная і дружная. Узаемная дапамога ў вучобе, у побыце была звычайнай нормай у стасунках філаматаў.

У 1823 годзе было выкрыта царскімі ўладамі Таварыства філарэтаў, а ўслед за ім і Таварыства філаматаў. Для высвятлення ступені вінаватасці яго сяброў, маштабу дзейнасці згуртаванняў моладзі ў Вільню быў пасланы сенатар Навасільцаў. Яго загадам каля 100 філарэтаў і філаматаў было кінута ў халодныя сцены розных віленскіх кляштараў, ператвораных у турму. Аж да красавіка 1824 года вялося следства. З яго сканчэннем зняволеных выпусцілі. Апрача чатырох — Тамаша Зана, Яна Чачота, Адама Сузіна і Яна Янкоўскага. Для вынясення прысуду цар Аляксандр I стварыў спецыяльны камітэт, у які ўвайшлі сенатар Мікалай Навасільцаў, міністр асветы Аляксандр Шышкоў і генерал Аляксей Аракчэеў. Згодна з прысудам, які быў зацверджаны царом, дзесяць філаматаў і дзесяць філарэтаў высылаліся у «аддаленыя губерні» Расіі. Адам Міцкевіч, Юзаф Яжоўскі, Францішак Малеўскі і

іншыя філаматы і філарэты былі вывезены ў Пецярбург. Самы суровы прысуд вынеслі тром найбольш актыўным удзельнікам згуртаванняў моладзі — Тамашу Зану, Яну Чачоту і Адаму Сузіну, якіх высылалі аж на Урал, дзе яны павінны былі яшчэ адсядзець у «крэпасці»: Зан — год, Чачот і Сузін — па паўгода. Ян Чачот трапіў у крэпасць Кізіл. Адтуль, пасля адсідкі, яго перавялі ва Уфу. У 1830 годзе ён змог пераехаць у Маскву, а праз чатыры месяцы — у Цвер, пасля — у Таржок. У 1833 годзе яму дазволілі — пад нагляд паліцыі — вярнуцца ў Беларусь, у Лепель, дзе ён уладкаваўся на службу ў дырэкцыі Бярэзінскага канала. У Лепелі Ян Чачот заняўся зборам народных песень, якія потым увайшлі ў яго зборнікі. Толькі ў 1839 годзе «государь император высочайше повелеть соизволил», як гаворыцца ў цыркуляры, адпусціць Яна Чачота дамоў, на Наваградчыну, і зняць з яго паліцэйскі нагляд. Яна Чачота, здароўе якога было падарвана за гады зняволення і ссылкі, узяў на пасаду бібліятэкара былы апякун філаматаў ліберальны граф Храптовіч, які валодаў адной з найбагацейшых у Еўропе бібліятэк, што знаходзілася ў яго маёнтку ў Шчорсах. Пасля смерці гаспадара ў 1844 годзе Чачот жыў у сваіх сяброў на Наваградчыне — у вёсках Бортнікі, Вольная і Далматаўшчына, займаўся выданнем зборнікаў беларускага фальклору.

Пасля цяжкая хвароба прывяла яго ў Друскенікі, «на воды». Але, на жаль, лячэнне не дало чаканага выніку, і 23 жніўня 1847 года Яна Чачота не стала. Пахавалі яго у блізкай ад Друскенікаў вёсцы Ротніца, на парафіяльным цвінтары. Адам Міцкевіч, са спазненнем даведаўшыся пра смерць свайго сябра, з болем у сэрцы пісаў 26 чэрвеня 1853 года Ігнату Дамейку з Парыжа ў Чылі: «Дарагі Ігнат, вось што-кольвек пра нашых былых сяброў і мінулыя часы. З двух канцоў зямлі, якія аддалілі нас адзін ад аднаго, мы бачым па-living рознаму цяперашнія часы, у мінулым жа мы сустракаемся па-ранейшаму. Не ведаю, ці вядома табе, што ад нас пайшоў твой ранейшы таварыш, а мой стары друг (з першага класа) Ян Чачот. Дзень яго смерці нам не вядомы. Мы даведаліся толькі, што ён памёр. Прыблізна ў той час, калі ён памёр, мне ўсё снілася пра яго адно і тое ж: што ён прыехаў у Парыж, а я з-за нейкіх перашкод не магу з ім пабачыцца. Гэта мучыла мяне ў сне, і я прачынаўся сумны. Мне доўга не хацелася верыць весткам пра яго смерць, якія ў нас так цяжка праверыць. Цяпер я ведаю пэўна, што ён памёр. Доўгія гады і многія ўспаміны звязвалі мяне з ім. Перад смерцю ён выдаў беларускія песні, і яны там мелі вялікую прыхільнасць…»

Праз дзесяць гадоў пасля смерці Яна Чачота сябры паставілі на яго магіле годны помнік, на якім і сёння можна прачытаць словы верша Антонія Эдварда Адынца, маладзейшага сябра паэта:

Сваю маладосць ён аддаў для навукі і Цноты,
За век свой ён зведаў і холад, і змрок сутарэння.

Спагада да бліжніх — вось існасць ягонай істоты,
Цяжкое жыццё яго ўсё — гэта шлях да збавення.
Імя яго будзе ў краіне навекі звязана
З Адамам Міцкевічам, з іменем Томаша Зана.
Хто ведаў яго — перад каменем гэтым схіліся,
Пастой, памаўчы і за ўсіх за траіх памаліся.

Першыя вядомыя літаратурныя творы Яна Чачота з'явіліся недзе каля 1818 года і, так ці інакш, былі звязаны з філамацкім жыццём. Песні і вершы з нагоды студэнцкіх урачыстасцяў пісалі разам з Янам Чачотам і Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ануфры Петрашкевіч, Міхал Рукевіч, Тэадор Лазінскі. «Аднак, — заўважае вядомы польскі фалькларыст і літаратуразнавец Станіслаў Свірка ў кнізе «З кола філамацкага перадрамантызму», — наймацней адбілася ў жыцці філаматаў песенная творчасць якраз Чачота. Не было імянінаў, маёўкі ці сяброўскага сходу, якога б Янак (альбо Ян з Мышы, як яго таксама звалі) не аздобіў сваімі сардэчнымі «песенькамі», як заўсёды, патрыятычнымі, народнымі сваім духам, нярэдка напісанымі на матыў песні беларускага люду…»

Тыя песні і вершы Яна Чачота, і польскія, і беларускія, якія дайшлі да нас дзякуючы публікацыі Яна Чубака («Паэзія філаматаў», т. 1–2, Кракаў, 1922) і іншых польскіх даследчыкаў, паказваюць нам цудоўны песенны талент паэта. Напеўнасць, шчырая непасрэднасць і празрыстасць вершаў Чачота дазвалялі ім вельмі лёгка класціся на музыку. Зрэшты, Ян Чачот часта і пісаў іх на гатовы ўжо матыў вядомых яму беларускіх народных песень. Пры гэтым ён не забываў пазначыць, на матыў якой канкрэтна народнай песні трэба было спяваць напісаныя ім вершаваныя страфы.

Вельмі любілі філаматы, ды і наогул віленская моладзь, напрыклад, вясёлую жыццярадасную песню Яна Чачота «Што старыя за вар'яты», напісаную дзесьці ў 1818 ці 1819 годзе на матыў беларускай народнай песні «Чаму дзеўку не любіць, калі дзеўка ладна», што адзначыў у прыпісцы сам аўтар. Такой жа бадзёрай, аптымістычнай была вельмі папулярная сярод моладзі Чачотава песня «Прэч, сум, нудоты…» У прыпісцы да яе аўтар даводзіў, што напісана яна на матыў песні «крывічанаў», г.зн. беларусаў, песні, якая пачынаецца словамі: «Сем дзён малаціла, шастак зарабіла…» Ахвотна спявала моладзь і тыя Чачотавы песні, якія былі напісаны на матывы беларускіх народных песень «Ой валы ж мае да палавыя…», «Бяду сабе купіла да за свае грошы…», «Як не бачу Петруся, то я з ветру валюся…» і інш. Шмат такіх песень напісаў Ян Чачот у турэмных засценках. Усе яны прызначаліся для паэтавай каханай Зосі Малеўскай — вельмі прыгожай дачкі рэктара Віленскага універсітэта, у доме якога часта збіраліся філаматы, бо яго сын, Францішак Малеўскі, таксама быў членам Таварыства. Гэтыя песні Зося ахвотна выконвала пад фартэпіяна.

У многіх песнях Яна Чачота адбіліся антыўрадавыя настроі моладзі, вольналюбівыя ідэі аўтара. Гэтыя творы віленская моладзь заўсёды прымала бурнымі воплескамі, а самога аўтара часам падымала «на ўра».

Але самы вялікі поспех, асабліва ва універсітэцкай моладзі, якая ў асноўным паходзіла з апалячанай беларускай шляхты, мелі тыя філамацкія творы Яна Чачота, што былі напісаны па-беларуску. Сам факт звароту да мовы запрыгоненага, бяспраўнага мужыка-беларуса гаварыў пра многае, і перш за ўсё — пра адкрыты дэмакратызм паэта.

Першыя з беларускіх твораў Яна Чачота, якія дайшлі да нас, адносяцца да 1819 года. Значыць, ужо на самым пачатку свайго творчага шляху Ян Чачот звярнуўся да мовы свайго народа, пачаў уводзіць яе ў літаратурны ўжытак. Шчасліва захавалася яго напісаная па-беларуску паэтычная сцэнка (Ул.Казбярук назваў яе драматычнай паэмай), прымеркаваная да 7 сакавіка 1819 г. — як своеасаблівае віншаванне з днём нараджэння старшыні Таварыства філаматаў Юзафа Яжоўскага, родам з Украіны. Умоўна гэты твор названы — «Яжовыя імяніны»: пад такім агульным загалоўкам падаваліся ў згаданай вышэй кнізе «Паэзія філаматаў» усе матэрыялы, што адносіліся да святкавання дня нараджэння Яжоўскага, або Ежа, як называлі яго філаматы. Сам Ян Чачот, які заўсёды выступаў са сваімі вершамі на падобных урачыстасцях, тым разам прыехаць на свята не здолеў. Як службовец Масы ён у гэты час быў накіраваны ў Мінск. Адтуль паэт і прыслаў свае вершы ў Вільню, выказаўшы пры гэтым — зноў-такі ў вершаванай форме — шкадаванне, што ў той час, як яго прыяцелі «апаражняюць бутэлькі» ў вясёлым застоллі, ён «пасціць, як святы», у Мінску, дзе яго прымушае «маршчыніць чало мазольная пасада пісара». Прысланыя вершы Яна Чачота зачытаў на ўрачыстасці Тамаш Зан, а сцэнку разыгрывалі гуртам.

Пра тое ўражанне, якое рабілі на слухачоў першыя беларускія вершы і песні Яна Чачота, сведчыць хоць бы той факт, што адзін з гэтых слухачоў, вучоны з сусветным імем Ігнат Дамейка нават праз 50 гадоў успомніў у далёкай Чылі Чачотаву песню «Што ж мы вашэці скажам…», якая ўваходзіла ў тую паэтычную сцэнку і якую асобна спявалі потым філаматы на ўсіх сваіх урачыстасцях.

Папулярная сярод моладзі была і жартоўная песня «Да пакіньце горла драць». Напісаў яе Чачот да імянін сябра-філамата Дзіянісія Хлявінскага. Выконвалася яна — з адпаведнымі папраўкамі — і на імянінах іншых філаматаў. Да нас песня дайшла (праўда, не цалкам) у варыянце, які спяваўся на імянінах Францішка Малеўскага (Яроша).

Пра той вялікі поспех, які выпаў на долю гэтай вясёлай беларускай песні, расказвае ў пісьме да Адама Міцкевіча 16 лістапада 1819 года сам аўтар: «На імяніны Дзіянісія я напісаў некалькі мужыцкіх песень (заўважце — некалькі беларускіх песень! — *К.Ц.*), сярод якіх апошняя «Да пакіньце горла драць» найбольш прыйшлася даспадобы Тамашу (Зану. — *К.Ц.*), ён прыдумаў да яе, як я ўжо казаў, матыў і лез з ёй да ўсіх,

як цыган на кірмашы. А раз спадабалася песня, я мусіў напісаць вершы і для Яроша і той самы верш «Да пакіньце горла драць» перарабіць для яго. І не толькі гэтыя, але і «Што ж мы вашэці скажам», разахвочаныя, спявалі. Словам, на імянінах і чыталі, і спявалі…»

Адаму Міцкевічу не проста спадабаліся беларускія песні Яна Чачота — і тыя, што ён сам чуў на імянінах сяброў, і гэтая апошняя, «Да пакіньце горла драць», якую ён неўзабаве змог пачуць. У гэтых песнях ён бачыў нешта больш значнае, больш важнае, чым звычайныя творы. Сваё захапленне песнямі Яна Чачота ён выказаў у пісьме да яго ад 27 лістапада таго ж года: «Што мяне… узрадавала — прызнаюся табе па-філамацку — гэта твая песня, дакладней, твае песні, я бачу агромністы і хуткі прагрэс з часу твайго ўступлення на пісьменніцкую дарогу. Лёгкасць ды яшчэ агонь, проста піндараўскі, пераўзышлі нават тыя надзеі, якія я ўскладаў на цябе. Прэч з дарогі, Заны, прэч, Адамы! Не лянуйся, калі ласка! Ты пішаш усё лепш…»

Беларускія песні Яна Чачота ведалі і спявалі ўсе філаматы. Ведаў і спяваў іх з сябрамі і Адам Міцкевіч. Адзін маленькі факт, пададзены ў пісьме Тамаша Зана да Верашчакаў ад 31 кастрычніка 1820 года. Едучы ў Вільню, Тамаш Зан заначаваў у заездным доме ў Канвалішках. Раптам сярод ночы яго будзіць гучны і вясёлы спеў:

Да пакіньце горла драць!..

Калі ён прахапіўся, то ўбачыў перад сабой двух сваіх сяброў — Адама Міцкевіча і Яна Чачота. Яны ехалі з Вільні ў Наваградак і таксама спыніліся на гэтай станцыі. Даведаўшыся, што тут начуе іх сябар Тамаш Зан, яны гэтакім во чынам і выказалі сваю радасць ад сустрэчы.

Ведаючы, з якой прыхільнасцю ставіўся Адам Міцкевіч да твораў на беларускай мове, Ян Чачот у гонар ягонага вельмі чаканага ўсімі філаматамі прыезду з Коўна піша па-беларуску прывітальны верш, у якім выказвае свае шчырыя сяброўскія пачуцці да яго:

Без цябе усё тут смутна,
Па табе плача гай,
І рэчкі плывуць мутна,
У жалобе увесь край…

Засталіся згадкі яшчэ пра адну беларускую песню Яна Чачота, якую ён напісаў у Віленскай турме перад самай адпраўкай на Урал і якой, па сутнасці, заканчваецца філамацкі перыяд у творчасці паэта. Гэта — успаміны Антонія Адынца: «Было нас некалькі дзесяткаў вечарам у камеры Тамаша Зана, куды неўзабаве зайшлі Сузін і Чачот. Апошні заспяваў пад гітару толькі што складзеную ім песню на народнай гаворцы:

Да лятуць, лятуць да дзікія гусі,
Да нас павязуць да далёкай Русі…

Далей у песні апавядалася пра гусей, якія адлятаюць на поўдзень, у той час, як асуджаных павязуць на поўнач, і хто ведае, ці вернуцца яны калі-небудзь назад. І так глыбока ўзрушыла ўсіх гэтая песня, што яна выклікала агульны плач, а спявак стаў аб'ектам абдымкаў».

Як паказвае Адам Мальдзіс у кнізе «Падарожжа ў XIX стагоддзе» (Мінск, 1969), у Яна Чачота былі ў той час і іншыя беларускія творы, і сярод іх п'еса ў гонар Адама Міцкевіча, напісаная для тэатра: пра яе ўспамінае ў адным з пісем Рамуальд Зямкевіч. На жаль, гэтая п'еса, як і шмат іншых твораў паэта, да нас не дайшла.

На маю думку, беларускія песні і вершы Яна Чачота філаматцкага перыяду да сённяшняга дня не ацэнены як трэба ў літаратуразнаўстве. Вядома, калі мераць іх сённяшнімі меркамі, у іх можна знайсці свае хібы. Але ж не трэба забываць, што Ян Чачот быў першапраходцам у беларускай паэзіі, ён ішоў па цаліку, яму трэба было яшчэ ўзнімаць гэтую, кажучы купалаўскімі словамі, «скібіну слова».

Тым не менш, у беларускіх творах Яна Чачота і праўда ёсць тая лёгкасць, той паэтычны «агонь», пра які казаў Адам Міцкевіч. Мова Яна Чачота, калі апусціць не такія ўжо шматлікія паланізмы, мала чым адрозніваецца ад сённяшняй беларускай літаратурнай мовы. Яна ў яго даволі багатая, гнуткая, з многімі адценнямі. Узорам для Яна Чачота служыла мова беларускіх народных песень.

У філаматцкіх беларускіх творах Яна Чачота, і перш за ўсё драматычнай сцэнцы, можна ўбачыць выразныя адзнакі часу, некаторыя асаблівасці побыту дарэформеннай вёскі, яе сацыяльную структуру. Даволі жывым, «бачным» паўстае перад намі, напрыклад, вобраз цівуна, які выступае тут ад імя сялян, не адрываючы і сябе ад іх. Хай, можа, ён тут трохі і ідэалізаваны, але ўсё ж няма ў ім той аднабаковасці, якую мы прывыклі бачыць праз літаратуру ў гэтым сацыяльным тыпе, што стаў сімвалам прыгонніцтва. Вельмі прываблівае ў сцэнцы вобраз дзяўчат-сялянак. Хоць яны спачатку — такі ўжо ў беларусаў характар — і «прыбядняюцца» (быццам не могуць «звязаць» песні, бо ў іх, бачыце, «мысль не багата»), але ж папраўдзе ўмеюць яны і «звязаць» словы, і скласці цудоўную песню. Ды і пачуццё годнасці ў іх ёсць: яны прама кажуць панічу, што сярод іх знойдуцца і такія, што будуць вартыя і яму ў жонкі, трэба толькі ўмець пасватацца. Праўдзівая ў Чачота і характарыстыка вясковых хлопцаў. Хоць «яны ад сахі, ад бараны…пісаць, чытаць не учаны», але ж таксама ўмеюць і песню спець, і выказацца як трэба. З твора відаць і іх адносіны да рэкрутства, ад якога яны звычайна ўцякаюць у лес. Надзвычай цікава тое, што сялянскія хлопцы турбуюцца за сваю мову, называючы яе «рускай» (у адрозненне ад польскай), мову, якой цураюцца паны, што «па-польску

ўсё гаворацъ». Вядома ж, Ян Чачот у вусны сваіх герояў уклаў уласную заклапочанасць мовай народа.

На беларускай мове пісаў Ян Чачот і пасля разгрому Таварыства філаматаў, у час, калі ён зноў вярнуўся на Беларусь з уральскай ссылкі. Змясціў ён гэтыя беларускія вершы ў фальклорных зборніках 1844 і 1846 гадоў. Адрасаваны яны былі непасрэдна сялянам. У іх паэт таксама праявіў сваю павагу да роднага народа, выказаў сваё спачуванне да яго долі. Так, у вершы «Да мілых мужычкоў» паэт пісаў:

Да і я ж вам памагу
Песеньку спяваці,
Ды я ж між вамі ўзрос
Пры бацьку і маці.
І мне Бог на свеце даў
Гора гараваці,
Штобы лепш я вас любіў
І ўмеў спагадаці.
Ой, што ж вы напелі тут,
Да якога дзіва!
Шкода, што на голас ваш
Старонка драмліва.
А як прачнецца з сна
Гэта Дабрадзейка,
Пэўна, будзе слухаць вас
Лепш, як салавейка.

У большасці вершаў Ян Чачот імкнуўся прымірыць селяніна з панам. «Дабрачынных паноў» ён заклікаў (звычайна ў польскамоўных творах) клапаціцца «пра добры быт сялян», любіць іх, даводзячы, што за гэта Бог узнагародзіць такіх апекуноў «шчасцем… і ў нябёсах, і на зямлі». У сваю чаргу і сялян вучыў Чачот любіць свайго пана, слухацца яго, добраахвотна ісці на паншчыну, не чакаючы, пакуль іх пагоніць туды цівун бізуном. У гэтых «прымірэнчых» вершах праявіўся характэрны для многіх прадстаўнікоў грамадска-палітычнага руху XIX стагоддзя так званы класавы салідарызм перад абліччам агульнай небяспекі — агрэсіўнай палітыкі царскага самаўладства.

Галоўную ўвагу ў адрасаваных сялянам вершах Ян Чачот звяртаў на іх маральнае ўдасканаленне. Ён вучыў сялян простым рэчам: не губіць сваё жыццё ў гарэлцы, не гультайнічаць, быць сумленнымі, гаспадарлівымі.

Грамадзянскі пафас беларускіх, адрасаваных сялянам вершаў вельмі выразны. Вось якое жаданне выказвае сам аўтар у прадмове да «Сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны» (1844), друкуючы там свае

творы: «Ці не перанесліся б яны як-небудзь да вёсак? Ці не дайшлі б да сэрцаў дабрачынных паноў і ці не звярнулі б больш чулую ўвагу на сялян, а разам з тым ці не прычыніліся б да палепшання нораваў гэтых працавітых суайчыннікаў?»

З літаратурнай спадчыны Яна Чачота вялікую цікавасць маюць таксама напісаныя ім у 1818–1819 гадах на польскай мове балады, што адыгралі надзвычай важную ролю ў творчай біяграфіі яго славутага сябра — Адама Міцкевіча. Да нас дайшло восем баладаў Яна Чачота. Усе яны напісаны паводле беларускіх народных паданняў.

Балады Яна Чачота — сапраўдныя шэдэўры літаратуры. Напісаны яны жыва, у свабоднай манеры, вельмі маляўніча. У кожнай з іх — свой цікавы сюжэт, за якім чытач сочыць з неаслабнай увагай. Думаецца, яны яшчэ па-сапраўднаму не ацэнены крытыкай. Доўгі час яны былі невядомыя грамадскасці. Толькі зусім нядаўна, у 1972 годзе ўсе яны былі апублікаваныя Станіславам Свіркам у памянёнай кнізе «З кола філамацкага передрамантызму». Балады Яна Чачота надзвычай зацікавілі Адама Міцкевіча, які падчас іх напісання толькі шукаў сваю дарогу ў літаратуру. Як вядома, у першых сваіх творах ён прытрымліваўся прынцыпаў класіцызму, якія стрымлівалі творчыя магчымасці літаратараў. Адзін з галоўных шляхоў абнаўлення літаратуры перадавыя яе прадстаўнікі бачылі ў звароце да народнага жыцця, да фальклору, што было характэрным для рамантызму. Гэты шлях якраз і выбраў шчыры народалюбец Ян Чачот, які з поўным усведамленнем важнасці свайго пачынання ўзяўся за мастацкае асваенне фальклорнай спадчыны беларускага народа. Станіслаў Свірка ў сваіх кнігах пераканаўча паказаў уплыў Яна Чачота на Адама Міцкевіча, ён прыйшоў да высновы, што «…тыя «песенькі» і «балады» Чачота былі галоўным імпульсам, які падштурхнуў Міцкевіча ў кірунку народнасці, а калі казаць больш канкрэтна, у кірунку баладнасці…» Вядома, даводзіць даследчык, на Адама Міцкевіча ўплывалі і іншыя філаматы, але «найвыдатнейшым піянерам народнасці сярод філаматаў быў Чачот, якраз яго ўплыў на Міцкевіча ў гэтым плане аказаўся наймацнейшым…» Так, разважае далей польскі вучоны, Ян Чачот «не навучыў… Міцкевіча пісаць рамантычную паэзію, таму што сам гэтага не ўмеў; аднак паказаў яму новую крыніцу творчасці і новую дарогу. Таму што быў Чачот філамацкім маяком, які стаяў на віленскіх ростанях класіцызму і рамантызму і які нязменна паказваў на народнасць. Міцкевіч пайшоў у тым кірунку, і дарога тая прывяла яго да вялікай рамантычнай і народнай паэзіі».

Супаставіўшы балады Яна Чачота з пазнейшымі баладамі Адама Міцкевіча, Станіслаў Свірка знайшоў вельмі многа прыкладаў творчага выкарыстання вялікім паэтам таго багатага фальклорнага і жыццёвага матэрыялу, які быў у творах яго сябра. Адам Міцкевіч, вядома ж, быў яму вельмі ўдзячны за ўсё. Нездарма, прысвячаючы сваю першую кнігу паэзіі сябрам-філаматам, першым сярод іх ён назваў імя Яна Чачота.

Сярод іншых твораў Яна Чачота трэба вылучыць яго шматлікія вершы і песні, прысвечаныя Зосі Малеўскай — праўдзівай музе паэта, якой ён быў верны з часоў студэнцтва і да канца жыцця, хоць сама яна не падавала асаблівай надзеі на ўзаемнасць. Зося выдатна спявала на фартэпіяна розныя песні, у тым ліку беларускія народныя, ёю заслухваліся філаматы, якія амаль усе крадком уздыхалі па гожай рэктаравай дачцэ і сястры свайго пабраціма Францішка. Ян Чачот спецыяльна для яе пісаў песенныя тэксты на матывы беларускіх народных песень. Больш за сто гэтакіх твораў «дапамагла» яму напісаць турма. Тут, можа, упершыню адчуў ён цеплыню і спагаду да яго сваёй каханай, якая імкнулася неяк падтрымаць у бядзе шчырага ўлюбёнца. Дарагія словы спагады так акрылілі паэта, што на дзень ён пісаў па некалькі «Зосіных песень». Усе гэтыя песні толькі параўнаўча нядаўна, у 1922 годзе — праз сто гадоў пасля напісання! — адшукаў у Лодзі прафесар Вітальд Клінгер у так званым «Малым архіве філаматаў». Напісаныя шчыра, бясхітрасна, часта з налётам сентыменталізму, гэтыя песні не могуць не хваляваць чытача. Сваёй адзінай каханай паэт прысвяціў і шмат твораў у далёкай уральскай ссылцы. У іх яскрава адбілася трагічная доля паэта. Але «Зосіны песні» — гэта не толькі шчырае прызнанне аўтара ў каханні. Ёсць сярод іх і творы высокага грамадзянскага гучання (напр., «О ты край мой нешчаслівы!..»), і проста «жыццёвыя» вершы («Што старыя за вар’яты!..»).

У тым жа «Малым архіве філаматаў» знайшліся і Чачотавы «трэны» (журботныя элегіі) пад агульнай назвай «Заблудны», якія літаратуразнаўцы называюць своеасаблівай «аўтабіяграфічнай паэмай», дзе папраўдзе адбіліся шмат якія моманты з жыцця паэта.

З твораў віленскага перыяду Чачота трэба адзначыць яшчэ лірычную сцэнку «Сапфо», прысвечаную старажытнагрэцкай паэтэсе, драматычную паэму «Малгажата з Зэмбаціна» пра жаночую вернасць у рыцарскія часы, паэму «Тыртэй», напісаную да дня нараджэння Адама Міцкевіча (снежань 1819 года), якога аўтар параўноўвае са спартанскім героем Тыртэем і ў асобе якога ўжо тады, на самым пачатку яго творчага шляху, бачыў вялікага паэта і народнага абаронцу, нарэшце, вадэвіль у двух актах «Апалон на калядаванні», напісаны ў форме народнай каляднай містэрыі, у якой разам з філаматамі дзейнічаюць багі і якая нечым нагадвае «Тараса на Парнасе». Для лепшага разумення «біяграфіі душы» Яна Чачота і філамацкага жыцця нямала могуць даць строфы напісанай у турме ў 1823 годзе невялікай паэмы «Новая Сафіеўка» пра тыя пачуцці, якія выклікалі наведванні раней саду Малеўскіх у Вільні і незабыўныя сустрэчы там з любай Зосяй — Софіяй.

Надзвычай цікавыя ў шмат якіх аспектах зусім нядаўна адшуканыя даследчыкамі «Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года». Задума расказаць у паэтычных радках пра гістарычнае мінулае роднай Беларусі, пра часы Вялікага Княства Літоўскага ўзнікла ў Чачота

таксама ў багаты на творчыя здзяйсненні і намеры віленскі перыяд. Спачатку ён хацеў паказаць славутых жанчын мінулага, у першую чаргу «ліцвінак», але потым вырашыў наогул напісаць паэтычную гісторыю сваёй Бацькаўшчыны. Высылка за межы Беларусі, суровыя выпрабаванні, з якімі паэт пазнаўся на чужыне, — усё гэта перашкодзіла задуме. Толькі праз дваццаць гадоў, вярнуўшыся дамоў і ўладкаваўшыся ў Шчорсаўскай бібліятэцы, змог ён прыступіць да ажыццяўлення даўняй мары. Недзе ў 1842–1844 гадах і з'явіліся з-пад яго пяра «Спевы пра даўніх ліцвінаў…». Заснаваў іх паэт на гістарычных фактах, узятых з «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» Мацея Стрыйкоўскага і дзевяцітомнай «Гісторыі літоўскага народа» Тэадора Нарбута. Аўтар пазначае нават старонкі гэтых выданняў, адкуль ён браў факты для сваіх «спеваў». «Спевы пра даўніх ліцвінаў…» у жывых вобразах узнаўляюць нашу далёкую мінуўшчыну, вельмі цікава асвятляюць шмат якія яе старонкі.

Нягледзячы на несумненны паэтычны талент Яна Чачота, на яго пісьменніцкую актыўнасць асабліва ў віленскі перыяд, ён разам з тым не лічыў літаратуру галоўным заняткам у сваім жыцці. Сваё прызванне ён бачыў у іншым — у збіранні і вывучэнні беларускага фальклору, якому ён надаваў вялікае значэнне ў змаганні за народнасць літаратуры, за яе дэмакратычнасць.

У беларускай фалькларыстыцы Ян Чачот — постаць, можна сказаць, першай велічыні. Яго дзейнасць у гэтым кірунку яшчэ чакае свайго шырокага асвятлення. Гэта быў сапраўдны подзвіг паэта-фалькларыста, які здолеў на працягу 1837–1846 гадоў сабраць і выдаць у шасці зборніках беларускія народныя песні «з-над Нёмана і Дзвіны», а таксама іншыя жанры фальклору. Прычым, калі спачатку ён даваў іх у перакладзе на польскую мову, то потым публікаваў у арыгінале, на беларускай мове. Сваімі публікацыямі ён паказаў свету, якія неацэнныя культурныя скарбы мае беларускі народ.

Вялікай увагі заслугоўвае публіцыстыка Яна Чачота. Тое, за што змагаўся ён у сваіх мастацкіх творах, тут выказваў непасрэдна, прама. Вельмі многія думкі паэта гучаць актуальна і сёння. Вось як, напрыклад, кажа паэт пра грамадзянскую актыўнасць чалавека, пра яго патрыятычныя абавязкі: «…асабістае шчасце — у шчасці грамадскім: дбаць пра грамадскае дабро — значыць памнажаць дабро ўласнае». А як па-сучаснаму гучаць у нататках «Думкі, якія павінен распаўсюджваць вышэйшы клас» разважанні пра залежнасць дзяржаўнага ладу ў любой краіне ад грамадзянскай актыўнасці людзей, ад таго, наколькі схільныя яны цярпець дэспатычную ўладу. «Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, — сцвярджае паэт, — не можа быць кепскага ўраду там, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнем народа, а не з волі, капрызу і сілы аднаго».

З публіцыстыкі, асабліва з уступных артыкулаў да зборнікаў беларускага фальклору, мы бачым, якое вялікае значэнне надаваў паэт вывучэнню народнай творчасці, збіранню і зберажэнню скарбаў традыцыйнай культуры беларусаў, як высока цаніў ён першародную прыгажосць іх вуснай паэзіі.

З глыбокай павагай ставіўся Ян Чачот да мовы роднага яму беларускага народа, якую ён называў крывіцкай. Паэт марыў пра граматыку і фундаментальны слоўнік беларускай мовы, такі, як шматтомны «Слоўнік польскай мовы» С.Ліндэ, выдадзены ў 1807–1814 гадах. Ян Чачот са шкадаваннем адзначаў, што ў той час, як «іншыя дыялекты славянскага паходжання», нават невялікія народы, усё гэта маюць даўно, «крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва», наадварот, нічога яшчэ не займела. Не чакаючы, пакуль хто-небудзь займецца гэтай важнай і вялікай працай, паэт пачаў сам складаць слоўнік найбольш адметных слоў і выразаў Наваградчыны. У сваіх артыкулах ён зрабіў дэталёвы разгляд асаблівасцяў беларускай мовы, выявіў нават яе асноўныя дыялекты.

Якраз жаданне бачыць мову свайго народа літаратурнай і прывяло Яна Чачота да ўласнай творчасці на беларускай мове, да выдання кніг на ёй. І вось яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя, у часы прыгону, упершыню пасля векавога маўчання, са старонак друкаваных, выдадзеных па ўсіх правілах кніг загучала жывая беларуская мова, мова запрыгоненага селяніна. Дзве кнігі Яна Чачота — «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны з далучэннем іх арыгіналаў на славяна-крывіцкай мове» (Вільня, 1844) і «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыказкі і ідыёмы на славяна-крывіцкай мове, з учыненымі над ёй назіраннямі» (Вільня, 1846) — яскрава засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры і адначасова нацыянальнага адраджэння аднаго з самабытных і вялікіх народаў.

З твораў розных жанраў, са шматлікіх пісьмаў да сяброў, да знаёмых і блізкіх, да дзеячаў культуры Беларусі паўстае перад намі вельмі прывабны вобраз нашага першага сапраўднага паэта, чалавека высокай культуры, які ведаў многія еўрапейскія мовы (французскую, нямецкую, ангельскую, лацінскую, польскую, расейскую), які да канца сваіх дзён застаўся верны свайму беларускаму народу, яго культуры і мове.

Усе творы Яна Чачота — сапраўды беларускія. І не толькі тыя, што напісаны на беларускай мове, але і польскамоўныя. Беларускія і сваім пафасам, і тымі праблемамі, якія вырашае ў іх паэт, і выключна мясцовым матэрыялам, вельмі добра вядомым аўтару. Яны самі па сабе яскрава гавораць нам, што Ян Чачот —сапраўдны беларускі нацыянальны паэт, творчасць якога павінен ведаць кожны культурны грамадзянін Беларусі.

* * *

Творы Яна Чачота, напісаныя на беларускай мове, адзначаны ў каментарыях, гэтак жа, як і пераклады польскамоўных твораў. Усе пераклады мастацкіх твораў, а таксама публіцыстыкі, навуковых прац, пісьмаў зроблены мною, за выключэннем «Прадмовы да «Сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны»» (1846 г.), двух пісьмаў — да Марыі Путкамер ад 9 сакавіка 1833 г. і да Юзэфы Дамейкі ад 9 лютага (1833–1839 гг.), якія пераклаў і пракаментаваў Генадзь Кісялёў.

*Кастусь Цвірка*

## РАЗВІТАННЕ З НАВАГРАДКАМ

Бывай жа, школа любая, мае ўсе вёсны,
Бывай, званок, што нас у класы зваў.
Ты ўсім нам слых ласкаў, ды быў такі нязносны,
Як ад дзяўчат, ад волі адрываў.

Цяпер мяне ўжо не пабудзіш ты ніколі,
У класы не даклічашся — спакой,
Не адарвеш ад ласкавай Хазыты болей:
Няма ўжо моцы у цябе такой.

Я сам сабой распараджацца сёння вольны,
Не страшны мне маралі нічые.
Магу прабегчы з крыкам калідорам школьным,
Гуляць, кахаць — часы цяпер мае.

Бывайце ж вы, лугоў маіх зялёных далі,
Бывай, празрыстай Беразянкі плынь,
Дзе часта мы, вясёлыя, нырца давалі,
Палохалі ў вадзе зямных багінь.

Мы, быццам рыбкі тыя, плёскаліся ў ставе
Ці вудачкі закідвалі наўзмах,
Цягалі імі рыбку з крышталю ў забаве,
Збіралі німфам кветкі па лугах.

Бывай і ты, Сітоўка, наша поле —
Ты сведка ўсіх турніраў, перамог.
Ах, не вярнуць мне хвіль салодкіх тых ніколі,
Калі ў лясах гасціць з сябрамі мог.

Ад весялосці там нам не было упыну.
Я ж часам і ўцякаў ад гульняў тых.
А неяк смутным днём, пакінуўшы сябрыну,
Сабраў я простых красак палявых

І з сумам да старой капліцы ля рабіны
Пайшоў ускласці іх — вянком жывым —
На дамавіну гожай маладой дзяўчыны,
За штось закатаванай бацькам злым.

Бывай, маленства свет! Сюды, хоць і ахвота,
Вярнуцца ўжо, вядома ж, не змагу.
Пачуцці мілыя, дзіцячыя турботы
У памяці хіба што зберагу.

Бывайце й вы, равеснікі! Дзіцячых дзён сабраты!
Мы ў розных гульнях бавілі свой час.
Зайцы, палянты, кашкі, тарапаты[1]
Ужо не будуць, пэўна, цешыць нас.

Бывайце і прафесары! Мы паспыталі
Ў вас боцькаўскіх, казацкіх бізуноў[2].
Усё, што вы ў галовы гэтак нам уклалі,
Умомант вам назад вярнулі б зноў.

Бывай, бывай жа, часе вольны, бесклапотны —
Я і не знаў, дзе хлеб браў бацька мой.
Ты, час мой, сплыў у Лету беззваротна,
Цяпер мне трэба працай жыць сваёй.

Такое меў я з месцам, дзе вучыўся, развітанне.
Яно мне й дыктавала, што пісаць.
Як ні кажы, такое дыктаванне
Ўсё ж лепей, чым самому выдумляць.

## ШТО СТАРЫЯ ЗА ВАР'ЯТЫ

Што старыя за вар'яты:
Мелюць без прычыны,
Быццам час свой марна трацім
Мы каля дзяўчыны.

І ўсё пхнуць нас да работы,
Хоць таго не знаюць,
Што да працы я ахвоты
Без дзяўчат не маю!

З любай стрэнуся, бывае,
Прыгарну к сабе я,
Сэрца радасцю палае,
Галава яснее.

Жыць тады, сябры, ахвота,
Хораша наўкола,
Мігам робіцца работа
З песняю вясёлай!

Дык мяліце ж без прычыны
Вы, старыя людзі —
Вас паслухаем тады мы,
Як дзядамі будзем!

## АНУФРАВЫ ІМЯНІНЫ

Гэй жа, Муза, з бочкі віннай
Лепш вылазь у наш гурток!
Мы дарма цябе сябрынай
Дзесь шукалі між аблок!

Ты ў віне, у ім ты госціш,
Незаўважная, спрадвек!
П'ю і я, мо буду ў млосці
Граць, як той злыселы грэк[1],

Што ў цябе на службе шчырай,
Муза, кожнай быў парой,
Што і сёння з вольнай лірай
У любой бяседзе свой.

Так што, Муза, з бочкі віннай
Лепш вылазь, зноў клічу я.
Сябрука ж вітаць павінна
Ліра ў гэты дзень мая.

Што у сябра імяніны,
Запісалі мы на лбе.
Бо забыў іх без прычыны
Каляндар — ці так сабе?

Мо з ім сябар наш у змове?
Не дадзім іх замаўчаць!
Будзем з Бахам мы, панове,
Шчокі ў гурце фарбаваць!

Хай — здадзім свой розум Баху!
Дзень свой, дружа, не скруці!
Не саб'еш ты нас са шляху —
Хоць да чаркі дапусці!

Не манахі ж мы, што ў келлях!
Час прабіў! Шум-звон з відна.
І ў руках во — з сонцам келіх!
Імянінік, піць да дна!

За табой і мы прыгубім —
Адставаць жа нельга нам!
Так, мы ўсе цвярозасць любім,
Ды нам люб і гэты гам.

Як унь сонца ўсёй прыродзе
Годзіць сёння і здаўна,
Так яснеюць на свабодзе
Нашы думкі ад віна.

Ты, Ануфр, — наш верны дружа,
Ды не буду я хваліць,
Узвышаць цябе задужа
Ці зычэннямі цвяліць,

Што нам траціць час, Ануфры,
На зычэнні, ці ж ад іх
Больш дукатаў будзе ў куфры,
Больш здароўя з словаў тых?

Зараз важкую ахвяру
Я падношу — гэту во
Залатую ў іскрах чару:
Пі, бо вытхнецца пітво!

Кінь пра золата сумёты
Сніць — сяброўства ў нас было б!
Утапі ў віне турботы
І раз’ясні з намі лоб!

*1819*

## ЯЖОВЫЯ ІМЯНІНЫ

Ц і в у н:

Чулі мы гэта, што есць вашэць[1] украінец[2]
І контэнт[3], што ўрадзіўся у жызнай краіне,
Як абачыў, што ў нас нявелькі дзядзінец,
Сказаў: «Як бжыдка мешкаюць[4] ліцвіне[5]!»

У вас вельмі хароша! Хаты злепкі з гною,
Бо лесу не маеце, усё астровы пусты.
Выся заляцаеце жытам, пшаніцою,
Бо ў вас грунт харошы, чарназемны, тлусты.

За што ж мы ся не дзівім, што вашы чумакі,
Шукаючы ў нас зыску (мы больш маем грошы),
Смалою аблеплены, лезуць, як слімакі,
Над валацугу большай няма ім раскошы.

Аднак мы ім назоліць не хочам ніколі;
І ты, мілы панічу, не смейся з нас, просім.
Усё гэтта дзеецца па нябескай волі.
Гультай часты, гдзе добра, мы больш працы зносім.

Пагадземся. Мы людзі добрае есць душы:
Не будзь і ты ніколі ліхім, панічэнку,
Не трэба ламаць тае, скуль груш дастаў, грушы,
Помні, што ты учышся ў нашым Віленку[6].

Згода. Але сягоння мы ся даведалі,
Што вашы імяніны, святога Язэпа,
А каб вы к сабе нашу прыхільнасць пазналі,
Ідзем гэтта, не седзім у хаце, як мазэпа[7].

Будзем цябе віншаваць. Я есць цівун з двара,
Гэта сельскі дзесятнік, ён лысіну гладзіць,
Ён знаець іспраўніка, знаець асэсара,
Маскалёў[8] на кватэру, як чартоў, нам садзіць.

Там войт, што уса круціць, чалавек бывалы,
Быў у Гданьску, у Кралеўца[9] плаваў на усціне[10].
Ось там стаіць маладзец, жаўнер дасканалы,
Ён, бядак, кабылінку з'ядаў у Мадліне[11].

Там у куце музыка: як ён добра граець.
«Свіне ў рэпе», і «Дзюбу», і польскія танцы.
А гэта ёсць Алёнка, вочы ў дол спускаець,
А там бачу Эльжбетка у сіняй катанцы.

Но, зачнійце, дзявочкі, пану заспявайце,
Ён вам дасць па ўстужочцы, борзда зачынайце.

Х о р  д з я ў ч а т:

Што ж мы вашэці скажам,
Простыя з сяла дзяўчата?
Якія ж песні звяжам?
У нас мысль не багата!

Але як мыслім, чуем,
Так табе заспяваем,
Так цябе павіншуем,
Няшчырасці не знаем.

Лісічка, жоўты грыбок,
Слімакоў не баіцца;
Не точыць яго чарвячок,
Ён у лесе здароў блішчыцца.

Конік па полю дурэе,
Хоць копы вазіць не дбае,
Салавей харашо пее,
Самічку к сабе склікае.

Будзь, як лісічка, здаровы,
Як конік, вясёл пры трудзе;
Нех твае пісма, размовы,
Як салаўя голас, будзе.

Х о р   х л о п ц а ў:

Мы ад сахі, ад бараны.
Мала вам спяваці будзем!
Чытаць, пісаць не учаны,
Ат сабе троха загудзем.

Колька ў снопе есць зярнетак,
Толька жый шчаслівых летак;
А калі замнога гэта,
Аглядай сотнае лета.

Колька за адным пакосам
Касец добры траў схэндожыць[12],
Толька табе перад носам
Бог няхай чырвонцаў зложыць.

А як мы заўшэ да леса
Ад некрутаў уцякаем,
Так няхай бяда да беса
Уцячэ, нех ей не знаем.

Няхай цябе панны любяць
І часта просяць зазулькі,
Калі з табой ся зашлюбяць
І ад’едуць ад матулькі.

Х о р   д з я ў ч а т:

Сонка ясна, харашое,
Пшанічка роўная сонцу,
Малачко смачна, бялое,
Аж блішчыцца у даёнцы.

Але нашая паненка
Яснейная есць і бельшая;
Яна пекна, усютэнка
Цнатліва і разумная.

Нараім табе свацею
Жычліву, мілы панэнку;
Яна цябе злучыць з нею,
Будзеш мець красну жанэнку.

Ужо даўно шчабятала
Сарока нам на паркане;
Яна мілага казала,
Да едзь жа сь ты да нас, пане.

Прымуць там з хлебам, солею,
Там пачцівых людзей любяць,
Звянчаеш панны надзею,
З нею цябе ўгоць пашлюбяць.

Хор хлопцаў:

Да мы чулі, вельмі брыдка
Аб вашэці гутарылі:
У ксенжках заслепен вшытка,
Да паннаў се не пшымілі.

Панна Гертруда за сцянай
Мешкаець у Ежаўскега,
А юж ні ўвечар і рана
Не кцэ ён карыстаць з тэга.

Папраўся, мілы паночку,
Любі ладныя дзяўчата;
Я ўчорай чуў у шыночку:
«Трэба травіць млоды лята

На каханю пры дзяўчыне,
Бо калі старасць завіта,
Вшыстка прыемнасць міне
І з раскошы ў той час квіта».

Добра той, пане, казаў,
А ён быў убран у праку;
Мусеў то троха пазнаў,
Што ў паноў есць да смаку.

Войт:

Што ж маўчыце? Ці вам се ўжо песні урвала,
Ці вы іх так складаці умееце мала?

А д з і н   с а   с п е в а к о ў:

Не, бацька, у нас песні, колька рыб у Нёмні,
Але на тое, мілы галубчыку, помні,
Што мы па-рускі пеем, а нашы панове
Па-польскі ўсё гаворацьь; кепска нашай мове!
Можа ім ушы, казёл бэкем як свідруець.
Але для добрай волі пан нам то даруець.

Д р у г і   с а   с п е в а к о ў:

Но ты яшчэ, Мікіта, запей тую песню,
Што для сваёй Алёнкі зрабіў напрадвесню.
Нім у поле пагоніш твае бычкі спаслы,
Яшчэ цяпер зімою пхай сена у яслы;
Нім пад ценем халодным запяеш дубровы,
Спявай на імяніны цяпер Язэповы.

М і к і т а:

О, мая ж ты зорка ясна,
Доўга ж цябе любіць буду?
Уздыхаць яшчэ напрасна
І цярпець на сэрцы нуду?

Не будзеш ты літавацца
Над няшчасным Мікітою?
Час табе, міла, пазнацца,
Што ты для мяне мукою.

Цярплю доўга, выглядаю
Пацехі ад цябе, люба;
Няхай жа ўжо яе маю,
Не будзь ты для мяне згуба.

Ці ж дагэтуль не пазнала,
Што я за табою гіну?
Хочаш жа, каб аглядала
Маее смерці гадзіну?!

Пазнай, любая Аленка,
Тваё шчасце, тваю долю;

Будзеш мецi усютэнька,
Панюю дам табе волю.

У мяне сотня авечак
Па зялёнай ходзiць пашы;
Кароў, бычкоў, целушэчак
Поўны есць аборы нашы.

Чарназемны мае нiвы,
Пшанiцу родзяць буйную;
Садок есць, у нём грушы, слiвы,
Хату маю некурную.

Не будзеш мецi швагеркi
Анi з дзевера назолы;
Я не прывык да кватэркi,
Будзеш жыцi, як анёлы.

Не вельмi се тож i брыдкi,
Глядзеўся ў чыстам ручаю;
Гэта ужэ былi б збыткi
Назваць мяне негадзяю.

Эй, любi мяне, Алёнка,
Застань маею жаною;
Узойдзе для нас шчасця слонка,
Добра будзець з Мiкiтою.

Д з е с я т н i к:

А цо? Як жэ сен здае пану Язэповi[13]?
Чы адмовiш пахвалы нашэму спевовi?
Хоця ж мы не шукаем жаднэй стонд пахвалы[14];
Адкрыць нашэ Васпану сэрцэ, замяр цалы.
Бо мы Вашэцi любiм, Вашэць панэк грэчны,
Разумны i научны, людзям пажытэчны.
Не так, як той асэсар, цо валiць сто у спiну,
Кеды мiль тры не уеду на едну гадзiну.
Нашы ўпраўдзе спеваня не так ест учоны,
Як тые, цом я слышаў у справнiка жоны,
Ктора лежанц[15] пад ценём выцеклэй бярозы,
Чытала, ушыстка крычанц[16]: «Козы, мае козы,
Дапнiсе[17] муй каханы, повернi, Дапнiсе,

Там ест тобе маліны у кошы чы ў місе».
А хоць мы не Дапнісы пані справніковы,
Аднак не для прапорцы ест на карку гловы.
Трэба е розвеселіць: ну ж мы да бутэлькі
І кеды немаш мёду, то хлісьнем гарэлкі.
А крычанц «Нехай жые Язэп сэтны лята!»,
Будзем піць, скакаць, співаць і дрвіць[18] з беды свята.

## НА ПРЫЕЗД АДАМА МІЦКЕВІЧА

Едзе міленькі Адам,
Глядзеце, а онь, а онь,
Ды ён харашэнькі сам,
Пад нём — вараненькі конь.
Золатам пояс ззяе,
Аж ад блеску сніг тае,
На шапцы сіні баран, —
Хто бы думаў, што ён пан!
Так адзет харашэнька,
Едзе, едзе барздзенька.
Г а й д а!

Адчыняйце ж варотца!
Да ужо ж на двары Адам.
Да прымайце ж малотца,
Да кажы ж, ці здароў сам?..

Да як сен табе дзее[1]?
Ці заўсёды быў вясёл?
Гавары, ёна успее
Тым часам накрыці стол.

Будзем есці каўбасы,
Смачну гарылачку піць,
Песнь вазьмём на галасы
І будзем весела жыць,
Жыць etc[2].

Не так нам сонка ясна
Блішчыць, як цябе нет.
Радасці ішчам напрасна,
Увесь нам няміл свет.

Салавей не так нам пее,
Рожы не пахне цвет.
Не так нам бела лялея,
Калі цябе тут нет.

Без цябе усё тут смутна,
Па табе плача гай,
І рэчкі плывуць мутна,
У жалобе увесь край.

Наш ты міленькі Адам,
Насмуціў жа ты нас досць.
Нагрaдзі смутак нам
І будзь у нас доўга госць.

*1819*

## ДА ПАКІНЬЦЕ ГОРЛА ДРАЦЬ!

Да пакіньце горла драць,
Да пакіньце, братцы, спяваць!
Да клікнейма адно раз:
Будзь здароў наш Ярош!
Благаславі яго Спас!
Бо ён…[1]
Да дай красну дзевачку,
Каб ён з сэрца пакахаў,
Да з гарэлкай пляшачку —
Сват ад няго к ней ехаў.
Гайда, гайда, гайда, гайда!
Да ехаў, да то сказаў:
Да наш Геранім, наш бык
К вашай цялушцы прывык.
Дай Бог яе паймаці
Да да бычка загнаці[2].
Да на тое прысталі
Да пачалі водку піць
І дзевачку аддалі
З табою доўгі век жыць.
Жыць, жыць, жыць,
Зычыць, аж у вушах пішчыць, пішчыць, пішчыць!

*1819*

## ЗАСПЯВАЕМ…

Заспяваем — досыць спаці!
Станьце ўсе хутчэй у кола!
Стукнем келіхамі, брацці:
Гэта мудрасць — быць вясёлым!

Хай квітнеюць нашы жонкі,
Хай даруюць — чым паболей! —
Нам хлапцоў, дзяўчынак звонкіх:
Нашу славу, нашу долю!

Хай квітнеюць нашы дочкі,
Стануць гожымі — як мамы,
А гады ўцякуць у прочкі —
Будуць мамамі таксама.

Хай жывуць сынкі малыя
І не ведаюць трывогі
Ды змятаюць, як бацькі іх,
Подлых ворагаў з дарогі.

Хай сябры жывуць вясёла,
Ёсць яны — ты нібы ў раі.
А без іх жыццё наўкола
Стала б проста пеклам, знаю.

Хай жывуць між нас паэты.
Як яны нас акрыляюць!
Над згрызотамі, над светам
Дух наш горды узнімаюць.

Доўга келіхі мы студзім!
Прывітаем жа чын чынам
Вас усіх навокал, людзі,
Бо ўсе людзі — ёсць браты нам.

## ГЭЙ, СЯБРЫ, У ГУРТ ВЯСЁЛЫ!

Гэй, сябры, у гурт вясёлы!
Хай зайздросцяць нам анёлы:
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Лі у келіхі з размаху
Гэты дар іскрысты Баха!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць бацькі і маткі,
Нашы продкі і нашчадкі!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць для нас каханкі —
Неба самага пасланкі!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Шчасце нам яны прыносяць,
Аж да неба нас узносяць!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць сябры між намі,
Шчасце — разам быць сябрамі!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць шчасліва жонкі —
Маткі нашае старонкі!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць і мужыкі іх —
Гаспадарныя такія!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
І паны хай пажываюць,
Што сялян не прыгнятаюць!
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць сяляне — хлебам
Кормяць свет яны пад небам.
    Будзем пець і гуляць,
    Ні пра што ані дбаць!

Хай жывуць усе паэты,
Што, як зоры, свецяць свету.
Будзем пець і гуляць,
Ні пра што ані дбаць!
Хай жыве й святар адданы,
Толькі прыкладны, не п’яны.
Будзем пець і гуляць,
Ні пра што ані дбаць!
Хай жыве і чын вялікі —
Не драпежны, як звер дзікі!
Будзем пець і гуляць,
Ні пра што ані дбаць!
Хай жыве і люд вайсковы,
Што за край стаяць гатовы.
Будзем пець і гуляць,
Ні пра што ані дбаць!
Хай жывуць усе на свеце:
Мы — зямлі адзінай дзеці.
Будзем пець і гуляць,
Ні пра што ані дбаць!

## ГЭЙ, МАЛОЙЦЫ!

Гэй вы, хлопцы,
Гэй, малойцы,
Час за справу брацца —
Досыць з Бахам знацца!
Вам чало ўвянчае
Край, што так чакае
Вашых слаўных дзеяў:
Вы — яго надзея!
Гэй вы, хлопцы,
Гэй, малойцы!
Вам навукам, працы
Трэба ўсім аддацца!
Каб не змарнавалі
Час і не праспалі.
Ключ да шчасця — знаю —
Ў клопаце аб краю!

Гэй вы, хлопцы,
Гэй, малойцы!
        Працы плён багаты
        Вы нясіце ў хаты!
Па бацькоўскіх гонях —
Без адкладу, сёння! —
        Сейце без прынукі
        Вы святло навукі.
Гэй вы, хлопцы,
Гэй, малойцы!
        Добрых цнот сябры,
        З крыўдай змагары!
Кожны з нас айчыне
Паслужыць павінен,
        Свету, добрым людзям —
        Славу так здабудзем!
Гэй вы, хлопцы,
Гэй, малойцы!
        Будзе той каханы,
        Лаўрамі ўвянчаны,
Хто працуе ў поце,
Дбаючы аб цноце,
        Каб вярнуць, браты,
        Век нам залаты!

## СОН СВОЙ СКІНУЎ ПАН ВЯСЁЛЫ…

1

Сон свой скінуў пан вясёлы —
Красавік, ідзе праз сёлы
Абуджаць лясы і долы.
        Алілуя, алілуя, алілуя.

2

Тут сябры ўсёй грамадою
Во сышліся пад гарою
Піць ды есці талакою.
        Алілуя, алілуя, алілуя.

3

Але ўсё ж дарма іх лаюць,
Бы яны адно і знаюць,
Што лайдачаць ды гуляюць.
Алілуя, алілуя, алілуя.

4

Не, з іх кожны — працавіты,
Да людзей душой адкрыты,
Годны продкаў, самавіты.
Алілуя, алілуя, алілуя.

5

Шмат вучыцца ў іх ахвоты.
Пішуць штоквартал работы
І даюць штомесяц — злоты[1]!
Алілуя, алілуя, алілуя.

6

Край свой — клопат іх адзіны,
Мара іх — ва ўсе часіны
Быць падпорай для Айчыны.
Алілуя, алілуя, алілуя.

7

Прыйдзе час, і ў промнях рання
З філарэцкага яднання
Продак наш — сармат — устане.
Алілуя, алілуя, алілуя.

8

Блісне тут жазло сармата,
Клікне край ён да булата —

Знойдзе ўсіх за здзек расплата.
Алілуя, алілуя, алілуя.

9

Не змагчы, сябры, нас ліху!
Адпачнём цяпер хоць крыху,
Малако п’ючы паціху[2].
Алілуя, алілуя, алілуя.

## ЗНОЎ ВЯРНУЦЬ ВЯКІ Б НАМ ТЫЯ…

1

Зноў вярнуць вякі б нам тыя,
Калі рэкамі ліліся
Малако, мяды густыя,
Людзі соладка жылі ўсе.
Сэрцы ў іх былі — бы з мёду,
Чысціні малочнай — душы.
Чорных дзей не знали зроду,
Смутак дум іх не цярушыў.

2

Не трубіў ніхто аб цноце,
Не ўважала цнота пыху.
Кожны шчыра, па ахвоце
Шырыў добрае паціху.
Не маніла продкаў хвала,
Пра свае не дбаў даброты,
А чыніў ён, што казала
Сэрца, поўнае шчадроты.

3

Зноў вярнуць вякі б нам тыя,
Калі рэкамі ліліся
Малако, мяды густыя,

Людзі соладка жылі ўсе.
Так мы некалі ўздыхалі
Па вяках тых пад вятрамі,
Аж пакуль усе не сталі
Філарэтамі, братамі.

4

Гэтак мы вярнулі сёння
Залаты свой век гурмою.
Дружбы велічнай бяздонне
Поіць сонцам нашу мрою.
Дружба гэта меж не знае,
У вякі яна прастуе.
Сэрцы нашы ўспалымняе,
Маладую моц гартуе.

5

Ты вярнуў вякі нам тыя,
Нас гукнуўшы звонка ў высі.
Малако, мяды густыя
Нам ракою паліліся.
Малако й ад нас прымі ты
Як знак веку залатога.
З ім і з мёдам у блакіты
Хай бяжыць твая дарога!

## У ДЗЕНЬ УРАЧЫСТАСЦІ, ЯКАЯ СПРАЎЛЯЛАСЯ ДЛЯ ТАМАША ЗАНА 29 МАЯ 1821 ГОДА

Не трэба журыцца, о краю мой любы,
Што аддалі цябе дзеці на згубу.
Не трэба журыцца, што вораг як хоча
Прах продкаў славутых тваіх сёння топча,
А мы, іх забыўшы, ўсё болей і болей
Звыкаемся, сытыя, з нашай няволяй.
Не трэба тужыць… Новай славы праменне
Асвеціць яшчэ нашых прадзедаў цені —

Хай знаюць, што й сёння іх родныя нівы,
Дзе колісь паказвалі мужнасці дзівы,
Усё ж нараджаюць сыноў яшчэ годных…
Да дзеяў рыхтуемся высакародных
Мы сёння, дух будзячы ўсюды ў краіне —
Хоць цемра навокал, усё ж ён не згіне.
У цемры той бразгае ворага зброя,
Што дол акрапляе нявіннай крывёю.
Забойцы гвалтоўнай рукою крывавай
Тут пішуць сваё неаспрэчнае права,
У помач узяўшы людскую сляпоту,
Усе забабоны, старую цямноту.
Яны яшчэ больш цемру тут зацямняюць
Ды страхамі, жахамі ўсю запаўняюць.
Мы, моладзь, паходні асветы пагаслай
Наноў распаліўшы — гарыце ж найясна! —
Куткі ўсе і лёхі, дзе енкі глухія,
Асвецім, адкрыўшы пакуты людскія.
Сарвём усе маскі і сонца праменнем
Разгонім мы ноч пад нябесным скляпеннем,
Пакажам двурушніцтва страшныя здані,
Якім верыць люд усё не перастане,
Напужаны імі, абняты трывогай!
Ды знікнуць яны, як не стане ні ў кога
Тых прымхаў, развеюцца ў свеце, растануць —
Пужаць імі хіба дзяцей толькі стануць.
О брацці! Нам прышласць шчаслівая ззяе!
Яе перад намі Тамаш расхінае.
Ён першы, яе паказаўшы ясноты,
Павёў нас да славы дарогаю цноты.
Мы з ім палюбілі свой гурт і ў забавах
Задумалі разам вялікую справу.
Яму хочам шчыра найлепшае зычыць,
Ды слоў не стае, каб яго узвялічыць.
Мо пэндзлем ці долатам увекавечыць
Яго нам, каб нашу пашану пасведчыць?
Узносілі грэкі герояў вялікіх
Калісь на Алімп — ёсць і сёння іх лікі.
У нас жа адна Тамашу ўзнагарода:
Любоў нашых сэрцаў, адданасць і згода.
А гэта мацней, чым граніт які, знаю,
Яго, Тамаша, ўвекавечыць у краі.

## ПЕСЕНЬКА НА ДВА ГАЛАСЫ

Ах, не кветка гэта — казка,
Бо яна трымала,
Ах, валошка — з красак краска,
Бо яна сарвала.

Ах, салодкія брусніцы,
Бо яна збірала,
Ах, як мёд вада з крыніцы,
Бо яна дастала.

Ах, бясцэнны той шнурочак,
Бо яна рабіла,
Ах, наймілы той лісточак,
Бо яна згубіла.

Ах, як тут сядзець прыемна,
Бо яна сядзела,
Ах, як скрозь усё таемна,
Бо яна тут пела.

## ДЛЯ КАГО ЗБІРАЮ КРАСКІ?

Для каго збіраю краскі?
Ах, так проста, ні для кога!
Тая, для якой так многа
У збалелым сэрцы ласкі,
Мне адвагі не ўдзяліла
Краскі ёй паднесці міла!

Добра, што вунь там на схіле
Ўзгорка — могілкі ля дуба.
Не занёс я кветкі любай —
Ускладу іх на магіле:
Пахавала ўчора матка
Там маленькае дзіцятка.

Можа, заўтра, калі рана
На магілку да дзіцяці
Зноўку з плачам прыйдзе маці,
Знойдзе ўцеху нечакана:

То ж анёлы прылятালі —
На магілку краскі ўсклалі!

А я, бедны, нешчаслівы,
Зноў складу тут крыжык з кветак.
Як памру з тугі, мо гэтак
Чалавек які зычлівы
І на мой грудок з палетку
Прынясе, ускіне кветку.

*1823*

## ТРЭН

Сядзіць каралева між тлуму прыдворных,
Тут сытыя ўсе, усе ў строях адборных.
Усім яна дорыць усмешкі спагады,
І кожны вясёлы тут, кожны тут рады.
Ды што там за здань у дзвярах? Бляск пажару —
У воку. Сум нейкі сцёр рысы ўсе з твару.
Няпэўнасць хады. Ён гасціну вітае.
Садзіцца. Ніхто пра яго не пытае.
Нямы. Бы скала, што хавае вулканы,
Што ледзьве трымае ў сабе вір агняны.
А з кім размаўляць? Ён няпэўны, нясмелы.
З адной гаманіў бы ён дзень і век цэлы.
Ды як пераняць яе позірк імклівы,
Салодкі і мройны, ад балю шчаслівы?
Спакойны будзь, — розум гавора, — не рвіся,
Дзе й вораг вяселіцца, ты весяліся.
Ён — рана сама. Ды лепш боль не трывожыць!
Мо ў мроях хоць шчасця сабе наваражыць.
Ён мае свой гонар: глядзі не тужы!
На твары — спакой, хоць у сэрцы — нажы.

## ВЕРШ,
## ЗАМУРАВАНЫ Ў ДЗЮРЦЫ ТУРЭМНАЙ СЦЯНЫ

Ніякая сіла высокіх памкненняў
Не знішчыць і ў сценах глухіх сутарэнняў!
Нам гэтая думка душу саладзіла,
Як кінула й нас у турму злая сіла.
Хто лётаў адсюль на Парнас праз віхуры,
Той аўтар і дзюркі во гэтай у муры[1].
Спачатку гнёў сум яго што ні хвіліна,
Але яго дух падняла тут дзяўчына.
Каго яна шчырай душой прывітае,
Таго не адолее немач любая.
А першы, хто вынайшаў цвік ад самоты,
Быў наш Аляксандар[2] — услаў жа яго ты!
Прыклаўся быў добра й Жаўнер[3] да той штукі.
Хто прэнт скарыстаў яшчэ, хто — свае рукі.
Так дзюркі прабілі мы й тым даказалі,
Што нас і муры нават не раз’ядналі.
Цяпер мы знайшлі ў перамовах уцеху
І кпілі са стражы сваёй не без смеху.
Нашчадак! Пра нас табе ліст мы пакінем —
Мо ў нейкім стагоддзі, калі мы ўсе згінем,
Ты знойдзеш яго —прачытай ліст той людзям:
Калі на дварэ век шчаслівы ўжо будзе.
Калі ж край наш будзе йшчэ пад маскалямі,
Спалі гэты ліст — каб нікога не пляміў.
Бо выказаць слова зноў будзе не можна,
Як сёння — пад іхняй уладай бязбожнай.
Цяпер жа — vale![4] Запішу найвыразней,
Каб знали, якія сядзелі тут вязні[5].

## О ТЫ КРАЙ МОЙ НЕШЧАСЛІВЫ

О ты край мой нешчаслівы!
Дзе ж твае ўсе абаронцы?
Ці ўжо ўбачыць твае нівы
Шматчаканай волі сонца?

Вораг, глянь, грабе адкрыта
Дар найшчодры твайго поля,
Ад тваіх ахвяраў сыты,
Ён смяецца з нашай долі.

Цноты продкаў топча, памяць
Аб табе ён выдраць хоча
І за плач па волі пляміць
І карае нас ахвоча.

Робіць з нас ён братабойцаў,
Сее ў душах злосць зацята.
Ну ж і час: сын, бацьку бойся,
Бойся ўсюды, браце, брата!

О ты край мой нешчаслівы!
Дзе ж твае ўсе абаронцы?
Ці ўжо ўбачаць твае нівы
Шматчаканай волі сонца?

Калі ж дзецям, што ў прыгоне,
Шчасце-долю высняць маткі?
І калі выбранцаў скроні
Вы ўвянчаеце, дзяўчаткі?

*1823*

## ДА ГОЛУБА

1

Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Скуль ты сюды завітаў?
Ці пад зарой, дзе ручай ля паляны,
Мілай маёй не страчаў?

2

Ці хоць вясёла яна? Ці здарова?
Мілы мой птах, раскажы!
Што, не для слыху твайго маё слова?
Гук яго птахам чужы?

3

Глянуў вясёла!.. Гэтак прыемна
Сэрца зайшлося ў грудзях!
Мо ад яе ты прынёс патаемна
Што для мяне, любы птах?

4

Шчасны, хто марыць умее, свабодны,
І ўслед за марай ісці.
Прэч жа, мой розум, розум халодны,
Лепш ты мяне адпусці!

5

Гэтак, як грэкі, за птахавым лётам
Думкі пушчу да аблок.
Што са мной будзе і сёння, і потым,
Розум не ўбачыць здалёк.

6

Зараз на боскую волю хачу я
Ўласную долю аддаць.
Досыць гадаць, што мне Заўтра рыхтуе,
Лепш памыляцца, гуляць.

7

Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Я, як хачу, варажу:
Да сваёй мілай прыйду, закаханы,
Што на душы, ёй скажу.

8

Ці хоць вясёла яна? Ці здарова?
Сёння ўжо буду я знаць!

Кажуць, ёсць ліст ад яе. Мілай слова!
Вечарам буду трымаць!

9

Ён за тры крокі, ў суседняй каморы,
Тайны ад мілай лісток.
Ах, што за дзень сёння доўгі, няскоры!
Здэцца, згушчаецца змрок?

10

Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Зноў да чыіх ты акон?
Трапіш да мілай мо ты праз туманы,
Ёй занясі мой паклон.

11

Толькі куды ты? Праз змрок вечаровы
Ў іншы скіроўваеш бок?
Не зразумеў ты маёй, мусіць, мовы?
Ды мне памог, галубок!

12

Ах, паляцеў ты туды ўжо, дзе ў змроку
Любы мой друг пад замком[1].
Ты і яго хоць суцеш там звысоку,
Веру вярні як тайком.

13

І яго думкі ўсе той жа пуцінай
У той жа дворык бягуць.
Каля яе яны кожнай хвілінай
Разам з маімі снуюць.

14

Гэта ж прывезлі сюды яе брата!
Будзе ў нас сонечны міг:
Разам са мной і яна будзе рада,
Разам сустрэну я іх!

15

Голуб мой белы, госць мой вясняны,
З Богам! Бывай, дарагі!
Ах, калі час той настане жаданы?
Здымем калі ланцугі?

## НЕЯК ЛЯ ГАЮ МЫ З ЗОСЯЙ ЛІЧЫЛІ

Неяк ля гаю мы з Зосяй лічылі
Ружы на кусце і спрэчку ўчынілі.
Зося лічыла і кажа: «Пятнаццаць».
Я ж палічыў і кажу:«Не, шаснаццаць!»
Мо памылілася — зноў яна лічыць,
Толькі адной ружы зноў не далічыць!
Колькі ні лічыць, зноў кажа: «Пятнаццаць!»
Я ж палічу і кажу: «Не, шаснаццаць!»
Тут на мяне Зося аж зазлавала —
Хоча ўцячы, размаўляць перастала.
«Зося, чакай, не ўцякай, мая міла:
Гэта ж сябе, пэўна, ты не лічыла!»

## РАЗВІТАННЕ КАСЦЮШКІ З ЮЛІЯЙ

1

А калі паедзеш, дык бывай,
Пра маё каханне ўспамінай!
Ты ў чужых краінах будзеш жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.

2

А калі паеду, з Богам будзь,
Пра маё каханне не забудзь.
У якіх краінах мне б ні быць,
Юліяй адзінай буду жыць.

3

Хоць разлучыць, можа, доля нас,
Любасць пераможа нават час.
Ты ў чужых краінах будзеш жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.

4

Гэта падарожжа ў дальні край,
Дык навек мне, можа, ад'ю дай!
Мо я не вярнуся з даляў тых,
Дай зары нап'юся з воч тваіх.

5

О мая заранка! Як мне быць?
Рана ў сэрцы, рана. Так баліць!
Зараз ад'язджаю. З Богам будзь.
Любая… Кахаю… Не забудзь…

6

Ты ўжо ад'язджаеш — ах, бывай.
Пра маё каханне ўспамінай!
Ты ў чужых краінах будзеш жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.

## ЯНА ДАЛЁКА

Трызню табою, адзінай,
О маё шчасце, дзяўчына!
Дзе ты, жыццё маё, ранне,
Ты, маё ў свеце каханне?
Ты за той дальняй смугою!
Не за адной ты гарою,
Не за аднымі барамі,
Не за аднымі гарамі!

Дзеляць нас земляў абшары,
Горы, лясы, нібы хмары,
Дзеляць аблокаў чароды,
Розныя дзеляць народы.
Ці калі ўбачу цябе я?
Ці я прайду скрозь завеі,
Тыя між намі абшары,
Горы, лясы, нібы хмары?

* * *

Толькі Айчына і Зося —
Сёння мне ўцехай адзінай.
Сёння мне ўцехай адзінай,
Жалю і смутку прычынай.

Хто ж за любоў, за каханне
Даў мне пакуты такія?

Вашай я рады чакаю,
Добрыя сэрцы людскія.

Я панясу да магілы
Любасць да краю і Зосі,
Хоць мне любоў гэта ў сэрцы
Столькі няшчасцяў прыносіць.

## СПЯВАЙ ПА-НАД СОЛЬЧАЙ, САЛОЎКУ

Спявай па-над Сольчай, салоўку,
Хоць я цябе там не пачую.
Увечары прыйдзе ізноўку
Яна ў тваю заціш лясную.

Яна, каго ў думках нам стрэціць
Так люба у дзень гэты весні,
Хоць хвілю здалёк нам пасвеціць
І хвілю тваёй чыстай песні.

Ты, Сольча, пад месячным ззяннем
Між лозаў, праз зацень завояў
За далеч, з глухім буркатаннем
Нясі сваё срэбра жывое.

Яна, каго ў думках нам стрэціць
Так люба у час гэты весні,
Хоць хвілю здалёк нам пасвеціць
І хвілю тваёй, рэчка, песні.

Ці пойдзем калі яшчэ з ёю
Паслухаць пад месяца ззянне
Салоўку чароўнай парою
І, Сольча, тваё буркатанне?

Мо з часам пачуцці астынуць,
І знікнем мы ўсе, як аблокі,
Усё ж нашы душы не згінуць,
Запомняць нас Сальчы затокі.

## ГОЛУБ

Я паслаў бы, голуб,
Цябе ў любы край,
Дзе маё каханне,
Дзе мой светлы май.

Мо б занёс праз далеч
Мілай колькі слоў:
Лейлі, ты мне люба,
Жыў я і здароў.

Я сказаў бы, голуб:
Мчыся ў добры час,
Між дзяўчат пазнаеш
Мілую ты ўраз.

Твар яе журлівы,
Хоць на вуснах — смех.
І сядзіць самотна
Між людскіх уцех.

Ты яе пазнаеш,
Бо яна — адна,
Самая з наймілых
Мілая яна.

Што яна — красуня,
Слова нават дам.
Ну, а ці сумуе…
Ты убачыш сам.

## ВАНДРОЎНАЯ ПТАШКА

Пташка, пташка,
Скуль ляціш ты —
Ці не з нашых
Ніў?

Каб пачуць мне
Што аб мілай,

Я б шчаслівы
Быў.

Мо была
Ў яе садочку?
Ці не стрэла
Там

Той найгожай,
Да якой бы
Паляцеў я
Сам?

Ці не чула
Выпадкова
Ты хоць колькі
Слоў

Той, якая
Не выходзіць
З маіх юных
Сноў?

Ах ты, пташка,
Адлятаеш —
У якую ж
Даль?

Мне пакінула
Ізноў тут
Па наймілай
Жаль.

## ЗЯЗЮЛЬКА

Кукавала у садочку
Ўсім зязюлька пад лісточкам:
— Не звівала я гняздзечка —
Хто б мае прыняў яечкі?

Салавей саўе гняздзечка,
Возьме ён мае яечкі.

Кукавала у садочку
Зноў зязюлька пад лісточкам:
— Тут лятала я ўсё лета,
Звала, звала сваіх дзетак.

Толькі дзеткі між гаямі
Паляцелі з салаўямі.

Зося слёзы праліваe,
Галаву ніжэй схіляе:
— Ой, хто косы распляце мне?
Хто вяночак мне надзене?

Брацік косы расплящe мне,
А сястра вянок надзене.

Плача Зося, не сціхае,
Галаву ніжэй схіляе:
— Болей мне у роднай хаце
Не гуляці, не спяваці:

Брат вяночак зняў з ахвотай,
А сястра забрала ўплёты.

## ПРЫЛЯЦЕЛІ САКОЛІКІ

Прыляцелі саколікі
Пад вішнёвы сад,
Звалі ў неба зязюлечку
Ад густых прысад.

— Паляцець бы з вамі рада
Я ў любую даль,
Ды мне саду зялёнага
І гняздзечка жаль.

Прыехалі да дзяўчыны
Ды сваты гурмой,
У дарогу сабірацца
Клікалі з сабой.

— Рада б я паехаць з вамі
У любую даль,

Ды мне маткі і сястрычак
І айчыны жаль.

## КАСЕЦ

1

Раскажы ты мне, батыр, якое сонца
Тут цябе пячэ больш, у тваёй старонцы?
Тое, што па небе над табой гуляе
Ці што воч ясноту на цябе ўздымае?

2

Сонца з неба голаў апячэ ці палец,
Любая ж пастушка — жарам сэрца паліць.
Ліпы цень шырокі — схова ад прамення,
Ад агню ж кахання дол сыры — збавенне.

## МАЛАЦЬБІТЫ

1

Тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах,
Памагай нам, Божа!
Тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах,
Вымалаціць збожжа!

2

Ну ж вы, хлопцы, ну ж, дзяўчаты,
Дружна станьце ў кола!
Будзем біць без паганятых
У цапы вясёла!

3

Абмалоцім жыта, проса
І ячмень вусаты —
Загудуць, як павялося,
Ад вяселляў хаты.

4

Досыць, Стах, дзяўчатак зводзіць,
Іх збіваць са шляху:
Трэба з жонкай быць у згодзе —
Бі ў цабы для Стаха!

5

Глянь, як Янка вочы косіць
Сціха ў бок каханкі.
Трызніць ён даўно аб Зосі —
Бі ў цапы для Янкі!

6

А дзяўчына сцяла губкі —
Разгнявіла штосьці іх!
Але гэта гнеў галубкі —
Бі ў цапы для Зосі!

7

Штосьці Куба ўсё ўздыхае —
Мо каму нялюбы?
Дый яго хтось пакахае —
Бі ў цапы для Кубы!

8

Домік Бартка мёдам слыне —
Спаць не любім, братка!
Ды ён марыць аб Марыне —
Бі ў цапы для Бартка!

9

Ні к чаму дастаткі тыя
Ды без гаспадыні!
Сняцца ўжо даўно сваты ёй —
Бі ў цапы Марыне!

10

Чуюць Анкі спеў прыгожы
Вечары, світанкі.
Хто ж ёй сэрца растрывожыў —
Бі ў цапы для Анкі!

11

І ў Алесі ёсць сакрэты:
Сумная, па лесе
Ходзіць цэлы дзень без мэты —
Бі ў цапы Алесі!

12

А Брыгіда Бога славіць,
Тых, хто ў хату прыйдзе,
Добрым словам, смехам бавіць —
Бі ў цапы Брыгідзе!

13

Тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах.
Памагай вам Божа,
Тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах, тах,
Вымалаціць збожжа!

14

Дык мяціце ўсе напасці
Вы з двароў за брамы!
Хай вас Бог адорыць шчасцем
І паны таксама!

## КУМ І КУМА

Кума нітак напрала,
У маток іх звівала.
Кум дзівіўся: як гожа
Кума ніткі віць можа.

Наварыў кум ёй піва,
Частаваў так зычліва
І дзівіўся: як гожа
Кума піва піць можа.

Як з бяседы аднойчы
Кум куму вёў уночы,
Ён дзівіўся: о Божа,
Кума йсці ўжо не можа.

## ПРАСНІЧКА

Гожыя дзяўчаткі
Ля праснічак селі —
Тоненькія ніткі
Цягнуцца з кудзелі.

Віся, вераценца,
Віся, ды барждзэй!
Доўга тая любіць,
Дзе нітка даўжэй.

Паплыў нарачоны
Ў Кралявец віцінай,
Развітаўся шчыра
З любаю дзяўчынай.

Віся, вераценца,
Віся, ды барждзэй.
Доўга тая любіць,
Дзе нітка даўжэй.

Хораша прадзецца
Маладой дзяўчыне.
Тры дні сумавала
Аб сваім хлапчыне.

Віся, вераценца,
Віся, ды барждзэй.
Доўга тая любіць,
Дзе нітка даўжэй.

Сеў тут іншы хлопец
Да яе, ахвочы.
Свецяцца ў дзяўчыны
Зноў ад шчасця вочы.

Віся, вераценца!
Рвецца нітка — ой!
Залілася дзеўка
Чырванню густой.

## ЛЮБЫМ СЯЛЯНАМ З-НАД НЁМАНА І ДЗВІНЫ

Калі ж вы чытаць ужо будзеце, брацця?
Вы ўведалі б з Божае ласкі,
Што вам неслі шчыра мы гэта багацце —
Ніў вашых калоссе і краскі.

Я з сэрцам удзячным дар шчодры во гэты
Кладу перад вамі мрою:
Калі і да вас блісне промень асветы,
Вы возьмеце дар мой з сабою.

А сёння хай знаюць вяльможныя людзі,
Хто працай узнёс іх у свеце.
Уклаў Бог адны нам пачуцці у грудзі,
Мы ўсе — адной мацеры дзеці.

*1840*

## ГАСПАДЫНЬКА ФРАНУСЯ
(7/19 красавіка 1842 г.)

Глянь у поле — там дзяўчынка з бараной танцуе.
Як у такт яна ступае, як канём кіруе!
Што ў яе за павароты! Што за гнуткасць стану!
На красу такую толькі б любавацца пану!
На мяне ёй сорам глянуць. Памажы ёй, Божа!
Ды і так у шчырай працы Бог ёй дапаможа.
На мяжу жаўрук спусціўся — хоць на паўхвілінкі
Не здалёк, а зблізку танец паглядзець дзяўчынкі.
Шкода толькі: знекуль вецер наляцеў халодны,
Ды і конь яе нядужы — доўга быў галодны.
Божа! Дай хоць добрых коней аратаям нашым.
Каб жылі яны, як людзі. Плёну полю, пашам.
Мілы танец, што чаруе вока ў час натхнёны,
Ды мілейшы той, што ўсім нам хлеб дае штодзённы.
Пасля танца, што між сценаў, — толькі пыл курыцца,
Па Францусіным жа танцы — збажына кусціцца.

## МАМКА

Сын радзіўся у танюткай
Гожай пані, станам гнуткай.

Ды марнее хлопчык — Божа!
Бо сынка карміць не можа.

— Хай карміць маё дзіцятка
Прыйдзе з хат якая матка.

За паслугу матку тую
Накармлю і апрану я.

На той кліч прыйшла да ганка
Маладзенькая сялянка:

Свой сынок з ражка піць будзе,
Панскі ж — ссаць яе тут грудзі.

Малако свой — п’е любое,
Панскі ж сын — яе, грудное.

Свой — дзень плача без матулі,
А яна — пяе тут «люлі».

Мамка родная штоночы
Спіць у ложку колькі хоча,

А пазычаная матка
Ноч люляе дзіцянятка.

Так цябе, панок, слабога
Да жыцця ўзняла, малога.

Каб не тая мамка з вёскі,
Ты б і свет не бачыў боскі.

Акрыяў, падрос. Каб сілы
Набіраў хутчэй ты ў жылы,

Для цябе пшанічку жала
«Мамка», булкі выпякала…

Пэўна, ты ўжо знаеш, блазан,
Што жыццём ёй абавязан.

Ці пра гэта ўсё забудзеш,
Калі важным панам будзеш?

О каб помнілі мы, зналі,
Чые рукі нас люлялі,

Бліжнім мо спрыяць бы ўмелі,
Сэрцам бы не ачарсцвелі!

Мо братоў з гнілых хацінак
Не ганялі б, як скаціну.

Плён іх працы б шанавалі,
Каласка б не растапталі.

Іх да сэрца б прытулілі
Ды навукам навучылі.

Помні: многія з тых хатак
Нам другіх давалі матак.

## СЯРМЯГА

Пані пекная, што бачыць з-за карункаў гожых,
З-за брыльянтаў пераліўных свету ўжо не можаш,
Глянь на бедную сярмягу хоць адзіным вокам,
Як праходзіць ля карчмы дзе будзеш ненарокам.

Ды нашто шукаць карчмы той —зазірні ў фальварак,
Дзе падданыя сышліся адрабляць шарварак[1]:
Больш пярэстага убрання хіба знойдзеш дзе ты —
Нібы ў стравусава пер’е твой мужык адзеты.

На сярмязе ўбогай лата ды на лаце — глянуць:
Дзіва дзіўнае — ну, нібы ў пер’і афрыканец!
Толькі шкода: сонца светлай Афрыкі багатай
Ад яго ляснога краю ўсё ж далекавата.

Без сярмяг, без кажухоў тут у мароз, у холад
Ці ж нам можна абысціся — ты стары ці молад.
Сорам, пані, адзявацца з гэтакай раскошай —
Муж хай лепей на сярмягі дасць сялянам грошай.

Хай падумае хоць трохі і аб іхняй долі,
Зарабіць самім сярмягі хай жа ім дазволіць.
О яснейшымі намнога сталі б твае шаты,
Каб цябе не атачалі, пані, тыя латы!

## ВЯСКОВЫЯ ЎЦЕХІ

Вёска любая мая ты!
Часам сумна мне бывае,
Ды тваім праходжу полем —
Сум умомант той знікае.

Стрэну там дзяцей вясковых —
Хоць адзежка ў іх у латах,
Столькі шчырасці чысцюткай
Бачу ў мілых вачанятах!

— Як жывеш, пане Стафане?
Усміхаецца Сцяпанка.
Там — Алесь, а там — Віктося,
Што зардзелася, там — Янка.

Пасвяць свінак тут, авечак.
Гэты — з пужкаю гуляе,
Тая ўе вянок з валошак.
Той скацінку ў гурт збірае.

Там — Ануська-гаспадынька
З Ізабэлкай каля пашы
Шчыра бульбіны збіраюць,
Што выкопвае Лукашык.

Іх, сяброў маіх маленькіх,
Бачыць рад я на палетках —
Змітрака, Марцінка, Юрку,
Даміцэлю і Пракседку.

Іх усіх вітаю шчыра,
Грушку ім даю ці яблык.
Хто раней паглядваў скоса
На мяне, цяпер — мой сябра.

Хай жа вас сам Бог гадуе,
Вам дае здароўе, шчасце,
Ад людзей пашану, ўвагу,
Зберагае ад напасці.

Падрастай, народ маленькі,
Гаспадынькі, аратаі.
Адарыць мне вас няма чым —
Шчырым сэрцам адараю.

## БУРАКІ

Цешся, шаноўны ліцвіне:
Славай тваёй — ёсць бацвінне!

Немец, француз, прусакі
Любяць твае буракі:

Глуздам ледзь паварушылі —
Гэткі з іх цукар зрабілі!

Ты ж, пацямнелы у твары,
Вэндзішся ў броварнай пары.

Поіш братоў сваіх з хат —
Ну, хіба ж будзе там лад?

Цягнеш і цягнеш вякамі
Ў бровар кашы з буракамі.

Больш пра валоў дбаеш звеку,
Меней жа — аб чалавеку.

Толькі б мець корм для валоў,
Варыш атруту ізноў.

Толькі б палеткі ўгнаіць,
Люд будзеш далей труціць?

Каб не рабіць гэтак болей,
Травы сей быдлу у полі.

Выціскамі ж з буракоў
Шмат можна ўгноіць лажкоў.

Грошыкі ж з цукру без грэху
Сыпацца будуць, як з меха.

## ЛЕЎ САПЕГА[1], ВІЛЕНСКІ ВАЯВОДА, ГЕТМАН ЛІТОЎСКІ

Пану я таму здароўя й доўгіх год жадаю,
Што сялян ад аканомаў злых абараняе.

Мужыка гнятуць як могуць часта аканомы,
На яго шчэ й нагавораць пану, як вядома.

Гетман Леў Сапега мучыць мужыка нікому
Не даваў, казаў ён гэтак хіжым аканомам:

«Вам нішто мужык-араты, для мяне ж — вяльможны,
Каб не ён, ну хіба ж панам з вас зрабіўся б кожны?»

Так, вядома, на каго з вас болей рук працуе,
Той мажнейшы за ратая, што ўвесь век гаруе.

Ах, шануйма ж тыя рукі, што нас кормяць звеку,
Трэба ўсім у мужыка нам бачыць чалавека.

Не было б чым ганарыцца ўсё ж любому пану,
Каб не ўмеў араць і сеяць селянін падданы.

## ДАБРАЧЫННЫМ ПАНАМ І ІХ АКАНОМАМ, ЯКІЯ КЛАПОЦЯЦЦА ПРА ДОБРЫ БЫТ СЯЛЯН

Вам, хто просты люд шануе,
    Ад бяды ратуе ўсякай,
За любоў ён дорыць шчыра
    Песні гэтыя з падзякай.

Бог, што вам калісь даверыў
    Дбаць пра ўсіх сялян, пра лёс іх,
За дабро надзеліць шчасцем
    На зямлі вас і ў нябёсах.

## ДА МІЛЫХ МУЖЫЧКОЎ

Ды і я вам памагу
Песеньку спяваці,
Ды і я ж між вамі ўзрос
Пры бацьку і маці.

І мне Бог на свеце даў
Гора гараваці,
Штобы лепш я вас любіў
І ўмеў спагадаці.

Ой, што ж вы напелі тут,
Ды якога дзіва!
Шкода, што на голас ваш
Старонка драмліва.

Але як прачнецца з сну
Гэта Дабрадзейка,
Пэўна, будзе слухаць вас
Лепш, як салавейка.

Будзем колісь так і мы,
Як тыя гуралі,
Што пан даў ім есць і піць,
Яшчэ й грошы бралі.

Трэба толькі слухаць нам
Рады таго татка,
Што то казаў гараваць,
Каб аджыла хатка.

Толькі, мусіць, той сынок
Не піў, як мы, водкі,
А то б яму вялеў ён:
Кінь і мёд салодкі.

Ой, гаруйма, братцы, мы,
Кіньма горку жлопель,
Што не з жыта гоняць ўжо,
А з аўса, з картопель.

Кіньце першы, жонкі, вы,
Мілыя дзяўчаты,

Доля, шчасце зачне жыць,
Дзе цвяроза хата.

Благаславіць будзе Бог
Ў каморы, аборы,
І не будзе такі люд
Бяссільны, як хворы.

Ой, каб колісь нам дажыць
Да такой паправы,
То запеў бы з вамі я,
Што нам Бог ласкавы!

## БЕКЕШ

1

Дзе сёння дамок з мілым кветнікам Зосі[1],
Калісьці бялелі палацы.
Стоўп вежы у неба зубцы свае ўзносіў,
Гадзінніка бой плыў над пляцам.
Шырокая брама, цяжкая, глухая,
Там на ланцугі была ўзята.
Са зброяю варта стаяла, нямая,
У шлемах жалезных, у латах.

2

І жыў у палацах тых пан ваявода
Здаўна — у раскошы вялікай.
Ён Вільняй і ўсёю акругай валодаў,
Меў золата, скарбаў без ліку.
Але даражэй за ўсе гэтыя скарбы
Была ваяводу Малгося —
Не толькі прыгожы ў дачкі яго твар быў,
Але і душа — як і ў Зосі.

3

А сам быў ён з гонарам, важны і думны,
Ні ў чым не ўступаў анікому.
Адсюль — яго ўчынак адзін неразумны —
Даруйце за гэта старому.
З маленства ён чуў, як дачок сваіх замуж

Раней каралі выдавалі.
Ад іх не хацеў адставаць ён таксама ж —
Свой гонар паны шанавалі!

4

Ён ведаў: рукі каралеўны прасіцца
Жадаў не адзін бы залётнік.
З самім каралём, а не з кім, параднiцца,
Вядома ж, быў кожны ахвотнік.
Кароль жаніхоў склікаў з цэлага свету —
О шмат хто спяшаўся на ўдачу!
Там шляхціча шапку і князя саету
Між рыцараў многіх бы ўбачыў.

5

Сабраўся ўвесь горад… Гамонка людская…
Ну, хто з жаніхоў пераможа?
У неба скала ўзнялася шкляная —
Хто з іх адалець яе зможа?
На версе — яна. Хто здалее даскочыць
Па кручы той да каралеўны,
Таму на чале зорку выб’е ахвоча —
А гэта ўжо шлюб з ёю пэўны!

6

Падходзяць паны ўсё… Вы чулі, вашэці?
Жылі тры браты недалёка,
Разумныя два з іх былі, дурань — трэці:
Усе так казалі навокал.
Вядома ж, хто болей шуміць, той — разумны:
Прыкмета ў народзе такая.
А той, хто працуе, хто ціхі, няшумны,
Ён розуму быццам не мае.

7

Разумныя ўбораў шаўкі апранулі,
Гарцуюць на конях прыбраных.
А ты, брат, на печы сядзі у кашулі,
Асмеяны і пагарджаны.
Ды неба такім бедакам нешчаслівым
У нэндзы падчас памагае.
Згадаў ён нябожчыка бацьку. Тужлівы,
Лье слёзы ды цяжка ўздыхае.

8

І чуе ён голас тут бацькаў наймілы:
«Калі ступіць ноч на дзядзінец,
Прыйдзі да маёй, любы сыне, магілы —
Хачу табе даць я гасцінец».
Ноч посцілкай чорнай зямлю ахінае,
У небе — зор велічных веча.
І хлопец тут дзверы цішком адчыняе,
Да бацькі ідзе на сустрэчу.

9

Ён ледзьве туды падышоў, як раптоўна
Стаў конь перад ім забіяцкі,
У срэбры зіхоткім, у збруі шыкоўнай —
Дзівосны гасцінец ад бацькі.
«Сядай жа, мой сыне, на ім ты даскочаш
Па кручы аж да каралеўны:
Табе на чале зорку выб’е ахвоча —
А гэта ўжо шлюб з ёю пэўны!»

10

Сеў хлопец, ледзь свіснуў—і ўжо ля падножжа
Скалы той шкляной каля пляца.
А вунь і браты. Ды зямны конь ці зможа
З Пегасам яго паспрачацца?
Умомант да самага верху падскочыў
Па кручы ён да каралеўны.

Яна на чале яму зорку ахвоча
Адбіла ўміг — шлюб гэта пэўны!

11

Ды сціплы ён. Так, як прыехаў, без шуму,
Паціху паехаў дадому.
Хто ж быў то? Шукаюць героя між тлуму.
Ні следу. Дзе знік, невядома.
Дадому браты прыскакалі лясамі,
Гадаюць пра рыцара-дзіва.
А ён на лбе зорку прыкрыў валасамі,
Ляжыць зноў на печы маўкліва.

12

Ды раз выйграць мала, каму ўжо нябёсы
Спрыяюць у бойцы са светам.
Змаганне вялікае не сунялося
За сэрца красуні на гэтым.
Другі раз кароль да скалы на пляцоўку
Усіх, хто жадае, склікае.
Фартуна братам усміхаецца зноўку,
Ды як яно будзе, хто знае?

13

Разумныя ўбораў шаўкі апранулі,
Гарцуюць на конях прыбраных,
А ты, брат, на печы сядзі у кашулі,
Асмеяны і пагарджаны.
Ды неба такім бедакам нешчаслівым
У нэндзы падчас памагае…
Зноў бацьку-нябожчыка ўспомніў. Тужлівы,
Лье слёзы ды цяжка ўздыхае.

14

І зноў чуе голас ён бацькаў наймілы:
«Калі ступіць ноч на дзядзінец,

Прыйдзі да маёй, любы сыне, магілы —
Хачу табе даць я гасцінец».
Ноч посцілкай чорнай зямлю ахінае,
У небе — зор велічных веча.
І хлопец тут дзверы цішком адчыняе,
Да бацькі ідзе на сустрэчу.

15

Аж ледзьве туды падышоў, як раптоўна
Стаў конь перад ім забіяцкі,
У золаце ясным, у збруі шыкоўнай —
Гасцінец дзівосны ад бацькі!
«Сядай жа, мой сыне! На ім ты даскочыш
Па кручы аж да каралеўны:
Заўважаць там зорку ў цябе яе вочы —
А гэта ўжо шлюб з ёю пэўны!»

16

Сеў хлопец, ледзь свіснуў—і ўжо ля падножжа
Скалы той шкляной каля пляца.
А вунь і браты. Ды зямны конь ці зможа
З Пегасам яго пасправачацца?
Умомант да самага верху падскочыў
Па кручы ён да каралеўны.
Пазналі там зорку на ім яе вочы —
А гэта ўжо шлюб з ёю пэўны!

17

«Ах, ойча ты мой! — каралеўна ўсклікае —
Нашто мне тых рыцараў многа!
Я бачу, ў каго мая зорка зіяе —
Не трэба мне болей нічога!»
«Ну, што ж, мы закончым турнір гэты, людзі, —
Кароль аб’яўляе ахвоча, —
Хай сынам маім маладзён той во будзе,
Які на скалу гэту ўскочыў!»

18

Народ віншаваць пераможцу спяшае,
Браты рвуцца з ім павітацца —
Яны зразумелі, што той розум мае,
Хто ціхі і знаецца з працай.
Вось так: калі гора — цябе абмінаюць,
Калі ж табе лёс усміхнецца,
Тады цябе раптам усе заўважаюць,
З табой хоча кожны сустрэцца.

19

З маленства такія во чуў казкі-дзівы
Той віленскі пан ваявода.
Ды сэнс гэтых казак народных праўдзівы
Яму невядомы быў, шкода.
Звычайна ж мараль казка кожная мае,
І ў гэтай ёсць сэнс прыхаваны:
Ў жыцці — не ў турнірах — той перамагае,
Хто слаўны, хаця й пагарджаны.

20

А слава — то боская ўзнагарода
За гожасць душы і сумленне.
Усіх хараство нас узносіць заўсёды
Пад самага неба скляпенне.
Чаму ж са спартанцамі зналася слава?
За што ж іх кахалі дзяўчаты?
За мужнасць, за сэрцаў найшчодрых праявы,
А не за крыклівыя шаты.

21

Усе разумеў ваявода даслоўна,
Нібыта статут, казкі тыя.
Ён так і ў жыцці ўсё рабіў безадмоўна,
Як баялі байкі людскія.
Было жаніхоў у Малгосі нямала —
І гожых, і шчодрых, і дужых,

Ды верх фанабэрыя ў доме тым брала
Усё-ткі у выбары мужа.

22

За вокнамі мноства паходняў мігценне,
На сценах паблісквае зброя.
Напояў ды мёду ільюцца струмені,
Гасцей там — паўнюткі пакоі.
У добрым гуморы і сам ваявода,
Як юная Геба[2] — Малгося.
Той стане шчаслівы, каму яна мёду
У чары падасць на падносе.

23

Звінеў ад вясёласці дом ваяводаў,
Было гэта ў час, як вяртаўся,
Стафан з-пад Масквы, з баявога паходу
І тут, на Літве, затрымаўся.
Да гожай Малгосі героі спяшаюць,
На вуснах ва ўсіх — яе імя.
Падносяць ёй кветкі, паклон адбіваюць,
З букетам — і Бекеш між імі.

24

Бясстрашны венгерац, пад польскія сцягі
Ён з-пад Сяміграду[3] прыбіўся.
У войску Баторыя, поўны адвагі,
Не раз з прусакамі ён біўся.
Бываў ён пад Кесяй, пад Венданем[4], воін,
У бой рваўся першы заўсёды.
Ды Марсавы лаўры нішто перад ёю,
Чароўнай дачкой ваяводы!

25

Палае каханнем, забыўшы пра тое,
Што з іншаю ён заручоны.

Хаця і даўно развітаўся ён з ёю,
Ды кляўся ж быць верным да скону.
Дзе ж рыцара клятва? Дзе абяцанне?
Няўжо ўсё было выпадкова?
Калі ты пакляўся ўжо ў верным каханні,
Жалезна трымай сваё слова!

26

Во пеняцца кухлі, віно б’е фантанам,
Узносяць Стафана віваты.
І ён, ваявода, тут п’е за Стафана,
Спявае з усімі, заўзяты.
А потым кідаецца раптам у скокі —
Ну, хто яму даць можа рады?
Ажно вунь кунтуш разлятаецца ў бокі,
Сам ляскае ў ладкі ён, рады.

27

«Браты мае, шляхцічы, слухайце гэта:
Не дам я Малгосі нікому!
Сваты, што сабраліся з цэлага свету,
З майго парасходзяцца дому.
Гэй, хто на гару на кані з вас ускочыць,
Малгосі руку той здабудзе!
Дзе Вільня[5] крышталь паміж кручамі коціць —
Гара тая, знаная людзям[6].

28

Ад він ап’янелыя і ад кахання,
Крычаць тут усе яму: «Брава!»
І кожны гатовы пайсці на змаганне
За сэрца Малгосі ласкавай.
Калі я шчаслівы, калі я кахаю,
Жыццё ўсё становіцца песняй —
Свет новы твару, свет стары адкідаю,
Надзеі усе свае здзейсню!

29

Назаўтра, калі пасля гаму ды шуму
Зноў рыцары працверазелі,
Бязглузднасць усю учарашняй задумы
Пра тую гару зразумелі.
Якая ж тут слава у конскім капыце?
Што цуглі трымаеш талкова?
Ды ў Польшчы хутчэй развітаюцца з жыццем,
Але не адступяць ад слова.

30

Паблісквае сонца. Якая пагода!
Да берага Вільні спяшаюць
Малгося з матуляю, сам ваявода,
Ахоўнікі побач ступаюць.
Прыбегла ўся Вільня— хоць глянуць на дзіва:
Што ж гэта на беразе будзе?
Малгосі руку хто сягоння шчасліва
Са славаю разам здабудзе?

31

Шмат хто пазмагацца за шчасце гатовы,
А першы тут Бекеш ступае.
У неба ён просіць ад ліха аховы:
Трывога на сэрцы глухая.
Конь фыркнуў, зямлю капытамі ўздзірае —
Трывогу і ён чуе, можа?
Ды рыцар на гэта зусім не зважае:
Адвага усё пераможа!

32

Ляціць на гару і на самай вяршыні
Крычыць ужо: «Бацьку вітанне!»
Ды хмары пайшлі тут па небнае сіні:
«Што ж гэта? » — гняце ўсіх пытанне.
Змянілася гэтак пагода раптоўна!
Малгосю трасе: так баіцца.

Калі ўжо душа прадчуваннямі поўна,
Яны могуць часам і збыцца.

33

Саскочыў тут рыцар і зноўку ускочыў.
Крычыць зверху: «Матцы вітанне!»
А вецер шалее. Сцямнела, бы ўночы.
«Што ж гэта?» — гняце ўсіх пытанне.
Змянілася гэтак пагода раптоўна!
Малгосю трасе: так баіцца.
Калі ўжо душа прадчуваннямі поўна,
Тады яны могуць і збыцца.

34

У трэці раз Бекеш наверх узлятае,
Гукае: «Малгосі вітанне!»
А бура мацнее, унь дахі ўзрывае,
Аж глушыць грамоў грукатанне,
Абрынуўся лівень на голавы з градам —
Свет гэткай не знаў навальніцы.
І Бекеш з гары стрымгалоў з вадаспадам
Ляціць пад узбліск бліскавіцы.

35

І падае вобзем з канём сваім разам
На друз, на каменне са стромы.
Зірнуць не паспелі: ляжаць яны плазам —
І рыцар, і конь нерухома.
Агнём перуновым быў рыцар працяты —
Вось так, малады, і загінуў:
Паўсюль бліскавіцы пад грому раскаты
Свет кроілі напалавіну.

36

Улеглася бура і толькі аблокі
Па небе плывуць караванам.
Душа яго дзесь на судзе ўжо высокім,
А сам ён во тут, распластаны.
Хаця і ліцвіна кахала Малгося,
Хоць Бекеша хітрасці знала,
Ды тут, над жыццём маладым, што звялося,
Яна гэтак горка рыдала.

37

Прыйшлі ўсе дадому. Цяпер ваявода
Ад жалю не знае дзе дзецца.
Так шкода жыцця маладога, так шкода,
І ён перад Богам клянецца,
Што той, хто даб’ецца не прывіднай славы,
Хто шчыра Радзіме паслужыць,
Мець будзе прыём у яго найласкавы,
Дадасць таму ў лаўры ён ружы.

38

А Бекешу помнік сказаў ён паставіць —
Хай бачыцца людзям і зорам.
І сёння стаіць ён… Ды што яго славіць!
Хай будзе для тых ён дакорам,
Хто здрадзіў калі у сляпым парыванні
Каханай — хаця й выпадкова…
Калі ты пакляўся ўжо ў верным каханні,
Жалезна трымай сваё слова!

## НАВАГРАДСКІ ЗАМАК[1]

1

Ёсць людзі, якія нічога убачыць
У свеце не ўмеюць душою.
Што воку адчыніцца, так і тлумачаць
Усё, нават «дзіва» любое.
А іншыя толькі душы сваёй зрокам
На свет і глядзяць мігатлівы.
Там бачаць, дзе пуста, дзе ўсё-ўсё пад змрокам,
І ўсюды ім мрояцца дзівы.

2

Каб гэтакіх я памірыў між сабою
(Не раз чуў між імі я звады),
Каб унаравіў ім хоць гэтай сваёю
Баладай — быў вельмі б я рады.
О Божа, зміры іх — забудзьма праклёны!
Хай з розумам сэрца сябруе:
Вы верце, калі што вам кажа вучоны —
Збірае ж ён мудрасць людскую.

3

Было гэта ў горадзе слаўным Міндоўга[2] —
Вякоў найдалёкіх здарэнне:
На Замкавай ціхай гары колісь доўга
Я слухаў сцен даўніх каменне.
Дзве вежы вякі тут збіраюць на веча —
Паслухаць іх спыніцца кожны.
Руіны царквы ажываюць штовечар —
Ад зданяў трасецца набожны.

4

Дзе продкі калісь — не зайздросцьце іх долі —
У бойках сцякалі крывёю,
Студэнцкія нашы гады у сваволі
Прабеглі сваёй чарадою.

Мы ведалі мячык ваўняны — не кулі,
Палянты ўсяго — не гарматы.
Гулялі, вясёлыя, дзе ў каравуле
Калісьці стаялі салдаты.

5

Калі яшчэ дзесь пры Казіміры Яне[3]
Прыйшоў сюды Карл найшалёны[4]
І ўзяўся паіць дол крывёю, паганец,
Знішчаючы нашы плямёны,
А цар той з усходу ліў кроў гэтаксама,
Пакуль ён з Чарнецкім[5] не стрэўся,
О колькі тут гора, дзе сённяшні замак
І далей, — наш люд нацярпеўся!

6

І сёння расказваюць людзі старыя,
Як шведы людзей нашых клалі
На воз, бы снапы, і жардзінай, ліхія,
Як толькі маглі, прыціскалі.
А дзетак маленькіх стаўлялі за лавы
І лавай душылі пад крык іх.
Такія во страшныя гулі-забавы
Былі у тыранаў тых дзікіх.

7

Напэўна, яны мелі цвёрдыя сэрцы,
Паўночныя тыя гіены.
На сорам нашчадкам сваім, людажэрцы,
Такія ўчынялі тут сцэны.
Дасюль у зямлі нашай скарбаў нямала —
Хто кожны ўскапае дзядзінец?
Рука іх чыясьці у спеху хавала,
Калі лютаваў тут чужынец.

8

У час, як пад Слонімам вёў з чужакамі
Чарнецкі свой рэй неласкавы,
Дым па-над Наваградкам віўся клубамі,
Людзей выразаў швед крывавы.
Дагэтуль не знаў замак здрады ніколі,
Ды сталася ж раптам такое,
Калі тым жа часам каханне міжволі
Укралася ў сэрца ліхое.

9

У шведку адну быў сам князь закаханы —
А быў палкаводцам у краі.
Ах, ганьба таму, хто, пачуццям адданы,
Свой край на дзяўчыну мяняе.
Каханкаю першаю нашай — айчына,
Ёй служым, яе мы шануем,
Другая ж каханка — вядома ж, дзяўчына,
Якую кахаем, мілуем.

10

Ужо тая хітрая шведка, якую
Так князь пакахаў бесталковы,
З сваімі на тайнай нарадзе мяркуе,
Як выманіць князя са сховы.
І вось абяцае яму, што да шлюбу
З ім пойдзе, калі ён здасць замак,
Які аніколі не дасць яна ў згубу,
Наваградак людны — таксама.

11

Не знаю, адкуль ён, з якога ён роду —
Відаць не ліцвін, не з палякаў:
У нас і не бачылі гэтакіх зроду —
Хутчэй з чужаземных ваякаў.
Ён шведам аддаў грозны замак без бою,
І вось яны замак руйнуюць.

Ваду, што яго амывала сабою,
Спусцілі — ўсё нішчаць, рабуюць.

12

Тут сёння шкілет толькі замка здалёку
І ўбачыш. На доле — гармата.
Маленькі струмень яшчэ сочыцца збоку.
О Божа, якая то страта!
Са смуткам абломак той наваградчане
З падножжа наверх ускацілі.
І даўняя з бронзы гармата там стане,
Дзе земства у гэтай во хвілі.

13

Прахожы, ты бой гэткі жорсткі, крывавы
Адно на паперы мо бачыў.
Калі пачынаеш ты важныя справы,
Зарок жа дай шчыры, гарачы:
Жыць вечна у згодзе, а раптам са звадай
Палезе сусед незычлівы,
Хоць не засмуці анікога ты здрадай —
Ці ж можа быць здрайца шчаслівы?

14

О людзі, каму шчыра зычу я згоды,
Паверце мне, хоць не стары я:
Роў гэты быў высах у даўнія годы
Праз шведкі той чары ліхія.
Як чуў, вам паведаў пра гэтыя дзівы —
У сметнік жа кіньце ўсе звады!
Калі б памірыў я вас, быў бы шчаслівы,
Я вашай бы згодзе быў рады!

14

Кажы, не трасіся! Раз ногі
Сюды прывялі, к майму схову,
Чаго ж мае страшаць так рогі,
Што аж адняло ў цябе мову?
Калі ты рашыўся, то трэба
Быць смелым — хай пекла ці неба!»

15

І хлопец — знайшоў такі сілы —
Так д'яблу на гэта гавора:
«О д'ябле! Ўвесь свет мне нямілы!
Сюды прывяло мяне гора!
Я моцна дзяўчыну кахаю,
Ды… грошай, бо бедны, не маю…»

16

«Ага, зразумеў: без дукатаў
Цябе мець ніхто не жадае?
Ну, што ж, памагу я, ды плата
Тут будзе усё ж не малая:
Аддаць жа павінен за грошы
Ты д'яблу душу, мой харошы!

17

І загадзя я заяўляю:
Не дам табе грошы гатоўкай,
Бо іх у запасе не маю —
Сам цешуся во залатоўкай:
Шмат трацімся мы на інтрыгі,
Але часта маем з іх фігі».

18

Як быць? Што рабіць бедачыну?
Душы не даваць тым рагатым?

Але ж хіба зможа дзяўчыну
Займець ён без іхніх дукатаў?
І хлопец на скуры валовай
Крывёй сваёй піша ўжо ўмову.

19

Так піша, як д'ябал дыктуе,
Ледзь водзіць рукою аслаблай,
І нібы праз сон ужо чуе
Ён мову жахлівую д'ябла.
Ды пот толькі вытра і зноўку
Выводзіць пад тую дыктоўку:

20

«У поўнач, дзе слуп, пад дубамі,
Ты станеш каля раздарожжа,
І мы табе ў рукі агнямі
Купца заманіць дапаможам.
Заб'еш яго, возьмеш дукаты —
Адразу ж тут станеш багаты.

21

Жыць будзеш — усё даюць грошы! —
Ты лепш за вяльможнага пана,
Жыць сорак гадоў у раскошы
З дзятвою і жонкай жаданай.
А потым цябе у балота,
У пекла, мы прымем з ахвотай!

22

Каб важна было гэта болей,
Мы ўсе па цябе прыйдзем самі:
У хованкі толькі, саколе,
Не ўздумай гуляць ты з чарцямі.
Табе будзе лепей самому,
Калі не ўцячэш тады з дому».

23

Трактат падпісалі грунтоўна
Абодва — ну, як у «Тукаю»,
І ўраз разышліся бязмоўна.
Хлапец скіраваў да ручаю
І з рук кроў вадой там змывае
Ды гэтак з сабой разважае:

24

«Ну, што ж! Покуль з'явяцца чэрці
Мяне браць у пекла па часе,
Сто раз яшчэ можна памерці —
Унь колькі гадоў у запасе!
А мы той часінаю будзем
І есці, і піць так, як людзі!»

25

Нікчэмнасць! Вяршыня раскошы:
Піць, есці — і больш нічога!
А браць у каго яму грошы —
Не важна: у д'ябла ці ў Бога.
Сумленне ў разлік не ўваходзіць:
Хіба ж яно шчасце дзе родзіць?

26

Ды хай хоць каханне кабеты,
Няхай з асалод асалода —
Як будзе ў дарозе да мэты
Жыццё хоць чыё перашкодай,
Чым звесці са свету другога,
Сябе лепей знішчы самога!

27

Але і сябе ўсё ж няможна:
Жыццё — гэта ўласнасць не наша,

Яго адымаць нам — бязбожна.
А той жа, хто мысліць іначай,
Той, хто за дукат забівае,
Як д’ябал, душы ён не мае.

28

Ужо, слухачы мае, бачу:
Не так я пачаў спеў свой троху —
Па хлопцу ніхто з вас не плача,
І д’яблам я вас не спалохаў.
А што ж за балада такая,
Што чортам каго не злякае!

29

Тут мушу я вам растлумачыць:
Быў добры я ў часе запеўкі,
Другое (прашу мне прабачыць) —
Баяўся: спужаюцца дзеўкі,
Бо неяк адна мне казала,
Што здань яе ў песні спужала.

30

Дык як быць тут з д’ябальскай зграяй?
Пужаць не хачу я нікога,
Жаданне я гэткае маю:
Наколькі мая будзе змога,
Усім мне давесці патрэбна,
Адно: забіваць — найганебна.

31

А трэцяе — ўласную ліру
Настройваю я, як жадаю.
Цяпер больш паважна я, шчыры, —
Вы хочаце? — тут заспяваю.
Усё, за пяро я ўжо ўзяўся —
Каб толькі ніхто не пужаўся!

32

Са слаўнае Зэльвы спяшае дадому
Купец, распрадаўшы тавары,
Вязе з кірмашу па дарозе знаёмай
Дукаты свае і таляры.
Усё тое збыў, што скупіў перад гэтым
У Свіцязі і ў наваколлі.
Вязе ён гасцінцы для жонкі, для дзетак,
Шчаслівы такі, як ніколі.

33

За ім, за купцом тым, яшчэ тры падводы
З усякім нятанным таварам.
Схіляецца сонейка ўжо да заходу,
Крывавым паблісквае жарам.
Дзесь блізка ўжо й Свіцязь, купца родны горад —
Пасвіствае, едзе вясёла.
Ды раптам на гладкай дарозе — вось гора! —
У возе зламалася кола!

34

Купец — у спалоху: што ж гэта такое?
Сціскаецца сэрца ў трывозе:
Мо гэта якое прадвесце ліхое —
Паломка на гладкай дарозе?
Ці дома няшчасце? Глядзіць на дарогу.
Што толькі не лезе у галаў!
Сцямнела ўжо добра, калі, дзякуй Богу,
Наладзілі гэтае кола.

35

Што міг, то дадому бліжэй, і паўз гоні
Лягчэй усё ехаць, здаецца.
Намнога хутчэй, чымся гэтыя коні,
Дадому душа яго рвецца.
Пад поўнач. Цямнота — хоць выкалі вока.
І вось па нябачнаму шляху

Уехалі ў непралазь пушчы глыбокай —
Памерці тут можна ад страху!

36

А во яшчэ збіліся раптам з дарогі!
Ды гэта не дзіва, вядома:
На нашых дарогах зламаць можна ногі,
Умомант загінуць любому.
Як быць вазакам? Мо — так робяць часамі —
Тут коням даверыцца трэба?
Ну, што ж — іх пускаюць на волю, а самі
Узносяць малітвы да неба.

37

Той шэпча «Анёла», той — «Верую ў Бога»,
А той — «Пад Тваю абарону…»
І ўсе па баках пазіраюць з трывогай,
На чорную ночы заслону.
Тут раптам якоесьці рэшата бачаць —
Ну, што за праява такая?
Агеньчыкі ў ім быццам нейкія скачуць.
Ці мо гэта золата ззяе?

38

— То ж Свіцязь! — адзін прамаўляе, здзіўлёны.
Другі: — Можа, вёска якая?
А трэці, што верыць ва ўсе забабоны:
— Няйначай, то скарб! — усклікае
І, скінуўшы боты, бяжыць ва ўсе ногі
Да «скарба» дзівоснага, хцівы.
Ды «скарб» не чакае яго ля дарогі,
Адскоквае далей, гуллівы.

39

Скарб-рэшата дзіўны мяняецца ўмомант
І форму біча набывае.

«Ды гэта ж нячыстая сіла, вядома!» —
Здагадка купца працінае.
Не, кажа сабе ён, не трэба баяцца!
Не варта губляць нам спакою:
Усім жа вядома, як любіць яднацца
З нясмелымі ліха любое.

40

Як ехалі едуць. А біч той — вось дзіва! —
Ўжо свечкаю бачыцца воку:
То бліскае блізка агнём мігатліва,
То свеціць адкульсьці здалёку.
І хоць бы душа сярод ночы жывая
У пушчы бясконцай панурай!
А тут яшчэ вецер — адкуль? — налятае,
Праз хвілю ўсчынаецца бура!

41

Завыла, заенчыла пушча навокал,
Віхор, як шалёны, нясецца.
Бярозы паднебныя трушчыць з наскоку,
Да неба ўзнясе іх, здаецца.
Праз буру імчаліся коні. А вецер
Тут раптам аціх — ад знямогі?
Унь гала мільгнула з-за цёмнага веццяя —
Расстайныя бачны дарогі.

42

І бачна: аж свецяць чарцей языкі там!
Паблісквающь страшныя вочы!
І тут на купца з прыдарожнай ракіты
Бядняк той з сякерай падскочыў.
«Ты што гэта, хлопча? З чарцямі ў хаўрусе?
А, золата трэба! І многа?!
Бяры колькі хочаш — я не паскуплюся:
Пусці мяне толькі жывога!

43

Сям’я ў мяне, дзеці… І будуць, сіроты,
Жыць з марай адною — аб хлебе?
Ах, Бога пабойся, калі няма цноты!
Запомні, суддзя ёсць на небе!
Калі галаву маю здымеш ты сёння,
Дык ведай жа: знойдуцца сілы,
І ў часе сваім яна дошку адслоне,
І з помстаю выйдзе з магілы!

44

Ды ляжа на стол твой банкетны, дзе стравы,
З крывёю змяшае напоі.
Прашые цябе яе зрок там крывавы!..
Не знойдзеш нідзе ты спакою!
Адпомсціць табе! Хіба ж вінны сіроты?
Хто крыўдзіць іх, бедных, хай знае:
Яго будуць вечныя мучыць згрызоты,
Яго яшчэ пекла чакае!»

45

Вагаецца хлопец, ды д’яблы тут зграяй
Штурхаюць яго — злева, справа.
І хлопец купцу галаву адсякае —
Крывавая здзейснена справа!
Астатніх жа д’яблы прыкончваюць самі,
Як гэта рабіць, яны знаюць:
Рагамі вунь колюць, дзяруць кіпцюрамі
Ды з пашчаў агнём апякаюць.

46

Усіх так забілі і ўмомант вазы іх
Схавалі у пушчы глыбокай.
Хлапец жа пайшоў к ручаю, рукі мые
І чуе там голас здалёку:
«Ты знай: цябе помста ўсё роўна дагоніць!
І голаў, што ссек за дукаты,

Яшчэ дамавінную дошку адслоніць,
Пакліча цябе на адплату!»

47

Хоць страшна, ды хлопец да бацькі каханай
Назаўтра прыносіць дукаты.
І той пералічвае грошы старанна:
Другая размова з багатым!
Ды штосьці нядобрае бачыць дзяўчына
У пoглядзе хлопца, на твары.
Уся аж трасецца: што тут за прычына?
На сэрцы — дум чорныя хмары.

48

І сёння, як колісь было, як спрадвеку
(Няўжо ж і заўсёды так будзе?)
З грашыма кашэль гэты над чалавекам
Адзін уладарыць — о людзі!
Злучыла каханых двух золата тое —
Хто знае, адкуль яно ўзята?
Паселіцца д'ябал цяпер у пакоях,
Бо д'ябал і быў ім за свата!

49

Гамоніць вяселле, гучаць там віваты,
Купцова ж сям'я — у адчаі,
Слязамі сыходзіць ад цяжкае страты,
А жонка ад гора канае.
І дзеткі драбнюткія, тыя сіроты
Пайшлі да чужога ўжо дома.
Які заставаўся яшчэ ў іх там злоты
І той быў забраны, вядома.

50

А хлопец купцом стаў — гандлярыць «талкова».
Вязуць яму д'яблы тавары.

У Свіцязі ўсё прадае паспяхова,
Грабе зноў дукаты, таляры.
Вядома, душу хто злачынствам заплямiў,
Яна ў яго болей цвярдзее.
І хлопец яшчэ у хаўрусе з чарцямі
Ўчыніць многа ліха здалее.

51

Калі ж яго памяць аб здрадзе даймае,
Тады, неадольную, хлопец
Работай яе з галавы выганяе,
У горкім віне часам топіць.
Ды песціцца з жонкаю, дзетак гадуе:
Уцеха з уцех яго — дзеці.
Хоць сам прападзе, дзеля іх пашчыруе:
Не зналі б нястачы на свеце.

52

Стаў хутка багатым, зажыў ён заможна,
Бо крыўдзіў усіх, каго здолеў.
Падседжваў суседзяў, махлярыў бязбожна —
Абы нахапацца паболей.
Ужо ў караля закупіў нават Свіцязь —
Палацы, з падданымі хаты.
Хто ж крыўд не мог сцерпець, той кідаў — жывіце ж!
Пакораны горад праклятым.

53

Вось так пажывае, давольны, вясёлы,
Былое ўжо не ўспамінае.
Каб грэх замаліць, ён ссуджае касцёлы,
Шпітальных дзядоў адарае.
Мяркуе, што Бог прыме гэту ахвяру,
Палітую кроўю багата,
Ды мо абароніць такую пачвару
Ад кіпцяў тых д'яблаў рагатых.

54

Спіць смачна. Ды сорак мінаецца роўна
З той страшнай часіны во сёння.
Калі ж б'е гадзіннік за сценкаю поўнач,
Ён свечку хапае спрасоння.
Ідзе, увесь белы, як з могілак мара,
Ды свечку на стол зноў стаўляе.
Уздых — і з грудзей рвецца быццам бы пара,
Агонь ужо з рота шугае!

55

І дыхаць так цяжка — як быццам канае,
Хрыпіць — страшна выкаціў вочы.
Ад страху заенчыў — дзе дзецца, не знае,
Не хочучы, дзіка рагоча.
З рук кроў — і адкуль яна? — ўжо выцірае:
Згінь, згінь, насланнё ты ліхое!
Тут галаў купцова ў паўзмроку ўсплывае:
Адплата прыйшла за былое!

56

Прачнулася жонка, жахнулася: — Божа!
Муж любы, што гэта з табою?
Ты белы, як труп той! О хто мне паможа?
Што ўздумаў ты гэткай парою?
Гаворыш з сабой? Мо гарачка якая?
Як лёд, твае рукі! Здранцвелі!
Вады на ды спі — няхай ліха мінае…
Ледзь спаць яго ўклала ў пасцелі!

57

Назаўтра зноў жонка на мужа з самотай
Глядзіць: аж счарнеў у вачніцах!
І з дзецьмі — не ўбачыў бы — плача употай:
Каб так за паўночы змяніцца!
І сам ходзіць смутны. Каб неяк забыцца
Пра ўсё, што было з ім у поўнач,

Наладжвае баль — няхай дом весяліцца,
Хай будзе гасцей у ім поўна!

58

Усё тут у руху. Кухаркі гурмою
Снуюць і снуюць каля печы.
Захоплены шчыра работай сваёю —
Каб добра было ўсё, дарэчы.
А ў залі ўжо чуецца шум весялосці,
Там золата, срэбра аж ззяе.
У дом жа ідуць усё новыя госці,
Усіх гаспадар сустракае.

59

Шчыруе бяседа. Ад страў усялякіх
Сталы ну аж ломяцца проста.
Уволю п’юць госці, каштуюць прысмакі:
Шум, гоман, вясёлыя тосты.
Аж тут гаспадар — што за напасць такая? —
Увесь спалатнеў, бегчы хоча.
Глядзіць: аж з вакна галава пазірае —
Крывёю налітыя вочы!

60

Ад страху знямелі ўсе — лезь хоць пад лавы!
Жагнацца міжволі спяшаюць.
Яна ж, галава, водзіць зрокам крывавым,
Яе вочы пана шукаюць!
А пан-гаспадар, як асіна, трасецца:
О з той галавой ён знаёмы!
Стаіць, як застылы, на месцы — дзе ж дзецца!
Глядзіць па баках, нерухомы.

61

І кажа яму галава: — Што, нажыўся?
Хацеў, пане, золата многа?

Ты ўсё яго браць мог — я не паскупіўся б:
Мяне адпусціў бы жывога.
Сям'я ў мяне, дзеці… І сталі, сіроты,
Жыць з марай адною — аб хлебе.
Не дбаў ты пра Бога — няма ў цябе цноты,
Забыў, што суддзя ёсць на небе!
Ты помніш мой голас з начы: «Калі сёння
Ўпадзе мая голаў без сілы,
То ў часе сваім яна дошку адслоне…»
Цяпер во я выйшла з магілы!
На стол твой банкетны я легла, дзе стравы,
З крывёю змяшаўшы напоі.
Цябе мой пранізвае позірк крывавы…
Дарэмна шукаў ты спакою!
Ідзе ўжо во помста! Ці ж вінны сіроты?
Хто крыўдзіць іх, бедных, хай знае:
Яго будуць вечныя мучыць згрызоты,
Яго яшчэ пекла чакае!..

62

І тут з галавы кроў лінула навокал,
Цячэ ўжо ў забойцы па твары.
Удзень стала цёмна — хоць выкалі вока,
За вокнамі — чорныя хмары!
Па шыбах пяском унь сячэ ўжо з размаху.
Дождж, град з-пад нябёс — навальніца!
Пярун б'е па вокнах, грукоча па даху,
Жагнае ўвесь свет бліскавіца!

63

Праз вокны тут д'яблаў ускоквае зграя,
Агнём палівае, кугіча.
За спіны гасцей гаспадар забягае,
Ды чэрці хапаюць здабычу!
Яна ў кіпцюрах іх! Шалее віхура,
Палац наймагутны гайдае.
Трашчаць сутарэнні ўжо, ходзіць падмурак,
Сцяна ад сцяны адпадае.

64

Скрозь валіцца цэгла ды бэлькі са столі,
І падаюць людзі снапамі.
Так рушыцца ўвесь горад Свіцязь з наўколлем —
З хацінамі ўсімі, з дамамі.
Здаецца, зямля ўся, свет цэлы трасецца,
Трэск, грукат страшэнны навокал.
Дзяцей плач жахлівы далёка нясецца,
Крык, енкі сягаюць аблокаў.

65

Гуляюць віхуры. Сабакі ўсе выюць —
Няўжо гэта свету скванчэнне?
Пярун б'е без стомы — хто спыніць стыхію? —
У сцены ды паліць бярвенне.
Пад горадам ходарам ходзіць зямля ўся,
І вось пад стыхіі напорам,
Бы крыга лядовая, ўбокі раздаўся
І ў бездань ляціць Свіцязь-горад!

66

Вада забурліла наўкол. Вал за валам
Нясецца прасторам шырокім
І так разгайдаўшыся, ў бераг б'е з шалам —
Аж пырскі ляцяць пад аблокі.
А вал зноў адскочыць ды зноў набягае —
О, помачы тут не прасіце!
Так дзень пашалеўшы, вада заціхае —
Становіцца возерам Свіцязь.

67

О колькі тут марна загінула люду,
Прапала дабра упустую!
І ўсё праз забойства, праз золата груду,
Праз хцівасць і сквапнасць людскую.
Віноўны, бязвінны, бядняк ці заможны —
Каго не ўзяла прорва тая!

Бо за аднаго Бог — то ведае кожны —
Не меней, як дзесяць, карае.

68

Не ўсе ў час той згінулі. Бог сваёй воляй
Тады ўратаваў ад знішчэння
Людзей тых, якіх не тачыў аніколі
Чарвяк неадольны сумлення.
За Свіцязь яны уцяклі ад той хмары,
У пушчы знайшлі сабе сховы.
Ды той, хто і ўцёк, але варты быў кары,
І там зведаў гнеў перуновы.

69

Сягоння, калі ты ў Наваградак едзеш
Цяністай дарогаю з Мышы,
Вады там люстэрка чысцюткае ўгледзіш
У мройнай лясістае цішы.
Тут, людзі расказваюць, чутна бывае,
Як звоняць званы пад вадою,
І хваля часамі брусы вымывае
З смалою — застылай слязою.

70

Прахожы, калі стрэнеш возера тое,
Люстраную шыр вадзяную,
Адкінь ты адразу жаданне, якое
З бядою, злачынствам сябруе.
Не, лепей памерці ад голаду, смагі
І шчасця не ведаць адвеку,
Чым подласць зрабіць хоць каму без развагі,
Тым болей — забіць чалавека.

*Марыі на памяць*
*з пашанай прысвячаю*

Чытаючы «Хроніку літоўскую» Стрыйкоўскага, цяжка ўстрымацца, каб не спяваць услед за ім — такая яна паэтычная, часта нават пераплеценая вершамі. Я чытаў яе і спяваў, складаючы песні. У гэтых песнях я закрануў далёкія гістарычныя падзеі да смерці Уладзіслава Ягайлы ў 1434 годзе. Як Літва, так і самыя зацятыя яе ворагі крыжаносцы — цяпер ужо ў мінулым, яны належаць сусветнай гісторыі. Літва з ідалапаклонніцкай стала ўжо хрысціянскай і славянскай, крыжакі цалкам зніклі. Нарбут і Фохт разам з іншымі пісьменнікамі ізноў раскрываюць перад светам жыццё даўніх ліцвінаў і крыжаносцаў. Чаму б тады і мне не расказаць пра гэта ў жанры кароткай песні, не абражаючы нічыіх нацыянальных, як і нехрысціянскіх пачуццяў? Цяпер жа няма ўжо тых дзікіх ліцвінаў-ідалапаклоннікаў і крыжакоў, што сілай схілялі іх да хрысціянскай веры. Вычарпаўшы і добра асвятліўшы старажытную гісторыю даўно зніклых народаў, Еўропа захацела выцягнуць з няпамяці сярэдневяковую гісторыю народаў новых. Гэтаму паспрыяў цяперашні прагрэс у асвеце, паспрыяла пашырэнне стасункаў паміж народамі, да чаго прычынілася ўдасканаленне марскіх і наземных зносін і, галоўнае, паглыбленне святой веры, любові да Бога і да бліжніх. Як мне здаецца, абуджэнне еўрапейскіх народаў не дасць ім згубіцца ў гісторыі, зліцца ў нейкую адну супольнасць. Кожны з іх шукае ў попеле мінуўшчыны сваю славу, свае асаблівасці, даказвае, што і ён заслугоўвае пашаны з боку іншых народаў. Дык няхай жа ні ў кога не выкліча незадаволенасці, калі і ліцвін успомніць сваю даўнюю славу, каб сціпла, па-хрысціянску расказаць пра яе. Зніклыя крыжакі найбольш прыносілі яму шкоды. І ўсё ж ён, яднаючыся толькі з плямёнамі хрысціянскіх славянаў, хоць сам быў ідалапаклоннікам, сваёю крывёю разам з імі засланіў Еўропу

ад навалы татарскіх ордаў, цяпер таксама зніклых. Таму наўрад ці ўспамін пра даўніх ліцвінаў можа выклікаць у каго пярэчанне. Наадварот, тое, што ў іх было добрае, вартае ўхвалы, няхай увойдзе як частка ў агульнаеўрапейскі набытак.

Кожная з гэтых песень заснавана на гістарычных фактах. Узяты яны з «Хронікі» Стрыйкоўскага, што выйшла ў Кралеўцу ў 1582 годзе ў друкарні Астэрберга, і з выдадзенай нядаўна ў Вільні «Гісторыі літоўскага народа» (у дзевяці тамах) шаноўнага пана Нарбута. Трымаўся я храналогіі Стрыйкоўскага, хоць яна шмат дзе памылковая і хоць яе паправіў п.Нарбут. Я ішоў у сваіх песнях не за датамі, а за старым пісьменнікам, што не толькі апісваў гістарычныя падзеі, але падаваў часта думкі і нават пачаткі некаторых яшчэ ім чутых песень, каларыт даўніны, які я як мага дакладней імкнуўся захаваць.

## РЫНГОЛЬТ АЛЬГІМУНТАВІЧ[1], ПЕРШЫ ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ, ЖМУДСКІ І РУСКІ

Час успомніць нам Рынгольта,
Альгімунта сына,
За якім славутай стала
Наша ўся краіна.

Зайздрасць, ведама, заўсёды
Бачыць толькі крыва.
Пазайздросцілі Літве ўсе,
Што жыве шчасліва.

Выйшаў з Кіева са зброяй
Святаслаў той горды[2],
З ім Леў[3], Дзмітрый[4], а таксама
Курдасовы орды[5].

Ды Рынгольт іх стрэў на Нёмне,
Дзе падходзіць Дзітва[6],
І ўсчалася ўмомант з тымі
Прыхаднямі бітва.

Кроў цякла ракой, ды йшла там
Зноў на сілу сіла.
Дзень сканаў — Літва ў той сечы
Ворага разбіла.

Бітвы той сляды ля Нёмна:
Сыпаныя шчыльна
Курганы. Ды вёскі імя
Даўняе — Магільна[7].

## КАРАНАЦЫЯ МІНДОЎГА[1]. 1252 Г.

Што гэта за паны?
Наваградка званы
Чаму ім звоняць доўга?
Ах, гэта ж крыжакі
Ідуць, каталікі,
Каранаваць Міндоўга!

Усё на іх блішчыць
Ды золатам зіхціць.
Ад іх наўкол святлее!
Увесь твой строй, крывіч,
Крывэ-Крывэйтаў зніч
Прад бляскам тым бляднее.

У князя заўтра хрост.
А нас пашле наўпрост
Мо крыжакам на яткі[2]?
Ужо, тыран, сваіх
Пляменнікаў дваіх[3]
Прагнаў з радзімы-маткі.

Міндоўг не верыць, не!
Сваю карысць тут гне —
Ён сам кіруе лёсам.
Ён будзе каралём!
Тры дні — каталіком…
Крыжак жа будзе — з носам![4]

## МАГІЛА МІНДОЎГА. 1263 Г.

У Наваградку дагэтуль
Ёсць гара Міндоўга.
Там ляжыць ён, яго помніць
Люд наш будзе доўга.

Быў ён свой кароль, ліцвінскі,
Меў калісьці сілу.
Ды абманам жыў[1]. Абман той
Звёў яго ў магілу.

Быў прыняў святую веру,
Ды адкінуў вонкі.
Што ж ён гэтак Даўмантовай[2]
Не адрокся жонкі?

Галаву Даўмонт у гневе
Зняў з яго за жонку.
Тым Літву асіраціў ён,
Ліху здаў старонку.

Што ж з таго, што ўздзеў карону
Князь сваёй парою,
Раз не ўстояў перад тою
Жонкаю чужою?

## ВОЙШАЛК[1], АЛЬБО ВАЛЬСТЫНІК МІНДОЎГАВІЧ. 1264 Г.

Адзецца можа ў скуру
Авечкі й воўк, як трэба.
Хадзіў у ёй і Войшалк,
Калі быў служкай Неба.

Хоць быў ён княскім сынам,
Насіў манаха расу.
Надзеўшы нават мітру,
Крыж не кідаў да часу.

Калі ж забілі бацьку,
Ён помсціць стаў ліцвінам,

Іх забіваў ён безліч
        Найжорсткім самым чынам.

Каб край пашырыць, Войшалк
        Валынь надумаў, хцівы,
У Льва адняць, прысвоіць
        У час нелітасцівы.

Яго ж той ва Ўладзімір[2]
        Пазваў з ліхім намерам.
Там частаваў ён госця,
        Паіў сваім манерам.

Уночы Леў прыходзіць
        У спальню госця ў тлуме.
З пасцелі ўзняўшы, кажа:
        — Яшчэ мо вып’ем, куме?

І ўзняўшы меч, са словам
        Нянавісці з размаху
Б’е Войшака. Хто быў там —
        Аж анямеў ад жаху.

Такі канец прышоў во
        Міндоўгаваму сыну.
Хто ворагам быў людзям,
        Хіба б інакш загінуў?

## ПРА ЯЦВЯГА[1] КОМАТА[2]. 1264 Г.

Вы пра Комата-яцвяга
Чулі? Не? Тады — увага!
Быў той Комат — нібы кома[3],
Не сядзеў ён сіднем дома.

Як надумаў Сарамлівы
Баляслаў[4] нелітасцівы
Знішчыць люд той вольналюбы,
Не збаяўся Комат згубы.

З гікам, смела, зухавата
Ў бой імчаў ён, бы на свята.

Біў чужынцаў, прагавіты,
Ды стралой быў сам прашыты.

І паляк, бы звар'яцелы,
Біў яцвягаў дзень той цэлы,
Бо ўсё ж пана ўжо не мелі,
А ўцякаць яны не ўмелі.

І таму, сыны адвагі,
Ўсе пагінулі яцвягі.
Іх імя хіба мо рэкі
Захавалі нам навекі.

Хоць даўно без іх Падляшша,
Ды край помніць іх бясстрашша.
А ўцалеў з іх хто ў віхурах,
Дык згубіўся ўжо ў мазурах.

## СВІНТАРОГ УТАНЭСАВІЧ[1]. 1268–1271 ГГ.

Як загінуў сын Мендога[2],
        Ўладаром Літва абрала
Князя з Жмудзі[3] Свінтарога,
        Бо яго даўно ўжо знала.
Ён амаль быў стогадовы,
Добры сэрцам, не суровы.

Ён Літву не доўга цешыў:
        І яго знайшла касая.
Пад гару, дзе замка вежы,
        У жалобе люд спяшае
Пахаваць там Свінтарога,
Як і зычыў, ля парога.

Бы ў паход, яго прыбралі —
        Шабля, лук, кап'ё пры боку.
Выжлаў двух, хартоў звязалі,
        З імі — сокала звысоку,
Потым ястраба з-пад неба
І каня з сядлом — як трэба.

Гэта ўсё на стос — вам дзіва? —
        Узвялі. З слугой адданым!
Падняслі агонь імкліва,
        Міг — і ўсё ў віры агняным!
Кінулі ў агонь — да высяў —
Кіпцюры мядзведзяў, рысяў[4].

Меркавалі: так жа будзе,
        Як на гэтым, на тым свеце.
Так жа там ваююць людзі,
        Так палююць, ладзяць клеці.
А караскацца на неба
Па крутых гарах там трэба.

Пахавалі Свінтарога
        Па-паганску, урачыста.
Мы, хто сёння з ласкі Бога
        Мае сонца веры чыстай,
Час паганства ўсе ганьбуем.
Свінтарога ж — мы шануем.

## ВІЦЕНЬ[1],
## ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1283–1315 ГГ.

Вера наша, хрысціянства!
        Шмат ты ран крывавых мела,
Покуль сэрцы ўсе ў паганскай
        У Літве заняць здалела.

Бо цябе, што ўсім вяртаеш
        Дабрыню, любоў, спагаду,
Прышчапіць Літве хацелі
        Праз пажары, кроў і здраду.

Ордэн той, што меч крывавы
        Нёс на ўласных дабрачынцаў,
Што ў набегах нішчыў Польшчу,
        Што біў прусаў, бы злачынцаў,

Што ішоў вайной на ўласных
        Светароў ды на рыжанаў[2],

Жыў рабункамі. Таму так
Шчыраваў «для хрысціянаў».

Мечам злым хрысціў Літву ён,
Пляжыў Жмудзь, знёс мур Рамновы[3].
На пажарышчах тых ставіў
Ён за замкам замак новы.

Ды на трон Літвы сеў Віцень,
Князь рашучы, мудры, смелы.
Крыжакоў ён біў у сечах,
Ад Літвы адвёў іх стрэлы.

Светарам жа іх ён собіў.
І мяшчанам, што раўкамі
Прывялі яго пад Рыгу,
Каб змагаўся з крыжакамі.

Пад Браўнзберг, Каліш і Добжын[4]
Ён хадзіў з сваёй літвою,
Праслаўляў наш край у свеце
Зброяй праведнай сваёю.

Нездарма ж і смерць да князя
Не змагла ўсё падступіцца.
Сам Пярун яго ў нябёсы
Ўзяў пад водбліск бліскавіцаў[5].

Шмат хто ў час той, кажуць, бачыў,
Як між хмар, дзе золак мройны,
На кані, бы месяц, белым,
Пралятаў ён, рыцар збройны[6].

## СПАЛЕННЕ КРЫЖАКА РУДЫ[1] Ў ЧАСЫ ГЕДЫМІНА. 1320 Г.

Ты дарма прыйшоў да Меднік,
Руда, з намі біцца:
Мусіш — звязаны, са зброяй —
На каня садзіцца.

Ды не ў бой ты зноў паскачаш,
А на стос агністы.
Панясеш багам паклон ты
Ад нас урачысты!

Ехаў Руда, мусіў ехаць
Пад кліч зычны рога
У гарачыя абдоймы
Віру агнявога!

Бы паходня, гарыць Руда,
А Літва ў гуморы,
Што багам сваім ахвяру
Шле такую ў зоры.

Хоць было ў Літвы былінная
Шмат паходаў плённых,
Так яна паліла толькі
Крыжакоў палонных.

## ТУРАЎ РОГ ГЕДЫМІНА. 1321 Г.

Тут, у Вільні, на гары
Туравай вядомай
Гедымін над стромай
Тура ўклаў быў пры бары,
На гары[1].

Нам на памяць — тураў рог
Быў пазалачоны,
Гожа аздаблёны.
Князь яго схаваў у лёх[2],
Тураў рог.

З рога тога Вітаўт піў
Разам з каралямі,
З важнымі панамі.
Як іх з’езд у Луцку быў,
З рога піў.

Падарыў князь гэты рог
За сталом, па-людску
Зыгмунту ў тым Луцку[3],
Ды Літве ён не памог…
Дзе ж той рог?

## ЗАСНАВАННЕ ВІЛЬНІ[1]. 1322 Г.

На гары, дзе замкаў вежы,
Дзе палаў зніч Свінтарога,
Гедымін забіў калісьці
З лука тура немалога.

Вельмі ўсцешаны здабычай
Незвычайнаю такою,
Па бяседзе лёг спачыць ён
На траве па-над Віллёю.

Зоркі свецяць, ветрык вее.
Бачыць князь у сне шчаслівым:
Перад ім стаў воўк жалезны,
Бляск на латах — пералівам.

А завыў — заклала вушы:
Бы ваўкоў была тут зграя.
— Што ж ён значыць, сон мой дзіўны? —
Князь, прачнуўшыся, пытае.

Тут Крывэ-Крывэйт Ліздзейка
Гэтак мудры сон тлумачыць:
— Князь вялікі Гедыміне,
Воўк той — замак новы значыць.

Гэта ж будзе тут во замак,
Горад велічны тут будзе.

Галасы ж ваўкоў — то слава
Пра яго, што пойдзе ў людзі.

Князь паслухаў гэту раду
І, абдумаўшы, без спрэчкі
Горад тут заклаў, што Вільняй
Ён назваў ад Вільні-рэчкі.

## ДАВІД, СТАРАСТА ГАРАДЗЕНСКІ[1] Ў ЧАСЫ ГЕДЫМІНА. 1322 Г.

Па-над Нёмнам у Гародні
Колісь замак моцны стаў.
Шмат разоў крыжак ды мазур
Хмары стрэл па ім пускаў.

Быў за старасту ў тым замку
Смелы, годны муж Давід.
Мчаў з дружынай ён на Рэвель[2]
Праз крыжацкі краявід.

Шмат дабра ўзялі там воі,
Тысяч пяць — паненак з ім.
Болей быў ліцвін давольны,
Як здаўна, палонам тым.

А пасля Давіда ў помач
Гедымін Лакетку[3] даў.
Хоць дапяў ён да Франкфурта[4],
Ды палону там не браў.

Бо йдучы назад героем,
Меўся ўзяць мазураў ён.
Толькі ў гэтых гайдамакаў[5]
Сам Давід знайшоў свой скон.

Мазур быў з канём падкраўся
Да яго й прашыў наскрозь.
Наш Давід славуты тут жа
Цяжка ўпаў, бы дужы лось.

## АЛЬДОНА, ГЕДЫМІНАВА ДАЧКА[1]. 1325 Г.

Гарады гараць і сёлы,
Там хапаюць бранак, бранцаў.
Крык ляціць праз горы-долы —
Хто стрымае нас, паганцаў?

Тых лясных ліцвінаў дзікіх,
Што так польскі край дратуюць?
Смерць ізноў нясуць на піках —
Ці каго хоць пашкадуюць?

Каб задобрыць іх, Лакетка
Шле сватоў да Гедыміна,
Хоць яшчэ сын — малалетка,
Просіць зяцем быць для сына.

Гедымін аддаў Альдону
Ў жонкі тому Казіміру[2]:
Што ж, цяпер ім абарону
Разам ладзіць дзеля міру.

Тысяч шмат ішло палонных
У пасаг тады Альдоне[3].
Мчаў картэж вазкоў шматконных
У край польскі ў бомаў звоне.

Радасць скрозь у местах, сёлах,
Скрозь надзеі ўваскрасаюць.
Богу моляцца ў касцёлах,
Слёз шчаслівых не хаваюць.

Прыгадайма ж свята тое —
Гэтак цешыліся людзі!
З добрай згадкай штосьці святое,
Можа, кожны з нас набудзе.

## АЛЬГЕРД[1] І МАРЫЯ Ў ЧАСЫ ГЕДЫМІНА

Над Дзвіною дзевіч-вечар,
Тут Альгерд з раднёю:
Браць прыехаў шлюб з князёўнай
Нашай маладою.

Замак віцебскі ўсе свечкі
Сёння азараюць.
Ёй, князёўне, ёй, Марыі,
Косу расплятаюць.

Не плач, красна, не плач, міла, —
Хто б слязу ёй выцер?
І табе руку, і княству
Падае той рыцар.

З ім табе і ўсяму княству
Зажывецца ў шчасці.
Вы забудзеце з Літвою
Гора ды напасці.

Ты ідзі за князя з Богам,
Каб жыць разам вечна.
Шчасце княстваў тых, што разам
Звязаны сардэчна.[2]

## ЖАХЛІВЫ ПАДЗЕЛ ЗДАБЫЧЫ.[1] 1326 Г.

Мы ўсе, дзякуй Богу,
Іншыя ўжо людзі.
Так, як продкі нашы,
Не сядзім у будзе.

Рабаваць не едзем,
Кожны працай слынны.
А не так, як колісь
Дзеялі ліцвіны.

Па адзінай жонцы
К сэрцу прытуляем,

Рабаваных жонак
Мы цяпер не маем.

У часы былыя
Князя Гедыміна
Бачыў пад Франкфуртам
Немец меч ліцвіна.

Продкі нашы часта
Ў свеце рабавалі,
У палон паненак,
Моладзь толькі бралі.

Неяк два ліцвіны
Спрэчку распалілі —
Гожанькую панну
Між сабой дзялілі.

Не маглі да згоды
Ўсё прыйсці абое.
Сварку немалую
Усчынілі воі.

Ухапіў адзін з іх
Меч свой у хвіліну
І рассек з размаху
Напалам дзяўчыну[2].

Зганьбіў імя й род свой
Ён ад зверства тога.
Мужнасці адзнака —
Не караць слабога.

Гэта нам навука,
А ўсім ім хай будзе
Супачын, збавенне —
Гэтак зычаць людзі.

## ГЕДЫМІН ВІЦЕНЕВІЧ,
## ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1328 Г.[1]

Плач, Літва — такая страта
У цябе сягоння:
Твайго князя Гедыміна
Смерць знайшла ў Вялоне[2].

Бараніў ад зграй крыжацкіх
Нас ён па-геройску.
Сёння сам ад рук тых хіжых
Паў ва ўласным войску.

Дзіва ў немца: б’е здалёку
Жудасная зброя![3]
Гром, маланка — і няма ўжо,
Гляньце, князя-воя!

Кроў струменем палілася
З тых грудзей трывалых,
Што Літву ўсю засланялі
Ад ліхой навалы.

Ты чаму ж пакінуў, княжа,
Край, дзяцей уласных?
Ці ж яды тут не ставала
Ці дзяўчатак красных?

Ці ж ты Кіевам, Валынню
Не ўзмацніў дзяржаву?[4]
Ці ж з суседзьмі не зрадніўся
Нам і ім на славу?[5]

Дык чаму ж ты нас сам-насам
З немцамі пакінуў?
Без цябе як абаронім
Мы ад іх Айчыну?

Плач, Літва! Такая страта
У цябе сягоння:
Твайго князя Гедыміна
Смерць знайшла ў Вялоне.

# ЯЎНУТА ГЕДЫМІНАВІЧ[1], ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1329 Г.

Шабля — рыцарам не робіць,
Як і князем — мітра.
Даказаў то добра Кейстут,
Што ўмеў дзеяць хітра.

Меншы брат Яўнута, млявы,
Толькі спаў на троне.
Ды шум Кейстутавай змовы
Князь пачуў спрасоння.

Босы ўцёк у кажушку ён
У снягоў сувоі,
Ды яго злавілі ў лесе
Кейстутавы вoі.

Хоць сябры Альгерд і Кейстут,
Не было ў іх веры:
Княства долі змацавалі
Добра на паперы.

Стаў Альгерд вялікім князем —
Жыць ліцвінскай славе!
А Яўнуту ва ўладанне
Аддалі Заслаўе

Меў ён розум: не ірваўся
За сваё да бою.
Не заліў, як Свідрыгайла[2],
Ён Літву крывёю.

## ПРА КНЯЗЬКОЎ КАРЫЯТАВІЧАЎ[1] У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА. 1331 Г.

Хто пустэльняй край свой зробіць,
Той не варт і згадкі.
Хто ж яго узвысіць, будуць
Помніць і нашчадкі.

Як прагнаў Альгерд татараў
Аж пад Волгу ў поле,
Карыята за геройства
Даў сынам Падоле.

І яны — ад стрэл ды мечаў
Хеўры ваяўнічай —
Заснавалі замкі: Бэкат,
Смотрыч над Сматрычай.[2]

На рацэ той, дзе ўвесь бераг
Камянямі скуты,
Карыятавічы ўзнеслі
Камянец славуты.

Меджыбож і Тэрэбоўля,
Вінніца з Браславам
Па-над Бугам — гарады іх,
Помнік іх і слава.

Так князі з Навагародка
Дзеялі ў Падолі.
Не забудуць слаўных дзеяў
Іхніх тут ніколі.

Хай жывуць у гарадах іх
Людзі ўсе шчасліва
І сыноў тых Карыяты
Спамянуць зычліва.

## УЦЁКІ КЕЙСТУТА[1] З МАЛЬБОРГА. 1361 Г.

Ой, быў мулярам наш Кейстут,
Як яго прыгнула доля:
У Мальборгу мур вязніцы
Малатком прабіць ён здолеў!

Разам з Альфам, што служыў там,
Дзёўб той мур штоноч зацята —
Толькі б з сцен крыжацкіх воля
Зоркай бліснула крылата!

Ой, наш Кейстут крыжаком быў!
Дзякуй Альфу — з ім праз гоні
Князя ў белым з крыжам чорным
Проста ў зоры неслі коні!

На дарозе — Wer-da?[2] — варта
Супыніла іх у браме.
Штосьці немцам Альф пабаіў
І — зноў гром пад капытамі!

Ды не злодзей Кейстут: немцам
Плашч іх белы з чорным крыжам,
Коней іх — усё вярнуў ён,
Нават шчыт з іх мечам хіжым.

Пеша брыў ён да Мазоўша,
Дзе жыла дачка Данута
З князем Янушам. Іх замак
У аблокі меціў крута.

Шмат дачцы было ужо ўцехі!
Толькі Кейстут рваўся ў Трокі,
Каб хутчэй сваёй Біруты
Смутак-жаль прагнаць глыбокі.

Немцу ж дзякуй за гасціннасць
Шле ў пісьме і абяцае:
Калі ён магістра ўловіць,
То надзейней ухавае!

## АЛЬГЕРД,
## ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ[1]. 1330–1345 ГГ.

Як дагнаць жаўронку цяжка
Арла маладога,
Так паэту цяжка ўславіць
Песняй мужа тога.

Утаймоўваў крыжакоў ён,
Розныя плямёны.
У Альгерда ўрад быў мудры,
Добрыя законы.

А чужынец лез — дадому
З роднай гнаў святліцы.
Прысланяў сваё кап'ё ён
Да яго ж сталіцы[2].

Быў ён грозны, ды гатовы
Да суседскай згоды.
«Не хачу, казаў, каб марна
Кроў лілі народы»

Каб усе былі такія,
Што сядзяць на троне,
На зямлі, крывёй палітай,
Быў бы мір па сёння.

Люд да іх, як да Альгерда,
Жывучы ў дастатку,
Праз вякі б сваю пашану
Перадаў нашчадку.

## КЕЙСТУТ[1]

Ой, было, казалі, Кейстуту не міла,
Што сястру Ягайлы ў жонкі ўзяў Вайдыла[2].
Той Вайдыла з немцам свайго пана сватаў,
Праз яго ж аднялі Полацк ад Вайдата[3].

Ой не даспадобы ўсё было старому,
Да Ягайлы ў Вільню заспяшаў ён з дому.
А перад сабою выправіў ён фуры,
Добра прыхаваўшы трокцаў паміж скуры[4].

Кейстут шапку князя ўсёй Літвы ўздзявае,
А Ягайлу ў Крэва княжыць пасылае.
Як пайшоў туды ён, дзе ўзняў бунт Дзімітрый[5],
Адплаціла Вільня князю здрадай хітрай.

Бо Ягайла шапку князя ўжо ўздзявае,
Кейстута ж у Крэва ў путах адпраўляе.
Аж чатыры дні там ён з чыёйсьці волі
Прасядзеў у гэтай жорсткае няволі.

Быў чатыры дні там, а ўначы на пяты
Склеп глухі падземны адчынілі каты.
Там і задушылі Кейстута старога,
Што зрабіў для краю добрага так многа.

Верны быў паганству ён, таму й самога
Адвязлі, дзе попел цела Свінтарога.
Там усклалі князя на касцёр высокі,
І ў пламенні ўзнёсся Кейстут пад аблокі.

## ГАННА ВІТАЎТАВА[1] І ГЭЛЕНА АМУЛІЧОВА. 1382 Г.

Адалела ўсё каханне —
Замкі, варту — для спаткання
Сэрцаў двух, што разлучыла
На зямлі ліхая сіла.
Гэта ж вымкнула з астрога
Жонка Вітаўта самога!

Крэва князя ў склеп схавала,
Згуба там яго чакала.
Так, як Кейстута, хацелі
Задушыць у змрочнай цэлі.
Ліха сэрцам чула Ганна,
Паляцела ў Крэва рана.

З ёй — Гэлена. У скляпенні
Вітаўт, у яе адзенне
Апрануўшыся, паволі
З брам ішоў насустрач волі.
А Гэлена? У той цэлі
Засталася ў падзямеллі.

Вось прыйшлі па князя каты,
Ад яго ж там — толькі шаты.
Каты ў злосці ў той жа хвілі
Служку верную забілі.
Скажам ёй ухвалы слова:
Чэсць табе, Амулічова!

Пра Літву, пра Ганну дбала,
Ім жыццё ахвяравала.
Ганарыся слаўным чынам!
Вітаўт век быў двум жанчынам
Вінен — Ганне і Гэлене —
За жыццё, за вызвалене.

## РАЗЛАД ВІТАЎТА З ЯГАЙЛАМ[1]

Жах, калі браты ўжо ў доме
        Распачнуць сварыцца.
Будзе трэсці дом, ён хутка
        Можа й разваліцца.

Калі Вітаўт з Ягелонам
        Бойкі распачалі[2],
Крыжакі з агнём у дом наш
        Тут жа заспяшалі.

Тры разы ў хаўрус наш Вітаўт
        З імі уваходзіў,

Тры разы Жмудзь прадаваў ім
І Літве тым шкодзіў.

І братоў стрыечных Вітаўт
Біў нелітасціва.
Прад яго нападам Вільня
Узнялася жыва.

Ён не змог яе ўзяць сілай —
Нішчыў край вакольны.
Здрадзіў брату, дык і здрадзіць
Крыжакам быў здольны.

Памірыўшыся з Ягайлам,
Ён свайго дабіўся.
Да крыві ж якой на Жмудзі
Быў ён прычыніўся !

Для нашчадкаў тут навука
Будзе вунь якая!
Хто ж так сварыцца, хто ў дом свой
Ворага ўпускае?

## РАДЗІВІЛ[1] У ЧАСЫ ЯГАЙЛЫ. 1384 Г.

Менш гавораць, болей робяць
Моцныя мужчыны.
Вось такі ў часы Ягайлы
Радзівіл быў чынны.

Раз, як Вісла перашкодай
Легла ў час паходу,
Шум ды гам усчаўся, ён жа —
Там без слова ў воду!

Пераплыў і ўзяўся секчы
Ля ракі лясіну.
«Не стаяць! — сказаў ён толькі. —
Зробім тут драбіну».

За работу ўсе ўзяліся
Там, ля Завіхосту[2].
Перайшлі праз роў драбінай,
Быццам бы па мосту.

З ходу замак быў узяты.
Шмат было там шуму!
Радзівіл жа наш маўклівы
Збоку думаў думу.

## ЯГАЙЛА І ЯДЗВІГА[1]. 1386 Г.

І чаго ж вы, дуб і явар,
Дужым голлем так спляліся?
Вас пярун хутчэй праніжа —
Разам грымнецеся з высяў!

Так, але зваліць не лёгка
Долу ўсё-ткі нас, з’яднаных.
Ды і падаць міла разам
З-пад нябёс для закаханых.

І чаго ж, Ягайла, ў Кракаў
Ты ляціш у бурцы чорнай?
Свеціць свету каралеўна
Там красой карпацкай горнай!

Разлучыць смерць можа сэрцы,
Могуць нішчыцца народы,
Ды з’яднаным не так проста
Нарабіць вялікай шкоды.

У Літве — быць веры яснай!
Людзі ўсе палагаднеюць.
А яшчэ ж тут Бог паможа
Зерне добрага пасеяць.

І паехаў наш Ягайла,
Хоць крыжак маніў інтрыгай.
Аб’яднаў з Літвой ён Польшчу,
Ажаніўся сам з Ядзвігай.

Шлях паказвала Ядзвіга
        У ясноты хрысціянства,
І ў Літве пад сонцам веры
        Уцякла ўжо ноч паганства.

Так адна для двух народаў
        Стала доля і нядоля.
Іх сама любоў з'яднала —
        Боская была тут воля.

* * *

Ой, у кусце, у хрусце
    Сядзіць сабе заяц,
Да на гэтую зіму
    Нешта сабе баець.

Ой, еў бы цяпер авёс,
    Не гэту саломку!
Ой, пад кустам і мужык
    Кляў сваю карчомку.

Еў бы цяпер чысты хлеб,
    А не пухавінку,
Каб я часта не сядзеў
    У паганым шынку.

А бадай ты новая
    Карчомка згарэла,
Як мая цераз цябе
    Хатанька згалела!

Дзетачкі і жоначка
    Без хлеба у тузе;
Волікі і конікі
    Топяцца у лузе.

Жыта, авёс і сена
    На гарэлку мяняў,
Штоб зімою цвёрда спаў,
    На весну прапаў.

* * *

Як то добра, калі мужык
Трэзвы, гаспадарны!
Для такога ў цэлым року
Жадын час не марны!
Снягі таюць, ён гародзіць
Кольмі, што зімою
І навазіў, і начасаў
Добраю парою.
Ёсць у яго і лучыва,
І дроў многа клетак:
Будзе чым варыці кашу
Ўсё лета для дзетак.
Вясна блісне, ён гной возіць,
І арэ, і сее,
Косіць лугі, сенажаці,
Нім жыта даспее.
Хлеба мае і не ходзіць
Вясною на меркі[1],
Бо зімою ён не лыкаў
У карчме з кватэркі[2],
Леткам жонка і дзяўчаты
Жнуць жыта, ярыну,
А ён звозіць, а ён зносіць
Ўсё у хараміну.
Папар арэ і малоціць,
Зноў сее у полі;
І працуе, рад і весел
З мужыцкае долі.
Ніколі ён не шукае
У карчме вяселля,
І не ляжыць так, як хворы,
Ўвесь дзень для пахмелля.
Ён у святой у царкоўцы,
На таргу бывае;
Бога, пана, сваю хату
І работу знае.
А захоча пагуляці,
У дом спросіць госці;
Тады сабе чарку водкі
Вып’е да вашмосці.

* * *

«Ой, чые то людзі піён і гуляён?
Пана Хрэптавіча, бо пенёндзы маён.
Пана Хрэптавіча ліповы вуліцэ,
А цэлы палетак пшаніцаю цвіце»[1].

Пана Хрэптавіча мужыкі харошы,
Вясёлы, адзеты да і не без грошы.
У нас Аляшкевіч, Монічы, Гуляры[2],
Маюць і чырвонцы, рублі і таляры.
Мы панам шчаслівы! Да Бога заклічам:
Дай век доўгі жыці з нашым Хрэптавічам!

* * *

Хто тут піяк, то такоўскі
Чужапанец, не шчарсоўскі!
Сорам для нас і для пана,
Калі б была воласць п’яна.

Шчорсы слывуць мужыкамі
І ласкавымі панамі,
Што і чытаць нас вучылі,
І любілі, не глумілі.

Трэба ж славу удзяржаці
І у карчме не гуляці;
На фурманках, на віціне
Твая чэсць, шчорсавяніне!

Напіліся братцы трохі,
Пайдзём да хаты, да сохі;
Мужык пры сасе, то краса!
Карчма зробіць свінапаса.

* * *

Ой, гаспадыня чорна, як камін,
Да на ёй сажы да са дзве асьмін!
Ой, вазьму жа я дубіну,
Ой, страсу сажу ў асьміну!
Ой, гаспадыня!

Да у нас рэчка пад акном цячэ,
Ніколі хустаў яна мыць не йдзе;
І бедны гаспадар чоран,
Як варона альбо воран;
Ой, гаспадыня!

Нашы дзіцята, як варанята,
Ой, няшчасная да мая хата!
І на стале і пад сталом
Трэскі, смецце і з папялом;
Ой, гаспадыня!

А яна сабе на печы ляжыць,
Умурзаўшыся, ні чым не тужыць.
Толькі для ей і клапоту,
Прынесці хлеба да роту;
Ой, гаспадыня!

Ой, не сцярпеў жа, узяў дубіну,
Да строс жа я сажу ў асьміну;
Ой, да граза у лес не йдзе,
Гаспадыня на рэчку йдзе,
Гаспадыня на рэчку йдзе,
Хусты нясе!

* * *

У лесе такуець цецярук,
У карчме такуець наш Баўтрук;
Цецярука стралец забіў,
Баўтрука аляндар[1] згубіў,
Ой, Баўтрук, да цецярук!

А хата яго да без стрэхі,
У волікаў бакі, як мехі;
І конікі-саколікі
Так худыя, як волікі;
Ой, Баўтрук, да цецярук!
Колька ж у нас гэтых Баўтрукоў?
Толька Баўтрукоў, што мужыкоў;
Ой, да гэта боска кара;
Гінем усе у алендара,
Баўтрукі, цецерукі!

* * *

Каб у карчме не сядзеў,
То бы чысценькі хлеб еў;
А то зрабіла карчма,
Што куска хлеба няма.

Каб у карчме не сядзеў,
То б сярмяжку цэлу меў;
А то зрабіла карчма,
Што ў латах сярмяжка ўся.

Каб у карчме не сядзеў,
То б валы, кароўкі меў;
А то зрабіла карчма,
Што і воліка няма.

Ой, не буду ж у ёй сядзець,
Буду хлеб, сярмяжку мець;
Валоў, кароў са дзве пар,
Да й зноў буду гаспадар!

* * *

Быў я колісь кавалём,
Цяпер завуць піяком;
Як жа гэта то яно
На мяне з ліхам прыйшло?

Ото гэтак, ото так,
Каваль зрабіўся піяк.
Прынёс хто вастрыць нарог,
Я тры грошы ўзяць бы мог.
Не тры грошы мне даюць,
А гарэлку мне нясуць.
Ото гэтак, ото так,
Каваль зрабіўся піяк.

Нясе накляпаць касу,
Я да карчмы з ім іду;
Ён гарэлкі чарку даў,
Я касу дарма кляпаў.
Ото гэтак, ото так,
Каваль зрабіўся піяк.
Прывёў каня падкаваць,
Як без водкі грошы браць?
За жалеза ўзяў грашок,
За работу — барышок.
Ото гэтак, ото так,
Каваль зрабіўся піяк.

Нім ўсе коні падкаваў
І ўсе косы пакляпаў,
От я сабе цэлы рок[1]
У гарэлцы мок ды мок.
Ото гэтак, ото так,
Каваль зрабіўся піяк.
Ой, не рабі, сынку, так,
Лепш за ўсё бяры траяк;
Лепш за дзякуй молат збі,
А барышоў ты не пі.
Ото гэтак, ото так,
Будзеш каваль, не піяк.

* * *

Маладыя маладзіцы,
Ой, не піце гаралiцы;
Нішто гідчэй колам света,
Як піяная кабета.

Паглядзіце, які вочы,
Які у ней язык смочы;
Нішто гідчэй колам света,
Як піяная кабета.

Калі чорта знаць хачэце,
То на ея паглядзеце;
Нішто гідчэй колам света,
Як піяная кабета.

Бога у душы не мае,
І сораму забывае;
Нішто гідчэй колам света,
Як піяная кабета.

* * *

Шчабячэце, як сарокі,
Падпершыся сабе ў бокі;
Што б не толька лепяталі,
То бы, пэўна, больш нажалі.

Язык сілу аднімае,
Поціцца, хто доўга бае;
Што б у рукі сілы болей,
Каб языком не малолі.

Ой, пакіньма шчабятаці
І суседкі абмаўляці;
Баржджэй будзем жыта жалі
І песеньку лепш спявалі.

* * *

Кепска робім, жаначкі,
Кепска робім, дзевачкі,
Што ўсё лета п’ём,
Як у полі жнём.

Добра памоч суседу
Жаць і сесці к абеду;
Ды злы абычай —
Водкі дай ды дай.

За то ўзяўшы дзесятку,
Не патрапім у хатку,
І ў полі паснём,
Гдзе п’яныя жнём.

Лепша ўзялі б дваццатку,
Шлі цвярозы у хатку
На пасцельцы спаць,
Бога не гневаць.

* * *

Плакала бяроза ды гаварыла:
«Ці ж у вас на гэта я заслужыла,
Штоб вы мяне парубалі
І кроў маю высысалі?
Я вам пры дарозе, як дзеўча, стаю,
Беленька прыбрана, на вёску гляджу,
І хто зімою заблудзіць,
То дарожку пакажу.
Я вам пры дарозе, як дзяўча, стаю,
Вясною вам косы мае распляту;
І птушачкі тут спяваюць,
І людзі мілы цень маюць.
За што ж вы сячэце мяне без віны,
Штоб трошкі напіцца салодзенькай крыві?
Я без часу усыхаю,
Што кроў маю выпускаю.
Яна па дарозе ручаём цячэ,

Ніхто з гаршэчкам браць яе не йдзе;
    Парубалі са сваволі,
    Цмокнулі й не п’еце болей.
Хлопцы, эй пакіньце гэту сваволю,
Ды не задавайце бярозе болю.
    Бо я ўсохну, увяну
    Альбо паскарджуся пану».

* * *

Калі ў зямлю зерне кінеш,
    Нясе табе зёран ста;
Як зарыеш ў зямлю грошы,
    Грошы табе паесць ржа.
Чаму ж багач гаршчок грошы
    Ў сыру зямлю закапаў?
Штоб паела ржа чырвонцы,
    Гаршчок грошай штоб прапаў.
Хто ведае, што смерць нясе:
    Ці гарачка, ці пярун?
Як не скажаш, то не найдзе
    Грошай тваіх сын-пястун.
Лепш бы купіць солі, мыла,
    Нарогаў, сярпоў і кос,
І штоб сынок для прадажы
    Ўсюды па сёлах павёз.
Меў бы і ты заработак,
    Ўсё б дома было у нас;
Не ждалі б мы кварты солі,
    Нім пройдзе жыдом шабас.
Не ржавелі бы чырвонцы,
    Чорт не браў бы іх ў зямлі;
Не быў бы ты бедны з грошмі,
    Ні бедны без грошай мы.

* * *

Нашто нам дым выядае вочкі?
Нашто нам дым марае сарочкі?
Нашто нас дым, дзеткі мілы,
Гоніць з дому да магілы?
        Ой, нашто, нашто?

Нім гаспадыня хату нагрэе,
Сама пры печы ўся скалее,
Дзеткі у кутку скалеюць,
Бедныя, чорны хварэюць, —
        Ой, нашто, нашто?

Ой, нашто сядзім мы, як у норы,
Ой, нашто у хаце, як у аборы?
Гусі, свінні і цяляты —
Нездароўя поўна хата, —
        Ой, нашто, нашто?

Чы ёсць у нас і шкло і гліна?
Чым мы не можам вывесіць каміна?
І ў светлае аконца
Упусціць мілае сонца?
        Чы не можам, чы?

Чы не можам і для скацінкі
У сенях цёплай мець прыадрынкі,
Чы хлеўчыка, чы каморы,
Ды не жыць з ёю ў аборы
        Чы не можам, чы?

Ой, можам, можам, толькі не знаем,
Колька у хаце заразы маем
Ад усялякай нечыстосці,
Без коміна і святлосці, —
        Божа! Дай нам знаць!

* * *

Выведзьце, жаночкі,
З карчмы мужыкоў;
Вазьміце за рукаў,
Скажыце: дамоў![1]

Дзеткі без хлеба
Плачуць і крычаць;
Волікі гукаюць
Авечкі мычаць.

Конік пад карчмою
Ўвесь дзень стаіць;
Ніхто яму не даў
Ані есць, ні піць.

Ты адзін міленькі
Ўсё ў карчме прапіў;
Жонку, і дзетачкі,
І хату забыў!

* * *

Паночкі, нашы кветачкі,
Вучыце нас, свае дзетачкі,
Як мы маем лепей жыці,
На вас, на сябе рабіці.

Цёмны мы, цёмны мужычкі,
Невучоныя прастачкі;
Вы нам ад Бога даныя,
Штоб вучылі падданыя.

Вучыце ж вы нас шчырэнька,
Будзе нам усім дабрэнька.
Бог там заўшэ шчасце дае,
Гдзе чалавека чалавек кахае.

* * *

Ой, ты суседзе багаты!
Сыноў, грошы многа маеш;
Сыноў дзержыш за пячою,
Грошы у зямлі хаваеш.

Да павёз бы ты сыночка,
Як бычочка, як ваўчочка,
Гдзе да места се вучыці,
Чаравікі, боты шыці.

Ой, аддаў бы ты другога
Да каваля чы слесара,
Ды завёз бы ты трэцяга
Да сталяра чы бандара.

Яны б рамясло умелі,
Грошы б твае не ржавелі;
Нашы дзеўкі, маладзічкі
Мелі б ладны чаравічкі.

* * *

Доўга спала дзеванька,
Слоньца ўжо высокенька;
Позна ў поле ты ідзеш,
Ой, нямнога ты нажнеш!

Многа, многа я нажну,
Ўсю праўду табе скажу:
Хто з міленькім размаўляў,
За дзве жнейкі будзе жаў.

* * *

Ніхто цябе, татка, пахаваць не йдзе,
За то, што мы ўвесь век пражылі ў бядзе.
    Нечым гарэлкі купляць,
    Ніхто не ідзе хаваць.
О Божа ж мой! Божа! Што цяпер за свет!
Там і людзей няма, гдзе гарэлкі нет;
    Чы вяселяцца, чы смуцяць,
    Усё розум ею муцяць.
Ой, пазаву ж, Божа, анёлы твае,
Пазаву ж я, Божа, слёзанькі мае,
    Няхай ойчанька схаваюць
    І магілу абліваюць.
А вы, людзі, людзі, няхай вам дасць Бог,
Паправіць ваш брыдкі, паганы налог[1],
    Што вы нават без гарылкі
    Не ідзеце й на магілкі.

* * *

Хоць я бедны, хоць я гол,
Рабіў я за татку стол[1];
Ды больш жа се я упіў,
Як да Бога се маліў.

Цяпер галоўка баліць,
Ой, не буду ж водкі піць.
Ты, Божухна, мне даруй,
Ты, ойчанька, не бядуй.

Цяпер твой сынок пазнаў,
Як ён цябе памінаў;
Перад Богам зрабіў грэх,
Перад людзьмі зрабіў смех.

Ой, папраўлюся ж я вам,
На мшу толькі ксяндзу дам,
Сам ціха се пamalю,
Слёзы з вочак абатру.

* * *

Не на тое Бог стварыў,
Каб ты толькі еў і піў,
Але штобы працаваў,
Баранаваў і араў.
    Ў поле, ў поле, дзетанькі,
    Ў поле, ў поле, дзеванькі!

Поле хлеба нам нясе,
Поле здароўе дае;
Каб ты ў полі не рабіў,
Не еў бы ты, ані піў.
    Ў поле, ў поле, дзетанькі,
    Ў поле, ў поле, дзеванькі!

Будзь здарова, жонанька,
Ўзышло міла соненька,
Годзе, дзеткі, годзе спаць,
Трэба араць, сеяць, жаць.
    Ў поле, ў поле, дзетанькі,
    Ў поле, ў поле дзеванькі!

* * *

Ай ей[1], які ён добры гаспадар!
Восень ужо прыйшла, не ворат папар;
    А ён у карчме сядзіць,
    Упіўся, на лаўцы спіць.

Ай ей, які ён добры гаспадар!
Дома, на дварэ крык, і плач, і свар;
    А ён з паленам у руцэ
    Таго, сяго глуміць, б’е.

Ай ей, які ён добры гаспадар!
Да карчмы занёс увесь божы дар;
    А у хаце голад, ліха,
    Толькі як пашоў, то ціха.

* * *

Працуймы, дзеткі, шчыра
У дому чы ў дварэ;
Не спіць чалавек добры
Пры рабоце нігдзе.

Нашто той прыганяты
З бізуном там стаіць?
Што Грышка пры рабоце,
Альбо Агатка спіць.

А Грышку і Агаце
Досыць Бог сілы даў,
Штоб тая не гультайка,
Той шчыра працаваў.

Ды яны ж не працуюць,
На іх карбач[1] нясён;
А возьме ім у колей[2]
Ганупя і Сымон.

За іх няма нам долі,
За іх знаем бізун;
Не верыць пан і пані,
Стаіць войт і цівун.

Пашоў бы прыганяты
З намі разам араць,
Штоб толька пры рабоце
Грышэнька адвык спаць.

Працуймы ж, дзеткі, шчыра
У дому чы ў дварэ;
Не спіць чалавек добры
Пры рабоце нігдзе.

* * *

А мая ж ты кветачка,
А мая ж ты птушачка,
А мая ты зоранька,
А мая ты дзеванька,
Што ж мне, беднаму, рабіць,
Штоб з табою век свой жыць?

Калі будзеш гараваць,
Айца, матку шанаваць,
У свята да цэрквы хадзіць,
Па карчомках не блудзіць,
Мяне верненька любіць,
Век свой будзем разам жыць.

* * *

Каб цябе спаліла маланка,
Чаму не хочаш Сцяпанка?
Ці ён цябе не кахае,
Ці ён розуму не мае?

Дык што ж, што ён мяне кахае,
Калі ён грошы не мае?
Калі ён не мае грошы
І сам не вельмі харошы?

Каб цябе спаліла маланка,
Што грош любіш, не Сцяпанка!
Недарма дворскі хлеб ела,
Паняю быць захацела!

* * *

Ой, чаму ж ты, зязюлечка,
Свайго гнязда не ўеш,
Ды ў чужое гняздзечка
Дзеткі свае кладзеш?

Пакуль малая птушачка
Выкарміць іх — умрэ!
І сваім дробным дзетачкам
Корму не прынясе.

Чаму ты свайго, паночку,
Дому не збудуеш,
Ды чужы дом і вёсачку
Сабе аляндуеш?

І толькі два ці тры годы
Пабыўшы з намі тут,
Вязеш малыя дзетачкі
У другі чужы кут.

Каб ты лет дваццаць ці трыццаць
З намі разам пажыў,
Мы б цябе больш любілі
І ты б нас больш любіў.

Мы бы да цябе прывыклі,
Ты б нас, грунт наш пазнаў,
Ды як у сваім гняздзечку
Дзетачкі гадаваў.

* * *

Покуль сонца ўзыдзе,
Раса выесць вочы;
Кепска, як аконам
Лаяць, біць ахвочы.

Пан, ты наш пане!
Будзь жа нам ласкавы,

Не дай аканома,
        Што адсцёбаць жвавы;

Хто мужыкоў глуміць,
        Надвае варожыць:
Грош пану ў кішэню,
        А два сабе ўложыць.

* * *

Поле, поле шырокае,
Неба, неба глыбокае!
Божа, ты наш вечны пане!
Прымі ад нас павітанне!

Уся зямля слонцам ззяе,
З ясным небам размаўляе,
Што ўсё гэта тваім дарам,
Што ты света гаспадарам.

З ясным небам і зямлёю,
Чолам мы перад табою!
З чыстым сэрцам і душою,
Чолам мы перад табою!

Благаславі твае дзеткі,
Працу нашу і палеткі,
Благаславі усе людзі,
Няхай усім добра будзе!

## ПРА БУДУЧАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ ТАВАРЫСТВА ФІЛАМАТАЎ, ПРА ВАРЫЯНТЫ ЯГО СЁННЯШНЯЙ БУДОВЫ, ПРА ТОЕ, НАКОЛЬКІ АДПАВЯДАЮЦЬ ЯНЫ НАШЫМ МЭТАМ *З прамовы на пасяджэнні Таварыства філаматаў 7 мая 1821 г.*

Усведамляючы важнасць гэтага пытання, нічога ў свеце не хацеў бы большага, чым вырашыць яго, даць на яго адказ. Але, на жаль, сілы, відаць, не адпавядаюць жаданню. Ведаю, што для лепшага адказу трэба разабрацца ў сённяшнім стане таварыства і ўсіх паасобку яго членаў, на якіх трымаецца яго будынак, і ў стане ўтвораных ім саюзаў і сувязяў, а потым ужо, ведаючы нашы сілы і метады работы, належыць вырашыць, што кожны і ўсе мы разам павінны зрабіць, каб таварыства і яго саюзы былі, як той гадзіннік, у якім усё ўзаемазвязана, у якім кожная спружына, кожнае колца, няспынна рухаючыся, служыць адной мэце — толькі такі гадзіннік можа адбіць некалі гадзіну шчасця для краю…

Задачы будучага таварыства вельмі шырокія, пры дапамозе асветы і згуртавання суайчыннікаў яно павінна рабіць дзейсны ўплыў на грамадскую думку, рабіць усё для шчасця і вызвалення айчыны. Але не пра гэтыя задачы і ўсё звязанае з імі ў таварыстве пакуль што трэба гаварыць; трэба яшчэ арганізавацца і замацавацца ў тым пункце апоры, з якога мы павінны ўзняць польскі свет, трэба яшчэ паправіць тое, што ў ім сапсавалася; думаць, як тое, што ўжо ёсць у нас у руках, утрымаць і развіваць далей; як зрабіцца нам самім заўсёды дзейснымі і працавітымі, каб у распачатай вялікай справе нават хвіліны дарэмна не страціць.

Як бачым, аслабнуў рух у таварыстве. Мы крычалі адзін на аднаго, а віна была агульная. Трэба, аднак, папытацца: чаму аслабнуў? Можа, мы сталі менш стараннымі? Ці меней любім

айчыну і таварыства? Ці мы навуку не рушылі ўперад? А мо, наадварот, і тое, што ведалі, забыліся? Ці не можам цяпер навуковага артыкула альбо хоць бы верша так, як раней, напісаць? А мы ж, здаецца, не меней старанныя, не меней здольныя; наадварот, усяго гэтага ў нас пабольшала. Але, паколькі невялікія ў нас сілы, якія да таго ж хутка і досыць шырока расплыліся, не дзіва, што ўнутры мы мусім станавіцца на калені перад аблічча гэтых абавязкаў, якія нічым амаль не адрозніваліся ад тых абавязкаў, што даводзіцца выконваць па-за таварыствам, наадварот, ад таго, што яны болей былі сканцэнтраваныя, здаваліся меншымі. Статуты таварыства ў сэнсе навуковасці перабольшылі нашыя магчымасці, не адпавядаюць нашым сілам, бо вымагаюць таго, каб кожны быў сапраўдным вучоным, таму яны ніколі не могуць быць цалкам выкананы. Які ж сёння я прынясу на пасяджэнне вершык, якое прачытаю навуковае даследаванне? Не вартае яно таго, каб выносіць на таварыства, нават прыяцелі[1] будуць пагарджаць імі, толькі перад філарэтамі магу з імі паказацца. Якую ж я тады прынясу таварыству ў навуковым сэнсе карысць? Сухія ў нас навуковыя пасяджэнні, і калі б крытыка шчасліва ўвайшла ў філарэцкія саюзы, тады б не было прычыны шкадаваць навуковых пасяджэнняў, якія нічым іншым не адрозніваліся дасюль ад цяперашніх філарэцкіх. Паколькі таварыства жыло толькі навуковасцю, няма нічога дзіўнага, што яно ўпала ва ўнутраную бяздзейнасць пасля таго, як разладзіўся навуковы парадак…

Што да адбору членаў, то тут трэба б нам паболей строгасці — каб у таварыства прымаліся толькі сапраўды годныя людзі, дзейныя, з высакародным сэрцам, разумныя, людзі, якія любяць айчыну, старанныя і цвёрдыя; мы не будзем тады мець патрэбы ў пошуках спосабаў хавацца адзін ад аднаго.

Варта б было нам пастанавіць, каб той, хто не быў прыяцелем, а тым самым філарэтам, нічым не праявіўшы сябе, не мог бы быць і філаматам. Няхай бы там быў перыяд пробы; каб мы не прымалі ў таварыства, як раней, малавядомую асобу. Наконт членаў, якіх раней называлі карэспандэнтамі, у статутах сказана, што толькі пасля 4-х месяцаў член таварыства можа стаць праўдзейным. Гэты пункт неабавязкова выстаўляць перад усімі, для большай карысці яго трэба б не агалошваць. Карэспандэнцтва можа быць апошняй ступенню і выпрабаваннем нашых братоў; перайшоўшы яе, яны становяцца заканадаўцамі таварыства і ўсіх саюзаў, удзельнікамі ўсіх яго пачынанняў, а пазней і выканаўцамі найшырэйшых мэт. Можа, каму-небудзь гэта ступень будзе вельмі цяжкай, а калі выразна скажаш яму, што тады і тады яе

можна прайсці, усялякая затрымка ў любога можа распаліць толькі непатрэбную прэтэнзію, будзе яго раздражняць. Няхай самі правадзейныя члены вызначаюць, праз які час пераводзіць карэспандэнта ў правадзейныя члены. Трэба, каб карэспандэнт ведаў, што ён можа быць выбраны, але калі канкрэтна, не ведаў…

## ДУМКІ ДЛЯ НІЖЭЙШАГА КЛАСА

1. Шчасце — гэта найвышэйшая мэта ўсіх імкненняў чалавека; шчасце — ва ўнутранай задаволенасці ад сваёй працы, учынкаў і побыту; асабістае шчасце — у шчасці грамадскім: дбаць пра грамадскае дабро — значыць памнажаць і дабро ўласнае.

2. Хто дбае пра грамадскае дабро, інакш кажучы пра шчасце, асвету і славу краю, хто рады прысвяціць яму самога сябе, аддаць яму ўсе здольнасці, сілы і маёмасць — з'яўляецца сапраўдным грамадзянінам.

3. Сапраўдны грамадзянін паводзіць сябе не толькі згодна з устаноўленым грамадскім законам, але і згодна з законам сумлення, маралі і рэлігіі; улада законаў знаходзіць чалавека дома і па-за домам, але ўнутры чалавека няма моцнай спружыны для кіравання яго ўчынкамі; дык вось — там, дзе ўлада законаў і сораму слабыя, там пачынаецца ўлада сумлення і рэлігіі.

4. Рэлігія не толькі аб'ядноўвае людзей з творцам, яна не толькі ўцеха і вышэйшая асалода для сэрцаў, знясіленых пад цяжарам няшчасцяў і чалавечых заган, але і шчыт супраць варожых грамадству яго членаў, яна — краевугольны камень, на які абапіраецца мараль і тленнае шчасце.

5. Рэлігіі і маралі варожыя: абыякавасць да ўшанавання Бога, непавага да месцаў гэтага ўшанавання, распаўсюджванне поглядаў, якія падрываюць асновы рэлігіі, распуста і адступленне ад звычаяў, усялякага роду празмернасці.

6. Маральная распушчанасць, празмернасці і раскоша ў задавальненні жыццёвых патрэб, што прыводзяць да жудасных вынікаў, нараджаюць агіду да шлюбу, якая вельмі часта назіраецца сёння. Праз гэта псуюцца дарэшты не толькі пачцівасць, мараль, не толькі церпіць ад гэтага рэлігія, але, што вынікае адсюль, церпіць увесь люд, які ўсё больш прыкметна робіцца слабейшым, бяднейшым, становіцца няздатным як трэба працаваць для дабра краю, а значыць, і для дабра кожнага паасобку.

7. Ашчаднасць з’яўляецца маткай выгоды, парадку і багацця, словам, дамашняга і грамадскага шчасця, з’яўляецца рысай сапраўднага грамадзяніна, бо яна вядзе да прыстойнага карыстання дастаткамі, з якімі трэба дзяліцца і з іншымі, яна працівіцца ўсякім празмернасцям і раскошы — самай галоўнай прычыне дэмаралізацыі. У нас, дзе празмернасці гэтыя не толькі не даюць карысці, не павялічваючы мясцовую прамысловасць, але выразна шкодзяць, бо гэта ж марнуюцца апошнія сродкі, якія можна было б укласці ў развіццё земляробства. Ашчаднасць вельмі пажаданая, яна той адзіны бальзам, што столькі можа загаіць ран і падмацаваць грамадскі дух.

8. Той, хто прысвячае сваю працу — фізічную ці разумовую — свайму краю, усё робіць для яго дабра, з’яўляецца адначасова карысным грамадству чалавекам і паважаным грамадзянінам. Адсюль вынікае, што гэтак жа, як да веравызнанняў, заўсёды павінна быць цярпімасць да працоўнага класа — рамеснікаў ці прадстаўнікоў любой іншай працы; трэба быць нецярпімым толькі да гультаёў, якіх мы павінны схіляць да працы.

9. Асвета краю — найважнейшая спружына яго шчасця. Асвета пашыраецца праз павелічэнне кола тых, хто ўмее чытаць; таму трэба засноўваць школы Ланкастэра[1], падтрымліваць навуковыя ўстановы, заахвочваць тых, хто пасылае дзяцей і моладзь у школы і ва універсітэт, пашыраць чытанне і друкаванне карысных кніг, раздаваць іх у школах у якасці прэмій, дапамагаць тым, хто хоча вучыцца, падтрымліваць мастацтва, рамёствы, засноўваць і развіваць фабрыкі, асабліва паперні, суконныя і ткацкія фабрыкі, што найлягчэй можна ажыццявіць у краі.

10. Ва універсітэце яшчэ вельмі многія без ніякіх вынікаў прысвячаюць сябе прыродазнаўчым і матэматычным навукам, у той час, як так патрэбныя чыноўнікам і грамадзянам навукі права і адміністрацыі ляжаць у нас аблогай. Тых, што не маюць такіх здольнасцей, каб, працуючы над фізікай ці матэматыкай, маглі прынесці карысць навуцы і краю, і тых, што не прысвячаюць усё сваё жыццё гэтым навукам, а вывучаюць іх толькі для таго, каб набыць званне, трэба адгаворваць ад гэтага адзінага іх імкнення і схіляць да вывучэння права, палітычнай эканоміі, гісторыі, урэшце агрaноміі, на якую, не пакідаючы ўпарта вывучаць свае прадметы, маюць найбольшае права і якой як жыхары аграрнага краю хутчэй за ўсё павінны сябе прысвячаць.

11. Залішне мяккае і камфортнае выхаванне з’яўляецца пачаткам распешчанасці, слабаволля і іншых заган, як фізічных, так і маральных, якія сярод нашай моладзі аж занадта часта

назіраюцца. Трэба імкнуцца палепшыць дамашняе выхаванне, трэба, каб кожны развіваў свае фізічныя сілы, а для гэтага карысны: заняткі з палашом, конная язда, плаванне і іншыя практыкаванні.

12. Мала гаварыць пра станоўчыя якасці чалавека і вучыць ім; трэба самому даваць ва ўсім прыклад у паводзінах. Бо ніхто так не схіляе да ліхога людскія сэрцы і розум, як ліхія ўчынкі тых, хто воляй лёсу заклікаиы вучыць просты люд і паляпшаць разбэшчаны свет, хто на словах прапаведуе дабрачыннасць, а ў жыцці заграз у распуце.

## ДУМКІ, ЯКІЯ ПАВІНЕН ПАШЫРАЦЬ ВЫШЭЙШЫ КЛАС

1. Грамадскае шчасце залежыць як ад добрых грамадзян, так і ад добрага ўрада.

2. Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць кепскага ўрада там, дзе большасць — добрыя грамадзяне.

3. Найлепшы ўрад будзе там, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнем народа, а не з волі, капрызу і сілы аднаго.

4. Умацаванне добрых можа перамагчы любое ліха; супроць грамадскай думкі зброя і любая сіла — нішто.

5. Строгія спосабы ўціску грамадскай думкі не павінны аслабляць сэрца і схіляць да адрачэння перакананняў, а павінны павялічваць супраціўленне гэтаму ўціску, яшчэ больш умацоўваюць перакананні, актывізаваць пошукі спосабаў, пры дапамозе якіх можна хавацца ад праследаванняў.

6. Масоны зусім не такія, за якіх імкнецца выдаваць іх фанатычная стараннасць. Ведалі яны патрэбу рэлігіі і ўрада і супроць іх не выступалі. Але калі б прагнулі хоць пазнаць, які ўрад лепшы, і калі б рабілі тое, што кожны сапраўдны грамадзянін павінен рабіць, ужо і гэта гаварыла б пра іх добрыя якасці. З таго, што ў іх былі тайныя згуртаванні (з дазволу ўрада), не вынікае, што яны рабілі змовы супроць веры. У цяперашні час увайшло ў практыку ўсё самае лепшае і таіць як мага лепей, таму не трэба, як звычайна усюды робяць, папракаць каго-небудзь за гэта, кажучы: калі не было нічога ліхога, нашто ж тады таіцца? Намер быў прыцягваць людзей да ўсеагульнага братэрства і ўзаемадапамогі; няўжо ж гэта можа быць нечым кепскім у вачах рэлігіі і з пункту гледжання маралі? (NB — робіцца гэта каб хутчэй выхоўваць пачуццё таварыскасці).

7. Рэлігія, якой так павольна паддаюцца простыя сэрцы, мае тое няшчасце, што вельмі часта з'яўляецца страшнай зброяй фанатызму і ўціску; пад яе маскай, з крыжам у адной руцэ і са зброяй у другой ідуць, аслепленыя чаканымі прыбыткамі, чалавеканенавіснікі, каб абдурваць і занявольваць легкаверных і цёмных мужыкоў.

8. Духоўніку, які лічыць, што, выйшаўшы за брамку, ён ужо аказваецца не на свеце, а выракшыся прыемнасцей быць мужам, бацькам, думае, што ён ужо не грамадзянін зямлі, а жыхар нейкага перадднеб'я, адкуль можна кідаць кулі на разбэшчаны свет, на асвету, філасофію, трэба далікатна напомніць, што ён жыве на зямлі, што са светам сувязей не парваў, корміцца хлебам, які дае зямля і праца суайчыннікаў і што задача яго — не замахвацца на асвету і філасофію, не ведаючы, што яны такое, а пашыраць святло навук, каб не сляпых, а адукаваных схіляць хутчэй да чыстай маралі і рэлігіі. У той жа час трэба патроху выступаць супроць бясшлюбнасці духоўнікаў, якая з'яўляецца найгалоўнейшай прычынай непрыстойнасці, эгаізму і варожасці да свету.

9. Вайсковае саслоўе, хоць яно — няшчасце роду людскога і найболей псуе мараль, хоць яно прычыняецца да абязлюджвання краю, павінна ў першую чаргу папаўняцца разумнымі грамадзянамі, паколькі цяпер, як відаць, пераважвае іншыя саслоўі: ніякія змены ў ім не могуць адбыцца, пакуль яно будзе складацца з наёмнікаў; у войска, значыцца, трэба прываблiваць тых, хто сядзіць па дамах без работы і хто здатны да вайсковай службы, мае да яе схільнасць.

10. Ні асвета краю, ні земляробства не можа больш хуткімі тэмпамі рухацца наперад, пакуль не будзе ліквідавана ганебная, замшэлая на працягу вякоў і аброслая забабонамі перашкода — няволя сялян, якая супярэчыць законам прыроды, цвярозаму розуму і нават чыстым эканамічным разлікам і выклікае сорам у сэрцах людзей…

11. Моладзь часта бывае неспакойная, бо запалена рэвалюцыйным духам, ці залішне гарачая: яна рада была б пазбавіць заможных іх багацця, яна лічыць, што далёка не ўсім трэба аддавацца навукам, яна сваімі паводзінамі правакуе праследаванне ўрада на сябе і грамадзян… Вельмі мала моладзі ідзе вучыцца ва універсітэт: з універсітэцкай акругі, дзе налічваецца ў школах больш 20 тысяч, набываць вышэйшыя навукі прыязджае ледзьве 700 чалавек; там з ахвотаю і карысцю бяруцца вывучаць навукі, хоць менш здольным яны даюцца з цяжкасцю; больш

заможная моладзь, дрэнна выхаваная пры дапамозе крыкаў бацькоў, аказаўшыся ў горадзе, лайдачыць і кладзе пляму на універсітэт; праследаванні ўлад зыходзяць не так ад тутэйшай моладзі, як хутчэй ад духу ўрада, які ўсюды адным і тым жа спосабам прыціскае моладзь, мяркуючы, што ў моладзі больш сіл і супраціўлення, чым сярод іншых грамадзян, а прыціскаючы моладзь, прыціскае асвету.

12. Сказанае аб неабходнасці падмацоўваць словы сваім прыкладам у адносінах да ніжэйшага класа і тут трэба захаваць. Дадам яшчэ важнае пажаданне, каб, пашыраючы вышэйпрыведзеныя думкі, звярталася большая ўвага на час, месца і спосаб іх распаўсюджвання, каб пераказ гэтых думак меў большы вынік і не прынёс шкоды таму, хто іх пераказвае, бо такое на цяперашні час вельмі лёгка можа здарыцца.

## РЭЦЭНЗІЯ НА ТВОР АДАМА МІЦКЕВІЧА «КУРГАНОК МАРЫЛІ», ЯКІ БЫЎ ПРАЧЫТАНЫ НА ПАСЯДЖЭННІ СЯБРОЎ 28 ЛІСТАПАДА 1820 Г.

Чужы чалавек, плывучы на віціне па Нёмане, бачыць на беразе курганок і пытаецца ў дзяўчыны, што ж гэта за курганок і чаму да яго вядуць тры бітыя дарогі. Дзяўчына адказвае, што гэта магіла Марылі, што тыя тры дарожкі вытапталі яе каханы, маці і сяброўка. У гэты момант усе яны якраз і паказваюцца перад вачыма — каханак, маці і сяброўка; яны з кветкамі ў руках ідуць да Марылінай магілы і схіляюцца над ёй, не могучы стрымаць плач. Чужы чалавек, пачуўшы гэтыя скаргі душы, заплакаў сам і адплыў з віцінай.

Гэты прыгожы, вельмі просты і праўдзівы абразок мае ўсе прыкметы ідыліі. Мілая сентыментальнасць, меланхолія, выразы, поўныя сапраўдных пачуццяў, даюць усе падставы сцвярджаць, што гэта сапраўды выдатная элегія. Не можа, здаецца, ніхто так натуральна, так жаласліва плакаць, як каханкі, дочкі, сяброўкі. Не ведаючы арыгінала, я не параўноўваў літоўскіх слоў з польскімі. І ўсё ж нельга нават жадаць больш натуральнага і больш акрыленага перакладу. Я нават не магу меркаваць, наколькі вольна абыходзіўся аўтар з арыгіналам у сваім наследаванні яму. Найцудоўнейшая ідылія! Я ўпершыню так шчыра шкадаваў, што мова даўніх жыхароў нашага кутка гіне і з часам зусім можа загінуць…

Нягледзячы на чароўную прывабнасць перакладу, у ім ёсць, як мне здаецца, і некаторыя хібы. Напрыклад, у радку

uwięczon (!) jak w wianek

дадатак w wianek непатрэбны, бо само прыслоўе uwięczon паказвае, што курганок апавіты ўжо вянком.

Курганок — гэта не што іншае, як магіла. Аўтар у прыпісцы растлумачвае, што гэта пагорак. Вядома, розніца тут невялікая, бо насыпаная магіла і ёсць пагорак.

Адказ, дзяўчыны — верш 5:

Na prawej stronie ta kładka; Ubita nogą etc.;

Кладкай нельга назваць сцежку ці дарожку. Кладка — гэта дошка, пакладзеная для пераходу праз ваду ці балота.

Верш 11:

stek łomu — stos łomu.

Жаль Яся:

Niech sąsiad kopy rozkradnie.

Я быў бы рад бачыць, што так у арыгінале. Гэтыя словы ганьбяць Ясевага суседа: можа, ён так іх не лаяў, можа, казаў, што копы згніюць ці што іх разнясуць птушкі і быдла?

Верш

Niech trzodę wyduszą wilki, Nie masz, nie masz Marylki.

*Марылькі* — не найлепшае тут слова. Хацелася б — *Марылі*.

Przystanę do Moskali.

Не меў, як мне здаецца, патрэбы ліцвін казаць, што «прыстане да маскалёў» (можа, да русінаў, калі пускаўся ў далёкую, як кажа, дарогу?) — гэта ж адносіцца да сённяшніх часоў. Каб гэты горкі выраз не пазбавіў нас перакanання (як, напрыклад, і выраз ukazy замест rozkazy), што гэта з літоўскіх часоў ідылія, прапаную замяніць *маскалі* на *салдаты*.

Жаль маткі:

drzwi zerdzawiały od sieni.

Чаму ж гэта абавязкова od sieni?

Што ж да станоўчых якасцей, то не ведаю, якую элегію назваць лепшай; аднак жа спярша другая і трэцяя здаліся мне прыгажэйшымі за першую — мо таму, што першая падвысіла цану другой, ці мо так і ёсць; але пасля шматразовага паўтарэння і першая паказала ва ўсёй паўнаце сваю вартасць і моц. Не ведаю, якую выдзеліць як найлепшую.

Dawniej, kiedy spać szedłem, tem słodziłem chwile, Że skoro
się obudzę, zobacze Marylę I dawniej spałem mile.
Teraz tutaj spać będę, od ludzi daleki, Może ja we śnie ujrzę,
gdy zamknę powieki. Może zamknę na wieki!

M a t k a

Czegoż mam iść do domu? Któż nas na obiad
zawoła? Kto z nami siądzie u stoła? Niemasz, ach,
niemasz komu! Niemasz cię! w domu pustynie!
Każdy, kto idzie, minie! Drzwi zerdzawiały od sieni,
Mchem się dziedziniec zieleni, Bóg nas opuścił,
ludzie opuścili, Niemasz, niemasz Maryli.

Што можа больш крануць, чым гэта шматразовае паўтарэнне: Nieniasz, niemasz Maryli.

P r z y j a c i ó ł k a

Któż mi zwierzy się szczerze? Komu się ja
powierzę? Ach, gdy z tobą, kochanie, Smutku i
szczęścia nie dzielę, Smutek smutkiem zostanie,
Weselem nie jest wesele.

Я хацеў бы (і да гэтага далучыліся б усе), каб для паўнейшага ўражання ад гэтай прыгожай ідыліі як помніка літоўскай паэзіі і літоўскай мовы, якая штоpазу скажаецца, аўтар змясціў побач з перакладам і арыгінал.

## ДАДАТАК

Калі б гэту задуму — дабівацца таго, каб прыемныя мелодыі народных песень сталі сваімі для вышэйшага класа, — я выканаў настолькі, што мая праца спадабалася б Зосі, я дасягнуў бы сваёй мэты. Вельмі важнае з такога пункту гледжання поле ляжыць

у нас аблогай, вельмі важны намер павінен выклікаць увагу да сельскіх песень і абудзіць ахвоту да іх збірання. У іншых краінах такія зборы добра, з любоўю выкананы. Можа быць, тыя, хто шукае ў іх гістарычных звестак, усё-такі перабольшваюць іх значэнне як крыніцу такіх звестак. Тым не менш у песнях бардаў і менестрэляў можна знайсці штосьці большае, чым пачуццё і гармонію альбо старасвецкасць выразаў. Можа, і нашы песні пра Хмеля[1], якія і цяпер пачуеш на Шчэнснага Патоцкага[2], за недахопам лепшых крыніц прыдаліся б неяк для тлумачэння гісторыі. Гэтыя песні, якія вызначаюцца сваёй наіўнасцю, прастатой і прыгажосцю, здолелі б неяк паказаць апрача сваёй прывабнасці нешта большае: характар, звычаі і норавы краю, дзе яны спяваюцца. Выяўленне таго, чаго ў іх болей — весялосці ці меланхоліі, нясціпласці ці прыстойнасці, рамантычнасці ці павучальніцтва, — дапамагло б раскрыць гэты характар. Самі мелодыі песень маглі б выяўляць, хто спявае — жыхары поля ці лесу, тыя, што жывуць больш-менш вольна, ці тыя, што енчаць пад цяжкім ярмом няволі. Калі б мы маглі вызначыць, з якіх часоў прыйшла да нас кожная песня, яшчэ болей можна б было даведацца пра ўсё гэта. Але загінула памяць спевакоў і часу; пакінула толькі сцёртыя ад паўтарэнняў, скалечаныя і перапрацаваныя песні. У тых, што я сабраў (каля трыццаці), можна выразна ўбачыць, наколькі некаторыя з іх скарочаны, перакручаны, склеены па волі асобных спявачак з розных песень. Не трэба вельмі крытыку-збіральніку круціць тут галаву, а лепш за ўсё сабраць гэтыя ж песні ў якім-небудзь іншым месцы. Некаторыя жмудскія і літоўскія песні знаёмыя мне ў перакладзе. Яны сапраўды прыгожыя. Іх вельмі многа. Спеўны быў гэта народ. Меў спевакоў, якія спявалі нават князям. Ёсць недзе ў «Тыгодніку Віленьскім» апісанне вясельных звычаяў на Міншчыне з песнямі, якія спяваліся на вяселлі[3]. І само апісанне, і песні надзвычай цікавыя. Калі б усе такая ўрачыстасці не прайшлі міма вока цікаўнага, улюбёнага ў свой край і ў сваіх сялян назіральніка, быў бы гэта прыгожы помнік фантазіі і выдумкі мясцовых жыхароў, якія, не настройваючыся ні на грэчаскі, ні на лацінскі ці французскі тон, спявалі і дзейнічалі, як ім самім марылася. Такіх урачыстасцяў ёсць шмат; напрыклад, Купала, свята, якое невядома за што забараняецца сёння аканомамі, якія баяцца, каб яно не выклікала пажару ў вёсцы; у прыгожую пару і прыгожая рамантычная ўрачыстасць. Дзяды, Каляды, Вялікдзень, Шчодры Вечар, Зажынкі, Дажынкі, Раса на святога Юрыя. Усё гэта праходзіць з пэўнымі цырымоніямі

і кантатамі. Вясковыя рускія песенькі ў наваградскай старане, прынамсі, тыя, якія мне знаёмыя, амаль заўсёды пачынаюцца з параўнання. Заўсёды іх ажыўляе пачуццё кахання, часта ёсць у іх і мараль. Так, напрыклад, — ляціць сокал за якойсьці птушкай, здаецца, за чайкай, і кліча яе, а яна яму адказвае: я ўбога, я не твая, шукай ты саколкі, як сам; а з гэтага параўнання — пераход да дзяўчыны, якая свайму залётніку адказвае: «Я ўбога, я не твая, шукай ты багатай, як сам». Альбо прыклад з мараллю. Матка там і цётка выпраўляе свайго сына ў залёты і кажа: убачыш там тры дзяўчыны, адну ў золаце, другую ў аксаміце, трэцюю ў розуме: не бяры ж той, што ў золаце, ні той, што ў аксаміце, але тую, што ў розуме, бо золата і аксаміт могуць быць страчаны, розум жа — самае трывалае багацце. Такія разумныя і прыгожыя думкі сустракаюцца ў песнях вельмі часта. Словам, вельмі варта, каб заняліся ў нас збіраннем гэтых помнікаў сапраўднай народнай літаратуры.

Падам тут цікавую літоўскую песеньку, якую помню, бо яна мне спадабалася; літоўка Разалька, што служыла ў адным маёнтку, яе нам перагаварыла — ніхто за яе лепей бы не пераклаў. Пачынаецца песенька па-літоўску так: «Ой, ёю, ёю — пер жалю гіру — пер цісту лонку — плаукцёу еш накім». У перакладзе: «Плыў я дзень і ноч праз высокія горы і зялёныя лугі, ці не выплывуць дні мае вольныя? І не выплылі дні мае вольныя, толькі выплыла градка руты. Рутачкі мае, хто ж вас сеяў, хто ж вас палоў, хто ж вас палівалў? Сонца нас сеяла, месяц палоў, а росны дождждык палівалў». Хіба ж не міла чытаць такія песенькі?

*1823*

## ПРАДМОВА ДА «СЯЛЯНСКІХ ПЕСЕНЬ З-НАД НЁМАНА» (1837 Г.)

Нашы сяляне — люд добры, лагодны, працавіты, пачцівы — павінны абудзіць у нас найпрыхільнейшыя да сябе пачуцці. З імі мы можам быць шчаслівыя. Удзяляючы ім за працу іх рук працы нашага розуму і асветы, мы можам памножыць усеагульнае дабро. Не думайце, што мы не можам і ад іх чаму-небудзь навучыцца. Мы многаму навучымся з пазнання іх становішча і характару; знойдзем у іх паданні, казкі, былі, самае багатае будзе жніва песень, якія дадуць магчымасць пазнаць іх тонкія, прыгожыя, нават далікатныя і глыбокія пачуцці. Не думайце,

што толькі кожны горад ці правінцыя маюць свайго вучонага спевака; мы ўбачым, што свайго невучонага, але душэўнага і сардэчнага спевака мае амаль кожная вёска. Я заўважаў, што на адлегласці колькі міль, нават паўмілі зусім розныя спяваюцца песні. Які гэта скарб для адукаванага спевака і даследчыка! Колькі там нязмушанай і свежай паэзіі! Слухаючы з ахвотай вясельныя, дажынкавыя, купальскія і іншыя песні, не раз будзем мы прыемна задаволеныя і, што яшчэ больш важна, набудзем большую прыхільнасць да нашых добрых земляробаў. Так цяжка мне ўспамінаць, як у нас дома (гэтаму я быў сведкам) з боязі пажару ад запаленых агнёў не дазвалялася святкаваць Купалу, як, не жадаючы прымаць у сваім маёнтку працавітых і мілых гасцей, што часам не ўмеюць як трэба спажываць божыя дары, паны раздавалі ім на дажынкі яду і пітво па хатах! Пры добрым з боку памешчыка ці прадстаўніка ўлады нагледзе гэтыя сапраўдныя вясковыя ўрачыстасці так бы ўзаемна ядналі і прывязвалі і гэтых гаспадароў, што ва ўладзе, і тых, што прыносяць, нібы пчолы ў вулей, багаты плён!

Шчыра палюбіўшы з гадоў маленства нашых мілых і добрых сялян, я хачу даказаць тут ім сваю прыязнасць. Доказ гэты — пераклад і перайманне сялянскіх песень, якія спяваюць над берагамі Нёмана, у аколіцах Беліцы[1]. Не ўсюды я вельмі трымаўся арыгінала, некаторыя ж, аднак, перакладзены даслоўна; іншыя больш-менш блізка пададзены ў перакладзе. Сялянская і наша пісьмовая мова не вельмі паміж сабой і розняцца; часам засталіся цэлыя выразы, некаторыя часам, каб зрабіць асобныя сказы больш гладкімі альбо каб удакладніць думку, я дазволіў сабе адступіць ад тэксту, але заўсёды галоўная думка заставалася такая ж…

У будучым, калі і збор песень павялічыцца, я выдам іх разам з тэкстам арыгінала. Які б я быў шчаслівы, калі б гэтыя песні былі скарыстаны ў нас на святкаванні Дажынак, Купалы і павялічылі тую ўзаемную прыхільнасць пана і селяніна, ад якой так многа залежыць!

*1834*

## ПРАДМОВА ДА «СЯЛЯНСКІХ ПЕСЕНЬ З-НАД ДЗВІНЫ» (1840 Г.)

Калі раней я думаў, што сялянскія песні ў недалёкіх адна ад адной вёсках розняцца паміж сабой, дык потым, калі пачаў далей іх збіраць, пераканаўся, што нават у далёка адлеглых паміж сабой вёсках яны вельмі падобныя, з невялікімі часам адхіленнямі ў словах. Нёман і Беліца ад Дзвіны, Бярэзіны і лепельскіх аколіц няблізкія, а песні іх усё ж падобныя; гэтакія ж песні і над Віліяй у Завілейскім павеце. Хто іх пераносіў? Не друк і творы, а памяць, сэрцы і вусны братэрскіх плямён. Некаторыя з гэтых песень я для параўнання пераклаў; паўтарэннем іншых я не хацеў абцяжарваць зборнік. Зборнік гэты падрыхтаваць было мне не цяжка: паколькі я быў заняты абавязкамі сваёй службы і таму не мог хадзіць ці ездзіць па вёсках, давялося папрасіць тут ласкавых і высакародных паненак, якія рабілі гэта ўсе без асаблівай цяжкасці, нікога не змушаючы і не даючы ніякай платы, як бывала ў іншых збіральнікаў; ад сваёй уласнай прыслугі альбо выкліканых з вёсак сялянак яны маглі і могуць запісваць столькі песень, колькі збіральніку захочацца. Зрэшты, толькі яны і здольны збіраць гэтакія песні. Я сам не ведаю, ці спяваюць калі сяляне-мужчыны, а сялянкі, надта ж сціплыя і нясмелыя, саромеюцца праспяваць свае песні мужчыну: пачынаюць звычайна ўсміхацца і казаць, што нічога ў іх песнях няма добрага, і ад сораму нічога не паведаюць. Паненцы ж гэта ўсё, наадварот, паведаюць! Для паненкі з радасцю ўсё выкладуць: «От яшчэ прыпомніла адну харошую песеньку!» Я хацеў бы назваць тут імёны тых высакародных і добрых паненак, якія сабралі мне гэтыя песні, але сціпласць іх не дазволіла мне зрабіць гэта. Перад Богам знойдуць яны ўзнагароду за сваю працу і дабрату; перад яго ж тварам я з найвялікшай прыхільнасцю, пашанай і ўдзячнасцю ўспамінаю гэтыя мілыя для мяне асобы і імёны і спадзяюся, што з гэтых добрых і высакародных паненак будуць сапраўдныя грамадзянкі, якія прынясуць карысць краю.

Гэтыя так мілыя і гожыя, блізкія майму сэрцу вобразы я змушаны прыцьміць тым, што звярну смутную ўвагу на становішча аўтараў і аўтарак вясковых песень. Як з наднёманскіх песень, так і з наддзвінскіх я дазволіў сабе апусціць няшчасную гарэлку і замяніць яе на мёд і піва, якія сялянам сёння амаль невядомы. Гарэлка — гэта згуба для нашых сялян. Першы грош — з гарэлкі, кажуць памешчык і арандатар; першае ліха — кажа кожны разважлівы чалавек. Баліць сэрца, бачачы нешматлікі і самы працавіты клас грамадства даведзены да такой вялікай беднасці, да якой больш за ўсё прычынілася п’янства. А паравыя і не паравыя гарэльні, вышэйшыя, чым дамы і жылыя палацы,

усё яшчэ ўзносяцца; а па перадзеле маёнткаў, дзе каля тракта некалькі новых памешчыкаў прыбірае зямлю да сваіх рук, будуецца некалькі новых корчмаў, і ў адной вёсцы з'яўляецца замест аднаго некалькі шынкоў. Супраць гэтай празмернай вытворчасці гарэлкі выступае ўжо не раз «Земледельческая газета», якая выдаецца з дазволу Міністэрства фінансаў. Асабліва запомніўся мне нумар 99 гэтай газеты за 1838 год, у якім грамадзянін Віцебскай губерні Суражскага павета п. Кернер пераканаўча, з лічбамі даводзіць шкоднасць гарэльняў, ці, як мы няправільна называем, бровараў. Шкоднасць гэтая не толькі ў выганцы нязмернай колькасці гарэлкі, але і ў не стабільнасці і разнабоі самых цэн на яе. Як у краме тавары, так і гарэлку ў карчме адзін перад другім прадаюць па заніжаных цэнах. А вось у Курляндыі[1] і Ліфляндыі[2] зрабілі так, што ўсе грамадзяне па шынках прадаюць гарэлку па адной, устаноўленай усімі цане. Гаворачы пра шкоднасць бровараў, трэба заўважыць, што ў Прусах у цэлым яшчэ болей спажываюць гарэлкі, чым у нас; але там гаспадар пасля працы з усёй сям'ёй і прытым кожны дзень спажывае толькі разумную меру гарэлкі; у нас жа ў святы дзень вельмі часта бачым людзей, на людзей не падобных. Адпрацаваўшы цэлы тыдзень, часта на адным хлебе з мякінай, ідзе ў нядзелю гаспадар, а бывае, і гаспадыня, у карчму, несучы туды рэшткі свайго набытку. Празмерна ўжыўшы гарэлкі, дзень і два хварэе, а потым зноў п'е для так званага пахмелля. Якое можа быць здароўе, які парадак у хаце? Усё гэта вельмі адмоўна адбіваецца на скуры твару, на працягласці жыцця і разумовых здольнасцях людзей. Гарэлку лічаць часта лякарствам ад усіх хвароб; а бацька і маці, якія звычайна дзеляцца з дзецьмі ўсім найлепшым і найсмачнейшым, спойваюць малых дзяцей гарэлкай, перадаючы ім сваю хваравітую схільнасць да гэтага пітва. Нічога я тут не перабольшваю, і калі ўрадавая публічная газета выступае супроць шкодных гарэльняў і корчмаў, то і я хацеў бы дадаць тут колькі слоў супраць гэтага і паўтарыць тое, што даўно сказаў Трэмбіцкі[3] і што на ўсіх гарэльнях і корчмах трэба б было напісаць вялікімі літарамі:

> Pracował ludzki dowcip doszedł sposobu, Ująć sobie
> rozsądku, a przysunąć grobu[4].

Я быў бы шчаслівы, калі б гэтыя вясковыя песні прычыніліся да весялейшага абходу Дажынак і Купалы, а яшчэ болей быў бы я шчаслівы, калі б яны памаглі зменшыць колькасць тых за-

бойчых напояў, якія не весялосць, а нешта жахлівае разносяць па вёсках. Не магу падабраць слоў, каб паказаць, якой ухвалы варты мае вельмі шаноўныя аўтары, чые песні я перакладаю; але, я спадзяюся, самі іх творы знойдуць водгук у чулых сэрцах і вельмі хораша скажуць за сябе. Ім, аўтарам гэтых твораў, прысвячаю я сваю працу, поўны надзеі, што ў кожнай шляхетнай душы ўзбудзяць гэтыя творы сапраўдную хрысціянскую любоў да маіх любых сялян.

## ПРАДМОВА ДА «СЯЛЯНСКІХ ПЕСЕНЬ З-НАД НЁМАНА І ДЗВІНЫ» (1844 Г.)

Паэзія, якую мы называем сёння гміннай, простанароднай, была некалі агульнай для ўсіх нашых продкаў: для паноў, князёў, словам, агульнанароднай; ужо ад аднаго гэтага яна павінна была б карыстацца большай павагай нават у тых, хто нічога добрага не хоча бачыць ва ўсім, што ёсць простанароднае, сялянскае.

Нашым сялянам мы абавязаны тым, што яны захавалі старажытныя абрады і песні. Ім і за гэта мы павінны быць удзячныя. Паддаўшыся ўплыву суседніх плямён і цывілізацый Еўропы, мы самі змяніліся хутчэй, чым яны; а таму і забылі мы тыя песні, якія далёкая прапрабабка не аднаго з нас, можа, нават у той жа самай вёсцы спявала пры кудзелі разам са сваімі роднымі, нашчадкі якіх ад таго, што не мелі заслуг у краі, засталіся ў становішчы падданых.

На самую крывіцкую паэзію робіць уплыў украінская і польская паэзія. У некаторых песнях гэта відаць даволі выразна. Значна ўплывае цяпер на яе і расійская народная паэзія, якую прыносяць вайскоўцы, раскватараваныя па вёсках. Калі б у нас былі выдадзены літоўскія народныя песні, то, можа, мы ўбачылі б, што і яны неяк перароблены, перакладзены і спяваюцца цяпер па-крывіцку. Цікавы б гэта быў занятак для шчырага даследчыка паэзіі і старажытнасці — самому збіраць сялянскія песні, бываць на вяселлях і іншых абрадах. Без гэтага нельга будзе захаваць пасля сябе ў будучым ані належнага парадку тых песень, ані ведаць абрадаў; гэтак жа, як нельга даведацца, якія песні засталіся ад даўніх часоў, а якія (і як?) з’явіліся цяпер; можа, і сёння ёсць дзе-небудзь спевакі і спявачкі, якія знаходзяць натхненне і ствараюць новыя песні. Гэта можа быць радзей, чым некалі, бо, па-першае, цяпер большай увагай карыстаюцца даўнейшыя песні, а, па-другое, не такі ў спевакоў цяпер настрой, каб лёгка

маглі стварыць новыя творы. Адсюль перайманне песень ад раскватараваных салдат альбо ў значнай ступені ад тых, што вяртаюцца са службы ў родныя вёскі.

Мова крывіцкага адгалінавання ўнутрана і знешне вельмі не ўдасканалена, хоць сяляне нашы нязмерна любяць размаўляць. Цесля ці маляр, працуючы, не спяваюць, а ўвесь час гавораць, і жнеі ў грамадзе, асабліва на ўласным полі, рэдка пяюць песні, а бесперастанку голасна шчабечуць. Пры ўсім пры гэтым абстрактных разважанняў у іх вельмі мала, таму і адпаведных паняццяў знойдзем не шмат. Наш селянін не ведае выразаў: пачуццё, паняцце, чалавечнасць, дабрачыннасць, гасціннасць, удзячнасць; ён кажа: чую (а гэта адначасова азначае «адчуваць» і «чуць»), разумею, добры чалавек, трэба беднаму даць, трэба госця частаваць, дзякуй… Дунай — улюбёная ў песнях рака; успамінаюць мора, вінаград; гарэлка называецца зялёнае віно. Усё гэта гаворыць пра старадаўнасць песень: магчыма, яны паходзяць з тых часоў, калі славянскія плямёны блукалі над Дунаем і мусілі нават доўга піць дунайскую ваду, калі імя гэтай ракі так моцна трымаецца ў іх памяці і зраслося з песняй. Бабры, куніцы, собалі, кітайка[1], адамашкі[2] — усё гэта вядома было спевакам. Вядома ім першая рана турэцкая, а другая нямецкая.

Што ж да саміх песень, то, будучы іх перакладчыкам, я не магу быць ім суддзёй; але чую ў іх асаблівую красу, навізну адкрыццяў і сціспласць у перадачы пачуццяў. Няма ў нашых пакаёвых пісьменнікаў гэтай сціслацсці; у іх найчасцей бывае ўсё ў вялікіх памерах, якія часам стамляюць. Памяць не змагла затрымаць такія творы на вякі; напоўненае працай жыццё не магло б даць вялікай паэмы. Адсюль паходзіць і гэта сцісласць, а разам з тым і выразнасць паэзіі люду. Не дзіва, што мы, прывыкшы да залішняй напоўненасці твораў разумнымі разважаннямі, не заўсёды, як належыць, ацэньваем сялянскія песні; любяць іх болей дзеці, хоць і не заўсёды разумеюць; гэта іх любоў дае ўсё ж надзею, што калі падрастуць, палюбяць больш, чым мы, сялянскую паэзію, сапраўды нацыянальную і свежую, хоць і спрадвечную.

Гэтыя песні атрымалі ў некаторых перыядычных выданнях пахвалу; выказвалася нават пажаданне, каб яны былі надрукаваны для аматараў славяншчыны ў арыгінале. Задавальняючы пажаданне гэтых аматараў, а перш за ўсё сапраўдных прыхільнікаў народа і дабрачынцаў сваіх сялян, я змясціў у гэтай кніжачцы па дзесятку арыгінальных песень з-над Нёмана і Дзвіны і побач з імі колькі дзесяткаў сваіх уласных, якія спяваюцца па-вясковаму,

і тлумачэнне да іх. Ці не перанесліся б яны як-небудзь да вёсак? Ці не дайшлі б да сэрцаў дабрачынных паноў і ці не звярнулі б больш чулую ўвагу на сялян, а разам з тым ці не прычыніліся б да паляпшэння нораваў гэтых працавітых суайчыннікаў?

Іншыя сялянскія песні з-над Нёмана, змешчаныя ў гэтай кніжачцы, сабраны ў Наваградскім павеце, у Шчорсаўскай воласці, больш за ўсё ў Праслічцы, і некалькі ў Далматаўшчыне, а дзве купальскія паходзяць з аколіц Беліцы Лідскага павета. Знаходзяцца і тут падобныя на наддзвінскія.

Паколькі я не змог ажыццявіць вялікага збору песень з розных аколіц, не маю магчымасці выбраць такія, якія б ярчэй вызначаліся сваімі асаблівасцямі; перакладаю без асаблівага адбору; дай Божа, каб былі належным чынам прыняты; я нават абяцаю, што болей, чым адну кніжку, не выдам; ці ж трэба лішне раскідвацца дабром?

Як перакладчык, я павінен быў бы апісаць жыццё сваіх аўтараў. Я пра гэта многа думаў, чытаў нават пра іх колькі кніг, хацеў бы многа паведаць, але раздумаўшы, замаўчаў — дастаткова, мусіць, будзе і таго, што я ласкавым чытачам падам крыніцы, з якіх яны самі могуць чэрпаць звесткі пра становішча сялян і думкі да паляпшэння іх быту.

З самых першых прац пра сялянства, з якімі мне давялося пазнаёміцца, была невялікая кніжачка «Аб падданых у Польшчы»[3], выданая ананімна ў 1788 г. У ёй — гарачая, чулая, сардэчная і разумная абарона сялянскага саслоўя; кніжка вучыць, якімі спосабамі можна палепшыць яго быт. Асаблівая ўвага звяртаецца на становішча літоўскіх сялян, бяднейшых за іншыя. З пахвалой упамінаюцца тут дабрачынцы сваіх сялян: экс-канцлер Замойскі[4], экс-рэферэнт Бжастоўскі[5], падканцлер Іяахім Храптовіч[6], падскарбій князь Станіслаў Панятоўскі[7].

«Адказ на пытанне: няўжо нячуласць у далёкіх вяках да падданых так была апанавала сэрцы палякаў, што нават вучоныя былі ёю заражаны?» Невялікая праца гэтая, якая можа служыць дадаткам да папярэдняй, выйшла з друку ў 1789 г. У ёй безыменны аўтар (Кс. Давід Пільхоўскі, потым віленскі біскуп) з вялікай пашанай да меркаванняў аўтара вышэй памянёнай працы, апіраючыся на выказванні продкаў і пісьменнікаў, якія і некалі не былі нячулымі да становішча сялян, пра што пісалі і казалі з амбонаў, прыводзіць розныя з гэтага пункту гледжання ўрыўкі з друкаваных прац, а канкрэтней: Енджэя Маджэўскага, Крыштофа Варшэўскага, Марціна Белабрэскага, Марціна Сміглецкага, Себасціяна Пятрыцкага, Пятра Скаргі, Фабіяна Біркоўскага,

Сымона Старавольскага, Аляксандра Алізароўскага, Антонія Шырмы, Яцка Лібер'юша, Марціна Кужанецкага і многіх іншых прапаведнікаў і пісьменнікаў, вядомых сваёй чалавечнасцю…

Прапануючы ўвазе ласкавых чытачоў гэтыя паважаныя працы, натхнёныя чалавечнасцю, сапраўды хрысціянскімі пачуццямі і заснаваныя на вопыце і чыстым розуме, я хачу пазбавіцца сумнай неабходнасці наракаць на ўбоства і бядоту сялян, якіх люблю. Няхай кожны загляне на хвіліну ў сваё сэрца, і сэрца яго скажа больш, чым ён сам сказаць бы патрапіў.

## ПРАДМОВА ДА «СЯЛЯНСКІХ ПЕСЕНЬ З-НАД НЁМАНА І ДЗВІНЫ» (1846 Г.)

Выдаючы сто песень, крыху прыказак на славяна-крывіцкай мове і яе самабытных слоў[1], я хацеў бы мець столькі ведаў і здольнасцей, каб даць нейкі граматычна-гістарычны нарыс гэтай мовы і падрыхтаваць для даследчыкаў славяншчыны грунтоўныя заўвагі, але паколькі гэта немагчыма, мушу абмежавацца адной падрыхтоўкай для іх невялікага матэрыялу да падобных заўваг і накідаць некаторыя, хоць сціплыя назіранні, якія ў мяне ў гэтых адносінах узніклі.

Грунтоўны роздум над гэтай мовай, на якой на нашай памяці любілі размаўляць паміж сабою старыя паны, што яшчэ жывуць, на якой дагэтуль гавораць паны і аканомы з сялянамі, на якой пісалі ў нас некалі афіцыйныя акты, застанецца цалкам якому-небудзь здольнаму, можа, селяніну, што праз навуку ўзнімецца да больш глыбокага разгляду дасканала вядомай яму мовы.

Самуэль Багуміл Ліндэ[2], робячы справаздачу аб работах, звязаных з укладаннем слоўніка польскай мовы, заклікае, каб для дапаўнення яго працы збіраліся словы, якія ўжываюць у жывой размове хлебаробы, рамеснікі, плытагоны, паляўнічыя і г.д., а таксама дыялектызмы, або, як ён кажа, «павятоўшчыны», да чаго, на яго думку, асабліва вялікую зручнасць мелі б уладальнікі значных маёнткаў у розных мясцінах краю (т. V, стар. LXXXVII)[3]. Гэтыя дыялектызмы не толькі маглі б павялічваць багацце пісьмовай мовы, але, звыш таго, служыць тым, хто задумваецца над паходжаннем моў, для больш пэўных і сталых заўваг. Хоць некаторымі этымолагамі робяцца дзіўныя супастаўленні слоў адной мовы з другой, аднак прыемна бачыць роднаснасць паміж мовамі і здзіўляючае падабенства санскрыцкай мовы даўніх індыйцаў да славянскіх моў. Магчыма, што крывіцкія

самабытныя словы, калі іх багата сабраць, выявілі б таксама якое-небудзь падабенства да санскрыту, а некаторыя прыгожыя словы, уведзеныя ў польскую мову (як гэта назіраецца нават ужо ў Літве), павялічылі б без шкоды яе багацце, якое, аднак, што мы павінны ведаць, залежыць не ад мноства слоў, але ад прыстойнага і ашчаднага іх ужывання. Таму што ўжо сёння некаторыя пісьменнікі так узбагачаюць польскую мову выхапленымі адусюль словамі і спосабамі прамаўлення, што трывожыцца трэба не толькі за чысціню, але і за поўнае яе скажэнне.

Крывіцкі дыялект — прамежкавы паміж польскім, рускім і ўкраінскім. Украінскі, ці палянскі, па будове сваёй і даўжыні галосных больш падобны да польскага, крывіцкі — да рускага; але калі ўкраінец кажа *будэ*, рускі — *будет*, то крывічанін скажа *будзе*, куды падобней да польскага *będzie*. Аднак ён не скажа, як украінец: *ходылам, ходылась, ходыла*, але: *я, ты, ана хадзіла*, бо ва ўсіх ладах, часах і асобах спражэння дзеяслова крывіцкая мова не мае падобных асабовых канчаткаў, як украінская і польская, і павінна карыстацца асабовымі займеннікамі.

Як dz, якое, паводле Ліндэ, прыкметна аддзяляе польскую мову ад іншых славянскіх дыялектаў, згодна з ёй падабаецца крывічанам, так вельмі не любяць яны гука *л*, як і даўнія палякі, калі гаварылі: wyszedwszy, rzekwszy, umarwszy замест: wyszedłszy, rzekłszy, umarłszy. Таму ў многіх выпадках замест *л* крывічане вымаўляюць гук *ў*, злучаючы яго з наступным ці папярэднім галосным, адкуль утвараюцца бясспрэчныя дыфтонгі: *аў, еў, оў, іў, уў*, напр. *даў, еў, пашоў, любіў, бліснуў*. Нават словы, узятыя з іншых моў, як напр. *хаўтуры* з літоўскага chalturej, *жаўнер* з польскага żołnierz (наёмнік, з нямецкага der Söldner), *каўнер*, які паходзіць ад італьянскага kołnierz, *аўтар* — ołtarz (з лацінскага altare), *каўтун* (відаць, што пазычанае) kołtun, усюды змянілі *л* на *ў*. І толькі ўжо ў дзеясловах, у канчатках жаночага і ніякага роду, атрымлівае *л* сваё гучанне, паколькі гаворыцца: *я была, ано было*.

*У* замест *в* выступае таксама паўсюдна ў якасці прыназоўніка і паводле патрэбы ці схільнасці таго, хто гаворыць, злучаецца з наступным гукам (часцей з галосным, чым з зычным) або вымаўляецца асобна, напр. *у дварэ, у селе* або *ў дварэ, ў селе*. Так што можна гэта *у* прызнаваць па жаданню або галосным, або зычным, ці калі злучаецца ў словах з іншым галосным, — дыфтонгам. Пішу такое *ў* з рыскай, схіленай управа, для адрознення ад *у* галоснага[4].

Гук *в*, занядбаны ў прыназоўніку, з’яўляецца затое калі-нікалі як прыдыханне ў словах, што пачынаюцца з галосных, хоць у іх часцей за ўсё (можа, толькі цяпер) ужо адкідаецца, напр. *воко* і *око*, *вакно* і *акно*, *восень* і *осень*, *вуліца* і *уліца*, *востры* і *остры*, *водзін*, *водна* і *адзін*, *адна*, *навошто*? і *нашто*?, *а вось* і *а ось!*

Не маюць яны зусім у сваім алфавіце, так як першапачаткова і ўсе славянская дыялекты, гукаў f, g. А калі павінны іх вымаўляць у запазычаных словах, то вымаўляюць часцей за ўсё замест f — ch або p, замест g — h, напр. *Хваліcь* — Feliś, *хваліварок* — folwarek, *пранцус* — Francuz, *Пранціся* — Franciszka, *грап* — graf, *ахвіцэр* — oficer, *хвігура* — figura, *хвіга* — figa, *каптан* — kaftan, *шапа* — szafa, *ухналь* — ufnal, *Горскі* — Gorski, *Грыбоўскі* — Grzybowski і г.д. Аднак лягчэй даецца вымаўленне g, бо скажуць: Gabruś і Gabrusicha або Hauruś і Haurusicha, ganeczek і haneczek, grosz і hrosz, garniec і harniec.

Хоць *рэ* з лёгкасцю вымаўляецца ва ўласных словах: *рэка* — rzeka, *рэпа* — rzepa, усё ж маюць яны цяжкасць у вымаўленні *рэ* ў запазычаных, напр. *левізор* — rewizor, *некрут* — rekrut, *алендар* — aręndarz.

Як і ўсе славянская дыялекты, апрача аднаго польскага (для якога гэта пярвейшая аздоба), не маюць ą і ę, а заўсёды простыя a і e, і ў змяненні канчаткаў тое, што мы коратка і прыгожа перадаём гэтымі насавымі галоснымі, яны павінны вымаўляць праз *аць, аю, ею, уць, ую* або падобныя, напр. *баляць* — bolą, *сваю* — swoję, *волею* — wolą, *будуць* — bedą, *красную* — piękną (вінавальны склон).

Вельмі мала слоў пачынаецца *з о*, напр. *ока, обух, озеро, обруць* (uzdeczka), *огур* (leniwiec), *осень*, але замест *о* вымаўляецца заўсёды на пачатку *а*, дзе ў польскай і рускай *о* (хоць рускія, пішучы *о*, вымаўляюць часцей за ўсё *а*), напр. *агонь* — ogień, *абалона* — błona, *асьміна* — ośmina і г.д. Не пачынаецца таксама, як і ў польскай, ніводнае сваё слова з э, хіба толькі запазычанае, напр. *Эльжбета*, *эконом*, якога часцей за ўсё завуць *аконом*, *акомон*.

Хоць нельга напэўна сцвярджаць, каб у крывіцкім дыялекце *а* або *о* былі закрытыя, усё ж над Нёманам гаворац без розніцы: *нема* і *німа*, *цепер* і *ціпер*, *мене* і *міне* (mnie), з выразным звужэннем *е*, *і на ціхом* або *ціхум Дунаю*, *у чысценьком* або *чысценькум полі*, з выразнай заменай *о* на закрытае *о* ці хутчэй на *у*, як гэта адбываецца з вялікай шкодай для напеўнасці і ў польскай мове. Над Дзвіной жа, дзе так любяць *і*, выразна звужаюць наднёманскае *е*, гаворачы: *злітаіць* замест *злетаець* і г. д.

Зычны *т*, якім у рускай і чэшскай мовах пачынаецца не адно слова, напр. *тихий*, *тяжкий*, па-чэшску: tichy, teњky, крывічане, як і палякі, мяняюць на *ц*: *ціхі*, *цяжкі*; таксама і ў іншых словах, напр. *цесць*, *будуць*, *робяць*, *рабіці* і г. д. Не вельмі шанцуе таксама і цвёрдаму галоснаму *ы*, які, як можна бачыць з прыведзенага слова *ціхі*, замяняюць на *і* мяккае, што некаторыя з нас робяць тут і ў сваёй польскай мове.

Гук *з* як прыназоўнік, які аднолькава адпавядае лацінскім cum і ex, і як прыстаўка да дзеясловаў, назоўнікаў і прыметнікаў ужываецца ўсюды, за выключэннем слоў, што пачынаюцца з гукаў *ц, к, п, с, т*, перад якімі вымаўляецца *с*, напр. *с цёткаю, с кумом, с пана, с саломы, с табою, скруціць, скошэны* і г. д. І нейкім няпэўным здаецца часам *з* перад гукамі *б, л, м, н, о, у, з*, так што чуецца невыразна нешта накшталт *с* або *зь*, напр. *з(с) Богом*, *з(с) людзьмі*, *зьмяты*, *зьняты*, *з (с) озера, з (с) уха, з (с) залоўкі, зьбіты* і г. д. Вымаўляюць таксама праз *с*: *вос* — wóz, *вёс* — wiózł, *нёс* — niósł і праз *ш*, напр. *штош* — cóż, *аўжош* — jużciż, *нош* — nóż і г. д. Тое ж маем у вымаўленні польскай мовы, хоць замест sz пішацца цяпер ż.

Як у польскай мове гук r або z аддзяляецца ад наступных, напр. r-żeć, ź-jeść, а ў рускай *е, J, я* ад папярэдніх праз *ь*, напр. *крестьянин* — włościanin, *забвенье* — zapomnienie, *рукоделье* — rękodzieło, прычым гэты *ь* цяпер замяняюць часам гукам *і*, пішучы: *крестіянин*, *забвеніе*, *рукоделіе*, так і ў крывіцкай ёсць гукі, што вымагаюць падобнага аддзялення або, як гэта мае месца ў наддзвінскай разнавіднасці дыялекту, патрабуюць дабаўлення другога *ц, л* або *н*, што можна пачуць, пачынаючы ад Завілейскага павета[5], нават у польскай мове, напр., гаворыцца па-крывіцку над Нёманам: *вець-е, галь-е* — gałezie, *пагулянь-ё* — hulanka, *Іў-е* — назва мястэчка, *баяр-ё* — bojarstwo, bojary; над Дзвіной жа: *вецьце*, *застолля* — siedzenie zastolne, *вяселля* — wesele, *ралля*, *аралля* — rola, *бяздолля* — niedola, *племеньня* — plemienia, *каменьніка* — kamyczków, што таксама адбіваецца на мясцовым польскім дыялекце, паколькі там вымаўляюць: zatrudneńnia, mniemańnia, wesella.

Такім чынам, са сказанага можна меркаваць, што крывіцкі алфавіт, калі б не было запазычаных гукаў f, g і зусім непатрэбнага *х*, якое аналагічна польскаму вымаўляецца праз ks, абмяжоўваўся б дваццаццю адным гукам, вар'іраванне якіх шляхам іх змякчэння такое ж, як у польскай мове, але здаецца, што, апрача гукаў *ц, н, с, з*, іншыя зусім не ведаюць змякчэння.

Часткі мовы тыя ж самыя, што і ў польскай мове. Назоўнікі і прыметнікі столькі ж маюць родаў і скланяюцца шляхам змянення канчаткаў. Прыслоўі і прыметнікі маюць тры ступені і ў вышэйшай дадаецца *най*, напр. *найкраснейшы*, *найлепш* — najlepiej, *найбольш* — najwięcej. Аднак трэба да гэтага прыслухацца. Рэдка калі ўжываецца вышэйшая ступень якасці, бо здаецца, што ў напрамку на поўнач у людзях нікне ці то душэўны ўздым, ці то захапленне, і мова абмяжоўваецца наданнем якасці толькі параўнальнай ступені: *бялей, красней, чырваней, барздзей* (prędzej) і г. д. Назоўнікі і прыметнікі па меры набліжэння да Дзвіны і верхняга Дняпра набываюць адценні, падобныя да рускай мовы ў формах творнага склону адзіночнага ліку, паколькі гавораць ужо аднолькава: *дзеўкою, дзеўкой, маладзіцою* і *маладзіцой, маткаю, маткай*. Родны склон гэтага ж ліку прыметнікаў таксама можа там ужо скарачацца, як у рускай мове, напр. *на том боку сіня мора* замест *сіняго мора*.

Пры скланенні карэнны галосны часта замяняецца іншым, напр. *конь, каня, кол, кала* і г. д.

Назоўны склон множнага ліку назоўнікаў над Нёманам заканчваецца пераважна на *е*, напр. *дзеўке, кветке, панэ, дамэ*.

Назоўны і вінавальны склоны множнага ліку прыметнікаў усіх трох родаў заканчваюцца над Нёманам на *е*, напр. *белые, дробные*, над Дзвіной — на ўпадабанае там *я*: *белыя, дробныя*. Таксама вельмі ахвотна замяняюць там *э* на *ы*, гаворачы: *садочык, вяночык* і г. д.

У родным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў ёсць часам нейкая асаблівасць, вартая ўвагі, напр. *да мае міленькае*, або *да маей міленькой*, або яшчэ: *да маей міленькоі*.

Асабовы займеннік *себе*, які злучаецца са зваротнымі дзеясловамі, бывае траякі: *се* або *ся*, *сі*; *ца* і *цэ*. Се або *ся* і *сі* дадаецца, калі слова заканчваецца на галосны; *ца* або *цэ* — калі на зычны або, можа, і ў сувязі з чым-небудзь навыкам у вымаўленні, напр., гавораць *любіцца* або *любіццэ, любіцісе, любіціся, расстацісі, кланіцца, кланіся, гоніццэ, ганісе*. Гэта *се* ніколі не ставіцца перад дзеясловам, як у польскай, і не замяняецца на *сь*, як у рускай мове. Над Дзвіной, дзе пераважае ўжыванне *ся* ў параўнанні з *се*, сустракаецца таксама ў песні *не садзісь* замест *не садзіся*, *заседзелісь* замест *заседзеліся*.

Ёсць і парны (дуальны) лік у назоўнікаў, напр. *дзьве шкодзе, дзьве шкоды, чэтыры прыгодзе або прыгоды, дзьве руцэ, дзьве назе*.

Адносна спражэння дзеясловаў. Інфінітыў заканчваецца без розніцы на *ці* або *ць*, а ў зваротных на *ц*, напр. *прасці* і *прасць*, *ткаці* і *ткаць*, *пашыці* і *пашыць*, *жэніцісе* і *жэніццэ*. Залежыць гэта ад схільнасці таго, хто гаворыць. У трэцяй асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу гаворыцца таксама: *скачэць, плачэць* і *скачэ, плачэ*; наадварот, у множным ліку патрэбна абавязковае *ць*: *скачуць, плачуць*. А паколькі наднёманцы вымаўляюць адкрытае *е*, напр. *злетаець* — zlata, то лёгка ім адкідаць і звычайна яны адкідаюць *ць*, гаворачы *злетае*. Немагчыма гэта для наддзвінцаў, якія, гаворачы *злітаіць*, не могуць ужо сказаць *злітаі*.

Хоць падабенства да санскрыту ўканчатку інфінітыва найбольш блізкае ва ўкраінскай — дзякуючы складу *ты*, таксама блізкае і ў крывіцкай праз *ці*, бо санскрыцкія заканчваюцца на ti.

Вартая ўвагі асаблівасць у загадным ладзе слова *пайсці* або *пайці* — pójść, бо гаворыцца і загадваючы і выказваючы мінулы закончаны час: *пашоў рабіць* — pójdź robić, poszedł robić; *пашлі тушыць* — pójdź gasić i poszli gasić. Усё адрозненне ў тым, што, загадваючы, вымаўляюць хутчэй і з большым падкрэсліваннем апошняга складу. Не ведаю, ці ёсць болей падобных адхіленняў ад формы; вядома толькі, што, гаворачы па-польску, мы выказваемся па-крывіцку: poszed, poszli precz, што павінна значыць: pójdź, pójdźcie precz.

Дзеепрыслоўе цяперашняга часу заканчваецца на *чы*, напр. *робечы*, *аручы*, *жнучы* — robiąc, orząc, żnąc. Па-над Дзвіной ужо часам прабіваецца (у песнях) канчатак, падобны да рускага, на *я*, напр. *ходзя* — chodząc замест *ходзячы*; *седзя* — siedząc замест *седзячы*. Дзеепрыслоўе ж мінулага часу заканчваецца на *шы*, напр. *рабіўшы, араўшы, жаўшы* — robiwszy, orawszy, żąwszy. Дзеепрыметнікаў ні цяперашняга, ні мінулага, ні будучага часу, хоць іх няцяжка ўтварыць, здаецца, ва ўжытку няма. Часам, можа, якая жанчына скажа: *гаруюшчая, працуюшчая, бедаваўшая ўвесь век* — horująca, pracująca, któram biedowała całe życie.

Даўномінулага часу абвеснага і ўмоўнага ладу ва ўжытку амаль няма: *некалі быў, летась хадзіў* — niegdyś był, roku przeszłego chodził і рэдка можна пачуць: *сказаў быў, зрабіў быў*, паколькі здаецца, што ва ўсім жыцці сялян ёсць толькі сучаснасць, а на мінулае і будучыню зусім не звяртаецца ўвага. З уплыву крывіцкай мовы паходзіць, што і мы, гаворачы і нават пішучы па-польску ў гэтых мясцінах, рэдка ўжываем даўномінулы час, які ў мала- і вялікапалян такі часты.

У дзеясловах магчыма парнае (дуальнае) спражэнне, калі гавораць: *ро́бімо, седзімо́, лежымо́* замест *робім, седзім, лежым*. Трэба назіраць.

Такія і да таго падобныя граматычныя варыянты здараюцца ў крывіцкай мове; што ж казаць пра вымаўленне слоў, калі ў пісьмовых мовах, узятых у пэўныя правілы, столькі ёсць адрозненняў не толькі ў жывой, але і ў друкаванай мове? Нічога дзіўнага тады, што крывіцкі дыялект, без правіл, непісьмовы, мае не толькі ў кожным павеце, але ў кожнай, можа, вёсцы нейкае асобае вымаўленне і ўласцівыя яму словы. Так, у Наваградскім і Лідскім паветах гавораць: *цебе, мене, покуль і пакуль* (póki), *слонцо* і *сонцо*, *дзевэчэк* і *дзево́чэк*, *колькі* і *колько* (ile), *гараць* і *араць*, *па бары* і *па бору* (po borze), *сэрцо сваё* і *сэрцэ свае*, *землею* і *землёю*, *есьць* і *ёсьць* (jest), *есьць* і *есьці* (jeść i je). У Лепельскім жа, дзе вельмі любяць *а* і выкідаюць ці звужаюць *е* або часам на яго месцы ахвотна ўжываюць *ы*, гаворыцца: *цябе, мяне, дзеўчына* і *дзяўчына*, *калі* і *кала* (koło, прыназоўнік), *соўнінька* і *соўнейко* (słoneczko), *цiраз* і *цераз* (przez), па́ніла, *вынісла* (замест *паняла, вынесла*), *піва п'яная* (замест *піво п'яное*), *муская пагука́ніка (мужское пагуканіко), яна* і *іна* (ona), *ёсь* (jest), *сонцэ радзіла* (замест *радзіло*), *з велікага сіла* (замест *з велікаго села*), *божа* і *божэ*, *ні*, *ня* (nie), *алі* (ale), *вісна* (*весна*), *піравоз*, *сьцежычка*, *вышываіць*, *стаўляіць* і г.д. Не адно слова вымаўляецца дваяка і ў польскай мове: żonie, siostrze і żenie, siestrze; dziś, dzisia і dzisiaj; walek і walk, farbiarz і farbierz, w panu і w panie і г. д.

Абдумванне правапісу для якой-небудзь мовы і належных для яго знакаў прыпынку (пунктуацыі) не з'яўляецца справай, як здавалася б, занадта лёгкай і малаважнай. Перш чым друкарні Шарфенбергераў і Лазараў[6] устанавілі правапіс для польскай мовы, шмат прайшло часу і адбылося ў ім перамен; і толькі ў бліжэйшыя да нас гады неўміручай памяці Капчынскі[7] перагледзеў яго і абгрунтаваў. Аднак калі яго правілы былі паламаны, перш за ўсё Фялінскім[8], кожны пачаў пісаць і друкаваць па-свойму, так што сёння можна сказаць, што мы не маем сталага правапісу: кожны піша, як хоча ці ўмее, і, разгароджваючы сваю пісаніну даўнейшымі лінейкамі адвакатаў[9], якія яны працягвалі, не ведаючы, дзе кропка з коскай, дзе двукроп'е, павялічвае тым самым памер кніжкі. Нялёгка абдумаць правапіс, калі, друкуючы па-польску з 1505 г.[10], яшчэ дагэтуль не маем устойлівай арфаграфіі і, выбіўшыся з-пад правіл Капчынскага, невядома, калі і чыйму слову і аўтарытэту паверым у гэтых адносінах. А таму, як сам правапіс уплывае на змяненні, нават

да непазнавальнасці, чалавечай мовы, можа служыць доказам адрозненне простанароднай польскай мовы ад пісьмовай; і гэту змену выклікала хутчэй за ўсё не што іншае, як увядзенне гатычных літар для напісання польскіх слоў і тое, што не былі спачатку прыдуманы знакі для змякчэння гукаў. Яшчэ Ян Каха용ўскі, Гурніцкі і Янушоўскі[11] абдумвалі, як пісаць *c* у словах czeladź і czytać: першы хацеў cz, другі cc, а трэці або cc, або c' і пісаў: c'ytać, c'eladź; засталося выразнае cz, і з сапраўднага польскага cytać зрабілася czytać. Гэтак жа з nass сталася nasz, з cego — czego, з jesce — jeszcze і г. д. У «Малітве божай» 1446 г., друкаванай у Вроцлаве ў 1475 г., пісалі: odpusstz — odpuść, miłostczi — miłości; у «Ortylach» 1501 г. пісалі: czo — co, myecz — mieć, grosch — grosz; у «Аповесці пра папу Урбана» 1505 г. у Галера[12] друкавалі: Papyesch — Papież, szye — się, czyaszka замест ciężka, бо галоснага ą тады не мелі («Гіст[орыя] поль[скай] літар[атуры]» Вішнеўскага, т. III і V[13]). У 1558 г. у перакладзе Ларыхіуса, зробленым Кашуцкім[14], друкавалі, як у нямецкай: nitz — nic, tzo — co; у 1561 г. Леапаліта[15] ў Бібліі друкуе: dussa, wypuszczasz, pokrapias. Такім чынам, павінна была існаваць розніца паміж ss і нямецкім sz; гэта ss, якое друкавалася ў «Хроніцы свету» Бельскага[16] ў 1554 г., змянілася ўжо на sz у выданні гэтай жа хронікі 1564 г. У той жа кніжцы ў 1554 г. друкавалі: oczyma і rozum; гэта і выклікала, пэўна, вымаўленне яго потым і без кропкі, так што ocyma стала oczyma; хоць напісанне ż з кропкай, на думку Капчынскага, рабілася тут дарэмна, але ўвогуле дарэмным, як відаць з гэтага, яно не было. Такім чынам, нямецкае sz, якое адлівалася на адным кавалку волава, замест s узбагаціла польскую мову гукамі sz, а ż з кропкай прынесла z, якое вымаўляецца выразна. Па гэтых выданнях вучыліся чытаць дзеці, вымаўлялі яны ўсё да іоты і пераносілі ва ўжытак цвёрдасць і гаркату мноства зычных, якія пасля лічыліся адзнакай рыцарскасці польскай мовы, такой адметнай ад мовы, якая дагэтуль засталася ў простага народа, куды мякчэйшай і лягчэйшай у вымаўленні. І зрабіць заўвагі, і стала меркаваць пра ўсё гэта прыстойней будзе карэнным жыхарам тых мясцін, а грунтоўнае параўнанне польскай пісьмовай і простанароднай мовы з гістарычным вывадам з друкаваных кніг, рукапісаў і розных пісаных актаў магло б быць вельмі карысным, пажаданым і прыдатным для ўмацавання няўстойлівага зараз правапісу.

Між іншым пры ўстанаўленні правапісу, які так нялёгка абдумаць, трэба дбаць і пра карані слоў. Як, напр., у крывіцкім дыялекце пісаць *вос*, калі ў наступных склонах вымаўляецца

*воза, возу*? або *вёс* (wiozł), калі ёсць *весьці, везу*; або *парацъ*, калі ёсць *парадзіць, параджу*? Напэўна, лепей пісаць *воз, вёз, парадзь*, хоць на канцы і вымаўляецца *с* і *ць*. Як пісаць *каня*, калі ў назоўным склоне *конь*? Як пісаць *калóм* (ад *кол*) і *кóлом* (ад кола калёснага), хоць іх адрознівае націск? Як пісаць *калі* і *каля* (koło — прыназоўнік), *калі* (kiedy — саюз) і *калі* (kół — дзеяслоў)? Як, нарэшце, пазначыць: *гараць* (orać) *гараць* (palą się), *ганіцца* (gonić się), *гóніцца* (goni się) або *п'яная піва*, што вымаўляецца памылкова замест *п'яное піво*. Трэба было б нават выпраўляць і рэгуляваць такія розныя спосабы вымаўлення, устанавіць правілы і прытрымлівацца іх, а астатняе лічыць памылкамі. Гэта немагчыма і не трэба рабіць у невялікім зборніку песень. Таму я стараўся, не ўваходзячы ні ў які разгляд правапісу, які можа ўстанавіцца, пісаць амаль цалкам так, як вымаўляецца. Гэта сыры матэрыял для развагі будучага граматыста, які, шырэй агледзеўшы асаблівасці гэтага дыялекту, можа абдумаць якія-небудзь грунтоўныя правілы. І хоць той правапіс самы дасканалы, у якім як вымаўляюць, так і пішуць, аднак паколькі немагчыма, каб які-небудзь з правапісаў прыйшоў да гэтай дасканаласці, то чым болей будучы граматыст здолее ашчаджаць вымаўленне на пісьме і бліжэй да яго дастасавацца, тым большая будзе як яго праца, так і заслуга.

Немалазначнай рэччу ў кожнай мове з'яўляецца яе напеўнасць, або працягласць, тым больш там, дзе, як у крывіцкай (дактылічным дыялекце), сам акцэнт вызначае часта розніцу ў значэнні, напр. *каня* (птушка kania) і *каня* (konia) *сыры* — surowy (у фізічным значэнні) і *сыры* — sery, *лугу* — łaki і *лугу* — ługu для мыцця бялізны, *гадзіна* — godzina і *гадзіна* — gadzina. Ёсць словы, якія пасля перамены галоснага інакш акцэнтуюцца, напр. *пóкуль*, *пакуль* — póki, *леты* і *лета* — lata (назоўнік), *дóчкі* і *дачка* — córka. Многія трохскладовыя словы з'яўляюцца чыстымі дактылямі. Пры такой разнастайнасці націску, не ведаючы, як яго захаваць, я пазначыў знакам (—) доўгія галосныя там, дзе вымаўленне супярэчыць польскаму[17]; там жа, дзе акцэнт робіцца на передапошні склад, як у польскай мове, гэтыя знакі не падаюцца. Іншыя галосныя, асабліва пасля прастаўленага знака, — кароткія.

Націск у нас, калі гаварыць пра паэзію, з'яўляецца яшчэ дагэтуль нейкай другараднай рэччу, і хоць пачалі па ўзору сатыр Апалінскага[18] і князьнінскага перакладу Асіяна[19] пісаць нерыфмаваныя вершы, аднак яны зусім не метрычныя, бо, змяшчаючы ў сабе толькі пэўную колькасць складоў розных памераў пры

захаванай цэзуры, яны хутчэй могуць назвацца колькаснымі. Таму націск варты куды большай увагі не толькі ў адносінах да крывіцкай, але і польскай мовы.

Хоць у перакладзе сялянскіх песенек я і ўжыў метрычныя вершы, самым неабходным чынам патрэбныя для музыкі, і толькі з прычыны гэтай метрычнасці вызваляўся часта ад дзвюх рыфмаў на чатыры кароткія радкі, якія можна лічыць і двума 12- або 14-складовымі, аднак не пахвалюся, каб мог з сапраўднай лёгкасцю ўладаць ямбічным памерам, які сёння асабліва пашыраны ў музыцы. Няцяжкім ён здаецца з выгляду, бо досыць пачаць верш трохскладовым словам, а потым класці нашы звычайныя харэічныя двухскладовыя, аднак для падобнага некаторага прымусу, каб ён не выглядаў сапраўдным прымусам, трэба быць дасведчаным з дзяцінства, так сказаць, свайго пяснярства, каб і мова не была прыспешана і памер дасканала захаваны. І барані божа, каб не ўжываліся ў песні гэтыя самыя празаічныя też, zaś, więc, by, gdyby, jest, są і не менш дрэнныя, калі яны без патрэбы, ten, ta, to або штосьці падобнае, чым памер павінен надтачвацца, або выраз дзеля яго павярнуць, каб утварыўся харэй ці ямб.

То няхай маладыя песняры загадзя вучацца пісаць метрычныя вершы, пазнаюць добра мелодыку сваёй мовы, засвояць памеры грэчаскіх і лацінскіх вершаў, навучацца хоць крыху музыцы для разумення таго, як ўзгадніць яе са словамі, і толькі тады яны могуць быць ўпэўнены, што памеры напеўнасці мовы паводле іх схільнасці паплывуць як прыроджаныя, з іх грудзей, ажыўленых пачуццём, знікнуць усякія хібы і няроўнасці ў мове, з'явяцца самыя выдатныя галосныя, і там, дзе будуць сапраўды патрэбныя, і іх песня пад музыку будзе самай цудоўнай і няспыннай гармоніяй. Нішто без намаганняў і ўмельства не становіцца чалавечай натурай, а калі што стала натурай, перастае быць штучным мастацтвам, якое пад сваю цёмную, чужую і няпэўную назву артыстычнасці, артыстызму, артыстыцызму, артызму намагаецца сёння падцягнуць усё і хоча, дагаджаючы ў сваіх творах толькі фантазіі, абавязкова ўзяць перавагу над тым, што з'яўляецца маральным, карысным і сумленным.

Крывіцкім песенькам, здаецца, больш уласціва колькасць 7, 9 і 11 або таксама 8, 12 і 13 складоў, што аднастайна ідуць адзін за адным, як больш адпаведная сумным і сур'ёзным танам. Тыя песні, якія маюць па 8 і 6 складоў, што чаргуюцца паміж сабою, адпаведных ужо больш жывому і вясёламу тону, здаецца, паходзяць з Украіны ці Мазоўша або з'яўляюцца наследаваннем

тамашніх песень. Харавы голас павінен пры спяванні расцягваць склады паводле свайго жадання, таму часцей за ўсё здараецца, што радкі ў адной і той жа песні маюць розную іх колькасць.

Як кожная мова, чым менш яна апрацавана і звязана правіламі, тым больш падатлівая да вершаскладання, так і крывіцкая. Паэт не меў бы тут клопату з колькасцю складоў: ёсць самыя паслужлівыя *да, дый, дэй, ды, дэ, дык*, якія азначаюць, што і польскае *a*, напр., a moja ty miła! — *да мая ты мілая!* Самыя паслужлівыя, бо іх можна тры разы без патрэбы дабаўляць у адным радку; *ужо, ідзе, у дому* і ўсе словы, пры якіх ёсць прыназоўнік *у*, можна вымаўляць на адзін склад меней або болей. Мала дбаецца пры гэтым пра рыфмы, і кожная, якая надарыцца, пойдзе ў справу. Гэта ж цікавае *да*, што мае столькі варыянтаў, часта злучае з сабою старажытнае j, след якога застаўся яшчэ і ў польскай мове ў словах dzisiaj, wczoraj, indziej, а Рэем[20] некалі асобна далучалася і да іншых слоў як нейкае прыдыханне ці паўната вуснаў пры вымаўленні.

Хоць за дакладнасць запісу песень магу паручыцца, бо і тыя асобы, якія мелі ласку іх збіраць, ведалі крывіцкую мову і я, маючы часам па некалькі экземпляраў адной песні, мог бы адразу заўважыць недакладнасць напісання якога-небудзь слова, аднак не ведаю, чаму амаль усюды пісалі *чы* замест *ці*, прычым, наадварот, гэта *ці* замест *чы* многімі з нас, а менавіта пажылымі людзьмі, ужываецца і ў польскай мове. Магчыма, што прызвычаеныя да польскай мовы вясковыя дзяўчаты, якія служаць па дамах, дзе лепей размаўляюць па-польску, дыктавалі сваім паненкам і паням *чы* замесі *ці*, або таксама іх ужываюць і сяляне. На гэта трэба звярнуць увагу ў песнях і іх жывой мове.

Для пазнання крывіцкай мовы добра было б паслухаць хатнія размовы сялян, але гэта нялёгка зрабіць апранутаму ў сурдут, хіба калі б пераапрануцца ў сярмягу і пад выглядам селяніна з чужога маёнтка пайсці на вечарынку або ў карчму. Але больш прыстойным спосабам навучыцца мове і зрабіць адносна яе назіранні быў бы той, калі б хто заняўся слуханнем паданняў і іх дакладным запісам, папярэдне навучыўшыся майстэрству хуткага пісьма, бо гэта літаратура, што засталася спрадвеку ў памяці сялян, дагэтуль зусім яшчэ не кранутая. Гэта быў бы моўны скарб куды багацейшы, чым кароценькія песенькі, у якіх сустракаюцца часцей за ўсё толькі любоўныя словы і няма выразаў, што малююць іншыя пачуцці і ўяўленні. Скупая гэта мова і неачэсаная, бедная назоўнікамі і ўсімі выразамі, звязанымі

з разумовымі паняццямі, аднак, як і кожная, яна павінна абавязкова мець свае асаблівасці і арыгінальнасць.

Не магу без нейкага мілага ўзрушэння прыгадаць забытыя паданні, якія я чуў і ведаў у дзіцячыя гады. Часта ў іх змяшчаецца цудоўная мараль. Ідзе, напрыклад, нехта ў зачараваны замак і знаходзіць на дарозе рыбу, якая дарэмна намагаецца ўскочыць у раку; рыба просіць нейкай прынятай у гэтых выпадках формулай дапамагчы ёй; ён дапамагае, а другі ў гэтай просьбе адмаўляў. Бачыць ён далей перакуленага жука, які не можа ўстаць, бачыць рака, які просіць дапамогі; усім ён дапамагае, а за тое яны, адчараваныя, ператварыўшыся у людзей, дапамагаюць яму ўвайсці ў замак, калі іншыя, што адмаўлялі ў ратунку, дамагчыся гэтага не могуць. Трэці брат, які звычайна малюецца ў казках дурнем, сядзіць у кажушку за печчу, заўсёды больш набожны за двух разумных братоў. Тыя купляюць коней, набываюць дарагія ўборы і едуць па каралеўну, што сядзіць на шкляной гарэ, а гэты, як яны паехалі, ідзе на бацькоўскую магілу, моліцца і плача, а бацька яму гаворыць: «Ідзі туды і туды і знойдзеш каня і ўсё ўбранне з медзі.» Ідзе ён, свіснуў; выскаквае медны конь, на якім ён імчыцца на гару. Усіх здзіўляе гэты рыцар; ніхто не ўз’ехаў так высока, як ён. Тое ж паўтараецца з сярэбраным канём і залатым, на якім ён ужо дасягае каралеўны. Паміж дванаццаццю разбойнікамі заўсёды ёсць якая-небудзь жанчына, маці або жонка аднаго з іх, якая дае паратунак і дапамагае ўцячы захопленым імі падарожным.

Я ўжо рабіў невялікія намаганні збіраць казкі, ды ніхто іх у нас яшчэ не цэніць і не аказвае плённай дапамогі, а сам я пры кепскім здароўі і такой абыякавасці да гэтых твораў народнай фантазіі і помнікаў старажытнасці не здолеў дагэтуль заняцца гэтай мілай і карыснай для айчыннай літаратуры працай. Таму тыя, хто мае больш магчымасцей для збірання названых казак і энергіі для выканання гэтай працы, маглі б не без славы і карысці заняцца гэтай пакрыўджанай літаратурай, якая, як і песні, была некалі супольнай для продкаў паноў і беднякоў, пакуль нашчадкі першых, навучыўшыся чытаць на розных мовах, не пачалі бавіцца байкамі, якія ім баюць аўтары аповесцей усякага гатунку і фасону.

Няхай іншыя мацнейшым і больш чутным галасам заахвоцяць да шанавання і збірання сялянскіх ці, хутчэй, народных аповесцей і паэтычных твораў: з мяне хопіць таго, што аддаю гэты зборнік песень чытачам на іх прыхільную і чулую ўвагу.

Не дазваляючы сабе прыемнасці пералічыць высакародных паненак і некалькіх паняў, якія ласкава падрыхтавалі для мяне зборнік сялянскіх песень, укажу тут, прынамсі, месца, адкуль тыя песні паходзяць. Можа, у далёкай будучыні ў каго-небудзь з'явіцца цікавасць даведацца, ці не спяваюць у тых жа самых месцах тыя ж самыя песні; то няхай яму будзе вядома, што месцам збірання перакладзеных мною 126 песень, змешчаных у першай і другой кніжачках, з'яўляюцца амаль выключна Стокі паблізу Нёмана, дзе адна маладая і прыстойная дзяўчына Бася, пасля жонка Мацейкі, прадыктавала ў 1834 г. гэтыя песні і болей яшчэ не перакладзеных; некаторыя з гэтага ліку паходзяць таксама з Беліцы, Новагарадовіч і Еленкі. 194 песні з-над Дзвіны, якія змяшчаюцца ў другой і трэцяй кніжачках, паходзяць з Лепеля, Жарцэніц, Камароўшчыны, Казімірава, Гарадзянца, Завідзіч, Быхава, Пасялявінскага Забалоцця і другога, якое завуць Мнішацкім, Зазер'я, Варон'я, Бабыніч, усё гэта з Лепельскага павета; нямала таксама з-пад Куранца Завілейскага павета, з-пад мястэчка Беразіна, з Негарэлага і Халопеніч Барысаўскага павета. У чацвёртай і пятай кніжачках песні з-над Нёмана паходзяць, як ужо сказана, са Шчорсаў, Праслічкі, Далматаўшчыны, а некаторыя з Лаўрышава, праслаўленага ў гісторыі Літвы князем Лаўрашам, ці Рамунтам Трайдэнавічам[21]. 26 песень з-над ніжняга Дняпра спяваюцца ў Ліпавецкім павеце[22]: некаторыя з іх я атрымаў ад простага салдата, адтуль родам, а астатнія ад аднаго шаноўнага ксяндза, які знаходзіўся там у маладосці. Нягледзячы на мае старанні атрымаць песні з-над верхняга Дняпра, г. зн. з Магілёва, Рагачова або Оршы, дастаць я іх не мог; таму захапілі мяне песні надднястроўскія, некалькі дзесяткаў якіх, перакладзеных з надрукаваных у Львове першакрыніц, знаходзіцца ў пятай кніжачцы майго збору[23].

Мяркуючы па 400 з лішнім песень, сабраных над Нёманам, і 557 — над Дзвіной, пра ўплыў польскай, рускай і ўкраінскай моў на крывіцкую, можна было б сказаць, што гэты ўплыў большы на наднёманскі дыялект, чым на наддзвінскі. І сапраўды, наддзвінскі край не мае пастаяннага кватаравання войск, і ён больш аддалены ад Мазоўша і Украіны, чым наднёманскі. У Наваградскім павеце хлопцы з ахвотай пераймаюць рускія песні ад салдат, і ад гэтых песень ужо грымяць палі, як, напрыклад, у Шчорсах, калі едуць у начное з коньмі, а часам там можна пачуць іх і з вуснаў жанчын у час жніва або адгукаюцца ў спяванні дваровых парабчанак, якія часам прыносяць у вёскі таксама польскую песню, па-свойму перарobленую. Дзеля таго ў гэтым

сціплым зборніку я змясціў больш песень абрадавых, жніўных і нават некалькі такіх, што спяваюць над калыскаю дзіцяці, бо яны, несумненна, мясцовыя.

Прыказкі, сабраныя мною, амаль усе я прыпомніў, бо чуў іх у дзіцячыя гады; былі пашыраны яны і сярод шляхты. Не маючы іх многа, я не мог размясціць іх інакш, як у алфавітным парадку, каб нават аблегчыць каму-небудзь, хто хацеў бы займацца іх памнажэннем, спосаб іх алфавітнага збірання, а пасля больш сістэматычнага ўкладання паводле зместу. Я не мог таксама параўнаць іх з якімі-небудзь дагэтуль выдадзенымі прыказкамі на іншых славянскіх дыялектах, не маючы пад рукой кніжак, якія іх змяшчаюць. Усё гэта застаецца каму-небудзь больш дзейнаму і шчасліваму, пра якога, дай божа, каб я калі-небудзь даведаўся.

У нас няма апісання абрадаў і ігрышчаў у нашай правінцыі, апрача аднаго, наколькі ведаю, вяселля у Барысаўскім павеце, апісанага ў «Tygodniku Wileńskim» за 1819 г.[24] Няма апісання хатняга жыцця, беднага начыння і страў, якімі харчуюцца нашы сяляне. Столькі сёння выходзіць кухонных кніжак, якія вучаць празмернасцям і вытанчанасці; няхай бы даведаліся, чым сілкуюцца мільёны людзей, каб мець уяўленне пра сапраўдныя айчынныя стравы і іх назвы, так многа запазычыўшы іх з французскіх кухань. Варта нават зрабіць калекцыю сялянскага хлеба, які спажываецца ў розных месцах і порах года: здзівіла б яна нашчадкаў і была б больш карыснай навукай для сучаснікаў, чым калекцыя каштоўных мінералаў. Калі б хто хацеў і ўмеў, мог бы бясконца скрасіць сабе жыццё на вёсцы, займаючыся збіраннем карысных, цікавых і пажаданых звестак пра ўсё гэта. Сёння кожны шкадуе, чаму Длугаш або Стрыйкоўскі[25], нашы хрaністы, не сабралі песень і паданняў народа, пра якія толькі мімаходам упамінаюць; будуць некалі, праз колькі вякоў пасля нас, шкадаваць і больш слушна папракаць сённяшнія часы, калі мы не збяром рупліва гэтых помнікаў і не перададзім патомкам: бо хоць просты народ — гэта верны і не вельмі зменлівы хавальнік мясцовых нораваў і звычаяў, аднак і ён з поступам цывілізацыі або нават са зменай адносін у краіне павінен перайначыцца і не можа зберагчы ў чысціні карціну жыцця, што праходзіць у гэтай юдолі; аднак любяць нашчадкі аглядаць аблічча сваіх прадзедаў; захавайма ж іх для іхняй чуллівасці і, пагасшы, яшчэ абудзім у іх сэрцах большую прыхільнасць да цяперашняга веку і памяць аб ім.

Іншыя дыялекты славянскага паходжання больш шчаслівыя, бо нават такія, як, напрыклад, краінскі, краацкі і далмацкі, кож-

ны з якіх паасобку не налічвае і трохсот тысяч жыхароў, што гавораць на ім, паводле сведчання Ліндэ, маюць свае граматыкі і слоўнікі, прычым 1584, 1595 і 1670 гг. Тут наадварот, крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва, не мае нічога болей, апрача катэхізіса, выдадзенага нядаўна ў Віленскай епархіяльнай друкарні[26], якога бачыць мне, аднак, не здарылася. Менавіта цяпер пара адплаціць за гэта занядбанне мінулых вякоў і ўзяцца за ўкладанне граматыкі і слоўніка крывіцкага дыялекту, калі ён, за невялікімі выключэннямі, яшчэ ў поўнай чысціні; бо хоць бы хацелі калі вучыць сялян іншаму дыялекту, яны не зразумеюць яго дастаткова, не маючы тэрмінаў гэтага іншага, выкладзеных на сваім уласным дыялекце. Цудоўная гэта была б работа для сельскіх ксяндзоў і паместнай шляхты, што мае хоць якую адукацыю. Хоць складанне добрага слоўніка і граматыкі патрабавала б ведаў і здольнасцей Кнапскіх[27], Капчынскіх і Ліндэ, аднак маючы пратораную імі дарогу, наследаванне ім было б не такім цяжкім, як гэта каму-небудзь здавалася б, а той, хто ўзяў бы на сябе гэту працу, заслужыў бы ўдзячнасць не толькі цяперашняга пакалення, але і больш пэўную ў будучым, бо калі мы рады бачыць рэшткі кельцкай або герульскай мовы, што засталіся ў дакументах, можа, калі-небудзь будзе абуджаць такую ж і непустую цікавасць помнік крывіцкага дыялекту, які, трэба сумнявацца, каб сам стаў пісьмовым і развіваўся самастойна.

Даручаючы гэту маю працу добразычлівай прыхільнасці чытачоў, чулых да лёсу сялян чалавечых сэрцаў і ласкавай увазе даследчыкаў славяншчыны, малю цябе, Божа, каб ты таксама, як даў мне час і магчымасць для яе завяршэння, меў ласку і благаславіць!

***Пісаў 23 красавіка 1845 г. у Бортніках***[28]

## ЗЫЧЛІВАЯ ЗАЎВАГА ДЛЯ ЭТЫМОЛАГАЎ

Не будучы ні вучоным, ні лінгвістам, з нясмеласцю выказваю я гэту заўвагу, бо вельмі шчыра жадаю, каб славянскія пісьменнікі, што любяць усё сваё і часам залішне ім выхваляюцца, усё ж умелі трымацца ў межах звычайнай сціпласці і гэтым заслужылі яшчэ большы гонар і прыхільнасць у іншых старэйшых народаў…

Гэту заўвагу для этымолагаў, якая кранаецца занадта смелага меркавання, нібы ўсе еўрапейскія мовы паходзяць са славянскай,

і неміласэрнага анатамізавання слоў, выклікала прачытаная мною колькі гадоў назад каштоўная праца пана Ракавецкага[1] «Гістарычны нарыс утварэння і станаўлення славянскай і польскай моў», што змешчана ў II томе выдадзенай у Варшаве ў 1822 г. «Рускай праўды», ці законаў В.К.Яраслава[2]. Хто хоча больш грунтоўна пазнаць сваю мову, павінен гэту працу абавязкова прачытаць, а калі яму час і ўзрост дазволяць, глыбока ў яе ўнікнуць. Я прачытаў яе не так: яна патрабуе больш пільнага, неаднаразовага чытання. Аднак жа свае, хоць, можа, і не зусім спелыя заўвагі, якія тады ў мяне ўзніклі, я асмельваюся з вышэй выказаным намерам выкласці тут, дзе даецца магчымасць пазнаёміцца этымолагам з крывіцкай мовай.

Дзіўным мне здаецца прэтэнцыёзнае сцверджанне, што славянская мова — гэта матка грэчаскай, лацінскай і многіх іншых моў, амаль усіх еўрапейскіх. Славянам, якія цяпер становяцца ўсё больш магутнымі, не цяжка знайсці нават саміх грэкаў, якія возьмуцца выводзіць грэчаскую мову са славянскай — гэтак жа, як бедныя з ахвотай прызнаюць сваяцтва з багатымі. Але навошта такія надуманыя высновы? Мы людзі, а значыць, радня. Чалавечая мова, як чалавечыя пачуцці і патрэбы, і неба, і зямля — усюды падобныя, адсюль і падобнасць слоў. Аднак грэкі, якія яшчэ задоўга да таго, як славяне сталі вядомыя ў Еўропе, мелі ўжо свайго Гамера, не павінны былі б так паспешліва прызнаваць, што яны паходзяць ад славян, як мы калісьці прызнавалі, што паходзім ад рымлян і Бог ведае ад каго, абы толькі давесці, што не ад сваіх продкаў. Некаторыя мяркуюць, што сёння ўжо сапраўдных грэкаў няма; хоць, вядома ж, сцвярджаць гэта катэгарычна не могуць. Крыху пярэчыць гэтаму радаводу моў знаўца многіх іх Самуэль Багуміл Ліндэ ў «Правілах этымалогіі», надрукаваных у «Rocznikach przyjaciół nauk», т. 14, 1807 г., і потым у «Słowniku języka polskiego», т. 1, дзе кажа: «Гарачнасць у пошуках падабенства тых ці іншых гукаў, без увагі на значэнне і кантэкст слова, прыводзіла да смешных высноў Дэмбалецкага[3], Пікульскага[4], Хмялеўскага[5], з якіх асабліва першы, убіўшы сабе ў галаву, што ўсе ўсходнія і заходнія мовы бяруць пачатак ад славянскіх; *Атэны* са славянскага *утэні*, па-нашаму *вучэнне*, *Абель* ад *убыл*, *Пілеус* ад *пільнуе ушу* па-баламуцку выводзяць». Зусім інакш вучыць Ліндэ ў параграфе 78: «Грунтоўнае веданне этымалогіі аберагае ад паспешлівасці тых, хто, схапіўшы нейкае падабенства якога-небудзь з нашых слоў да лацінскага, нямецкага і г. д. тут жа ахрышчваюць яго нямецкім, лацінскім».

Гэта ж самая заўвага павінна перасцерагчы і тых, хто грэчаскія, лацінскія і іншых народаў словы ахрышчваюць славянскімі. Як мы бачым, дзе больш высокая цывілізацыя, там і скарбніца мовы, з якой бяруць іншыя, меней цывілізаваныя народы. Грэкі і рымляне не былі меней цывілізаванымі за славян; яны не маглі быць даўжнікамі славян: наадварот, славяне запазычылі ў іх не адно вынаходніцтва і ідэю, не адно слова — як маладзейшыя ў старэйшых, як у сваіх папярэднікаў. Болей крытыкуе асобных этымолагаў князь Аляксандр Сапега[6] ў сваіх нарысах падарожжа па славянскіх краінах, называючы гэтых этымолагаў шалёнымі.

Вядома, пытанне гэта патрабуе глыбокага даследавання, не толькі з пункту гледжання этымалогіі, але і гісторыі; толькі прыватным здаецца занадта гучны загаловак Matvis slavicae filia[7] erudita vulgua graeca atc., які даў сваёй працы прафесар грэчаскай мовы Грэгож Данкоўскі (Powszechny Pamiętnik nauk i umiejętności, Kraków, 1835, t. II.). Хоць у любой замілаванасці, а значыць, і ў замілаванні славяншчынай, нельга абысціся без перабольшанняў і выдумак, аднак трэба было б у гэтай высакароднай схільнасці кіравацца прыроджанай і многа разоў апрабаванай стрыманасцю славян і не выстаўляць сябе стваральнікамі мовы Дэмасфена[8] і Цыцэрона[9], якіх яшчэ на сённяшні дзень мы не здолелі добра перакласці…

## НЕКАТОРЫЯ КРЫВІЦКІЯ ІДЫЁМЫ (УЛАСНАНАЗВЫ) З НАВАГРАДСКАГА ПАВЕТА, А ТАКСАМА АСОБНЫЯ СЛОВЫ, ШТО РОЗНЯЦЦА ПА ЗНАЧЭННІ СА СЛОВАМІ ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ МОЎ

### А[1]

*Ачкірэ ў поле[2]!* — вокліч, пры дапамозе якога гоняць авечак.

*Ачуняць* — выздаравець.

*Адперазаць* — скінуць пояс; *падперазаць* — падпаясаць.

*Ага* — так. Па-санскрыцку[3]: *ага* — пасля гэтага, *аго* — о, так.

*Агоўтацца* — ацярпецца, прывыкнуць цярпець прыніжэнне, крыкі, вымовы. *Ён ужо агоўтаўся* — ён ужо прызвычаіўся, прыцярпеўся.

*Але* — не толькі ўжываецца як супрацiўны злучнік, але мае яшчэ значэнне — так, ага, напр.: *Ці здароў ты? — Але, здароў…*

*Аржаны хлеб* — жытні хлеб, ржаны хлеб. Але гэта слова не ад рускага *рожь* і не ад польскага reż, што выйшла з ужытку, а толькі ад *жыта*. У сармацкай мове[4] rez (reż) мела значэнне — рыс. У старажытнай польскай мове так называлі любое збожжа, жыта… Расійскае — *ржаный*.

*Асалавець* — здурнець, быць у нейкім зацьменні розуму, напр., ад слабасці, п'янства, трывогі.

*Аселіца* — паша каля дамашняй сядзібы.

*Асьмак* — грош, *асьмакі* — грошы. У польскай мове ośmak — васьмігадовы алень, лічба 8, васьмёрка. Польскі ośmak (па-літоўску — гэта просты польскі грош і дзве манеткі) — восем грошаў, або 9, стары *урт* (Кнапскі, у «Слоўніку» Ліндэ). Дудзінскі[5] ж у 1776 г. піша, што *урт* — гэта манета коштам 2 злотыя.

*Асмычыны* — пакулле, больш грубая частка перацёртага на *церніцы* лёну, што пасля вытрэпвання падае на зямлю; яна, гэтая частка, яшчэ горшая за *зрэб'е*. Osmyk па-польску азначае ў паляўнічых заечы хвост; *асмыкнуць лісце* — значыць, абарваць (па-крывіцку — *ашморгаць*). Гл. «Слоўнік» Ліндэ.

*Астрыжань, стрыжань* — сярэдзіна дрэва, якая пад *абалонаю* найцвярдзейшая; без яе сарцавіна пульхная, наздраватая. Чэшскае — strźeń, stren, расійскае — *стержень* (Ліндэ).

*Астрыжонак* — кавалак дрэва, абсечаны з абодвух канцоў, кругляк.

*Ашаламуціць* — адурыць словам ці ўдарам, абаламуціць.

*Ашушкацца* — адзецца вельмі цёпла, у многа адзежын.

*Ата́рыца* — прысевак слугі ў полі гаспадара. Ліндэ, пішучы слова otara, якое выйшла з ужытку, прыводзіць фразу з выдадзенай у 1785 г. у Бердычаве працы Ю. Таржэўскага «Размова пра ўмельства вырабу шкла» (т. 1): «фунт паташу дасць табе 2 зл., не лічачы атары». Што гэта азначае, аўтар не тлумачыць; але можна меркаваць, што гэтым словам абазначаецца нейкі прыбытак, мо тая ж *атарыца*.

*Авонь!* — Вунь там, *авось*, вось тут. Расійскае *авось* — можа, *либо* — альбо.

*Азярод*. — Два круглякі, якія называюць *рашэціны*, вышынёй у некалькі сажняў, убітыя каля гумна таксама на некалькі сажняў у зямлю, паўлокця адна ад другой, з пракручанымі наскрозь дзіркамі, куды закладаюцца жэрдзі, між якімі засоўваюць летам недасушаныя снапы збожжа для дасушкі. Такая вялізная

драбіна называецца *азяродам* і *пераплотам*. Іх можна ўбачыць у лясістых мясцовасцях, у бязлесных жа іх не відаць.

*Ажно* — ага, аднак; *а ўжо ж* — канечне, сапраўды.

## Б

*Бацвінне* — гатунак буракоў (бурачнік). Лісце і самыя карані, якія называюцца *буракі* (borrago — па-латыні), і ёсць разам *бацвінне*. З яго робіцца *боршч* — кіславатая страва…

*Бахтурыць* — забіваць каму-небудзь галаву бязглуздзіцай, вярзці глупства. *Набахтурыў яму галаву* — набіў галаву бязглуздзіцай.

*Балабаніць* — бубнець пры размове каму-небудзь у вушы. Балабан — слаўны дом балабанаў пры Львоўшчыне. Балабанскі — юнацкі. Расійскае: *балабан* — канюк, falko leury, самая малая драпежная птушка («Слоўнік» Ліндэ).

*Балабушка* — невялікая акруглая булачка.

*Балазе* — абы. *Балазе нам Бог быў ласкаў* — Абы нам Бог быў ласкавы.

*Блейка* — гульня з ножыкам у Шчорсах; названа так ад таго, што той, хто прайграе, вымушаны *бляяць*. Расійскае — *блеять*.

*Бонда* — булка; а ў Шчорсах і Любчы так называюць быдла; за Нясвіжам жа, г. зн. за якіх дзве мілі адгэтуль — *гавяда*, а на Піншчыне — *статак*.

*Борзда, барзджэй* — хутка, хутчэй. Ёсць у польскай мове barzo і barzdo. Ліндэ, прыводзячы Кляновіча[6]: «Хто хоча быць скорым і *борзабагатым*, тут жа страціць ўсё», тлумачыць слова борзабагаты, як barzdo bogaty (вельмі багаты), не ведаючы, напэўна, што борза, ці борзда азначае не вельмі, а хутка; хіба толькі ў падляскай назове[7] каля Любліна, дзе пісаў Кляновіч, гэтае слова азначае вельмі.

*Бразнуць* — ударыць чым-небудзь аб што-небудзь. *Чаравічкам бразне*. Расійскае — *бряцать, брякнуть*.

*Брэдун* — той, хто вярзе абы-што. Па-санскрыцку — bhreda, wreda — стары. Расійскае — *бредить, бред*…

*Бросьнь* — плесня; *броснець* — плеснявець, заброснець — заплеснявець… Гаворыцца: *сажаўка заброснела* — г. зн. — пакрылася плесняй; *дзяжа заброснела* — г. зн. — заплеснявела, зацвіла; *квас броснее* — квас плеснявее.

*Бусел* — бацян. Царкоўнае — *бусел*.

*Брыда* — паскудніца, паскуднік, паскуда. Ужываецца ўсюды як лёгкае ўшчуванне, нават у адносінах да дзяцей і не мае нічога

агульнага са словам *брыдніца*, якое азначае ў Ліндэ брыдкую, абрыдлівую жанчыну.

## Ц

*Ціхень, ціхінь* — невялікі гром. *Выйшаў ціхінь* — загрымела. Гэта слова наводзіць на аналогію з другім выразам сялян: у час пажару замест *гарыць* кажуць *мокне*. Або ўзяць грэчаскія эўменіды — слова азначае: ласкавыя панны. Хоць гэта найжахлівейшыя страшыдлы. І яшчэ — кажуць: самкнуў павекі замест памёр. *Ціхіня* — таксама азначае спакойны чалавек, які не ўмее пастаяць за сябе: *не ўмее адважыцца*.

*Цікаваць* — пільна сачыць за кім-небудзь.

*Цюкаць* — паволі таўчы што-небудзь, слабенька секчы. *Цюк, цюк* — удары, напр., сякеры. *Ані цюк* — аніяк. Расійскае — *тюкать*…

*Цівун* — гуменны, вартаўнік гумна… Па-расійску — *тиун*, павятовы суддзя, валасны чыноўнік. Былі некалі віленскія і трокскія *цівуны* і ў Жмудскім княстве[8]: тыя былі вышэйшыя за земскіх чыноўнікаў, жмудскі ж мог вырашаць справы межавання — абавязкі падкаморыя (Ліндэ).

*Цкаваць* — напускаць сабак.

*Цьмакаць, чвакаць* — есці марудна, цмокаць губамі. Па-краінску[9] — zmakam, па-расійску — *чавкать*.

*Цьмян, цьмяны* — цемнаваты (пра хлеб). Як відаць, паходзіць ад *цьма* — цемра. Царкоўнае: *тьма* — значыць 10 тысяч. Чэшскае — *тьма*, славацкае — *тьма, тьмавост*, расійскае — *тьма*; усюды гэтае слова азначае — цемра, тлум.

*Цымбур* — сцябло. Ліндэ слова *цымбуры* (у множным ліку), якое быццам выйшла з ужытку, растлумачвае як — повязі, кайданы, прыводзячы прыклады з Андрэя Каханоўскага[10]: «*сілай разарваўшы цымбуры, пайду цёмнай ноччу*», і Гурніцкага[11]: «*ужо вязняў у цымбурах вядуць».*

## Ч

*Частакол* — плот. Ліндэ, прыводзячы слова частакол з Троца, зазначае, што яно выйшла з ўжытку.

*Чашуйка* — радок нітак у клубку. Расійскае *чешуйка* — памяншальнае ад *чэшуя* (луска).

*Чурацца* — саромецца паказаць вочы, пазбягаць каго-небудзь.

*Чужапанец* — падданы іншага пана. Ліндэ прыводзіць слова: cudzopański, але назоўніка не дае.

## Д

*Дадзець* — надакучыць, *дадзяваю* — надакучаю.

*Доржын* — квадратнае альбо прамавугольнае месца паміж хлявамі для жывёлы, не пакрытае страхою.

*Доўбня, даўбешка* — булава, булаўка; называюць так яшчэ нязграбную, непаваротлівую дзяўчыну.

*Драбясцё* — тонкія жэрдзі пад саломай страхі, прымацаваныя да так званых *ключоў павязкамі* — лазовымі вілкамі. У Ліндэ ёсць drab і drabie — вялікая драбіна ў возе. І гэта *драбясцё* належыць да роду драбін, бо нагадвае пад страхой драбіны.

*Дрывотня* — месца на дварэ, дзе сякуць дровы. Ліндэ прыводзіць з Влодка[12] drewnik, drewutnia; Дудзінскі не прызнае ўжыванне *дрывотні* замест worzyska.

*Дубас* — вялікі і тупы нож. Расійскае *дубас* — гатунак доўгіх сукенак у сялянак, што фарбуюць дубовым лісцем; дубовае карыта, воднае судна. У «Слоўніку» Ліндэ *дубас* — сярэдняе судна на 8, 10 — да 14 чалавек, якое бярэ да 20 лаштаў[13].

*Дуля, дулька* — грушкі, якія называюцца ў Літве па-крывіцку дулямі; польскае gdula — таксама з роду ігруш, а gdula ziemna — азначае лясную рэпу, грыб свінушку. Чэшскае gdula — айва. Сербское dula — тое ж самае. Польскае dulka азначае калок на кромцы для кожнага з плытагонаў — паміж гэтымі калкамі кладуць вёслы, калі іх няма — робяць (Ліндэ). Расійскае *дуля* — грушка.

*Дурэц* — зелле, якое дурманіць, верагодна, дурман (byosciamus).

*Дырда* — асоба вялікага росту, называецца так з насмешкай. У «Слоўніку» Ліндэ *дырда* — духоўная асоба з грубымі і непрыстойнымі паводзінамі…

*Дырдзіцца* — здыхаць: *каб ты здырдзіўся* — каб ты здох…

*Дзякло* — даніна ў выглядзе збожжа, якую, апрача паншчыны і чыншу, даюць сяляне памешчыку. Адсюль — *дзякельны*. Тое, што ў Польшчы называюць pomocne (Чацкі[14]). Ліндэ, змяшчаючы ў «Слоўніку» абодва гэтыя словы, зрабіў з *дзякла* — назоўніка ніякага роду — *дзякел*, мужчынскага роду — відаць, яго ўвяла ў зман змена склона гэтага слова ў множным ліку: dziakłów, ужытае Стрыйкоўскім[15].

*Дзеля* — для; *дзеля гэтага* — для гэтага…

*Дзяркач* — сцёрты венік, які выйшаў з ужытку. *Дзяркач* — так называюць яшчэ птушку… Як назва птушкі ёсць і ў іншых славянскіх мовах.

*Дзяруга* (*дзяружка* — кажуць над Дзвіной) — пакрывала на пасцелі; коўдра: *дзяружка шаўковая*. Расійск. — *дерюга, дерюжина*. Робіцца з ваўнянай тканіны альбо з канаплі…

*Дзыгун* — пэўны танец.

*Дзындзыкі* — карчомная музыка: *дзындзыкі-брындзыкі*. У «Слоўніку» Ліндэ dźyndzyk азначае — званок, кутасік; з пагардай — канец носа.

## Г

*Галець* — бяднець; *згалець* — збяднець: ад *голы, галота*. *Галетнік* — бедны гаспадар, гаворыцца з пэўнай здзеклівасцю.

*Галіна*… Зборнае — *галлё, галле*. Гаворыцца *галіна* таксама як лаянка…

*Галамоўза* — завецца так растрапаная, нерасчэсаная дзяўчына.

*Гаратніца* — гаворыцца са спагадай: бедная, з горам. *Адчыніся, сястра гаратніца.*

*Гаравацъ, гароваць* (параўнай нямецкае harren, hart) — узмоцнена, бесперапынку, цяжка працаваць (Ліндэ). *Гора гараваць* — працаваць у нядолі. Можа, паходзіць ад *гараць, араць?* Адсюль — *аратай*… *Гарапашнік* — бядак, гаворыцца са спачуваннем, а не так, як *галетнік*.

*Гэтта, гэта, а ось гэта*… Расійск. — это.

*Гладыш* — гаршчок для малака… *Гладыш* — яшчэ назва блакітнай кветкі. Расійск. *гладыш* (простанароднае) — моцны мужчына. У польскай мове gładysz — стройны, галантны чалавек, які клапоціцца пра прыгажосць свайго цела; gładyszka — прыгожая, белагаловая дзяўчына (Ліндэ).

*Глум, глуміць, зглуміць, заглуміць*. Так мы гаворым у Літве, у «Слоўніку» Ліндэ гэтага слова няма. Яно азначае — здзекавацца з каго-небудзь, крыўдзіць каго, нявечыць, словам, кепска з кім альбо з чым абыходзіцца; *глум* — псаванне, нішчэнне, здзек. Расійскае *глумить* — жартаваць, *глум* — жарт, насмешка. Царкоўнае *глумище* — відовішча, *глумлячися* — думаць, разважаць. Гэта слова прыняло ў нас дзіўнае значэнне адносна становішча жыхароў.

*Глузды* — кемлівасць. *Ці маеш ты глузды?* — Ці кемлівы ты? *Страціў глузды* — страціў прытомнасць. *Бязглузды* —

дурны. *Разглуздацца* — апомніцца, перадумаць, вярнуцца да прытомнасці. Расійск. *глуз* — куточак у воку.

*Годзе, годзя* — досыць. Ліндэ неўжыванае слова hody адносіць да выклічнікаў і звяртае ўвагу на выклічнік hej! З прыведзеных ім прыкладаў відаць, што ён не так зразумеў значэнне слова hody, якое азначае не што іншае, як крывіцкае *годзе*…

*Грымнуць* — упасці. *Што там грымнула?* — Што там упала? Расійск. *греметь* — грымець.

*Груба*. — Была гэта яшчэ 30 гадоў таму досыць распаўсюджаная па маёнтках і хлебапякарнях печ у адрозненне ад іншай печы, якая называлася шведская. Пад гэтай печчу, складзенай з цэглы, часта і кафлі, была тая *груба*, накшталт ямы ці паўкруглага лёху з адтулінай у сенцы, у якую клаліся дровы, і, калі яны спальваліся, закрывалі гэтую грубу драўлянай засланкай альбо бляхай. Не было ў хаце *чаду*, але не было і цяпла. Пачалі ставіць замест *груб* шведскія печы, і *грубы* зніклі. Па-польску gruba — дол, лёх, зямлянка для захоўвання раслін, гародніны, збожжа; лёх, дзе капаюць руду. Нямецкае die Grube — лёх (Ліндэ).

*Губіца* — так мы называем у Літве сцяну. Але ў Ліндэ ні *сцяны* ў гэтым значэнні, ні *губіцы* няма. Гэта аснова пражы на палатно, якое і мераецца на *губіцы* — па даўжыні. Звычайна аснова робіцца каля сцяны: на калках, набітых на двух, аддаленых адна ад адной жардзінах, і снуецца пража маткамі. Кажуць: *выткала пяць губіц* — выткала пяць сцен, г. зн. даўжынёй, роўнай пяці сценам маленькіх вясковых хатак.

*Гудзіць* — ганіць, абгаворваць. *Гудзіць дзецюкоў* — ганіць, абгаворваць хлопцаў; *адгудзана дзевачка* (у гаворцы наддзвінскай) — дзяўчына, ад якой адмовіўся хлопец з-за нагавораў на яе; *разгудзіць* — адраіць, адгаварыць. У палянска-ўкраінскай мове — *гудыты*. Расійскае *гудить* — пілікаць, іграць; *гудеть* — звучать, брынкаць.

*Гутарка* — размова, гаворка, пагалоска. *Гутарыць* — размаўляць. Расійскае *гутор* — размова; *гуторить* — размаўляць, балбатаць.

*Гузыр* — канец снапа, процілеглы каласам, камель… *Гузыр* кажуць часам і ў адносінах да дрэва, замест слова камель.

## Я

*Ятроўка* — братава жонка: двух братоў жонкі завуць адна адну *ятроўкамі*. Санскрыцкае jatra і jantra — братавая.

Царкоўнае — *ятров*. Расійскае — *ятровь*. У Наваградскім павеце ёсць памесце з прыгожай назвай — *Ятра*…

К

*Клець* — так называецца ў Лепельскім павеце свіронак (слова *свіронак* бытуе ў Наваградскім павеце). Царкоўнае — *клець*, чэшскае — *клець* — клетка, краацкае[16] klet — піўніца… Слова гэта ўжываецца ў польскім перакладзе «Літоўскага статута».

*Калі* — у судовых прыгаворах, перапісаных у 1501 г., *калі* значыцца з тым жа значэннем… Расійскае старое — *коли*.

*Каліва, каліўка* — зерне чаго-небудзь, дробнае зярнятка, напрык., маку. *Ані каліва жыта* — зусім няма жыта. Ёсць і *зярно* — ужываецца, калі гавораць пра зерне збожжа; *каліва* ж ужываецца ў спалучэнні зерня і расліны: *узышло два каліва бобу. Ані каліўца няма на градзе…*

*Каратаць* — ужываецца ў выразе: *каратаць век свой* — праганяць свой век, сваё жыццё. Расійскае — *коротать* — скарачаць.

*Каромісла* — рычажок, лукавідны, на якім з абодвух канцоў пачэплены *пачопкі* — таксама рычажкі з кручкамі, на якія вешаюцца па вядру з вадой, каб несці на плячах.

*Казулька* — наземнае, прытым прыгожае насякомае, напр., карычневае з белымі крапінкамі, якое мы завём *божая кароўка*, альбо які-небудзь прыгожы жучок; у той жа час *прусака* (яго ў маёнтках называюць persak) і *таракана*, якія гнездзяцца ў вялікай колькасці па хатах, не называюць казулькамі… Расійскае *козуля*, у Сібіры азначае *сарна*.

*Кажан* — лятучая мыш. Называюць *кажаном* таксама чалавека малога росту альбо дзіця, якое кепска расце, нэндзнае. Ліндэ прыводзіць кс. Дудзінскага, які, жывучы ў Літве, прымушае ўжываць гэта слова замест nietoperz; Ліндэ далучае да яго падобнае па гучанні расійскае слова *казан* — кацёл, і змяшчае ўсё гэта пад словам: *казаць*.

*Клёк* — жыццёвая сіла ў зерні. *Няма ў зерні клёку* — няма ў зерні сілы; казалі так у 1844 г. па нязмерна дажджлівым леце.

*Кіндзюк* — страўнік у жывёлы…

*Каляды* — свята божага нараджэння. *Каляда* — увасабленне гэтага свята.

*Кашута* — лускавінка на целе пасля знікнення якой-небудзь высыпкі. Расійскае — *кошута*, краацкае — koszuta, koshuta,

краінскае і вендыйскае[17] — koshûta, славонскае[18] — koshuta, усё гэта азначае — лань, ланіца (Ліндэ).

*Коўзацца* — слізгацца па чым-небудзь вільготным. *Пакаўзнуцца* — паслізнуцца, напр., з гары…

*Кудаса* — завея, замяць. Расійскае — *куд*, *кудес* — чорт, злы дух, вызыванне духаў.

*Кудзірка* — лясок, маленькі гаёк у полі. *Гэна там пад кудзіркаю* — кажуць так у Хотаве, у Мінскім павеце. Можа, ад *кудзерак*, што лясок — кучаравы, ці што ён выглядае, як *кудзерка* сярод поля.

*Кукса* — сціснуты кулак для штурхання каго-небудзь, рука калекі без пальцаў… Месца, прызначанае для шахты, дзеліцца на 128 частак, якія завуцца *куксамі*. *Куксаць каго* — значыць штурхаць каго локцем, баксаваць.

*Кулага* — зацірка, поліўка з зацёртымі мукой малымі клёцкамі; слова *зацерка*, якая ў Літве абазначае гэта слова, назоўнік адзіночнага ліку, у Ліндэ пазначаецца як малая дошчачка з ручкай — гэтай дошчачкай маляр зацірае сцяну, столь альбо карніз. Расійскае *кулага* — жытняе цеста.

*Купала* — святаянскае свята. Расійскае *купало* — азначае тое ж самае.

## Л

*Лаханька*. — Так мы кажам у Літве — *лаханька*. Гэта — гліняная міска. Ліндэ з мытнай Літоўскай інструкцыі прыводзіць словы: miedzi w łachankach kamień і робіць з гэтага назоўнік мужчынскага роду łachanek, не растлумачваючы, што ён азначае. Ёсць яшчэ крывіцкае слова *лаханы* — чорныя ягады, намнога большыя за баравыя чарніцы, растуць у нізкіх вільготных месцах па лесе, імхах альбо ў зарасніках, часцей за ўсё сярод расліны, якая завецца *багун*; ён мае моцны пах, які дурманіць, і таму лічаць, што лаханы выклікаюць галаўны боль у таго, хто іх есць. Расійскае *лохань, лоханка* — азначае начынне для лугу.

*Ляўша* — леварукі…

*Лёстачкі* — нейкія пяшчоты для выманьвання чаго-небудзь. Можа, родасны расійскаму *лесть* альбо польскаму неўжыванаму lostować — лашчыць, забаўляцца, раскашаваць…

*Луста* — добры акраец хлеба.

## М

*Махляр* — ашуканец, *махлярка* — ашуканка. Відаць, паходзіць ад нямецкага makler, якога Апалінскі ў сатыры X кнігі 5 называе machler: «Махляры, што дзеля невялікага набытку і пана прададуць». *Махляваць* — падманваць. Кляновіч піша: przemachlowałeś rzeczy. У Ліндэ: machlować — жульнічаць, хлусіць, мяшаць рэчы і справы.

*Магарыч* — гадавая плата слугам. Расійскае простанароднае *магарич* — барыш, прыбытак.

*Маланка* — бліскавіца. Над Дзвіной — Маланка, Маланачка — ласкальнае імя Маланні…

*Маракаваць* — нудзіцца, наракаць. *Каб пані не маракавала, што я доўга забавіўся*. Кажуць яшчэ так: *ат, трошка маракуе* — пра тых, хто мала чаго ўмее ці разумее. Расійскае *мороковать* — прамармытваць што-небудзь чужой мовай, што-небудзь казаць.

*Маркач* — баран-самец.

*Мазэпа* (і мужчынскага, і жаночага роду) — гэтым словам абзываюць нязграбнага, няпаваротлівага, нават неахайнага. Ужываецца таксама ў значэнні — страшыдла.

*Мякіна* — тое, што застаецца ад адвеянага жыта; ужываецца толькі ў адзіночным ліку… *Хлеб з мякінаю*. Як відаць з хронікі Бельскага, такі хлеб ядуць крывічане з незапомных часоў. Вось як ён піша пра 1390 год: «нашы гэты літоўскі хлеб з мякінаю і асцюкамі напалову елі». Было гэта пад Гародняй (выданне «Хронікі» 1764 г., стар. 235).

*Мінушкі* — зёлкі, з якіх робяць вяночкі і свенцяць іх па касцёлах на свята Божага Цела; растуць пры ручаях. Можа, так названы таму, што, як думаюць, ад абкурвання імі *мінаюць* чары…

*Мізены палец* — самы меншы палец рук і ног. Царкоўнае — *мизинец*…

*Мізыпярэсніца* — род лішаёвай высыпкі паміж пальцамі…

*Матуз* — вузел, толькі неяк мацней завязаны, чым звычайны вузел…

*Мурог, мурожнае сена* — самае лепшае сена з сухіх лугоў…

*Мурза* (мужчынскага ці жаночага роду) — неахайны. *Мурзаты* — чорны, брудны. *Умурзацца* — запэцкацца…

## Н

*Набрыняць* — набухаць (пра зерне).

*Нагавіцы* (толькі ў множным ліку) — споднікі. Славацкае, чэшскае, вендыйскае, краінскае, босненскае[19], рагузанскае[20],

далмацкае[21] і польскае nohawice, nogawica — азначае ўсюды панчоха, а ў нядаўнім часе ў польскай мове пачалі называць так адну калашыну шараварaў… (глядзі «Слоўнік» Ліндэ пад словам noga). *Калоша* — гэта, можа, таксама літоўскі правінцыялізм? У Ліндэ гэтага слова няма, а ў нас ён азначае яшчэ і халявы.

*Наметка* — галаўны ўбор замужняй жанчыны-крывічанкі, накшталт тых, якія мы бачым на індыйскіх статуях. Кавалак белага палатна, які накрываецца на галаву і часткова на твар; канцы спадаюць на плечы. Сёння пачынае выходзіць у маладых з моды, бо яны ўсё часцей замест гэтага надзяюць на галаву шапачкі, альбо каптурыкі, ці завязваюць на чапцы хусткі. Расійскае *намётка* — латка, завала (у дзвярах), *намётывать* — фастрыгаваць, абкідаць, абкідваць (пятліцы). У іншых славянскіх назовах і польскіх namiot і namiotek маюць значэнне палатна, шацёр, толькі не ўбор (глядзі Ліндэ).

*Нарог, нарогі* — жалезныя наканечнікі ў сахі, якія крояць скібы, барозны зямлі. Ліндэ бярэ слова narog як неўжываны і прыводзіць Стрыйкоўскага, які яго ўжыў, і рукапісныя нататкі Каменскага[22], які зазначае, што гэта «жалезныя сашнікі, якімі акуты канцы вілаў і сахі».

*Нарокам* — наўмысне, жартам. *Я сказаў нарокам* — я сказаў жартам, наўмысне. *Ні сядзі, Тацянка, бокам, гэта табе ні знарокам*. — Не сядзі, Тацянка, бокам — бо гэта табе не жарты («Вяселле у Барысаўскім павеце…», Tugodnik Wileński, 1819, т. VII, стар. 97)…

*Натрусам*. — Кажам у Літве: *натрусам мерыць* — не патрэсваючы меркі. Расійскае (старое) *в натруску* — злёгку, *натруска* — рассыпванне злёгку. У «Слоўніку» Ліндэ ёсць толькі слова natrząsać, сербскае — natruschani. І слова кс. Скаргі[23]: dobrą miarą odmierzy ci bóg natkaną natrzęsioną i opływającą.

*Наўда* (гаворыцца іранічна). *Вялікая наўда* — вялікая справа! *Гэта не наўда* — гэта не новая, а звычайная справа! *Наўда* — па-літоўску манета: глядзі ў «Гісторыі Літвы» Нарбута.

*Назаліць* — дакучыць, давесці да злосці. Расійскае *назола*, *назойливость*.

*Ніцма* — тварам да зямлі. *Упаў ніцма* — упаў тварам на зямлю. Царкоўнае — *ниц, ницы, ничком*. Па-польску — nica, nic, nice — азначае левы бок сукні…

*Нягода* — непагода, супрацьлеглае слову: *пагода*.

*Нялюцка* — неахайная, брудная… Ужываецца ў Шчорсах.

*Нямашака* — няма. Гаворыцца і *нямаш, няма*. Наогул, слова *мець* асабліва мае схільнасць мяняцца ў крывічан: мае цяперашні

час абвеснага ладу: *маю*, прошлы час: *меў*. Падобная змена ёсць у марлацкай назове: majesz widne czelo (Аляксандр Сапега, Падарожжы па славянскіх краінах у 1802 і 1803 г., выдадзена ў 1811).

*Ненаглядна* — прыгожая і мілая, на якую нельга наглядзецца. *А мая ж ты ненаглядна!..*

*Нявістны* — сляпы. Відаць, гэта простанароднае, хоць пачуў яго ад шляхцянкі; у Ліндэ яго няма.

*Нуткала!* — Ну ж! Гаворадь, калі падахвочваюць падняць цяжар. Расійскае — *нутко*.

## П

*Пачынак* — некалькі *ручаек* (глядзі пад літарай Р — *ручайка*), звітых на адно верацяно. Кажуць: *такі вуж, як пачынак* — г. зн. такі тоўсты, як *пачынак*.

*Падлызнік, падлызніца*[24] — падлізнік, падлізніца, ці ліслівец, лісліўка. Расійскае *подлыгать* — памагаць лгаць, облыгать — чарніць, абмаўляць. Чэшскае — aulisnik aulisnicza — ліслівец, лісліўка. Польскае — leź, царкоўнае і расійскае — *ложь, лжа*…

*Падсусед, падсуседка, падсуседзі. У падсуседзях сядзеў* — жыў у чужым доме.

*Падвярэдзіцца* — падарвацца пры падыманні чаго-небудзь; тут чуецца старaславянскае слова *вред*…

*Палохацца* — пужацца, *палохаць* — страшыць. *Перапалох*. Ёсць і *пужаць, пужацца*…

*Палуйка* — жменя выцертага ці зусім ачышчанага ільну. 10 палуек называецца дзесятак, а 20 — павесма.

*Папар* — зямля, якая пасля збору збожжа ляжыць аблогам, каб пасля ізноў быць засеянай. *Папарны*… У нас тут *папар* разумеюць толькі ў адным значэнні — як зямля, якую ўгнойваюць, некалькі разоў пераворваюць, барануюць і даюць вылежацца без засеву…

*Паскрэбушка, паскрэбачка* — астатняя булачка хлеба, спечаная з выскрабенага ў дзяжы цеста, найчасцей для малых дзяцей, ад маткі для ўцехі. Польскае poskrobek выйшла з ужытку, расійскае — *поскребок, поскребышек*…

*Пашупіцца* — пашанцаваць. *Пашупілася яму* — яму пашанцавала.

*Патароча* — дзіўна апранутая. *Села, як патароча* — села, як нейкае дзіва, нахохлілася, каб звярнуць на сябе ўвагу. Цяжка гэтаму слову знайсці якое-небудзь адпаведнае, бо азначае разам нешта прэтэнцыёзнае, дзівацкае і дурное.

*Пэцкаль* — паскудны, неахайны. *Пэцкацца*, *упэцкацца*, *запэцкацца* — забрудзіцца. Яшчэ *пэцкацца* — значыць, абы як рабіць работу, нязграбна. Здаецца, слова гэтае ўжываецца не толькі ў памешчыцкіх пякарнях, але і па вёсках. Расійскае — *пачкать*.

*Пераймо* — узнагарода таму, хто знайшоў і аддаў уладальніку якую-небудзь рэч. *Пярэймы* — сустрэча чалавекам, які пайшоў карацейшай дарогай, таго, каго хоча дагнаць.

*Пераплот* — тое ж, што і *азярод* (глядзі пад літарай А).

*Поцесь* — род *прасніцы*, таксама крывіцкае слова…

*Покуць* — першая ў хаце месца ў куце, процілеглае дзвярам. Быў у ідалапаклонстве бажок *Покуць*, статуэтка якога якраз там ставілася. *Сеў на покуці*.

*Потрахі* — унутранасці жывёл. Пра мала вартага чалавека кажуць: *не варт таго і з потрахамі*. У санскрыцкай мове *потрах* — азначае сын. Расійскае — *потрох*. Ліндэ прыводзіць гэта слова як неўжыванае цяпер у тым жа значэнні, а таксама як гатунак маку, які сам адкрываецца і рассыпаецца. У Літве па-крывіцку гэты мак называецца *відук*…

*Пошасць* — якаясь напасць, божае насланнё, нечым падобнае на *заразу*, слова, якое таксама ёсць у крывіцкай мове. *Такая ўжо пошасць. Ліхая пошасць*.

*Прочкі* — уцёкі, патаемнае блуканне. *Пайсці ўпрочкі* — пайсці патаемна з вёскі ў свет. Сяляне некалі часта так хадзілі, хаты іх заставаліся тады *пусткамі*, а палі — *пустошамі*.

*Протар* — кавалак дроту альбо пруток, уваткнуты ў хлеб ці ў мяса, каб каго-небудзь загубіць; так робяць часам злачынцы альбо тыя, хто хоча пазбыцца ад куслівага суседскага сабакі. Расійскае *протор* — выдатак, кошт працэсу: мусіць, гэта ўжо аджылае слова ці яно ўжываецца толькі ў простанароддзі.

*Прынада* — тое, чым прынаджваюць. *Прынадзіць* — заманіць. *Перанадзіць* — аднадзіць ад каго да сябе. *Унадзіцца*. Чэшскае — wnaditi, prywnaditi, wnada, у тым жа значэнні (Ліндэ).

*Пуховы* (*пушон* — у Лепельскім павеце). Часцей за ўсё ўжываецца пры вызначэнні хлеба з мякінай — *пуховы*, але і падушкі. Расійскае *пуховы*, як і польскае puchowy — азначае толькі тое, што зроблена з птушынага *пуху*; у крывічан жа слова гэта стала вызначэннем хлеба з асцюкамі.

*Пуга* — кароткі сялянскі біч і доўгі пастухоўскі. *Пужка* — бічык. Відаць, паходзіць ад *пужаць*. Расійскае *пуга* — шырэйшы канец яйка; *пушка* — гармата.

*Пустаграк* — ні да чаго не здатны чалавек ці нават непатрэбнае начынне; самахвал, пустамеля (*грак* — птушка).

*Пыпэць* — якая-небудзь нарасць, у тым ліку і на людскім целе. Кажуць: *малы, як пыпэць — пухір! Пыпэць* — чырвоная скура ў індыка на дзюбе; яшчэ, гэтак жа, як і ў польскай мове, азначае хваробу на языку свойскага птаства.

*Пыпніць* — рабіць што-небудзь вельмі павольна, нядбала. У польскай мове на Літве кажуць: at coś pypni — а, рабі што-небудзь!..

## Р

*Рахманы* — прыручаны, лагодны. *Рахманы сабака, кот, конь*. У «Слоўніку» Ліндэ ёсць rochmany — паходзіць з арабскага rahman — нядзікі, ласкавы, прыручаны (рукапіс Чартарыйскага[25]). Ужывалі гэта слова: Гурніцкі, Скарга, Вацлаў Патоцкі[26] і Пільхоўскі[27].

*Радзюга, радзюжка* — нешта выцертае, дзе відаць рады нітак, напрыклад, у сукне; гаворыцца таксама пра кепскае сукно ці адзенне. Кажуць часам з пагардай і на якога чалавека: *радзюга*. Што значыць — прастак, сярмяжнік. Так кажуць і на дробнага шляхціца, калі хочуць яго зняважыць.

*Рагатаць* — вельмі голасна смяяцца. *Заходзіцца, заязджаецца рагочучы* — заходзіцца ад смеху. Ёсць і *рогат*. Краацкае regotanie — кваканне, хрыпаты водгалас, рогат, чэшскае rehotati — стракатаць (пра сарок), rehotám (пра жаб), сербскае rägotasch (пра сарок і жаб). Ліндэ.

*Рашка* — драўлянае начынне для злівання чаго-небудзь, часам з адной ручкай, без вушак. Польскае raszka — від птушак.

*Разбазыраць* — распусціцца: пра свавольнага і непаслухмянага.

*Раздабары* — даўгія размовы. *Раздабарываць* — размаўляць пра што-небудзь…

*Рэз* — прыкладна паўвалокі шырокай, на загоны два зямлі, якая цягнецца вузкім пасачкам, на чвэрць той шырыні, і яшчэ паўмілі. Гэта не шнур, які з’яўляецца геаметрычнай мерай, роўнай 75 локцям. Варта глыбока паразважаць, ці не вельмі абмяжоўваюць гаспадароў гэтыя шнурочкі пры апрацоўцы глебы? Гэта ж усё маюць і аднолькавую і роўна адлеглую зямлю, але ці кожны можа са збруяй дайсці да сваіх вузенькіх, даўжынёй у палову мілі *палеткаў*, як мы называем?

*Рэзгіні* — абцягнутыя сеткай драўляныя дужкі, у якіх носяць да аборы сена ці салому.

*Разора* — равок, які падзяляе загоны ў полі і грады на агародах… *Баразна* ў крывіцкай назове азначае скібу зямлі, адваленую сахой.

*Рубель* — жардзіна для прыцiскання накладзеных на воз снапоў збажыны альбо сена. Названы *рублём*, напэўна, ад зарубак, якія робяцца на ім, каб не саслізгваў пастронак, які закідваецца на яго для ўціскання воза. Называюць так і манету — *рубель*. Расійскае — *рубель*.

*Ручайка* — пража на верацяне. Слова гэта, відаць, паходзіць ад *рука*…

*Ручай* — вадзяны струмень, плынь… Ліндэ прыводзіць з народнай газеты[28] 1791 г. ручай як слова, што выйшла з ужытку. Патокам у Літве мы называем ваду, што бяжыць толькі ў час раставання снегу, ці тую, што ўтварылася ад дажджу, а ручаём — і гэты паток, і той струмень, што цячэ, як рэчка, вузенькім рэчышчам, але рэчкай не называецца, бо малы. Расійскае — *ручей*.

*Рупіць, рупіцца* — турбавацца. *Руплівы* — клапатлівы, старанны…

*Рынуць* — кінуць, упасці. Гаворыцца ў жалю: *кіну, рыну дый пайду. Рынула званіца*. Краацкае — rjnuti, рагузанскае і баснійскае — rinuti, расійскае — *рынуться*, цакоўнае — *ринуть*, лацінскае — ruere (Ліндэ).

## С, Ш

*Сакатаць* (*сыкатаці* — у Лепельскім павеце) — кудахкаць. *Курыца сакоча*. Курыца ж, якая сядзіць на яйках, — *квохча* і называецца — *квактуха*. Гаворыцца яшчэ: *кудахча*. Пра жанчыну, якая многа гаворыць, кажуць — *сакатуха*, а пра тую, што ўсё бядуе — *квахтуха*. Тое ж самае і пра падобных мужчын —*сакатун, квахтун*.

*Саладуха* — від салодкай стравы, якую яшчэ нядаўна рабілі з жытняга соладу і прадавалі на гарадскіх рынках, напр., у Слуцку. З пракіслай саладухі рабіўся квас.

*Саламаха* — від заціркі. Расійскае — *саламаша*.

*Сарочка* — кашуля…

*Схлусіць* — тое самае, што махляваць.

*Сцябло́* — жардзіна, прымацаваная адным канцом да пячнога слупа, а другім — да процілеглай сцяны ў хаце; для вешання адзення…

*Сцябло́* — сцябло, сцяблінка; дзе-нідзе кажуць: *ашорстак*. Расійскае — *стебель, стебелек*…

*Сцёбаць, асцёбаць* — лупцаваць, адлупцаваць. Расійскае — *стегать, стегнуть*. Па-польску ściebać, naściebać — нанізаць што-небудзь на нітку, напр., пацеркі. Замест гэтых слоў у Літве па-крывіцку кажуць — *нізаць*. Гэтага слова ў «Слоўніку» Ліндэ няма. Ёсць толькі расійскае *низать*.

*Сядрэва* (прыслоўе) — халаднавата.

*Серадольшы* — сярэдні, напр. брат, сястра.

*Сёрбаць, высербаць*… Крывіцкае — сёрбаць ужываецца, калі гаворка ідзе пра якую-небудзь не густую страву, якую ядуць хутка.

*Скалануць* — узбаўтаць, скаламуціць (ваду).

*Скародзіць* — так кажуць на Случчыне пра баранаванне незасеянага поля; калі ж трэба баранаваць засеянае поле, так і гаворыцца — *баранаваць*. У Наваградскім жа павеце пра баранаванне ўсякага поля кажуць аднолькава — *баранаваць*.

*Скуль* — адкуль.

*Скула* — нарыў і косць шчакі.

*Слімазарнік* — нягоднік, *слімазарніца* — нягодніца.

*Смага* — спякота вуснаў ад гарачкі, гарачыні, сухасць на вуснах, белаватая павалока на іх. *Дай вады смагу правесці*.

*Спогадзь* — спагадлівасць, міласэрнасць, паблажлівасць. *Няма ніякай спогадзі*. *Спагадаць* — значыць быць міласэрным, спачуваць каму-небудзь, разумець чые-небудзь пакуты, ведаць чыесьці патрэбы.

*Спрáхціся* — прапасці, здохнуць. *Каб ты спрохся!* — звычайны праклён. Ці не паходзіць ад *прох?*.. Чэшскае — zprachniweti, славацкае — próchnieć (Ліндэ).

*Стопка* — малая хатка; можа быць без печы, для авечак і цялят. Над Дзвіной: *істопка*…

*Суніца* — від ягад; *сунічнік* — сама раслінка (як відаць, зборнае слова).

*Сужынка* (у Лепельскім павеце) — нарачоны, малады. Па сэнсу: той, каго прысудзіў Бог.

*Шабунькі* — жарты, *шабунькаваць* — жартаваць, строіць жарцікі.

*Шах-мах* — гаворыцца, калі нешта вельмі хутка робіцца. Можа, ад яўрэйскага *шахер-махер?*..

*Шэрхнуць. З страху скура шэрхне. Ані шэрхне* — ані парушыцца. *Шархні сахою* — крані зямлю сахою, прайдзі ёю злёгку, правядзі якую лінію…

*Шаўлюга* — злосны конь, стары, спрацаваны, кляча.

*Шула* — слуп з жолабам, у які закладаюцца *бярвёны*, як кажуць па-крывіцку.

*Швэла* — калода таварнага лесу, ачэсаная ў кант. Яшчэ мы яго называем па-крывіцку *брусам*.

*Шыпшына* — палявая і лясная ружа. Расійскае — *шиповник*.

## Т

*Тахляваць* — марнаваць, перапрадаваць, спекуляваць. У Ліндэ tachlować — значыць, мяняць, махляваць, спекуляваць, прытым заўсёды гаворыцца з дакорам, насмешкай.

*Такі* (прыслоўе) — аднак. *Гавары здароў, такі я сваё буду рабіць*. Можа, хто-небудзь скажа: нашто ён уводзіць у свае працы гэты Літоўскі правінцыялізм — *такі*, які, калі яго прачытаць па-польску táki, не толькі не мае ніякага значэння, але і выглядае не вельмі. Сапраўды, у «Слоўніку» Ліндэ займеннік (а не прыслоўе) táki не мае падобнага значэння, якое я хачу надаць сёння гэтаму правінцыялізму.

*Трасца* — малярыйная ліхаманка, дробныя дрыжыкі. Гаворыцца таксама: *трасцу ён мае!* — нічога не мае. *Трасцу возьме* — не возьме. Служыць часта для праклёну. Каб ушанаваць, задобрыць *трасцу*, яе называюць, бывае, цёткай. На Піншчыне завуць яе *шухля*…

*Трыгубіца* — сетка ў тры сцяны на птушак (глядзі пад літарай «Г» *губіца*)…

*Тупіца* — тупая сякера. Расійскае *тупица* — тупая рэч, тупая галава.

*Тузаць* — тармасіць. *Тузацца* — апрача свайго значэння яшчэ: біцца з кім-небудзь, валаводзіцца. *Патузаў за валасы*…

## У

*Учкур* — шнурок, пры дапамозе якога завязваецца на *паясніцы* верх нагавіц, гэтак жа называюцца ўсякія іншыя шнуркі, прызначаныя для збірання фалдаў у адзенні.

*Удубець* — сцвярдзець; гаворыцца таксама пра маладую асобу, якую цяжка выправіць: *ужо ён удубеў, яна ўдубела*, што азначае — загартаваўся, загартавалася ў чымсьці кепскім…

*Угу*, альбо *уу* — так кажуць, не раскрываючы вуснаў, замест сцвярджальнага адказу: так, але, ага, вядома.

*Упын* — стрымліванне каго-небудзь ад чаго-небудзь. *Няма яму ўпыну* — не даць яму рады, не стрымаць. *Упыніць* — стрымаць; *не ўпыніць* — не стрымаць чаго ці каго.

*Услон* — зэдаль; *услончык* (у Лепельскім павеце) — зэдлік.

*Усмятку* (прыслоўе). *Жыта ўсмятку* — недасохлае жыта, *дзерава ўсмятку* — недасушанае дрэва. Называем у Літве правінцыялізм *яйкі ўсмятку* — недаваранaя яйкі.

## В

*Валошка* — васілёк (centurea cyanus). Кажам у Літве *валошка* як больш зразумелае для сябе. Часам хтосьці скажа ўзятае з расійскай *васілёк*.

*Вяток* (у Лепельскім павеце) — маладзік. У «Слоўніку» Ліндэ: wiotch — схіл, знікненне чаго-небудзь…

*Веснікі, весніцы* — вароты.

*Віннік* — вінакур, той, хто гоніць гарэлку на згубных броварах, альбо гарэльнях. Як відаць, гэта назва бярэ пачатак ад *віно*, што значыць у крывіцкай гаворцы — гарэлка; але радавод гэтага слова можна вельмі правільна выводзіць і ад *він…*, бо гэта вялікая віна тых, хто злоўжывае выганкай гарэлкі. У «Слоўніку» Ліндэ winnik азначае памяло, што па-крывіцку мы завём венікам. Абодва гэтыя *віннікі* — уласцівыя для Літвы словы. Некалі плаціла яна імі даніну для лазні, цяпер плаціць намнога большую і ганебнейшую плату, дэмаралізуючы людзей і губячы ўласнае здароўе; усё гэта нібы для брагі і гною па маёнтках… Pędzenie гарэлкі і pędzić — словы гэтыя не ўласцівыя для нас, бо яны азначаюць — перапальванне той гаркоты: звычайна ж у нас кажуць — palić, palenie гарэлкі. Слова wypędzić гарэлку азначае ў нас — выгнаць яе ў броварах, якія хай бы болей адпавядалі сваёй назве і пачалі замест гарэлкі варыць піва, не так шкоднае для здароўя людзей.

*Вырай* — здаецца, не мае нейкага выразнага значэння; ужываецца слова ў такіх выразах: *паляцелі птушкі на вырай* — паляцелі птушкі ў цёплыя краі; *прыляцелі з выраю* — прыляцелі з цёплых краін; *пайшлі на вырай* (іранічна) — пагінулі недзе.

*Высалапіць* — як бы што-небудзь паказаць, выставіць на вочы. *Высалапіць язык* — выставіць язык; *высалапілася, як патароча* — выстраілася, як страшыдла; здаецца, таксама: *высалапіўся мароз* — узмацнеў мароз.

*Выскаліцца* — вышчарыцца, моцна засмяяцца. *Выскаліць зубы. Мароз выскаліўся* — мароз узмацнеў пры пагодзе.

## З, Ж

*Загавайла* — разявака…

*Загла́духа* — прыстойная і гладкая дзяўчына.

*Загне́т* — так пры выпечцы хлеба называецца распаленае ўперадзе печы вуголле, на якое кладзецца некалькі лучынак, каб пасаджаны ў печ хлеб зарумяніўся. Мы завём гэта загнетам.

*Залесціся* — разжыцца на што-небудзь. *Ледзьве залесся я на нарогі* — ледзьве ўзбіўся я на нарогі (гл. пад літарай Н — *нарог*).

*Запіўнік* — сват, які прыязджае дзяўчыну *запіваць* (*заручаць*) — засватаць.

*Запоіны* — заручыны. Таму называюць запоіны, што ў час гэтага абрада п'юць гарэлку да дзяўчыны і да бацькоў. Кажуць часам і *заручыны*. Ні ў водным славянскім назове няма такога характэрнага праяўлення п'янства, як гэтыя нашы *запоіны* (і *дзеўку запіваць*). Іншыя славяне кажуць: zamluwa, sarozbienie, obluba, poroka, oddawki, prst'kowani, zaslubeni, zaruki, zarucenie, vjerenie, обручение, а мы — *запоіны!* А калісьці ж, аднак, і мы, як і іншыя пабрацімы, паказалі лепш: *заручыны*.

*Затаўка* — мы кажам у Літве: zatłuka. Робіцца яна для страў са згатаванага, вынятага з гаршка і з чым-небудзь расцертага сала ўперамешку з крупамі, а часам і без іх, і зноў укінутага ў капусту ці ў іншую страву, для *закрашання*.

*Завіхацца, увіхацца* — кружыцца, хацець што-небудзь хутка рабіць.

*Зазуля, зазулька* — зязюля, зязюлька…

*Здор* — абалонка свінога чэрава, у якую складаецца, соліцца і зашываецца парэзанае на кавалкі сала.

*Злыдні* — нязручныя сані ці калёсы. *Сядзець, як на злыднях*.

*Здзек* — насмешка. *Здзекавацца* — насміхацца…

*Жэўжык* — блазнюк, жвавы малы хлопчык.

*Зябіць* (раллю) — араць на зіму папар, для засеву ў наступным годзе.

*Ззяю* — блішчу, *ззяе, ззяець* — блішчыць. Гаворыцца пра сонца ці пра што-небудзь іншае, што моцна свеціць. Роднаснае царкоўнаму *сиять* і баснійскаму sjatti — блішчаць, свяціць (Ліндэ).

*Жлукта*. Кажам у Літве: zlukto. Гэта драўлянае начынне з адтулінай збоку альбо пад нізам, у якое кладуць забруджаныя хусты ці палатно, сыплюць попел, кідаюць распаленае каменне — робяць *луг*.

*Жменя*… Яшчэ кажам — *прыгарсне чаго*. Прыгаршчы, як тлумачыць Влодэк, — гэта «складзеныя жолабам дзве рукі, каб узяць што-небудзь, напрыклад, пяску»…

*Жуйка, жвачка* — перажоўванне корму. *Жуйку жуе*.

*Жычка* — гэта чырвоная, здаецца, гарусовая, тасёмка, якой завязваюць каўнер у кашулі…

## КРЫВІЦКІЯ ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

### А

1. *Абое — рабое*.

2. *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць*.

3. *А воўку памоўка, а воўк і тут* (калі пра каго гавораць, а ён тут жа прыходзіць).

### Б

4. *Баба з воза — калёсам лягчэй* (пра тых, хто не прымае чыю-небудзь ласку).

5. *Багаты дзівіцца, як худы жывіцца*.

6. *Багаты чы будзем, а галодны не будзем* (так кажуць гасцінныя людзі).

7. *Баючыся воўка, у лес не ісці* (пра тых, хто баіцца якой-небудзь небяспекі).

8. *Блізка відаць, ды далёка дыбаць* (ісці або ехаць дакуль-небудзь).

9. *Блізшая сарочка — як кабат* (гэта нехрысціянскае — prima charitas ab ego — першае каханне ад сябе; веравызнанне язычніцкіх самалюбцаў, эгаістаў. Прымаўка гэта не сялянская, бо сяляне кабатаў не носяць).

10. *Бог высока, пан далёка* (так кажуць пакрыўджаныя мясцовымі панскімі слугамі).

11. *Бога хвалі, чорта не гнявi* (калі трэба дагадзіць абодвум бакам).

12. *Будзе кій, ды не такій* (аб рэчах ці асобах, якіх шкадуюць, калі, яны знікаюць).

13. *Быў конь, ды з’ездзіўся* (пра тых, у каго ўжо няма сілы ці здольнасцяў).

14. *Быў і на кані і пад канём* (пра бывалых людзей).

## Ц

15. *Хоць бяда, то гоц!*

16. *Хоць ты мяне капут, то я не галём* (хоць ты мяне забі, то я не пайду; згадка з 1812 г.; так казалі праваднікі нямецкіх войск, не маючы сіл ісці далей).

17. *Хоць за вала, быле ў дому не была* (пра дачок на выданні).

18. *Хітра, мудра, з невялікім коштам* (шляхецкая прымаўка — гаворыцца, калі што робіцца з невялікім выдаткам).

19. *Хто багат, той мне брат* (так кажуць пра забытую бедную радню).

20. *Хто ціха ходзіць, той густа месіць* (адпаведнае прымаўцы: ціхая вада берагі рве).

21. *Хто пытае, той не блудзіць* (пра дарогу).

22. *Ці даў я табе, бабка, шэляг? — Даў, пане* (гаворыцца пра тых, хто часта прыпамінае каму-небудзь нейкую дробную дабрачыннасць).

23. *Цярпён — спасён*.

24. *Чаго, чорце, ў балоце сядзіш? — Бо прывык* (гаворыцца аб прывычках і паўторных шлюбах).

25. *Чым хата багата, тым рада*.

## Д

26. *Даганяючы не нацалавацца* (гвалтам ласкі не даб'ешся, тых, хто не хоча, не з'яднаеш).

27. *Да пары збан ваду носіць* (некаторыя дадаюць: вушка ўрвецца, збан разаб'ецца).

28. *Дзіця не плача, маці не дагадаецца* (пра тых, што чаго-небудзь хочуць, але маўчаць).

29. *Дзень наш — век наш* (заахвочваючы да ўжывання чаго-небудзь недаўгавечнага).

30. *Дзеткі падраслі — хатку растраслі* (пра пасаг і выдаткі на дарослых дзяцей).

31. *Дзіва што ў караля жонка хараша* (аб людзях, якія могуць вельмі многа, калі нехта здзіўляецца, што яны маюць нешта асаблівае).

## Г

32. *Гадка з'есці, жаль пакінуць* (пра ваганні ў адносінах да чаго-небудзь).

33. *Гаманіць — не баліць* (калі робяць каму-небудзь заўвагі ці лаюць, але не б'юць).

34. *Гаварыў бы каток, ды язык короток* (пра сарамлівых і лісліўцаў, якія не знаходзяць, што сказаць, пра плеткароў).

35. *Гдзе чорт не араў, там сеяць не будзе* (пра немагчымасць здарэння чаго-небудзь ліхога, шкоды з боку якога-небудзь злыдня).

36. *Голы, як біч, востры, як меч.*

37. *Голы разбою не баіцца.*

38. *Госць у дом — Бог у дом.*

39. *Гушча дзяцей не разганяе* (пра густыя стравы).

40. *Як гукнеш, так і адгукнецца* (якое пытанне, такі і адказ).

41. *Як пасцелеш, так і выспішся.*

42. *Як перанацуеш, то больш пачуеш* (калі будзе болей часу для разгадкі чаго-небудзь).

43. *Які б гэта крук, штоб выпусціў з рук* (пра невядомых зладзеяў альбо пра тых, хто нахабна прысвойвае чужыя рэчы).

44. *Язык Кіева дапытаець* (пра тых, хто не ведае дарогі).

45. *Еш, дурню — з макам* (іранічнае — кажуць, калі падахвочваюць каго-небудзь есці).

46. *І з Пракопам, і без Пракопа — то ўсё роўна* (не мае значэння, з кім — са знаёмым ці з раднёй).

47. *І воўк сыты, і козы цэлы* (Апалінскі ў сатыры УП, кн. 5, 1650 г., кажа: «Каб і воўк сыт быў і аўца цэла»).

## К

48. *Кабыла здыхае, а за траву хапае* (пра звычкі саслабелых людзей).

49. *Калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што не дуж.*

50. *Калі не поп, не ўбірайся ў рызы.*

51. *Калі шанцуе, то і Філімон танцуе* (іншыя кажуць замест «Філімон» — «баран»).

52. *Калі вядзецца, то і на трэску прадзецца.*

53. *Калі робіш у купе, не баліць у пупе.*

54. *Калі ест хлеб і вада, то не бяда*, альбо*: калі ест хлеб і вада, то няма галада*; часам яшчэ так: *хлеб і вада: не бяда!*

55. *Кепска, пане Грыгоры — што далей, то горай* (пра ліхія часы).

56. *Кепска ў Мінску, пане Каранеўскі!* (Відаць, шляхецкая і гістарычная).

57. *Круці не круці — трэба ўмярці.*

58. *Купу ў руку.* (Пра ўзяткі, подкупы. Узята ад голасу зязюлі: дзеці, хаваючыся, кажуць адно аднаму: *а купу!* Подкупы патаемныя.).

59. *Купіць не купіць, а патаргавацца можна*.

Л

60. *Любі, як душу, трасі, як грушу* (пра строгасць, якая дыктуецца патрэбай).

61. *Ласкавае цялятка дзве маткі ссе, а гордае — ні адной.*

М

62. *Майстар з Міра, што цяў, то дзіра* (Мір — гэта мястэчка ў Наваградскім павеце, калісьці радзівілаўскае, здаецца, перайшло ад Ілінічаў, з руінамі замка. Некалі славілася таварамі, асабліва футрамі, цяпер заняпала. Відаць, гэта прыказка гістарычная).

63. *Мой мілы пакою, добра мне з табою!*

64. *Мужык дурны, як варона, а хітры, як чорт,* альбо: *як ліс* (відаць шляхецкая, аб сялянах).

Н

65. *На чыём вазку едзеш, таму песеньку спявай*.

66. *Над сіратою — Бог з калітою*.

67. *На дурня і Бог ласкаў* (калі дурному што-небудзь удаецца).

68. *На табе, нябожа, што мне не гожа* (пра абы-якія дарункі…)

69. *На што нам гэтыя пісталеты, калі страляць не ўмеем* (прымаўка, відаць, шляхецкая, а можа, гістарычная; пра такія рэчы, без якіх можна абысціся).

70. *На злодзеі шапка гарыць*.

71. *На ком скрупіцца, на ком змелецца* (калі каму не шанцуе альбо ён болей за іншых церпіць).

72. *Не адзін Гаўрыла ў Полацку* (відаць, тады было распаўсюджана імя Гаўрыла).

73. *Не біўшы кума, не піць піва* (апраўданне тых, хто б’е дзяцей альбо слуг).

74. *Не даў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць* (калі абыходзяцца без чаго-небудзь патрэбнага).

75. *Не фігуруй, Грышачка!* (Адзін шляхціч з Наваградскага павета меў фурмана, які любіў пад’язджаць шумна пад

ганак; гэтымі словамі стрымліваў яго азарт. Можа, гэта паслужыць перасцярогай многім розным Грышачкам, якія любяць пафігураваць.)

76. *Не гэта паны, што грошы маюць, але што Бога знаюць.*

77. *Не кайся, рана ўстаўшы, ні молада ажаніўшыся.*

78. *Няма той хаткі штоб не было звадкі.*

79. *Не плюй у ваду, часам трэба будзе напіцца.*

80. *Не плаціць багаты, плаціць вінаваты.*

81. *Не радзіў мак, перабудзем так.*

82. *Не стрыжана, а голена* (калі не згаджаюцца з якім-небудзь словам).

83. *Не кажы гоц, калі не пераскочыў.*

84. *Не вялікі пан — пералезеш сам* (калі які-небудзь пястун просіць, каб яму памаглі пералезці праз плот, прайсці па кладцы і інш).

85. *Не зажыўшы нэндзы, не мець, пінендзы.*

86. *Ні чытаць, ні пісаць — на ўрад вядуць* (кажа той, хто лічыць сябе да чаго-небудзь няздольным).

87. *Ні куецца, ні плешчыцца* (калі што не ўдаецца). Альбо: *не куецца, то плешчыцца* (калі на каго бяда якая наваліцца).

88. *Ні рыба ні мяса* (пра няўдаліцу, з якога няма ніякага толку, альбо пра чалавека няпэўнага характару).

89. *Ні села ні пала — дай бабе сала* (пра няпэўнасці).

90. *Ні ў пяць ні ў дзевяць* (пра недарэчнасці).

91. *На пахілае дзерава і козы скачуць.*

## П

92. *Паволі едзеш — далёка будзеш* (альбо: далёка станеш).

93. *Перад невадам рыбы не лаві.*

94. *Пярвей Бог стварыў пальцы, як відэльцы* (дакор тым, што ядуць пальцамі, альбо тым, што робяць што-небудзь не вельмі ўмела).

95. *Покуль сонца ўзыдзе, раса выесць вочы* (пра спадзяванне на далёкую дапамогу пры цяперашнім уціску).

96. *Поп сваё, чорт сваё.* Некаторыя дадаюць*: аддай маю малітву* (гаворыцца, калі ў спрэчках не слухаюць добрай парады, заўвагі).

97. *Прыйдзе каза да ваза, будзе сена прасіць.* Некаторыя дадаюць: *а я казу кіем* (пра тых, хто адмаўляе ў просьбе ці не зважае на пагрозу).

98. *Прынясі, божа, госця, то і гаспадар пажывіцца* (пра частаванне госця, якому даюць, што-небудзь смачнейшае).

99. *Прыпомніла баба дзевічвечар*. (Дзевічвечар бывае перад шлюбам. Гаворыцца пра старую, якая прыпамінае падзеі сваёй маладосці, альбо пра тых, хто ўспамінае нешта даўнейшае.)

## С, Ш

100. *Сабака брэша, а дваранін едзе* (калі не зважаюць на абмовы).

101. *З чужой кабылы трэба і ў балоце ссесці*.

102. *Сем сёл, адзін вол — і той гол*. Іншыя кажуць: *сем сёл, адзін вол, а дзесяцьураднікаў* (пра вельмі бедную вёску, дзе няма кім і чым рабіць).

103. *Скажы, уражэ, як пан кажа*. (Аб прыстасаванні да волі мацнейшага. Гэта прымаўка, відаць, украінская, бо паняцця враг, вораг не ведае наша простанароддзе і няма на яго нават слова; сумняваюся, ці выраз «уражэ» разумеюць; прымаўкі гэтай з вуснаў сялян я не чуў — толькі са шляхецкіх.)

104. *Сляпому вечная памяць!* (Пра тых, хто чаго-небудзь шукае, але не знаходзіць, хоць тое, што шукалася, ляжала пад рукой, незаўважанае.)

105. *Славен бубен за гарамі* (калі вельмі што-небудзь ці каго-небудзь далёкага славяць).

106. *З песні слова не выкінуць*.

107. *З прыбытку галава не баліць* (калі каму што-небудзь дастаецца нават болей, чым трэба).

108. *Свая сярмяжка нікому не цяжка*.

109. *Свой свайго пазнаў і на піва пазваў* (пра злых, якія лёгка знюхваюцца, і нават пра тых, што абараняюць каго-небудзь не-прысутнага ад нагавораў).

110. *Сыты галоднаму не спагадае* (пра абыякавых да чужой беднасці ці пакут).

## Ш

111. *Што галава, то розум.*

112. *Шмаруй мужыка салам, а ён дзёгцем смярдзіць* (пра тое, што нібыта селяніна нельга ласкаю схіліць да сябе).

113. *Штобы галава, а шолудзі будуць* (пра тое, як лёгка знайсці слугу ці работніка, калі няма чым заплаціць і накарміць).

114. *Што ўбіў, то ўехаў* (пра тупога каня, ды і чалавека).

115. *Што з воза ўпала, то ўжэ прапала* (пра незваротную страту).

Т

116. *Трэба жыць як набяжыць* (падахвочвае цярпець цяжкасці).

117. *То не банкет, калі прынукі нет* (калі прымушаюць госця яшчэ піць і есці). *Не банкет — прымусу нет* (у гэтым значэнні бытуе сярод шляхты; не ведаю, ці і сяляне так па-старасвецку змушаюць госця).

У

118. *Улез, як у нерад, ні ўзад ні ўперад.*

119. *Усюды добра, а дома лепей.*

120. *У страха вочы вялікія.*

В

121. *Вала з'ядуць, зайца заб'юць* (напэўна, шляхецкая: гаворыцца пра каштоўнае паляванне, якое па сённяшні дзень бывае — толькі хутчэй на бутэльку і шынку, чым на воўка).

122. *Ведаў Бог, што не даў свінні рог.* Некаторыя дадаюць: *бо каб рогі мела, то б і свет перарыла.*

123. *Волас доўгі, ум кароткі* (пра бедных жанчын, якім гэты доўгі волас замяняе вялікі розум).

124. *Воўк дарогу перабег.* (Калі каму пашчасліваць. Некалі людзі, якія захапляліся паляваннем, лічылі за шчасце, калі спаткаюць ваўка і могуць на яго паляваць; наадварот, спатканне зайца нічога не прыносіла).

125. *Воўка ногі кормяць.*

126. *Вывеў воўка з лесу* (пра накліканыя на сябе напасці).

З

127. *За маё жыта мяне набіта* (калі хто за дабро робіць замест падзякі шкоду).

128. *Заплата ў ката, быле душа не была галодна* (кажуць слугі і пасыльныя, што часам і накормленыя добра не бываюць).

129. *Здарылася чарвяку на вяку* (калі нешта малое якому чалавеку ўдалося, а ён гэтым хваліцца).

130. *Знаюць яго, як ліхога шэляга* (пра таго, што ўсё дастае).

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ, ПРЫСТАСАВАНЫЯ ДА СВЯТ

2 лютага. *Грамніца — зімы палавіца.* (На свята Грамнічнай н. п. Марыі, калі свенцяць па касцёлах свечкі, якія завуць грамніцамі).

24 лютага. *На Мацея зіма пацее.* (Аднак не заўсёды, бо найчасцей люты пытае, ці абуты).

У вербную нядзелю, кранаючы каго-небудзь пасвянцонай у касцёле вярбовай галінкай, весела кажуць: *«Не я б'ю — вярба б'е, праз тыдзень — вялікдзень!»*

23 красавіка. *Юр'ева раса — не трэба коням аўса.*

*Май — валам дай і сам на печ уцякай...*

24 чэрвеня. *Перад святым Янам прасіце, дзетачкі, Бога дождж, а па святым Яне я й сам упрашу.* (Так быццам кажа ксёндз парафіянам).

29 чэрвеня. *Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — апала два.*

20 ліпеня. *На Іллю поўну печ наллю* (якраз тады пачынаюць жаць).

24 ліпеня. *Барысе, Барысе, сам бараніся.* (Пачаўшы жніво, некаторыя, не зважаючы часам на свята, працуюць у полі; якраз такой парою бывае гром; набожныя і больш баязлівыя не ідуць тады ў поле, святкуюць той дзень. Адсюль, пэўне, і ўзнікла гэта прымаўка.)

6 жніўня. *Прыйшоў Спас — усяму час.* (У гэта свята садавіна бывае ўжо амаль спелая. Аднак цалкам паспявае недзе каля Зельнай, г. зн. 15 жніўня паводле старога календара.)

24 жніўня. *Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей.*

Летам. *Калі грыбна, то і хлебна* (бо звычайна тады ідуць цёплыя дажджы).

4 снежня. *Святая Барбара ночы ўрвала.* (У разуменні люду ноч меншыцца ад 4 снежня; хаця папраўдзе яна пачынае скарачацца 11–22 гэтага ж месяца.)

6 снежня. *Да Міколы нет дабра ніколі.* (І гэта праўда так; часам нават і да каляд.)

25 снежня. *Коляды, то ён цяпер пан.* (У гэта свята для слуг заканчваецца год іх службы; бываюць так званыя ігрышчы з музыкай і танцамі, на якіх яны ў вёсках і мястэчках развітваюцца з гаспадарамі, а ў іншых прымаюць службу альбо дамаўляюцца служыць далей.)

# АДМЕТНЫЯ ВЫРАЗЫ І ПАРАЎНАННІ, ЯКІЯ МОЖНА АДНЕСЦІ І ДА ПРЫМАВАК

1. *Ані галера няма.* (Галер — гэта была бітая ў Польшчы манета накшталт бітых у Гале (Саксонія) — дэнараў гальскіх; тут застаўся ў выразе, які часам можна пачуць і які азначае: анічога няма.)

2. *Ані вухам не вядзе* (хто не зважае ні на чые перасцярогі ці забароны).

3. *Брэша, як сабака,* альбо: *як сука* (калі пра жанчыну).

4. *Бычок трацячок* (Трохгадовы. Кажуць пра пешчаных дзяцей. Звычайна сялянскіх дзяцей не адвучваюць ад грудзей да 2, а часам і да 3 гадоў).

5. *Цаца, ляля, Байтрусь!* (Таксама пра спешчанае дзіця: гаворыцца іранічна.)

6. *Хаваецца, як сабака ад мух* (калі хто ўхіляецца ад працы).

7. *Хоць яму кол на галаве чашы* (пра непанятлівых і непаслухмяных).

8. *Хоць запалі, то не трэсне* (пра немагчымасць дастаць што-небудзь).

9. *Худы, як хрусцель* (*хрусцель* — птушка).

10. *Цвіце, як макаўка* (пра прыгожую альбо маладую; пра тую, якой добра жывецца замужам).

11. *Дзяцей, як бобу* (калі многа ў каго дзяцей).

12. *Гады ў рады* (вельмі рэдка, часамі. Гаворыцца пра тых, хто рэдка бачыцца ці што-небудзь атрымлівае).

13. *Як курыца сакоча* (пра вельмі гаваркіх).

14. *Як у Бога за пазухаю* (пра тых, хто жыве пад чыёйсьці вельмі клапатлівай апекай: пра поўную бяспеку.

15. *Як воўк мялькнуў хвастом* (калі хто-небудзь ці што-небудзь паказваецца на міг).

16. *Квокча, як курыца* (пра тых, што заўсёды жаліцца ды бурчыць).

17. *Лёстачкамі душу вынімаць* (пра хітрае і лоўкае вымаганне чаго-небудзь на людзях).

18. *Меле языком, як цяля хвастом* (пра балбатуноў).

19. *На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі* (пажаданне нянек і матак).

20. *Накрыўся, як лісіца хвастом*.

21. *На вус матае.*

22. *Ні к Богу, ні к людзям*. Альбо: *Ні к сялу, ні к гораду*.

23. *Ні вала, ні кала* (пра вялікую беднасць).

24. *Пацеха, як ражон* (калі мала ўцехі ад дзяцей ці ад чаго іншага).

25. *Палажыць зубы на паліцу* (кажуць, калі няма хлеба).

26. *Паповыя вочы* (пра хцівых).

27. *Пайшлі ўсе ў камыш* (пра якіх-небудзь праціўнікаў, якія ўцяклі альбо схаваліся. У адным толькі гэтым выразе ўжываецца татарскае слова «камыш», якое азначае — балотны чарот).

28. *Плесці кашалі з лапцямі* (калі хто вярзе абы-што).

29. *Плача, як у дзявічвечар* (пра дзяўчыну, якая плача; кажуць з дакорам за яе залішні, непатрэбны плач).

30. *Працуе, як чорны вол.*

31. *Прыйшоў на няго гіз*. *Гіз* (ocstus) — род авадня, падобнага на сляпня, які летам нападае на жывёлу, ад чаго яна вельмі бегае — *гізуе*. Гэты выраз адсюль ужываецца ў пераносным значэнні і ў адносінах да свавольных.

32. *Распусціўся, як дзядоўская пуга* (пра таго, хто многа сабе дазваляе і не ведае кары).

33. *Сам сабе рад* (пра негасцінных і самалюбцаў, так званых больш вядомых у нашай мове, як эгаістаў).

34. *Сядзіць, як заяц у жыце* (пра тых, хто ўхіляецца ад работы).

35. *Скрывіўся, як серада на пятніцу* (намёк на пост; гаворыцца пра чалавека не ў гуморы, «кіслага»).

36. *Шчабеча, як сарока* (пра балбатуноў).

37. *Вадзіць дзяды* (драмаць на рабоце).

38. *Варочаецца, як мядзведзь* (пра нерухавых).

39. *Высалапілася, як патароча* (пра тых, хто прагне сваімі строямі перагнаць усіх).

40. *Затакаваўся, як цецярук* (пра таго, хто так загаварыцца, што не чуе, што да яго кажуць; альбо пра марудлівых у размове).

## 1. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*15(27) мая 1819 г., Мінск*[1]

Ёсць мажлівасць —
Магу табе ліст накрамзоліць.
Што ж паведаць табе гэты раз?
Ды пісаць доўгі ліст не дазволіць
Мне — запоўнены працаю — час.

Так што апускаю

Увесь расказ аб падарожжы
(У будцы, верх якой з рагожы),
Дзе стрэў я шмат мясцін цудоўных.
Ашмяны… гарадок чароўны!
Дамы славутае Смаргоні,
Якая на сваім улонні
Нямейскіх знаных львоў унукаў[2]
Вучыла танцавым навукам,
Штукарствам, розным там карветам[3] —
Хвала яе універсітэтам!
Праехаў я і Маладэчна —
Шынкаркі гожыя сардэчна
Там узяліся ліст ад Зана
Да брата перадаць, Стафана[4].

Раскажу толькі пра сам Мінск. Але ж якую я зраблю перад літаратарамі справаздачу, калі мушу пісаць коратка? Раскажу пра тутэйшы тэатр. Быў у ім пазаўчора. Ох, якое тут кепскае свяцілішча мае польская Мельпамена! Тэатр такі малы, што партэр з месцам прадстаўніцтва можна б было амаль што змясціць у

віленскай маскараднай зале. Сама сцэна шырынёй не болей пяцішасці локцяў, даўжынёй, сумняваюся, ці была б пры адкрыцці самых далёкіх заслонаў паўтара раза гэтага. Кулісы такія малыя і месца за кулісамі такое шчуплае, што ўсіх актораў нават здалёку ўбачыць можна за гэтымі кулісамі. Ложаў — уверсе і ўнізе — 23. Ніжнія — у самім партэры, толькі адгароджаны; верхнія такой самай вышыні, як у нас ніжнія. Тыя, што сядзяць на галерэі, паблізу столі, мусяць перагінацца праз бар'ер і падсаджваць пад столь галаву, каб можна было што бачыць. Аднак лаўкі ў партэры зусім не кепскія: непараўнальна лепшыя, чым віленскія, якія наўрад ці могуць нават звацца лаўкамі. Але што асаблівае,

Яўрэй у ім свечак запальшчык,
Заслоны заўжды падцягальшчык,
Яўрэй тут разносіць талеркі —
На іх апельсіны, цукеркі.
Ля выйсця — бабуля старая
Тут дзверы сукном затуляе.
У партэр праз іх трэба ракам
Улазіць панам-небаракам.

Апускаю тут апісанне пастаўленай трагедыі пад загалоўкам «Лех, сын Кракуса», — ці то з французскай перакладзенай, ці то ў Мінску народжанай.

Ой, бо Лех —
Аж грэх,
Пустата,
Лухта,
Карчмарства,
Штукарства,
Смешкі,
Пацешкі,
Лехі, Кракі,
Світкі, фракі.
Мнагаслоўе,
Безгалоўе.
Трагедыя,
Камедыя.
Усё недарэчы
Ў беднай той рэчы.
Мешаніна,
Блытаніна.

Ой, Лех,
Аж смех[1].

Пра ігру актораў не хачу нават гаварыць; разглядваннем памяшкання і прыглядваннем за ложамі заняты,

Не прыкладваў намагання,
Каб сачыць за іхнім граннем.
Не хачу іх ні хваліць,
Ні іх гранне тут чарніць.

Але скажу больш-менш падрабязна пра адну актрысу, пра якую з пахвальбой расказваў мне Ануфры[5] і за ігрою якой пагэтаму я сачыў больш уважліва.

То Жукоўская — не знаю,
Хто яе высока ўзнёс:
Хоць яна і не ліхая,
Твар — не наш, гарбаты нос.
Паглядзець — як вугаль, вочы
І каса — чарней ад ночы.
Як дзве дужкі — бровы,
Губкі — пурпуровы:
Ганіць тут не стану!
Ну, а што да стану —
Надта ж ён нязграбны
І, скажу, не вабны.
А ледзь скажа слова —
Робленая мова.
Ах, што за гаворка —
Так сабе акторка.

Але самае важнае — ложы. Я, як нахабнік, прыглядаўся да жанчын. І што ж? Мусіў навіну аглядаць як навіну; паколькі я першы раз у Мінску,

Ішлі ў галаву параўнанні
Да гэтых жа нашых лажастых,
Тут сціплыя болей ва ўбранні,
Не ўбачыш зусім «ларнецястых».
Калі ж паглядзець на іх твары —
У кожным ёсць нейкія чары.
Прывабныя ў цэлым дзяўчынкі,
Румяныя, нібы малінкі.

Якаясь высокая сіла
Іх шчодра, дзяўчат, адарыла
Абліччам узнёслым, чароўным,
Паглядам глыбокім, тактоўным.
Ды штось не такія ў іх вусны
(Хаця не пра іх сёння мова).
І целам з іх кожная тлуста —
Прыкмета, што ўсё-ткі здарова.

Але час, як бачу, канчаць ліст: якраз далі для перапісвання капы дзве папер.

Adie, adie![6].

*Ян*

Заўтра выязджаем у Наваградак.

## 2. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*25 ліпеня (6 жніўня) 1819, Вільня*

Ах, які ж ты добры, Адаме: мне не напісаў пра тое, як заехаў[1], а напісаў Гераніму[2], Гераніму, які не заўсёды жыве цяпер у горадзе і які якраз спаў, калі мы тут круціліся, выпраўляючы цябе ў дарогу, калі, вядома ж, болей мяне, чым яго трывожыла, ці даедзеш ты шчаслівa з тым, каго я даў табе ў праваднікі; калі ад Яна патрабуеш слоўнікі, а Геранім толькі паведамляе гэта Яну. Я быў бы неразумны, калі б за гэта крыўдаваў на цябе альбо па-рамантычнаму зрабіў вывад, што ты забыў таго, да каго не пішаш. Можа, я перабольшваю, як кожны (калі магу мець гонар насіць наданае вамі ж празванне) лютніст і дастаткова, як ведаеш, чулы, а да цябе такі прыязны, але я не магу, калі хочаш ад мяне чуць адкрытую праўду, якая мяне часта губіць, не магу сказаць, каб я не сумаваў ад таго, што ты да мяне не пішаш.

Не ведаю, ці даваў табе калі довады прыязні, якая перарасла ў найчысцейшую, найчулейшую любоў. Можа, ты яе бачыў, калі хацеў бачыць. Сапраўды, я так да цябе прывязаўся, што калі б і ты да мяне нешта падобнае адчуваў, была б з нас надзвычайная пара сяброў.

Былі, аднак, такія часы, калі, гледзячы на Кардыналію[3], ты ўздыхаў, што не было з табою мяне ў Вільні, калі ты ва ўсім горадзе не бачыў больш іншых, акрамя мяне, прыяцеляў, калі адкрываў мне самыя глыбокія, для ўсіх і сёння недаступныя і

мною верна ў сакрэце захаваныя тайнікі твайго сэрца, калі ты прагнуў пісаць мне, выліць у пісьмах усю сваю душу. Усё гэта мінулася, не ведаю чаму. І сорам мне, што не здолеў утрымаць гэтак са мною звязанага сябра, якога і цяпер найчулей люблю. Насталі потым часы, калі, заснаваўшы арганізацыю з незнаёмых мне асоб, мяне паклікаў у кола табою выбраных новых прыяцеляў амаль праз год; не дазволіў мне быць бліжэйшым удзельнікам тваёй славы, іншых да яе ахвотна прылучаючы, а мяне аддаючы іх волі. Не гневае мяне і тое, што ты лічыш іх больш годнымі (хоць кожны больш годны, калі ўжо стаў больш годным), але гэты ўчынак не паказвае ані адкрытасці, ані вялікай прыхільнасці. Не хвалю цябе за тое, што ты баяўся паказаць мне свае творы, хоць я цябе і прасіў. Але і тут не ведаю, як думаць: ці ты недаацэньваў сябе, ці мяне залічаў у надта вялікія геніі, ці, наадварот, лічыў мяне няздольным іх ацаніць? Даруй мне, што так адкрыта выказваюся — можа, цябе ўсё гэта болей раздражняе і абражае, чым схіляе на мой бок.

Можа,

> Лішне нагаварыў я, мо сказаў бесталкова,
> У запале пусціў на паперыну слова.

Ёсць нейкая неадпаведнасць у нашых характарах, ці хутчэй талентах, якая робіцца ўсё больш відавочнай, ці, можа, у натхненні, якога мне з прычыны той розніцы дасталося меней; усё гэта аддаляе нашы сэрцы ад найцуднейшага ў свеце сяброўства, дазваляе толькі мець верную, пастаянную і шчырую прыязнасць, якую таксама можна лічыць на свеце цудам.

Здаецца мне, што я варты прыязнасці. Якую ж я атрымліваю? Вядома, аснова ўсякіх нязгод паміж людзьмі — гэта ўласная карысць. Нягледзячы на тое, што нешчасліваe, як ты ведаеш, у мяне самога і ў маіх бацькоў становішча, гэтага я ніколі не маю на мэце. Усё, што магу, я ахвотна ахвярую сябрам; я ўсё ж не без разважлівасці, сталы, не пазбаўлены таварыскасці і аж праз меру чулы. Пахваліўся і напісаў пра гэта — што ж, хай так і застаецца. Шчыры не тоіць, што пра сябе думае. Той, хто кепска думае і не ў разрэз з перакананнямі іншых, магу сказаць, і сябе не ведае.

Але досыць пра гэта. Хацеў бы табе паведаць што з навін. Але ніякіх няма, а пра выезд нашых Геранім табе пісаў. Выезд твой у Коўна[4] пэўны; калі б, аднак, Чэрскі[5] і не пакінуў ад сябе намесніка альбо рэкамендаванага універсітэт не прыняў, можаш, як казаў Геранім, быць пэўны, што месца ў Вільні будзе.

Што да мяне, то я вельмі многа меў прагулак. Амаль кожны вечар цягаемся з Пясецкім[6] за горад. Зрэшты, вольны час займаюць звычайныя нашы заняткі.

Я ўжо напісаў баладу «Арыён»[7] і амаль што не закончыў «Бекеша».

У цябе, напэўна, ёсць што мне паведаміць. Цікавіць нас могуць усе нашы навагpадскія знаёмыя. У Вільні кола нашых знаёмых, тым болей такіх, якія б былі ў нашай супольнасці, вельмі невялікае.

Не магу пісаць да цябе весела, бо мой гумар цяпер трохі надкіслены; тут я не магу не засмяяцца, бо прыпомніў, што чуў,

Як той наш калега школьны,
Што праз долі сваёй звівы
Сёння ходзіць з вугламерам,
Перакройваючы рэчкі, землі,
А знаў косінусы, сінусы
Ён тады, як альфы, гамы —
Гэты Цыдзік, гнус, няжвавы,
Той, каго мы змалку знаем,
Ажаніўся і, каб хутка
Напладзіць Цыдзікаў племя,
Адным махам аж чацвёра
Выдаў Цыдзічат на свет.

Во якое дзіва!

Гэтымі днямі напішу да Тамаша. Ты бывай здаровы і скажы сваім прэсіерам[8], каб ліст да мяне абяцаны выдрукавалі. Я спадзяюся дзесьці ў палове жніўня рушыць да вас. Кланяйся ад мяне сваёй сям'і. Слоўнікі павінны ўжо быць адасланы Геранімам.

Бывай жа здаровы і папраўляйся! Твой

*Ян Напалеон*[9].

## 3. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

***21 верасня (3 кастрычніка) 1819 г., Вільня***

У мінулы чацвер раніцай, развітаўшыся з маёй і тваёй сям'ёю, выехаў я поштаю з Навагрaдка і вечарам быў у Вільні. Знайшоў тут амаль усіх нашых сабраных прыяцеляў, апрача Юзафа старшага[1] і Тэадора[2], які сёння да нас завітаў. Пра твой выезд у

Коўна ўжо чуў у Наваградку ад тваёй мамы. Ліст ад Францішка[3] даставіў Аляксандру[4] — у ім, напэўна, піша (бо мне вусна казаў) пра мундзір, які ты меўся прыслаць Юрасю[5]. Не ведаю, як ты гэта зробіш. Мундзір жа табе самому патрэбен — не думаю, што ў цябе ёсць у запасе грошы, каб справіць новы. Каб выканаць сваё абяцанне, можаш у Коўна набраць сукна, напрыклад, за рублі два локаць, альбо колькі рублёў гатоўкай паслаць у Наваградак для куплі сукна там — яго тамашнія крамнікі наўмысна напрывозілі многа, бо трэба студэнтам на адзенне. Сукно някепскае і нават больш таннае — злотых 10. Гэта сукно мясцовай фабрыкі. З яго можна зрабіць сурдут, бо на сам мундзір патрэбна лепшае сукно, прытым яго ж яшчэ трэба аздобіць як след. У Наваградскай школе сурдуты большыя, чым што носяць.

Адвозячы майго брата ў школу без мундзіра, спраўляць які не было дзеля чаго і за што, бо ў яго ёсць яшчэ ранейшае адзенне, а на новае ў нас няма грошай, меў я пра мундзіры вялікую размову з Лютастанскім[6], не дыспут, а якраз размову, бо не спрачаліся. Якая гэта дурнота кіраўніцтва універсітэта — забараняць прыём у школы вучня без мундзіра! Вось яна, хвалёная і патрэбная для асветы рэформа! Што за глупства! Мы з Лютастанскім і смяяліся, і абураліся, чытаючы такія пастановы; але што ж рабіць, мусілі прызнаць, што любы кіраўнік, а духоўнай школы тым болей, павінен тут падначальвацца — так што давялося згадзіцца, што майму брату без мундзіра ісці ў школу нельга. Каб усё ж мог ён вучыцца блізка каля дома, у межах Літвы, вымушаны былі яго абмундзіраваць! Як жа хутка можа наша Літва з такімі правіламі перагнаць іншыя краіны ў свеце! Да старых глупстваў дадаюцца новыя, пабольшваючы даўнейшае бязладдзе ў школах.

Учора прачытаў твой ліст, які ты напісаў нам. Вельмі скардзішся ў ім на сум, які неадступна спадарожнічае кожнаму, хто пераносіцца з месца свайго пастаяннага прабывання ў зусім чужыя для яго краі. Вялікая павінна быць твая туга, вельмі вялікая! Сам ведаю, што гэта такое — ад'ехаць ад сям'і, верных сяброў, пакінуць мясціны, з якімі звязаны тысячы салодкіх успамінаў пра былое жыццё. Час і заняткі дапамогуць табе пазбавіцца ад суму… Старайся быць вясёлым, Адаме. Твая вясёласць — гэта і наша вясёласць, тваё шчасце — гэта і наша шчасце. Цяпер хацеў бы даць табе ў гэтым лісце некаторыя парады, як весці гаспадарку ў тваім доме, але не магу пра гэта многа пісаць, бо хутчэй трэба канчаць ліст і занесці яго Гераніму, каб адаслаў да цябе. У наступным лісце выкладу табе, што мне важным здаецца ў вядзенні гаспадаркі. Паведамі

толькі мне, ці твой служка з табой разам сталуецца, ці ты яму наймаеш асобны стол.

Грэчаскі слоўнік, які мы ўзялі пад распіску ў дамініканцаў, адашлю табе цяпер жа, калі толькі Геранім здолее адправіць поштай такую вялікую штуку.

Хацеў бы напісаць табе болей, але не ведаю, што пісаць, тым больш што спяшаюся адаслаць гэты аіст. Пра тое, — што ўспомніцца, напішу пасля. Бывай здаровы!

*Ян*

## 4. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*30 верасня – 2 кастрычніка (12–14 кастрычніка) 1819, Вільня*

…Жыву я цяпер у нашага ксяндза Дзяніса[1], і Тамаш[2] таксама тут жыве. А што, каб ты ведаў, робім? Болей за ўсё бадзяемся, спім, дыспутуем, спяваем, смяёмся і на катар хварэем. Да працы не вельмі рвёмся — яшчэ з вакацый прывезлі да яе нейкую агіду; толькі забаўляцца ды гаманіць ахвота, а не чытаць ды пісаць. О, калі б ты быў цяпер сярод нас траіх! Якія тут развіажанні пра матэрыю, душу, пра аналагічныя ланцугі, пра час і прастору, пра магнетызм!..

Чытаю цяпер Эмілія[3]. Апрача гэтага, у мае заняткі, не кажучы ўжо аб працы па здабыванні хлеба, уваходзяць — вывучэнне айчыннага права і паўтарэнне лекцый Гродэка па лацінскай літаратуры. Ты пытаешся ў мяне ў сваім лісце пра мае далейшыя планы, ці я на ранейшым месцы і ці тыя ж засталіся ў мяне задумы. Не трэба было нават пісаць пра гэта. Што ж я сёння іншага зраблю, як не тое, што раблю? Куды пайду, за што яшчэ магу хапацца? Кажу сабе часта:

Сеў ты ў балоце,
Сядзі ж там, Чачоце!

Сяджу і сам не надта ведаю, што са мной можа стацца. Перспектывы на будучае мне не відаць і на тры крокі — ат, не вельмі светлыя ў мяне гарызонты, не бачу ўперадзе аніякай прасветліны. Можа быць, я так і застануся «пісцом», але магу — толькі не ведаю, як хутка, бо гэта залежыць ад многіх акалічнасцяў — стаць панам юрыстам. Бяда, мой браце, бяда,

асабліва пры нашых сумных нястачах, пра якія ведаеш. Але сваёй вясёласці не трацім. Былі б толькі здаровыя — адолеем усе беды. Болей за ўсё ўздыхаем па свабодзе. Ведаеш, як цяжка мусім працаваць, каб зарабіць на хлеб; не ведаю, ці можна іначай, як вывучыўшыся на адваката, вырвацца з цяперашняй ганебнай няволі. Таму мушу развітацца ў гэтым годзе з лютняй, не займацца пісаннем, нават буду паменей чытаць твораў, не звязаных з правам, прысвячу ўсяго сябе толькі праву.

О, што за змена ліхая!
Прэч, лютня, прэч, дарагая!
Цябе выганяю з каморы:
Сухія цяпер права-зборы
Запоўняць месцы твае,
Займуць, займуць сталы мае.
О, што за змена ліхая!

Што ж рабіць, калі трэба! Прысвячу сябе праву, а каб лягчэй адолець гэту навуку, надумалі мы з Пясецкім і з другім, табе незнаёмым прэтэндэнтам на правазнаўца, штудзіраваць запісы лекцый Даніловіча[4], спадзяёмся нават дастаць пісаныя яго рукой сшыткі. Так што колькі дзён ужо вучым nota bene грамадзянскае айчыннае права; Даніловіч чытае ў гэтым годзе рускае права, а разам з ім і мясцовае крымінальнае, але на гэтыя лекцыі, менеи для мяне цяпер патрэбныя, хадзіць не магу, бо мушу ў гэтыя гадзіны пісаць у Пракуратарыі. Думаю толькі, не ведаю, ці гэты сухі шкілет nocturna diurna manu rertere[5] статут і іншыя юрыдычныя каштоўнасці. Чытаць буду, прымушу сябе абавязкова. Ці не выйду на якую-небудзь вышэйшую ступень у Пракуратарыі, ці не пазбаўлюся тых начальнікаў, што заўсёды сядзяць над каркам, ці не буду нарэшце мець болей вольнага часу ад сваёй аслінай работы і ці змагу яго скарыстаць як хачу! Такія ў мяне перспектывы і планы; іншых не бачу, ды і больш брацца за што-небудзь не магу. А што з нас будзе, пакажа час; цяпер гэта мне не ў галаве. І гэтак мне лепей…

Не пасылаю табе балад, якія ты прасіў, бо не магу (і сам не ведаю, ці не магу) абцяжарваць занадта пакет. Не пытаўся ў Гераніма, ці можна паслаць многа твораў, а зрэшты таму не пасылаю, што не перапісаў яшчэ раз, бо не было калі. Як будзе яшчэ магчымасць, прышлю тыя балады і «Свіцязь»; можа, тым часам закончу. Таксама падам табе звесткі аб сённяшніх вячэрніх сцэнах. Пасля праўных заняткаў пайшоў на гарбату да Тарэзы,

гэтай даўняй гарбатніцы Тарэзы… Прыйшоўшы адтуль у пакой, знайшоў тут апроч Тамаша і Дзяніса — Ануфрыя[6], Шырокага[7] і Дамейку[8]. Гэтыя госці думалі наняць пакой для Дамейкі, а мы, гаспадары,

> Вольныя ад тых клопатаў,
> Узнялі голас боскі
> І высокімі тонамі
> Гэтыя антыфоны[9].

«Лісічка, жоўты грыбок»[10] пачалі спяваць. Ануфрый узлаваўся, што гэтым спевам мы перарвалі размову пра важныя планы наконт кватэры,

> Кінуўся да зброі,
> Ідзе на Тамаша…

Па «вайне» пайшла ізноў опера… Мы спявалі яшчэ з большым запалам «Слімачкоў не баіцца» etc. Урэшце разышліся. Я пайшоў да Юзафа Малодшага, цяпер кандыдата; ён ляжаў у ложку і чытаў. Пачаў і я чытаць у «Pamietniku naukowym» сербскія песні[11]: якія цудоўныя, якія мілыя!.. Хацеў табе адну тут выпісаць, але ты, мусіць, яе чытаў. Параўноўвалі потым з арыгіналам перакладзеную, здаецца, Нарушэвічам[12] оду Піндара[13] да Герона. Цудоўная! Асабліва пачатак, а верш адзін (чамусьці толькі канец яго помню) пра «вусны спеўныя» знайшлі лепшым за арыгінал. Ізноў я пашкадаваў, што грэцкую мову ведаць не буду… Нічога тут ужо не зробіш; аднак, каб заспакоіць сябе, намерыўся ўсё ж навучыцца перакладаць хаця б Анакрэона[14]. Хто ведае, ці даб'юся гэтага…

Маё паліто, якое ты забраў, як можаш хутчэй вышлі мне, бо ў майго брата на зіму няма ні паліта, ні сурдута. Я сказаў дома, што прышлю яго, і трэба прыслаць, бо грошай, каб справіць што новае, цяпер няма. Таму вышлі, калі ласка, — усё ж у цябе ёсць паліто, а я сваё pubice[15] насіць не магу, бо старое і дзіравае…

## 5. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*16(28) лістапада 1819, Вільня*

Адаме! Табе высланы ўжо некаторыя вершы, што выконваліся на ўрачыстасці з нагоды ўшанавання Яроша[1] (высылаю цяпер рэшту), але не пасылаем апісання таго, што рабілася на гэтай урачыстасці…

У нас узніклі прадчуванні, што ты прыедзеш.

Кінуліся да пёраў, песню на прыезд твой пісаць! Такім чынам з'явіліся дзве песні[2]. Але калі мы перад самай урачыстасцю ўпэўніліся, што ты не прыедзеш, не шукалі ўжо да іх напеваў; які ў час банкета пад уздзеяннем келіха нарадзіўся ў мяне матыў, на такі твой Ян і пачаў спяваць гэтыя песні. А любы Тамаш, памагаючы мне, як мог, няроўным голасам уторыў. Здавалася нам, што ты таксама сядзіш з намі на бяседзе…

Успомніўшы цябе, мы ўсе разам засумавалі. Але ўсякія турботы тонуць у добрым пітве. Выпілі за тваё здароўе. Каб ты быў здаровы і заўсёды шчаслівы!

Віно падбадзёрыла нас, і мы заспявалі тваю одку[3]. Далей спявалі

Верш, напісаны той мовай,
На якой наш люд вясковы,
Песні простыя свае
Найчуллівыя пяе,
Жывучы ў цяжкім прыгнёце,
Век працуючы у поце
На няўдзячных нас у полі
З мараю аб лепшай долі.

Ой, мілыя нашы браты! І на вашай мове для нас склаўся вершык. Спявалі мы «Да пакіньце горла драць». Матыў маем для яе найцудоўны! Тамаш з гэтай песняй не толькі ў нас, але і перад спевакамі у пансіёне выстаўляўся. І здабыў сабе вялікую славу! Старыя былі яшчэ ў большым захапленні. «Ах, як цудоўна! От гэта, — казалі, — сапраўды народны спеў! А які цудоўны матыў! Што там вашы італьянскія ля, ля, ля… як неба ад зямлі!» (Пачуеш яе, Адам, як да нас на каляды завітаеш — ты ж павінен без усякіх цырымоній нас адведаць. Помні, прыедзь.) Паведаю табе яшчэ гісторыю гэтага матыву.

Да імянін Дзяніса я напісаў некалькі мужыцкіх песень, сярод якіх астатняя — «Да пакіньце ж горла драць», най-

больш прыйшлася даспадобы Тамашу; прыдумаў, як ведаеш, да яе матыў і гэтай песняй усюды, як цыган на кірмашы, хваліцца. А раз спадабалася песня, я мусіў напісаць вершы і для Яроша і той самы верш «Да пакіньце ж…» перарабіць і для яго. І не толькі гэта, але і «Што ж мы вашэці скажам», разахвочаныя, спявалі. Словам, на імянінах і чыталі, і спявалі…

## 6. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

***7(19) снежня 1819 г., Вільня***

Сёння па дзевяцідзённым ляжанні я, нарэшце, злез з ложка. Моцна хварэў на рэўматызм — у лапатцы і ў баках, а таксама на гарачку з насмаркам і кашлем. Прайшла хвароба. Каб выгнаць рэўматызм, былі прыпісаны мне п'яўкі, а з правай рукі нават пускалі ланцэтам кроў. Амаль адусюль ужо вылез гэты нядобры ягамосць, у баках толькі, каля паясніцы, пакінуў, не ведаю, ці надоўга, свае засады. Спадзяюся, аднак, праз колькі дзён канчаткова выздаравець. Ты, Адаме, не хварэй, беражыся як можаш, і, галоўнае, сваімі думкамі не падвойвай сабе пакут. Мы радуемся, што абдымем цябе на каляды. Там ужо пра нашы здароўі, сумоты і забавы нагаворымся колькі трэба…

«Бекеша» і «Арыёна» таму не пасылаю табе, што па адным толькі маю экземпляры, што «Арыён» яшчэ in crudo[1], патрабуе хоць збольшага дапрацоўкі, што абедзве гэтыя балады мне самому нават не вельмі падабаюцца, а «Бекеш», выстаўлены на крытычныя штыкі маладога Юзафа[2], нямала атрымаў чосу, і я хачу сядзець ціха, пакуль не папраўлю. Хацеў бы паслаць табе смачнейшыя прысмакі: што ж пасылаць не апрацаваныя яшчэ чарнавікі! Выбачай жа, можа, прышлю, а можа, і не; але як будзеш у нас, прачытаю табе з ахвотай.

Будзь здароў, дарагі! Чакаем цябе з нецярпеннем. Барані Божа, ашукаць нас — будзем крыўдаваць. Прыязджай, прыязджай здаровы на калядныя кілбасы!

*Твой Ян*

## 7. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*20 мая (1 чэрвеня) 1820 г., Вільня*

Ты нават не ўяўляеш, што ў нас цяпер з промнямі[1] робіцца! Тут так і просяцца на язык твае словы:

> Ktoby się mógł spodziewać, ktoby mógł przenikać,
> Że całe kiedyś Wilno nos będzie zatykać[2].

Ужо ў нас ёсць каля паўтары сотні прамяністых, а на мінулай жа сходцы было недзе каля ста дваццаці прысутных. Штораз лічба павялічваецца, многія былі з тых нават, якія спярша супраць нас выступалі… Хаця некаторыя бабы, і нават «бабы» вусатыя, не кажу праследуюць, а ўсё ж насміхаюцца з нас, дзіўная разам з тым хуткасць пашырэння прамяністасці, яшчэ болей радуе нейкае ўсеагульнае жаданне не да часовага, а да сталага згуртавання — такое з'яднанне можа даць надзвычайныя вынікі. Нездарма ж цяпер на лекцыі фізікі ціха, як у вуху! Найгоршыя свавольнікі — а сёння гэта нашы стольнікі ды падваяводы — сядзяць прыстойна; нават на лекцыях прафесара, з якога можна пасмяяцца, сядзяць, як быццам іх і няма! У касцёле, калі там не набожная балбатня, — усе паводзяць сябе сціпла, сапраўдны ў ім спакой; няма аглядвання, таго свавольства, бясконцых размоў, словам, іншы студэнцкі свет! Такі вось вялікі ўплыў некалькіх на непараўнальна большую масу людзей, так бярэцца ўсімі добры прыклад. Рэктар бязмежна рады з прамяністасці, найбольш яго радуе нечуваная перамена ў касцёле. Тамаш быў у яго, расказваў яму пра мэты прамяністых; ласкава прыняты, атрымаў запэўніванні ў спрыянні нам.

Праследвальнікі, пасаромленыя, бяруцца за галовы; самі не ведаюць, што гэта робіцца. Не могуць зразумець, як можна столькі сабраць і каб яшчэ болей жадала стаць прамяністымі. Славінскія, Карэвіцкія, Сероцкія, Смакоўскія і г. д. лопаюцца ад злосці, абмяркоўваюць, смяюцца на ўсю губу, але не могуць заспакоіцца. Ардынец[3], які далучыўся каля Паплаўскага млына да прамяністых, што ішлі на мінулую сходку, і быў з вялікай канфузіяй вытураны адтуль, абяцае цяпер сабраць саюзы контрпрамяністых! О дурная галава! Адзін яго хаўруснік па лайдацтве, стаўшы прамяністым, адарваўся ад яго банды і цяпер пачынае шчыра выпраўляцца і некалі не пашкадуе, што развітаўся з распустай і са сваім кіраўніком. Такія вось неспадзяваныя вынікі прамяністасці! Дзякуй, тысячу раз дзякуй

Тамашу, што, як брат яго Ігнацы, які знайшоў на замкавых гарах дарагі шпат і не ведаў сам, што гэта за камень, таму кінуў за печ, дзе ён праляжаў год, і толькі гэтай вясной, з цяжкасцю разбіўшы, даведаўся хлопец, што трымае ў руцэ скарб вартасцю ў некалькі тысяч чырвоных злотых, так і Тамаш, натрапіўшы на непараўнальна большы скарб — спосаб паляпшэння нашай моладзі, разбіў сёння гэты камень, што доўга праляжаў пад купінай часу без руху, камень, на якім будуць шліфавацца розум і норавы маладых людзей, а тысячы праменьчыкаў, выпушчаных з яго, абавязкова зберагуць добрую частку моладзі ад распусты, палепшаць яе. Сама назва прывабная — Прамяністы; тут і забава, і спрыяльнае поле для free вершаскладання, для трактатаў пра якога-небудзь гістарычнага польскага дзеяча, урэшце, для гумару, месца для новых знаёмстваў, а то і да больш блізкіх саюзаў аднаго з адным, што робіць людзей лепшымі, больш спагадлівымі адзін да аднаго — усё гэта прыцягвае ў згуртаванне прамяністых тых, хто шчыра хоча ўдзельнічаць у агульных забавах і прытрымлівацца прынятых правіл паводзін і маралі, узаемнай дапамогі, а таксама такіх, якія, ведаючы, што там ёсць і некалькі дзесяткаў паноў, для пабратання іх з беднякамі гатовы разам папіць малака[4]. Словам, і фанабэрыстыя не будуць для нас бескарысныя, бо і іх, калі яны ўцягнуцца ў прамяністаць, мы знейтралізуем, прывядзём іх да еднасці і згоды з усім згуртаваннем і навучым, надзьмутых, як яны павінны жыць на свеце. Няхай жыве Віўлас[5]!

Пра падзел прамяністых на ваяводствы, пра ўстаноўленыя службы, пра пункты правіл абавязкова яшчэ табе напішу, бо мы і ў прынцыпе павінны цябе пра ўсё гэта інфармаваць. Пасылаю табе верш Зана і «Малітву»; мае прамяністыя прамовы, калі будзе час іх перапісаць, я прышлю табе недзе пазней.

Агінскі[6], які вывучаў згуртаванні за мяжой, хоча прачытаць нам лекцыю; пра гэта абавязкова паведае табе Тамаш ці хто іншы. Я мушу ўжо ляцець у Пракураторыю — там, калі змагу адарвацца ад работы, яшчэ што-небудзь табе дапішу; калі ж не, закончу і на гэтым.

Не закончыў… бо мушу табе паведаміць яшчэ добрую вестку: твой Францішак[7] гэтымі днямі прыедзе ў Вільню, каб засесці пісарам у нашай Пракураторыі. Выстараліся мы для яго на некалькі месяцаў — можа, тры ці чатыры — месца. Выехаў адзін з нашых таварышаў за мяжу на воды, і Францішак зойме яго пасаду і зможа цяпер для далейшага прабывання ў Вільні шукаць сабе кватэру. Я нядаўна напісаў яму пра гэта, наказаўшы,

каб ехаў без затрымкі, і таму, пэўна, хутка да нас прыбудзе. Так што, едучы на канікулы, не ў Наваградку ўжо, а ў Вільні з ім абдымешся.

Аляксандр здаровы, учора аддаў яму Францішкавы лісты; просіць, каб ты яму як найхутчэй прыслаў сукно.

Бывай здаровы.

*Ян*

## 8. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*26 мая (7 чэрвеня) 1820, Вільня*

Пасылаю табе сваю пэрыоху[1], з якой выступіў на мінулай прамяністай сходцы. Калі Ануфры[2] яшчэ не пасылаў табе прачытанага на першай сходцы Тамашовага верша, то я вазьму яго ў Ануфрыя і вышлю з лістом. Для заўтрашняга сходу, які мы правядзём, калі палепшыцца надвор'е, у мяне ўжо ёсць вялікая haranga[3] супраць патрыятычнай балбатні. Бо запальчывыя галовы, як і мая калісьці, часта не да месца і не на карысць руху дэкламуюць экзорты[4]; думаюць, што словамі яны ўсё змогуць заваяваць, але дачасныя размовы могуць нарабіць болей шкоднага, чым добрага. Дык вось я і выказаў ім, што шум гэты пусты, што трэба перш за ўсё паляпшаць норавы, брацца за навуку і працу, а тады ўжо, шукаючы палёгкі ў нашых пакутах, вырашаць, што рабіць, каб стаць добрым патрыётам, якім чынам змагацца, каб заваяваць лепшую долю не толькі сабе, але і нашчадкам. Вельмі цяжка мне было ўтаймоўваць свае парывы, я сам, кажучы пра гэтыя спосабы змагання, ледзь не стаў балбатлівы. Таму адкінуў усё, што магло б залішне запальваць, бунтаваць розум, і ўжо больш памяркоўна выказваў свае меркаванні. Ах, як гэта цяжка гаварыць калі сам як нявольнік! Як балюча вучыць братоў маўчанню, у той час, калі, наадварот, хацеў бы заклікаць да таго, што думаю папраўдзе! Трэба ведаць, што заяўляем так не толькі для чужых, але і для сваіх. Міхал[5] — вялікі балбатун. Нічога не робіць, але балбатаць любіць без меры. Ён прыняты ўжо, хоць яшчэ не вельмі заслужаны, у правадзейныя члены, яго яшчэ з гэтай нагоды будзе вітаць Ярош прамовай, такой, як і мая пэрыоха прамяністая. Трэба абавязкова стрымліваць бурныя рэкламацыі. Вядома, што гаршчок, калі ўвесь час кіпіць, можа выкіпець дарэшты.

Прамяністых налічваецца ўжо каля 160. Але з ласкі нікчэмнага біскупа Кундзіча і баязлівага рэктара для нас пачынаюцца кепскія часы, бо ёсць пагроза забароны нашых адкрытых маёвак; яны павінны быць ужо нашым айцам вядомыя, таму яны змушаны табе ex officio[6] пісаць, як прынята — усё гэта да майго апісання не належыць.

Хачу паведаміць табе, што Францішка яшчэ, не ведаю чаму, няма дагэтуль у Вільні, што Аляксандр — голы, чакае ад цябе сукна, а я каб табе не зрабіць прыкра, хацеў ужо нічога не казаць, але паколькі мы не павінны адмаўляцца ад святога права адкрытасці, хачу напомніць, што канчаецца май, і несумленна будзе не адаслаць сукно. Знайдзі аказію і ўрэшце якім-небудзь паштальёнам адашлі.

Бывай здаровы!

*Твой Ян*

## 9. ДА ЮЗАФА ЯЖОЎСКАГА

*22 жніўня (3 верасня) 1820 г., Наваградак*

Браткі! Чалавек толькі ў марах шчаслівы. Колькі раілася ў мяне салодкіх мрояў перад выездам і ў дарозе! Нарэшце, я прыехаў, і ўсе ілюзіі зніклі. Я дома, дома — гэта толькі мне ведаць! Нішто цяпер і шчорсаўскія ўцехі. Застаўся ў Шчорсах толькі Ярош. Адам два тыдні таму паехаў у Туганавічы, шукаючы Тамаша, а Тамаш дзён дзесяць назад прыязджаў са Шчорсаў з Ярошам, шукаючы Адама. Не сустрэліся, паехалі ізноў у Шчорсы. Тамаш меў надзею пабываць у Туганавічах. Дзе яны цяпер, ці сустрэліся хоць, невядома. Так што, відаць, ад весялосці, усякіх прыемнасцяў нічога не засталося. Чалавек жа, калі ён прыгнечаны нечым, сам не ведае, чаго яму не стае, словам, як я ўжо казаў, я сам (няздольны пісаць элегіі) стаў элегіяй. Аднак для ўцехі прыводжу да сябе наваградскіх дзяўчат. Вось і цяпер адну, што ўчора сама да нас прыйшла (NB— са сваёй мамай) затрымаў на ноч, а сёння адвёз на мшу: і сёння ж другую забіраю, і зноў дзень (не кажучы пра начлег) весялейшы будзе. Грушкі для мацунку ем: самі яны ў рот ляцяць з дрэва, калі ляжу пад ім. Словам, раскашую, як магу, салодзячы вусны і сэрца, але да поўнага спакою сэрца ўгаварыць не магу. Жыву, як умею.

З грамадзянінам[1], які вымушаны да серады сядзець дома без ботаў, тады ж, у сераду, калі не дачакаемся Адама, збяромся і

рушым праз Руту[2] ў Шчорсы. Затрымаемся там дні два, калі Ярош будзе рады так доўга пабыць з намі. Ну, што ж рабіць, заспяваем і ўдвух з Ярошам «Гэй, радасцю»[3].

Быў сёння на мшы ў дамініканцаў і слухаў прапаведніка, які даводзіў, што мнагафарбныя кветкі, схіляючыся пад павевам зефіраў, сваім паклонам услаўляюць веліч Бога і вучаць чалавека рэлігіі. Я ўжо чытаў пра школьныя праблемы, бачыў акупацыю, чуў тлумачэнні выпісак і пераканаўся, што тутэйшыя дамініканe як былі, так і засталіся асламі. Я не адведаў іх у іхнім раскошным палацы, але рыхтуюся нанесці ім візіт, можа, нават зраблю гэта ў сераду, калі змагу тут спыніцца, едучы ў Шчорсы.

Хацеў бы да вас пісаць ды пісаць, але не пісаў, бо забаўляўся з паненкамі, а, па-другое, нічога цікавага ў галаву маю не прыходзіць — вобразы ж майго суму не хачу і для сябе ўзнаўляць, і вам маляваць… Д’ябал бы яго забраў, гэты сум, калі дзеўка ў першай хаце сядзіць. Бывайце ж здаровы — кланяйцеся Паплавам, Пагулянкам[4] і ўсім месцам нашых праходак; праз колькі дзён убачымся.

*Ян*

*22 жніўня 1820, у нядзелю — з Навагрудка.*

У панядзелак аддам на пошту, а недзе ў аўторак або сераду, калі я буду каціць на колах у Шчорсы, прачытаеце.

(Да Петрашкевіча)

Пане Ануфры, забяры ў Наддэяў музычную скрынку, даўно прысланую мне з Навагрудка, каб я занёс яе ў рамонт, і аддай рамантаваць яе арганнаму майстру ці каму там трэба, і скажы, каб да 1 верасня была папраўлена: як прыеду, трэба будзе адаслаць той жа фурманкай, якая прывязе мяне. Не забудзь!

(Да Яжоўскага)

Юзэфе! Ці схадзіў ты да Рустэма[5]? Схадзі, калі не хадзіў яшчэ! Калі Францішак зможа знайсці месца ў мастацкай школе, пішы адразу ж. Бо ён нерашучы, таму што няма пэўнасці, і дамашнія, бачыце, клопаты!! — дзесяць трэба б паставіць тут клічнікаў. Што будзе з Ануфрыем? Ці не ведае? Няхай піша. Трэба думаць пра Францішка[6].

## 10. ДА АНУФРЫЯ ПЕТРАШКЕВІЧА

*26 кастрычніка (7 лістапада) 1820, Вільня*

Любы наш Ануфры, калі надарыцца мажлівасць, будзем табе пісаць.

Ліст, які ты паслаў Адаму, ад Адама прыйшоў у нашы рукі. Чыталі яго са спачуваннем да тваіх бед. Бяда даганяе бедных усюды, відаць, таму, што яны і ёсць бедныя, мусяць усюды жыць з бядою. На падобныя напасці мы пасля доўгіх разважанняў, унутранай барацьбы, сумненняў, пакут, розных «ах» ды «ох» звычайна знаходзім суцяшэнне і заспакаенне ў такой формуле: «Што ж зробіш! Можа, калі будзе лепей?» Але і гэта ўсяго пытанне, адказ на якое можа даць толькі зацягнутая цёмнай заслонай будучыня. Тым і шчаслівы чалавек, што, нягледзячы на неспрыяльныя акалічнасці, заўсёды ў будучым спадзяецца на лепшае. «Што ж зробіш! Можа, калі будзе лепей?» — паўтарай сабе і шукай у гэтых словах заспакаенне, змагаючыся са сваімі напасцямі. Ты ж ужо сталы і цвёрды мужчына; не схілішся перад гнётам лёсу, таму доўгіх парад пра тое, як вытрымліваць гэты гнёт, даваць табе няма патрэбы — ты сам знойдзеш іх у сябе…

Дарагі наш Еж[1], выздаравеўшы так, што мог смела ехаць, ужо другі тыдзень, як выехаў у Шчорсы і пасля трохдзённай трасяніны (бо і дарога, і фурманка кепскія) спыніўся ў яснавяльможнага[2]. Прыняты ім прыхільна і з абяцаннем, што яго адпоіць шчорсаўскім півам, бавіцца там добра, штораз пазбаўляючыся ніякаватасці, якую заўсёды адчуваеш у чужым, тым болей яснавяльможным доме, і спіць добра, з чаго я зрабіў вывад, што ўжо здаровы. Як зусім паправіцца — а гастранаміі яму цяпер за графскім сталом хапае болей, чым філасофіі, якую вывучае — і дойдзе к Новаму году да поўнай дасканаласці, то зможа ва ўсякім разе застацца ганаровым членам у таварыстве Хаданега[3]. Мы атрымалі ад яго два лісты, якія нас усцешылі, бо даносяць нам пра паляпшэнне яго здароўя і пра сельскае жыццё; так, абодва лісты былі б добрыя, калі б толькі адзін з іх не прынёс смутнай весткі пра смерць маткі Адама, якая 9 кастрычніка развіталася са светам. Даведаліся мы пра гэта дзён некалькі назад з іншага ліста. Адам і Аляксандр яшчэ нічога нават не ведаюць пра гэта. Мы папярэдзілі Францішка, каб нічога яму пра гэта пакуль не паведамляў. Цяжкую мы захоўваем яму навіну на каляды, калі прыедзе да нас. Цяжка было б яму (і будзе яшчэ), калі б даведаўся пра такое гора ў Коўне, дзе яму і так усё няміла, дзе і так ён гаруе, і так дакананы меланхоліяй. З чаго памерла, дасюль

не ведаем, і як яны там бядуюць; ні пра што яшчэ Францішак, хоць я і прасіў, не пісаў. Вось якая перамена адбылася ў нашай братэрскай сям'і…

Колы машыны для пераробкі розумаў зрушыліся ці, правільней, пачынаюць зрушвацца. Бег яе, пакуль яшчэ слабы і неўрэгуляваны, стане з часам мацнейшы і больш пэўны, бо ў прынцыпе спружыны ходзяць добра. Некаторыя штучкі, не вельмі падабраныя, сталі на месца; але ж гэта гадзіннік звычайны. Тут усё ідзе як трэба. Анты[4] дзівы твораць. Яны дзеляцца на ніжэйшых і вышэйшых; адны іграюць ролю дактрынёраў, другія — патрыётаў. Ад іх толькі шум, бо ў гэтым адно шукаюць сабе славы… Навуковы[5] ўжо расплыўся па філарэтах — так назвалі цяпер прамяністых…

Цяпер раскажу пра сябе. Калі ты паехаў, я перабраўся ў тваю кватэру. Неўзабаве і Еж па сканчэнні кантракту на пражыванне ў доме Пузыны перабраўся сюды. Жылі мы ўдвух аж да святога Міхала — хоць было і холадна, затое свабодна. Я спадзяваўся, што на святога Міхала прыедзе ўпаўнаважаны, і думаў, што трэба будзе выдбаць што-небудзь з гэтага прыезду. Але праз дзень пасля святога Міхала прыехаў з Гыжны Міхал[6] і прывёз кепскую навіну — што ўпаўнаважанага не будзе ў кастрычніку і што ў размове з ім прасіў, каб мне было дазволена жыць у тваёй кватэры, але атрымаў адказ, што нельга, што Пацы павінны прыехаць на зіму ў Вільню, што… словам, што ў кватэры адмаўляе…

Паколькі, дзякуй Богу, за ліст плаціць грашыма не трэба, магу пісаць табе многа, доўга, з адступленнямі, свабодна і не бісерам, нават чарніла можна не шкадаваць на вялікія літары… Паведамляю табе, што я па шыю ўжо закапаўся ў Статуце. Чым больш надаю яму значэння, чым болей разумею, што ён будзе крыніцай маёй долі, што мне ўжо няма як адступіцца ад гэтай мутнай крыніцы, тым робіцца ён прывабнейшым… З ім драмлю, з ім сплю, яго аднаго толькі і трымаюся, яму прысвячаю ўвесь свой вольны час. Лютні, ліры і ўсё такое закінуты пад лаву. Перапыняць мае заняткі над Статутам маюць прывілей толькі дзяўчаты і нямецкая граматыка, а потым — выпіскі. Так я заглыблены ў Статут, што калі з Жэготам пачынаем спяваць, то ён з кнігі нямецкай, а я са Статута што-небудзь спяваю!

Відаць, доля мае нейкую ахвоту цешыць чалавека сваімі абяцаннямі, якія, як пані, а да таго ж пані ўсяго свету, рэдка ажыццяўляе. Ад нейкага часу я выконваю то тыя, то гэтыя функцыі, але як быў «пісчыкам», так і застаўся «пісчыкам». І калі аднаго дня адважыўся папытацца ў пана мецэната: «Што

са мной будзе? Так доўга пішу; бачу, што людзі, носячы паперы за адвакатамі і ходзячы на суды, мудрэюць; ці не можна б было і мне насіць паперы, хадзіць на суды і такім спосабам калі-небудзь атрымаць бірэт[7]?» etc, калі, кажу, выкладаў свае беды, атрымаў абяцанне, што буду хадзіць на суды, што дадуць мне нават справы пісаць etc. Першае пачынае ажыццяўляцца: цягаю чатыры тамы паперы і гэтулькі ж подпісаў — для справы з Мышкоўскім, якая цяпер вядзецца. Атрымаў я нават высокі гонар быць чытальнікам містычнай працы, а канкрэтней, займаць, на няшчасце, згаслую ўжо, а таму забытую і сёння не паважаную пасаду агента трыбуналу. Аж ахрып сёння, чытаючы гучна для глухога прэзідэнта пашарпаныя і заляжалыя паперы. Калі топішся — і за брытву ўхопішся. Усё раблю, што кажуць, з усім спраўляюся; а што, калі не захочуць казаць болей? Хоць будзе і цяжка, хоць нельга справіцца, ну і што ж? Трэба ж будзе працаваць, пераадольваць усё, а бяда кожнага навучыць. Ой, доўга ж мы ў гэтай школе! Ну ж і вялікія будзем мудрацы!

У пракураторыі ўсё па-ранейшаму, кланяюцца табе даўнія калегі, часта цябе ўспамінаюць. Рэч паспалітая[8] пала, аратара няма. Мне казалі займаць гэту пасаду, але я прызнаюся, што так дакладна, як ты, я не змагу з гэтым спраўляцца, таму месца publice не займаў, нават цяпер, па абедзе, у той самы час, як да варштату хаджу. Пільнай і важнай работы няма ніякай. Капірую рахункі. Я заўсёды звязаны з самымі матадорамі. Таму карыстаюся правам распараджацца часам, як магу. Часта бываю на судах, часам да паловы другой гадзіны, зрэшты liber baro[9]. Хаджу на лекцыі Даніловіча і два разы на тыдзень на гісторыю лацінскай літаратуры Гродэка. Нічога не магу сказаць, вольнага часу цяпер у мяне трохі болей, але розныя працэдуры, звязаныя з Саюзам[10], не вельмі дазваляюць эканоміць яго. Так што і сёння яшчэ вельмі вялікай карысці ад таго «вольнага часу» няма, праўда, я магу хоць наведваць лекцыі права, але без чытання юрыдычнай літаратуры яны — амаль пусты гук, што пралятае праз вушы. Як бы там ні было, круцімся без стомы. Што ж, і чарапахі неяк далазяць да мэты, а мы трохі ж хутчэй ходзім…

*Янка*

## 11. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*17(29) лістапада 1821, Варшава*[1]

Ян Адаму здароўя і добрага настрою!

Лётаючы па Варшаве ў пошуках Гёца[2], падраў свае боты, але нідзе яго асобна не мог знайсці. Ну ж і убогія тут кнігарні, у якіх хіба толькі раманаў безліч. Самае чытэльнае тут — раманы. Чытаюць іх дамы і чыноўнікі для адпачынку пасля цяжкай працы на кухні і на службе. Нямецкіх кніг тут, можна сказаць, зусім не ведаюць, бо не любяць. Пфаф і Вэнцкі зусім іх не трымаюць, Глюксберг[3] толькі пахваліўся кнігамі Гётэ і Шылера, ды і то па адным экземпляры. Разрываць гэтыя экземпляры ён не можа, а значыць, і Гётэ як бы і не было на тутэйшым свеце. Прывязу вам каталогі кніг — пабачыце, якія тут літаратурныя багацці! О, намнога болей тут цукерак і цацак, чым гэтых цвёрдым ілбом падрыхтаваных гасцінцаў!

Усё тут кепска, усё тут будзе не даспадобы чалавеку, які не жыватом, а розумам глядзіць на тое, што дзеецца. Есці, піць, адзявацца, шпацыраваць, сваволіць, не ведаю, ці і ў Парыжы лепей можна. Але жыць свабодна, бачыць і чуць, што пачцівае сэрца можа ўзрадаваць, не ведаю, дзе больш цяжка.

Здаецца, нідзе больш не могуць людзі жыць так, як тут — для жывата і сябе. Міністры тут як бы для таго пастаўлены, каб прымаць падрады, браць з-за мяжы непатрэбныя краю, але за яго кошт, прадметы раскошы; магнаты, каб як мага даражэй прадаваць краю свае палацы, замяняюць свае маёнткі на дзяржаўныя. Словам, усе імкнуцца тут да таго, каб ухапіць у свае хцівыя кіпцюры ці то грамадскае дабро, ці чый-небудзь прыватны набытак, усе рвуць, махлююць, крадуць. У гэтым мастацтве палякі даганяюць ужо рускіх, а можа, са сваімі настаўнікамі і зраўняліся. Усё тут занята сабою, усё тоне ў роскашы, не помніць, што робіць. Здаецца, людзі гэтыя ў нейкай гарачцы: трызняць, смяюцца, рвуцца без сіл, як хворыя, адпіхваючы ўсякія лекі. Ой, калі б яны ведалі, якая небяспечная іх хвароба!

Быў я тут на пасяджэнні Таварыства прыхільнікаў навук[4] — важная эпахальная падзея, якая ў год два толькі разы на гарызонце паказваецца! І тут безгустоўнасць, і тут прысутнасць аднаго толькі Нямцэвіча мяне цешыць. Сташыц[5], наймудрэйшы з варшавян, выпальвае якуюсь прэлюдыю, у якой паведамляе, што будзе чытацца на пасяджэнні, даводзіць, як доўга і старанна над гэтым члены працавалі, паведамляе таксама аб смерці членаў, выклікае цень Патоцкага[6]; потым лічыць падараваныя

Таварыству нешматлікія кнігі. Садзіцца ціха, але як Хадані, і хутчэй, чым Хадані, бо моршчыць лоб і вылуплівае вочы. Пачынаецца навуковае паведамленне доктара Арнольда[7] пра шчодрасць польскіх паноў у дачыненні да лекараў. Узлез на грушку, сарваў пятрушку — ах, мая салодкая цыбулька! Вярзе суцэльную бязглуздзіцу — аніякага не ўбачыў я там сэнсу; лепей бы ён зрабіў, каб паведаміў, па колькі дактары бяруць за візіт, чым так бесталкова балбатаць. Гэта ж каб такое глупства, такое глупства — проста нельга выказаць!.. Далей нёс нудоту Скараход Маеўскі[8], даследчык славян, і потым здзівіў займальным расказам пра невядомага ў польскай гісторыі караля Самоса, які жыў яшчэ да Кракуса, Ванды[9] etc. etc.; выдабыты аж з 3-га стагоддзя, знайшоў свайго гісторыка, які з такой пэўнасцю падаў яго дзеі, з якой мы не асмельваемся гаварыць пра Мечыславаў ці Баляславаў[10]. Пасадзіў таго Самоса ў Замосці, горадзе, які быццам бы некалі быў яго сталіцай і меў назву — Самосць. О глыбакадумныя даследчыкі казкі, колькі гэта вы з'ядаеце хлеба, пакуль з казкі не зробіце казку!

Быў на красамоўнай лекцыі Асінскага[11]. Мой божа, як жа мне ўсё тут надакучыла! Не вялікі ж я знаўца, чаму ж мяне хоць чым-небудзь не ашаломяць! Чытаў ён слова ў слова працу пра казку, якая існавала да Нямцэвіча[12], дэкламаваў некалькі казак Красіцкага[13] і Нямцэвіча. Паслухаўшы гэтую вельмі звычайную лекцыю, я назваў бы яго хутчэй лектарам, чым прафесарам… Блішча чужою, здабытай стагоддзямі славаю, умее забаўляць кампанію, фліртаваць з кабетамі, а значыць, ён найвялікшы з аўтараў, найвялікшы з прафесараў, ды, калі казаць папраўдзе, ён проста найлепшы прыдворны. Такія людзі тут маюць найбольшую цану. І пастаў дзесяць Лялевеляў, дык, пэўна, за аднаго Асінскага не сыдуць. Такая думка нават у вучня тутэйшага універсітэта, былога настаўніка ў Петракове.

На ніякіх іншых лекцыях яшчэ не бываў, толькі збіраюся іх наведаць, асабліва лекцыі права. Бібліятэк, кабінетаў, апрача прыродазнаўства, яшчэ не наведаў. Наведаю з Францішкам[14], які прыехаў сюды ў мінулы панядзелак (а цяпер чацвер). Навучанне, як вядома, кепска тут ідзе. Любяць навукі з-за іх вядомага бляску і славы, але не для справы; зусім не любяць працы, а імкнуцца да выгод жыцця, раскошы, раскошы, а значыць, да гультайства. Не дай Бог: было ў Польшчы бязладдзе і цяпер нялад. Бадай бы ліха ўзяло той Парыж, што ён цэламу свету служыць за мадэль, а Варшава мае гонар быць яго вельмі блізкай копіяй.

Кароткі дзень і слота не дазваляюць мне добра правесці час. Нічога тут асаблівага я яшчэ не бачыў. Сяджу болей дома, бываю

часам у тэатры. Тут ёсць балет і камедыя; выйду адсюль, як са школы Піфагора, і лепей выйсці, чым выседжваць тут, нібы ў каталажцы. Ценю ўжо тут не пужаюцца, усюды асцярожненька маўчаць; так далёка сягнула тут канстытуцыйная вольнасць.

Атрыманыя ад Ануфрыя лісты адсылаю. На мой ліст, які я адсюль пісаў, адказу яшчэ не атрымаў.

З Францішкам яшчэ не размаўляў; ён яшчэ не ўладкаваўся, не ведаю, ці наняў учора пакой на месяц. Напішам. Бывай здароў!

Ліст у Шчучын няхай хто занясе, зрабіўшы канверт і запісаўшы адрас.

## 12. ДА АНУФРЫЯ ПЕТРАШКЕВІЧА

*11(23) студзеня 1822, Вільня*

5 студзеня я вярнуўся у Вільню, сустрэў усіх здаровымі, толькі Адама хворага — ён нават у ложку ляжаў, але папраўляўся ўжо і цяпер быў бы амаль здаровы, калі б не слабасць і не зубны боль, які вельмі яму дакучае. Хварэў ён на катаравую гарачку[1]. Адзін зуб заўчора вырваў, але затое другі сёння страшна пачаў балець. Мусіць, трэба і гэты рваць…

Заўтра распачаў лекцыі Лялевель. Колькі існуе універсітэт, ніколі ніводны прафесар не меў столькі слухачоў. Меўся ён распачынаць лекцыі ў мінулую суботу, але гэтулькі ў прызначанай залі націснулася людзей, так потым гуртам беглі ўсе ў другую, большую, і так яе ізноў перапоўнілі, што рэктар, акружаны з усіх бакоў прафесарамі, не знайшоўшы для сябе прыстойнага месца і не здолеўшы змагчы шум, галас, просьбаў аб яшчэ большай залі, гвалту і смеху з каманды выйсці за дзверы і зайсці толькі тады, калі прафесары як найлепей усядуцца, пайшоў на хітрасць, абвясціўшы, што лекцыі не будзе. У панядзелак была адведзена для лекцыі зала пасяджэнняў; ужо з трох гадзін (а лекцыя абвяшчалася на пяць) ішлі самыя розныя слухачы: акадэмікі, студэнты, юрысты, князі, «пішчыкі» etc. etc. Уся зала была як набіта. Але ж і было што паслухаць! Лялевель выйшаў у тозе, а як пачаў гаварыць, зацьміў Снядэцкіх і ўсё, што ёсць на свеце.

Ну й малайчына гэты мазур, дай Божа яму здароўя. Сёння чытаў ён другую лекцыю ў літаратурнай залі — так было цесна, што калі хто-небудзь нахіляўся, то і ўся зала то ў адзін, то ў другі бок нахілялася, як тая хваля. Не менш васьмісот чалавек было, а колькі ж спазнілася і не трапіла ў залу! А на першай

тысячы паўтары было. Гэта не Асінскі з бабамі ў Варшаве, але муж сярод мужоў!

Мы хацелі даць яму баль, але для яго самы лепшы з усіх баляў — бачыць, як ціснецца каля яго такое мноства слухачоў…

Падпіска на творы Адама каштуе 10 злотых. Будуць гэта 3 томікі, як у Трамбецкага. Яшчэ не вылічаны расходы і невядома, дзе будуць томікі друкавацца; хутчэй за ўсё ў Варшаве, бо тут зубатая цэнзура. Але трэба будзе да тых 10 злотых яшчэ дадаць злотых — і ў паперы і ў аркушах. Выданне, аднак, трэба каб атрымалася прыгожае. Прадавай жа цяпер білеты і кажы пра 3 томікі.

Нічога тут няма цікавага, таго, пра што можна было табе паведаць, а таму — vale![2]

## 13. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*26 лістапада (6 снежня) 1822 г., Вільня*

Пасля доўгага чакання мы нарэшце атрымалі ад цябе праз Кавалеўскага кароценькі ліст. Не было калі табе напісаць, пішу цяпер.

На мінулым тыдні атрымаў з Варшавы ліст ад Красінскага[1]. Хоча, каб я прыслаў яму болей экземпляраў[2], бо многія прасілі, а ў мяне ўжо няма, акрамя некалькіх, якія берагу на той выпадак, калі вясковыя агенты раздадуць білеты. Адкажу сёння яму. У лісце гэтым Красінскі паведамляе, што ты вельмі ў Варшаве спадабаўся, называюць цябе літоўскім Вальтэрам Скотам. Ну і дакладае, што з нецярпеннем чакаюць другога тома. Дык вось, любы Вальтэр Скот, прысылай, як можаш, найхутчэй матэрыялы для другога тома, заканчвай, калі можаш, аповесць, у крайнім выпадку папраў «Дзяды», каб ужо начыста перапісваць. Пісаў таксама Валерыян да Ляхніцкага[3] і ўспамінаў пра балады. Мы бачымся з Ляхніцкім, ён пытаўся ў мяне пра другі том; абяцаў, што сам па-сапраўднаму займецца гэтым, г. зн. Рэшку[4] віном напоіць, каб цэнзура, нават не трацячы часу на чытанне, як найхутчэй на слова падпісала. Я сказаў яму, што буду цябе атакоўваць, каб ты прыслаў як мага хутчэй. Дык прыйшлі ж хоць «Дзяды», няхай бы тым часам перапісвалі і друкавалі. Аднак спадзеючыся, што віно змусіць цэнзуру падпісваць, усё ж не пакідай там нічога такога — каб віно не ператварылася ў віну. Адным словам, прысылай, бо патрэбен час на перапісванне.

Да Завадскага[5] пішуць многія кнігары, просячы тваю паэзію. Амаль усе экземпляры разышліся — пра гэта ведае Завадскі і гутарыў з Маліноўскім[6], ці не хацеў бы ты паўтарыць першы том. Дык чаму ж не? Калі хоча, тым лепей. Другога тома трэба друкаваць экземпляраў тысячу, а то і болей; належала б і першага дадрукаваць столькі, колькі не хапае да гэтай лічбы. Гэтак бы прыбытак не зменшыўся, а карысці было б болей. Чакаю толькі твайго адказу, каб я мог гаварыць аб перадрукаванні з Завадскім і заняцца гэтым перадрукаваннем. Калі б гэта можна было цяпер вырашыць, то і другі том адначасова б друкаваўся. Іначай, калі разам не будуць друкавацца, трэба чакаць, пакуль выйдзе другі том; таму прызначай час, калі можна будзе яго друкаваць…

Мы ўсе здаровы. Аляксандр піша табе ліст. Францішак пісаў, што здароў… З навін паведамляю, што Кіслінг[7] выехаў за мяжу гадоў на чатыры. Паехаў на Берлін, там, здаецца, забавіцца ўсю зіму. Мы перадалі праз яго ліст да Францішка[8]. Ачароўскі[9] сёння распачынае чытаць аграномію, якая будзе чатыры разы на тыдзень па паўтары гадзіны. Бывай здароў і хутчэй адпішы!

## 14. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*10(22) снежня 1822 г., Вільня*

Ліст Ляхніцкаму я аддаў, дакляраваў выдаць на мае рукі рэзалюцыю, але дасюль яшчэ не выдаў. Напомню пра яе заўтра, у чацвер — можа, атрымаеш.

Атрыманы сёння ліст Эдварда[1] адсылаю. Піша, што мае быць на святы, а недзе пасля свят прыедзе сюды жыць. Відаць, пра гэта піша і табе.

Учора я ўжо аддаў у друкарню папраўлены томік. З заўтрашняга дня пачнём займацца друкаваннем. Мы з Ежам намерыліся адбіваць 1000 экземпляраў — таму, перш за ўсё, што папера мала павялічыць кошт, а прыбытак узрасце значна, і таму яшчэ, што не вельмі трэба будзе спяшацца: хто ведае, што можна будзе чакаць ад цэнзуры. Завадскі на ўсё згаджаецца. Другі томік намерыліся адбіваць пасля першага. Думаю, да Каляд скончым, бо цяпер пойдзе ўсё лёгка і хутка; пастарайся ж, каб да свята ўсё было скончана і каб да Новага года прайсці цэнзуру і адразу ж друкаваць.

Карэктурай я займуся сам, не чапаючы Маліноўскага, які ўсюды нос усадзіць, а работы не зробіць; так, прынамсі, вельмі

шчыра запэўнівае ў гэтым Пафлягон[2]. Гэты абавязак я выканаю як належыць, пра ўсё паклапачуся. Морыц[3] так злуецца на Маліноўскага за карэктуру граматыкі Якубовіча, што пагражае ўсе памылкі, якіх безліч, асобна надрукаваць і дадаць, што яны выйшлі з-пад рукі карэктара Маліноўскага. Кадук яго ведае чаму так: здаецца ж, добры чалавек, а Пафлягон яго чапаць не раіць. Еж тут быў на мінулым тыдні. Здаровы, лепш за яго спраўны можа быць хіба кухар, але кладоўка ў яго пустая. Аднак жа і дае пан Бог гультаяватым манахам увекавечанне і добры апетыт! Калі кухня паправіцца, рознае можа быць: можа, пасля свят ён забярэ ў Трокі гэту яўрэйскую друкарню і там будзе друкаваць; калі ж не, то прыедзе сюды. Хоча лепей у Троках, бо там і заробку не страціць, і выдаткаў на пражытак не панясе. Вось што з гора атрымліваецца…

Напішы, ці хочаш быць на свята ў нас. Добра б было, каб ты нас бачыў тут часцей. Але калі не надта вялікая ахвота ехаць, можа, колькі чалавек нашых пагасціла б у цябе. Рабі так, як лічыш для сябе найлепш.

Ануфр ізноў — наш, ізноў хутка будзе маім калегам масістам[4]. Што ж тут зробіш з нашым ліхам: калі пусты жывот, што з тае напоўненай галавы? І ніякай надзеі, каб што ўперадзе бліснула; высока ўзбірацца і цяжка, і ніхто не падсадзіць, а поўзаць унізе і за кошт уласнай выгоды выкупіць колькі галоў у цеснай школе — не вялікі набытак; разумны чалавек сярод звычайнай масы грамадзян можа знайсці спосаб, каб і кішэню напоўніць як трэба і нават здабыць сабе важныя заслугі, так што пасля нядоўгага абмеркавання я прывёў яго на пасаду памочніка архівіста, які атрымлівае 400 рублёў і кватэру з апалам. І вось ён сядзіць у цішыні ў добра ўпарадкаваным архіве, робіць, што яму падабаецца, прытым тады, калі яму захочацца, да таго ж мае перспектыву праз год-два стаць генеральным архівістам, які цяпер атрымлівае 9 тысяч злотых. Перспектыва не абы-якая — лепшая, як у ад’юнкта універсітэта. Месца гэтае павінна быць вольнае з Новага года, а можа і раней; Нуфр, можна сказаць, ужо на гэтым месцы, яму давядзецца толькі пачакаць, пакуль пойдзе папярэднік. Што ж іншае зробіш?.. Я рады, што так сталася, і мяркую нават, што для яго гэта праца лепшая, чым настаўніцкая.

З навін нічога асаблівага не пачуеш. Гэтымі днямі прыйшоў указ, які забараняе прадаваць працы Лялевеля, што раскрываюць польскую гісторыю. Што там у іх кепскага ці няправільнага, аднаму Богу відаць. Аднак жа нехта незычлівы надумаўся прадыктаваць гэта, — ведама ж, амаль усё залежыць ад таго,

як хто прадыктуе. Ёсць чуткі, што будуць забаронены многія творы, Вальтэра і іншых. Таму хто хоча там купляць і ёсць за што, няхай загадзя паклапоціцца зрабіць сабе вучоны запас, бо потым будзе цяжка. Ат, няхай жа свет паліруецца, а мы, грэшныя людзі, чакаючы лепшай долі, пажадаем сабе здароўя і спакою.

***Ян***

## 15. ДА ФРАНЦІШКА МАЛЕЎСКАГА

*21 студзеня (2 лютага) 1823 г., Вільня*

Пастарайся паболей пабыць за мяжой, бо мы не ведаем, як быць з Адамам. Настаўнічаць далей яму ніяк нельга, ён зусім страціць здароўе; кажа, што ўрокі паралізуюць яго на ўвесь дзень. Хаця ён здаецца больш спакойным і папраўдзе спакайнейшы, але ўвесь час сумны, часта пакутуе ад бяссонніцы, яго падтрымліваюць толькі люлька і кава. Кожнаму відаць, ды ён і сам прагне, і дактары цвердзяць, што яму неабходна падарожжа. Але якое падарожжа яму трэба? Чаго ён хоча? Ці не вучыцца там? Барані божа, толькі хадзіць і хадзіць. З усіх тваіх апісанняў Riesengebirge[1] больш за ўсё зацікавілі яго. Можа, гэта жаданне хутка мінецца, калі ён прамерае сотню міль і пешая вандроўка страціць чары навізны; можа, ён асядзе дзе-небудзь на зіму. Так ці інакш, у яго заўсёды павінен быць за мяжой паблізу які-небудзь пункт, куды б ён мог і на зімоўку вярнуцца, і дзе ў любым выпадку мог бы знайсці прытулак. Дзівоснае будзе гэта падарожжа! Яму дык і ўсіх грошай з сабой даваць нельга, — хто ведае, або яго абкрадуць, або ён іх згубіць, а потым застанецца ні з чым. Куды яму тады дзецца? Не ведаю нават, як пры яго настроі будзе ён пачуваць сябе там сярод чужых людзей, якія толькі і глядзяць, каб як нажыцца. Мусіць, часцей за ўсё ён будзе ў адзіноце, таму што паедзе ён знаёміцца не з людзьмі, а з Riesengebirge; даліны, лугі — вось што яго будзе цікавіць, а я баюся, каб не паўздзейнічала гэта кепска на яго ўяўленне. Яму патрэбен нейкі анёл, які б ахоўваў яго, заўсёды апякаў яго — там жа ў яго будуць наўкол адны толькі скалы. Таму чым бліжэй у яго будзе які прытулак, тым будзе яму зручней і весялей. Пра тое, што яму неадкладна трэба выехаць адсюль, і гаворкі не можа быць, бо здароўе ў яго зусім разладзіцца. Таму старайся, Францішак, як мага далей заставацца за мяжой, інакш я баюся выпраўляць яго ў дарогу…

Другі том хутка пачнуць друкаваць, ён ужо цалкам падрыхтаваны. Томік будзе выдатны, у яго ўвойдзе «Гражына», літоўская аповесць пра адносіны ліцвінаў да крыжакоў і пра барацьбу з імі. Хаця Адам і скардзіўся на musam invitam[2] і аповесць яму ўсё меней падабаецца, яна ўсё ж цудоўная, а стыль сігізмундаўскіх часоў пераносіць нас у далёкае мінулае і выклікае захапленне. Далей будуць змешчаны «Дзяды», пра якіх ты, напэўна, чуў і нейкую частку якіх ты, здаецца, чытаў. Усяго будзе дзве часткі, можа, абедзве змесцяцца ў томіку. Варшава называе Адама Вальтэрам Скотам, а ён кажа: «Невукі хрысцілі мяне, значыць, хрысціны несапраўдныя». Як толькі томік выйдзе з друку, прышлю яго табе…

## 16. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*27 студзеня (8 лютага) 1823 г., Вільня*

Ат, сам не ведаеш, чаго ты хочаш ад сябе; немаведама чаго бурчаў на «Гражыну», а цяпер табе не падабаюцца ўжо «Дзяды». Хочаш ад сябе нейкіх дзіваў, нейкіх восьмых цудаў свету. Пачакай, можа, што і народзіцца лепшае. Я таксама спадзяюся і не пярэчу, але каб свае «Дзяды» абзываць нейкай непатрэбшчынай, пярэчу і спадзяюся, што не так будуць яны ўспрыняты. Папраў толькі і прысылай, а як будуць надрукаваны, пабачым, што пра іх скажуць людзі; хоць, вядома ж, іх меркаванне простае і абмежавана ўмоўнасцямі, але і тваё не магу цалкам прыняць, бо ты, здаецца мне, надта ж суровы да сябе крытык. Можа, калі-небудзь, зрабіўшыся пузачом, і палюбіш свае першыя тварэнні, цяпер жа ты глядзіш на іх па-дзівацку. Пра «Гражыну» Лялевель не выказваў сваёй думкі, я ў яго не пытаўся; пытаўся ён толькі, ці поўнасцю ўжо яна гатова, ці прайшла агнёвую пробу[1]. Я сказаў яму, што поўнасцю; а «псярня»[2] можа застацца з тлумачэннем. Пытаўся ў мяне і пра «Дзядка», як ён называе «Дзяды», я сказаў, што ўжо едзе і стане неўзабаве перад яго судом. Я яшчэ хадзіў да яго, каб пагаварыць пра тваё падарожжа. Ён сам ужо збіраўся і вось цяпер будзе гутарыць з рэктарам пра спосаб твайго звальнення. Добра б было, каб пры звальненні, казаў ён, табе прызначылі якую-небудзь пенсію; я адказаў, што калі б гэта магло выклікаць якія пярэчанні і перашкодзіць звальненню, то можна б абысціся і без яе… Такія былі размовы; заўтра ці паслязаўтра пайду (да Лялевеля) ізноў і буду пытацца пра тое, што ён думае пра «Гражыну», і, можа, у чацвер табе паведамлю.

«Прадмова» ўжо скончана, набіраецца «Першацвет»[3]. Адзін з тых, хто быў прыстаўлены да гэтай працы, казаў, што на тыдзень па тры формы можна рабіць; так што на трэцім тыдні томік будзе скончаны, а можа, і раней. Калі б з другім томікам усё было ў бердзе[4], тады б прыспешыў друкаванне першага.

Што да Зосі, я не хацеў бы Зосі перадаваць крыўды Карусі і зрушваць яе з адведзенага ёй месца; хаця гэта ж Каруся ўкрала Зосіны рысы, і правільна б было вярнуць іх. Але няхай ужо так і застаецца — як тыя маскалі ў «Курганку», замяніўшы якіх, трэба б было перакруціць іначай вершы, цяжка б было паставіць тут салдат ці каго яшчэ. Калі хочаш абавязкова кожную яе рысу пакінуць, табе самому, можа, удасца замяніць:

Ale z Józią i Franusią
Smieje sie płoche Karusia.

У іншых жа месцах імя ўсярэдзіне.

За паперу аддаў 6 рублёў, 4 злотых, 20 злотых… «Іерусалім»[5] каштуе 17 зл. 10 гр. На «Дзеннік»[6] падпісвацца хутка не варта, з-за недахопу грошай, ды і леташні ляжыць і, можа, недзе ў пачатку лютага выйдзе, студзеньскі ж хіба пад канец лютага пакажацца. Капрызы цэнзуры і скупасць рэдактара, які хоча, каб яму дарма давалі матэрыялы, а супрацоўнікаў не трымае, спазняюць выданне. Калі б не ў канцылярыі падпісваўся, мог бы бясплатна высылаць; але як толькі будзе блізкі да выхаду студзеньскі нумар, выпішу ў канцылярыі. Старайся толькі прысласць хоць колькі грошай, бо там, што зберажэцца, то ўжо не выдадуць, а тут, што зберажэцца, то застанецца ў капітале…

(Прыпіска да вершаў). Калі хочаш замяніць, дык сёння раніцай нашча кадэнцыя для Зосі — так можа быць:

Ale z Józia i z Antosia
Smieje się pierchliwa Zosia.

Згаджаешся замяніць?[7]

## 17. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*1(13) лютага 1823 г., Вільня*

Паколькі сёння няма пра што лепшае пісаць, раскажу табе што-кольвек пра паэтычную біржу, якую раней, чым хацелася

б, я згуртаваў каля сябе: усе самі пачалі пра гэта ўздыхаць і сумаваць, бо не ведалі, дзе ім выстаўляць напаказ і продаж плён свайго рамяства. Так што ўжо тыдні тры, як арганізавалася гэта паэтычная Ганза[1], якая штотыдзень пастаўляе для нас тавары. Тут — знаёмыя табе Эдвард і Алесь[2] і такія вядомыя старыя вершатворцы, як Станевіч[3], Загорскі[4] і іншыя, а таксама незнаёмыя табе Корсак[5], Масальскі[6], гэты ветравей, што калісь нас насмяшыў, Шпіцнагель[7] і нядаўна прыняты Дварэцкі[8]. Корсак піша оды на французскі манер, і таму, хоць у іх бывае досыць запалу і лірызму, мне яны не падабаюцца…

Такімі вось акружаны я паэтамі; я хацеў бы, як Вітальд, перад усімі імі ўзляцець высока, але мой пегас не вельмі можа пахваліцца крыламі. Праўда, цяпер мая мілая муза Зося зрабіла мяне здольным кожны дзень (быў бы толькі час) новую выдаваць прадукцыю, але гэта не тое, што магло б узвысіць мяне і ўсіх зрабіць здзіўленымі маімі паклоннікамі. Замяню гэтыя недахопы ўвагаю, маральнасцю, заўсёды высокім бачаннем сутнасці і мэты паэзіі et sic porro[9]. І буду датуль іх стырнавым, пакуль не навучу іх лётаць высока і мэтанакіравана. Адных займаюць толькі баладкі, іншыя пішуць ні тое ні сёе, а важныя пытанні грамадства, у тым ліку маральныя, ляжаць аблогай. На гэта буду іх скіроўваць. Пачаў сам паказваць у гэтым прыклад, напісаў песні, апрача тых, пра якія табе паведамляў; пра Малгажату з Зэмбаціна, пра княгіню Радзівіл[10], пра Ядзвігу[11]. У мяне ахвота пісаць іх болей, бо маю надзею, што Зося будзе іх спяваць — толькі б было каму рабіць ноты. Ужо і мае паэты загарэліся такога роду песнямі, бо ўзнагародай для іх — галасок з чароўных вуснаў. Думаем даваць часамі паэтычныя матэрыялы ў «Dzieje dobroczynności», перакладаць набожныя оды Сарбеўскага[12], пісаць набожныя песні і іншыя творы на маральныя тэмы. Потым зоймемся збіраннем матэрыялаў для даўно ўжо задуманага календара і альманаха на наступны год. Як бачыш, паэты не гультайнічаюць, толькі ты, нашых муз свяшчэнных архімандрыт, спіш сабе і нічым не адгукаешся новым. Кепскі прыклад (хоць у цябе і ёсць апраўданне і шубраўцы[13] пра цябе гаварыць не могуць) даеш ты, аднак, паэтычнай галоце. «Дзяды», «Дзяды» прысылай! Няхай і другі томік учыніць у свеце рух. Друкаванне першага ідзе з кожным разам далей. У Лялевеля не быў; меўся зайсці да яго Эдвард і папытацца, але і той не быў. Пазней думка яго будзе табе вядома. Бывай здароў!

Я, твой аканом і касір, не магу дапрасіцца ў твайго мужыка[14], каб аднёс у друкарню карэктуру. Такі гультай і непачцівы

падданы дамагаецца яшчэ ад цябе шляхецкага звання! Злітуйся, страціш такую вабную мэту ўзнагароды, як заслуга, калі яго просьбу задаволіш! Няхай перш заслужыць, а тады атрымлівае тытулы, якія заўсёды ў нейкай ступені схіляюць да гультайства.

## 18. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*22 лютага (6 сакавіка) 1823 г., Вільня*

Адаме!

Апёкся на малацэ, дык ужо на ваду хочаш дзьмухаць. Што так цябе вельмі цікавіць, дзе сядзеш, калі б табе не ўдалося паехаць? Чаму сумняваешся ў добрым выніку спробы? Я, наадварот, упэўнены, што табе пашанцуе; а калі б нават не ўдалося, то мяркую, што раз табе ковенскае жыццё цалкам абрыдла і больш ты трымацца там не можаш, дык усюды, дзе б табе ні ўдалося асесці, будзе лягчэй і лепей, чым у Коўне. Я гаварыў пра гэта і з Іяахімам[1], і ён дзівіўся тваёй трывозе за будучыню, бо гэтае звальненне можа быць у любы час і скасавана — у выпадку няўдачы, калі ты не захочаш чаго лепшага, ковенскае месца будзе за табой. А значыць, не трэба вельмі раздумваць, а выконваць свой намер; усякіх плюсаў і мінусаў будзе нямала, не трэба толькі сумнявацца.

Кажуць, Твардоўскі[2] летам паедзе ў Берлін. Бачыўся ўчора з толькі што прыбылым у горад Шырмам[3], які хацеў калісь быць з Францішкам за мяжой у адной кампаніі. Казаў, што вясной едзе ў падарожжа з Тэрлецкім[4]. Тэрлецкі, які цяпер у дэрпацкім[5] універсітэце, возьме пашпарт у Рызе, бо ён там. Не ведаюць яшчэ, пададуцца спачатку ў Францыю ці ў Германію. Sub secreto[6] чуў, Твардоўскаму прыйшло ўжо пацверджанне на рэктарства, але не будзе яшчэ пра гэта аб`яўляць, бо праз дзень-другі едзе дадому[7], а можа, і на мінскія кантракты; маецца паведаміць пра гэта, калі, вернецца, пакуль жа — таямніца. Еж прыслаў мне ўчора з Контрымам[8], які вярнуўся з трокскіх экзаменаў, ліст. Вазіў там з сабой Бабро́ўскага[9] з лацінскай казанню, у якой той буламі даводзіў, што бенедыктынцы абавязаны з усёй сумленнасцю вывучаць латынь, грэчаскую і яўрэйскую мовы; інача́й тэалогію і распачынаць няма патрэбы. Гэта не магло не зрабіць на папоў, прынамсі, да масленіцы, немалое ўражанне. Сарока, які быў выбраны абатам, меўся выступіць з казанню пра патрэбу грэчаскай мовы, над якой пацеў Еж, але перад ла-

тынню Баброўскага ці з якіх іншых прычын схаваўся са сваёй прамоваю ў кут і ўступіў месца для выстаўлення красамоўства госцю. Еж скардзіцца, што ў часе выбараў абата дазнаўся многа чаго непрыгляднага. «Бо на выбарах, — кажа ён, — было многа выпіўкі, музыкі і іншых забаў. Папы цяпер п’юць і весяляцца, а абедаюць позна». «Я, аднак, кажа далей, заўсёды самотны і сур’ёзны. Найпрыемнейшыя гутаркі для мяне — гэта з маім малым камердынерам, які мне апісвае характары п’яных ксяндзоў і іншыя манастырскія асаблівасці». Пытаецца далей, ці прыехаць яму на масленіцу, ці ты ў нас на масленіцу будзеш. Калі адчуваеш патрэбу праехаць і ёсць ахвота, хаця гэта звязана і з фінансамі, то не задумвайся ўжо надта і на колькі дзён прыедзь; можа, кагонебудзь знойдзеш для кампаніі, дык меней трэба будзе плаціць. Галоўнае, глядзі, ці адчуваеш патрэбу праехаць і ці будзе ад гэтага які вынік. Калі намерышся ехаць, напішы зараз жа, каб я пра гэта паведаміў Юзафу. Да масленіцы яшчэ дзён 10.

Узяў у крэдыт да 15 сакавіка два «Dzienniki»[10]; падпіску вазьму, калі аплачу. Калі ад патрэб застануцца ў цябе якія грошы, прыхапі з сабой альбо прышлі. Калі нічога не застанецца, то не турбуйся.

Сёння заканчваецца друкаванне першага і пачынаецца другога томіка. Шкода, што няма матэрыялаў на трэці — мы адразу б з галавы гэты клопат скінулі. Усіх матэрыялаў другога аказалася звыш нормы, аб’ём іх складзе не менш 7 аркушаў, а можа, нават і болей: са спісам падпісчыкаў, загалоўкамі — каля 8 набярэцца; так што і таўшчынёй, і цаной ён пераўзыдзе першы томік. Калі б яшчэ што-небудзь было з матэрыялаў і разам 2-гі і 3-ці томікі маглі б на свет паказацца, тады б 2-я частка «Дзядоў» увайшла ў 3-ці томік. Разлучаць іх не варта: трэба, колькі б ні было аркушаў, разам друкаваць. Лялевель друкуе цяпер сваю невялічкую працу пра польскія друкарні. Лёнгін ужо аддадзены на цэнзуру. Прысылай мне яшчэ рэзалюцыю на некаторыя выразы, пра якія я пытаўся ў мінулым лісце і цяпер пытаюся. Вось што ў гэтых вершах:

Ach, taki właśnie był kolor jej włosów,
Jak te kasztanu gałązki!

Там пра кіпарыс мова, а потым ці добра параўноўваць валасы з галінкамі каштана? Прашу растлумачыць мне; можа, гэта памылка перапісчыка ці я не разумею.

І яшчэ:

Ci znowu w licznym snujący się gwarze,
Są dumnych pochlebnisie, czernideł pisarze.
Na jakie pan ich gniewał się zagony,
Tam przeklęta chmura leci etc.

Падкрэсленага радка не разумею і не ведаю, да чаго ён адносіцца.

І ўрэшце:

A znasz ty ḱywot ś w i ę t e j Heloizy?

Трэба будзе пазбыцца «ś w i ę t e j», пакінуць толькі «ḱywot Heloizy», каб тэалогія не ўчапілася за выраз. Заўвага цэнзарская.

З пустым Эдвардам кепска абыходзішся, што не робіш яму, як відаць з твайго ліста, галавамыйкі, пра якую я прасіў цябе. Трэба абавязкова як-небудзь паправіць яго: нічога не ўмее і ўмець не хоча.

Адны вершы і ведае, яны — уся яго навука і дабрачыннасць. Скажы яму, няхай дае табе кожны тыдзень справаздачу пра зробленую работу; так прызвычай яго, каб сам аналізаваў усё зробленае самім сабой — можа, соромна хоць будзе, што кожны дзень адно і тое ж было: то спаў, то нічога не рабіў. А твае парады і перасцярогі яму вельмі шмат памогуць, бо цябе абагатварае і, як нікога, баіцца.

## 19. ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

*4(16) сакавіка 1823 г., Вільня*

Мы так і не ведаем, едзеш ты да нас ці не. Мы вельмі рады былі цябе бачыць. Ці дазваляе толькі табе выехаць здароўе? Як ты адчуваеш, ці паможа табе дарога? Прыедзь, калі можаш!..

Забаўляюцца цяпер у нас як ніколі. Чаму? Ці таму, што голыя, ці каб забыцца, што голыя, не ведаю. З вечара на вечар, з казіно на рэдуты і гэтак далей ходзяць і ходзяць. Адна з прычын — гэта тое, што сабраліся такія дамы, якім ёсць за што даваць вечары; другая — што іншыя, хоць голыя, не хочуць падаваць у гэтым выглядзе. І хоць бедны мужык пухне недзе ад голаду, яны тут, як ты кажаш, валяючыся ў золаце, шумяць. Сёння вялікі маскарад; кажуць, што гэтыя «касцюмы», якія блішчалі на балі ў Лапацінскіх, будуць паказаны і для простага люду. Будзе там,

кажуць, маска для высмейвання паноў, што балююць якраз у той час, калі на Русі іх падданыя паміраюць з голаду. У чацвер быў вялікі пікнік. 400 залатых асвятляла залу, налівала келіхі шампанскім, стаўляла вячэру і, кажуць (і, пэўне ж, слушна), наспраўляла новых фракаў і капелюшоў тым, хто займаўся арганізацыяй пікніка. Ды ад голых і пустых нічога лепшага і не трэба было чакаць. Вельмі добра, што ніхто з пачцівых у тых забаўках не ўдзельнічаў. Нават Ходзька[1], антрэпрэнёр, такі аматар да гэтакіх забаў, не быў давольны пікнікам. І многа было незадаволеных. Расказваюць пра тое, што Тышкевічыха мелася зрабіць добры ўчынак — хацела ўласным коштам даць вечар і каб сабраныя на пікнік грошы былі аддадзены на выкуп беднага бацькі (у яго ж такая вялікая сям'я), якога ўзялі ў турму за неаплачаны доўг. Пустапарожныя гулякі, што арганізоўвалі пікнік, не дапусцілі гэтага. Я тады назваў бы Тышкевічыху сапраўднай гераіняй, калі б тыя прызначаныя на свой вечар 400 залатых сціпла аддала альбо свайму няшчаснаму бацьку, альбо на дапамогу бедным. Бывай здароў і абавязкова хутчэй адпісвай.

*Ян*

## 20. ДА АНУФРЫЯ ПЕТРАШКЕВІЧА І ЮЗАФА ЗАВАДСКАГА

***22 кастрычніка (3 лістапада) 1825 г., Кізіл***

### Санет

О любая ў Айчыне любай, пра якую
І словы, і трызненні ўсе мае!
Перада мной — зноў воблік твой снуе,
Малюся Богу за цябе, найдарагую.

Імчу я думкай да цябе праз даль глухую.
Каля Урала, што між гор ваду ліе,
Дзе ўсё чужое, дзе сяброў так не стае,
Хаджу пануры я і па табе сумую.

Далёка гэтак ты! Я рэдкаю парой
Не мару пра цябе, не цешуся з табой.
Зноў да цябе прастуе дум маіх дарога.

Ах, мо развее доля хмары нада мной
І дасць сустрэцца нам пад яснаю зарой.
О любая! Папросім жа пра гэта Бога!

Ты хацеў, каб я адгукнуўся — вось і адгукаюся, і, як бачыш, жывым голасам. Усё — у маёй памяці, і яна, памяць, амаль пагасламу жыццю ў гэтым невыносным спачынку надае яшчэ бег, яна — адзіная мая асалода. Не бойся, аднак, што я буду плакаць над вашай і маёй нядоляй, зусім іншай буду гаварыць з вамі мовай. Не здолею раскрыць свой душэўны стан і не буду старацца, але скажу, што закінуты між скал і стэпаў, я нечым да іх падобны. Усё, што навокал мяне, робіць мяне каменным і драўляным; магчыма, што гэтак гартуецца распаленае жалеза. Часта злуюся, аднак на дрымоту думкі, якая не маючы ў сабе вялікіх рэсурсаў, не ведаю, што можа нарадзіць на такім цвёрдым грунце; тым болей злуюся, калі засяду пісаць вам, і не хапае матэрыялаў. Бачыш стан няволі, стан прыціснутага, зацвярдзелага, прыніжанага жыцця. Узяў я чвэрць, узяў палову аркуша, мушу, аднак, з яго на запіску што выдбаць. Холадна, і па-мойму, і ад зубнога болю не пашкодзіць што прачытаць. Ваш ліст з па-за мінулай пошты, г. зн. 9 кастрычніка, я атрымаў разам з лістом з дому ад брата, з прыпіскамі Казіміра і Марыяна[1], быў рады, шчаслівы. Ніколі гэтулькі многа не было навін. Вельмі скупа кормяць нас звесткамі пра мілыя краі і пра блізкіх людзей. Звычайна кажуць: у нас усё па-старому, а мы, не ведаючы гэтага старога і не ўмеючы жыць па-новаму, не ведаючы, як да яго прывыкнуць, паміраем з голаду, пакінутыя на згрызенне сваім думкам. Стан смяротнай цішы і спакою? З мінулай поштай (бо тут толькі адзін раз на тыдзень яна прыходзіць і адыходзіць) адпісаў дамоў. Але ці ж гэтак многа пісаў, што да вас ужо не мог? Аж толькі сёння, няхай душа ваша чуе, пішу. Ліст Нуфра, калі ў той жа дзень, як пісаўся, быў адпраўлены, ішоў 18 дзён. Калі і мой будзе гэтак ісці, атрымаеце яго ўжо ў лістападзе. Сёння не буду вам казаць, на якім канцы свету мы жывём і як жывём; толькі — што робім, бо гэта з усіх пунктаў гледжання майму пану Завадскаму можа спадабацца, а я вельмі хачу яму спадабацца, як і павінна быць: ужо за адно тое, што адгукнуўся мне, ён для мяне бясцэнны.

Усе мы здаровы. Мы не на лепшай ад няволі свабодзе, Тамаш яшчэ будзе да 20 лістапада ў турме[2]. Выбягае часам на бераг Урала — ухапіць, калі не жыцця, дык свежага паветра. Мы блукаем далёка па стэпах, прыносячы адтуль у душы дадому

такую ж, як стэпы, аднастайнасць, панурасць і млоснасць. Наш дом — маленькая хатка: зробленая яшчэ пры жыцці пустэльніка магіла. Усю зіму аж да 15 мая я пражыў у халаднейшай, чым Сібір, абвахце, заўсёды з салдатам перад вачамі і з рознымі каравульнымі, якія забруджвалі мой пакой сваім тытунём і размовамі. У гэтай дзіравай і недагледжанай хованцы часам быў такі жахлівы холад, што я змушаны быў сядзець тут адзеты, як у павозцы — у кажуху, паліто, цёплых ботах, рукавіцах і шапцы. Я так замярзаў колькі разоў, што не ведаю, як яшчэ не захварэў — калі б не ўнутранае цяпло, можна б было ператварыцца ў лёд. Схаваныя рукі былі ўсё роўна застылыя, гэтак жа сама і душа. Так што, мой пане Завадскі, пра тое, каб пісаць, і ў галаве не было. А да ўсяго гэтага не па-людску да мяне тут аднесліся — не так, як да выдатнага пісьменніка. Губернатар, кузіна якога тут замужам за камендантам, на пытанне, ці можна мне пісаць да бацькоў, загадаў — ці не з любові да сваіх? — каб у мяне ні пяра, ні чарніла, ні паперы не было. Тут жа загад быў даведзены да дзяжурных. Мне і раней перашкаджалі пісаць дадому розныя фармальнасці, а цяпер я зусім пазбавіўся гэтай адзінай прыемнасці — пісаць, пра што мроіцца. Зрэшты, на такім халодным гарызонце і сярод усялякіх прыкрасцяў ні пра што асабліва не мроілася — такое прыніжэнне было вельмі прыкрае і ўсякую ахвоту што-небудзь грымзоліць адбіла. Чытаў, больш за ўсё розныя рускія кнігі — каб лепш асвоіць мову, тым больш што гэта мне нічога не каштавала. Прачытаў і некаторыя нашы.

Пасля абвахты я жыў месяц у каменданта, быў там за гувернёра, а калі вучаніца, падзякаваўшы за службу, выехала з маткай, я ізноў застаўся на сваім хлебе ў гэтай нанятай маленькай турме. Што да творчасці, то з гэтым у мяне кепска. Сам не магу зразумець, чаму, але прычына тут і ўва мне, і ў маім становішчы. Не надта рухавы розум патрабуе, каб яго нешта ўскалыхнула, а тут, прыціснуты ўсякімі цяжкасцямі, я нават паварушыцца не магу. Пачаў, аднак, круціцца каля Ірвінга[3]. Некалькі артыкулаў у ліпені, хоць не вельмі добра, але пераклаў. Болей вырашыў не перакладаць з-за розных бедаў і перашкод, а больш за ўсё таму, што мне падабаецца Ірвінг, і я не хачу псаваць яго кепскім перакладам — пачакаю лепшай пары, больш пагодлівага часу. Нічога мяне не вяртае да жыцця, адна толькі памяць пра яе! Даруйце, што паведаў. Усё ж яшчэ скажу, што жыву і буду жыць гэтай памяццю. Калі тут давядзецца (чаго не дай Бог) зімаваць, можа, па зіме пакажу вам прыбранага па-польску Ірвінга. З таго, што завецца вершамі, апрача некалькі ўздыханняў да нашай

дарагой[4], я нічога не напісаў. Усе адлятаюць з вятрамі, не магу іх затрымаць для людскога вока рыфмамі.

Што да Тамаша, то ў яго ўсё інакш. Не ведаю, ці ў яго абвахт быў цяплейшы, ці ён сам цяплейшы, бо хоць яго абвахт быў неспакойнейшы ў дзесяць разоў больш, але ён пераклаў «Selbsterkenntniss» Масона[5] і яшчэ нейкую працу па фізіцы. Ужо нават начыста перапісаў. Талент Сузіна спачываў гэтак жа шчасліва, як і мой. З вясны, калі стаў больш вальнейшы, ён узяўся за пераклад Lecons de la natures[6] і памаленьку ад «скуки» пасоўваецца ўперад.

Цяпер маеце вобраз жыцця бедных літаратараў, якія сядзяць сярод турмаў за сваімі столікамі і працуюць на агульнае дабро, якога самі не могуць зведаць. Не ведаю, калі скончыцца гэта няволя — ужо, дзякуй Богу, трэці год пачаўся. Не ведаю, за што мы тут і пасля шасці месяцаў застаёмся пад арыштам. Спадзяёмся, можа, як выйдзе Тамаш, прыйдзе канец гэтаму мучэнню.

Цяпер аранбургская лінія, можна сказаць, запруджана палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць). Апрача нас тут яшчэ ёсць пяць студэнтаў — чатыры крожскія і адзін панявежскі[7], апошні — са мной. З крожскіх адзін — у Орскай з Сузіным, тры яшчэ далей па лініі, у гарах. Яны бяднейшыя за нас, але шчаслівейшыя, таму што меней бачылі добрага, а значыць, меней страцілі. Паколькі тут, можа, большая палова людзей пакрыўджана рознаю доляю, і начальнікі, і падуладныя, і паколькі бачыш заўсёды столькі нешчаслівых, то думаецца, што тут неяк спагадаюць у няшчасці і гэта слова «человеколюбие» не толькі чуецца ў гаворцы, але чалавечныя адносіны маюць месца і на практыцы; так, праяўляецца гэта чалавечнасць, але часам такім прыкрым спосабам, што лепей бы яе зусім не бачыць.

Але я адступіў ад свайго намеру зусім не кранацца ўсяго гэтага, так, як да маёй кухні, і г. д. Толькі чым жа запаўняць тады гэту чвэртку паперы, калі не разважаннямі пра зразы і авечую смажонку, якая тут лічыцца самым лепшым прысмакам? Зноў пачнём размаўляць з Ануфрыем пра вершы і песні, пра падарункі для чароўнага полу на Новы год, і тут жа аблічча яго праясніцца, і вус натапырыцца, і зубы, можа, як ад laudanum ligvidum[8] заснуць. Так што, пане Ануфры, калі няма чаго рабіць лепшага, давай будзем пісаць вершы. Няхай сабе Канты і Куясы[9] думаюць і цяжкія ды важныя гавораць прамовы, а той, хто плячамі Атласа[10] не можа зрушыць зямныя і нябесныя рэчы, добра будзе, калі праспявае ім песеньку. Але якую ж песеньку? Не спяваецца цяпер ніякая. Не ведаю, дзе дзелася мая плодная

вена? Як я перад гэтым думаў, дык і сам цяпер не ведаю, толькі ведаю, што проста ліліся вершы і рыфмы. Цяпер цяжка мне ўлавіць якую думку, а яшчэ цяжэй аформіць яе рыфмамі. Для разнастайнасці раскажу вам, што, прачытаўшы «Даследаванне метрычнасці»[11], я паспрабаваў рыфмаваць без кадэнцыі і такім спосабам пераклаў некалькі песень Глейма[12]. Нешта тут не на месцы гэтыя і ўсе на свеце песні! Але не дзіва, што пад наглядам чалавек адгукваецца вар'яцкім спосабам.

Што думаў я пра ліст да вас, атрымаўшы ваш, вы маеце нейкія ўрыўкі. Аднак не — на далейшы час застанецца песня. Пішуць, што Адам у дарозе, едзе ў Маскву. Можа, і прыехаў ужо. Дык калі прыедзе, няхай напіша колькі слоў. Еж, Франак[13], адгукніцеся — цяпер я вас буду клікаць. Але яшчэ анафема — можа, вас клікаць для сэрца не варта. Трэба быць з розумам, але адгукніцеся. Нямы матэматык мо калі-небудзь навучыцца гаварыць? Як там жывяце, што робіце, што ад сваіх з дому чуеце — пра ўсё паведвайце. Паведвайце, бывайце здаровы.

Усіх вас найсардэчнейша абдымаю.

*Ян*

Пішыце на мой адрас, толькі не «Ивану Ивановичу, а Фаддеевичу». Тамашу можна пісаць на адрас: «Милостивому государю Федору Осиповичу Китеньцову, экономическому помощнику в училище неплюевском в Оренбурге».

## 21. ДА АНУФРЫЯ ПЕТРАШКЕВІЧА

*18(30) снежня 1829 г., Уфа*

Шаноўны Ануфры, і за тое дзякуй Богу, што няма пра што пісаць і няма ахвоты; а яно ў гэтай жахлівай галоце і добра: хоць некалькі грошаў зберажэцца. Аднак жа трэба хоць словам калі-небудзь перакінуцца. Каб ты ведаў, як ужо нас замучыла тутэйшая халера, а можа, ты пра яе не чуў? А ўсё ж, здаецца, жывём, хаця ўжо два тыдні ад другой сваёй паловы, ці лепей ад дзвюх трэціх — не меў звестак. У Арэнбургу, аднак, за месяц з лішнім зараза зменшылася, а да Уфы не дайшла; але ўсё яшчэ госціць дасюль у тутэйшай губерні ў двух, здаецца, месцах і, калі пан Бог не злітуецца з башкіраў і татараў, то можа захавацца часткова і да вясны. Усё ж трэба спадзявацца, што зіма гэта ліха выганіць.

Засмуцілі мяне мае суседзі: як наўмысна, радзей і вельмі нерэгулярна пісалі ў часе гэтай заразы ў Арэнбурзе. Пасылаў ім і Гердэра[1], і Стэварта[2], каб іх ажывіць і заахвоціць да пісання; ледзьве змог даведацца, што пасланае дайшло і што яны жывыя. Заўтра пашлю Стааль-Гальштэйн[3], мо яна папросіць іх, каб напісалі. За кнігі вялікі табе дзякуй. Атрымаўшы, я паслаў табе паштоўку. Не ведаю, ці дайшла! Тамаш хоча папрасіць цябе, каб Гердэр яшчэ пабыў у нас; далучаю і я сваю просьбу, бо хацеў бы другі раз яго прачытаць. Стэварта я прачытаў толькі том. Стааль добрая, толькі крыху ханжа. Для перакладу — як з боку зместу, так і стылю — нялёгкая. Вельмі б я жадаў, каб яна была перакладзена, сам бы я перакладаць не хацеў. Думаю часам аб Брэтоне[4] і не ведаю яшчэ, калі гэтую тваю прапанову выканаю. Я вельмі заняты, ледзьве хапае часу на чытанне якой кніжкі. Зрэшты, перакладаць не магу; перапісваю, а не перакладаю аўтара. Не ведаю яшчэ, што будзе з Ірвінгам… Не лічу сябе майстрам ex professo[5], а значыць, ні пахвала, ні крытыка не даходзяць далёка да сэрца. Робіць шавец чаравічкі ў Варшаве і робіць дзе-небудзь у нас на вёсцы; той шукае грошай і славы, а гэты — каб хоць выжыць на свеце і расплаціцца са сваімі даўгамі. Адвык я ад думак высокіх, знізіўся аж да чаравічка. Але дзе ж чаравічак на назе ў Зосі; чаравічак наймілейшы, і параўнанне вельмі добрае. Тым лепшае, што адносіцца да Ануфра[6], які калісьці ведаў толк у чаравічках. Ах, і гэты ўспамін не патрэбен! Дазволь жа болей думаць пра чаравічкі Зосі і яе наймільшыя ножкі. Ці Юзаф[7] гневаецца яшчэ на мяне? Не напісаў, хоць, здаецца, меўся пісаць. Ёсць нешта ліхое і ў маім сэрцы, прыкра мне думаць пра Юзафа, але за Зосіны ножкі дарую яму ўсё, не хачу нічога мець у сэрцы, няхай піша, няхай сабе хоць лае, хоць мяне лічыць злым і прыніжаным чалавекам. А пра што будзе пісаць, не ведаю, можа, знойдзе. Рэдка што чуем пра Зосю. Францусь[8] нядаўна пісаў, што яе пакусаў сабака, але ўжо выздаравела. Марыя нядаўна пісала Тамашу, Жэгота яе хваліць, што прывязваецца да дому. Людвіка[9] хутка едзе да мужавага бацькі. Жэгота пазбаўляецца суседкі і вельмі давольны ад гэтага. А як мы сябе адчуваем? Не ведаю, што адчуваем, здаецца, нічога. Толькі бясконцая ціша. Ужо сустрэлі мо госця Фелікса[10], меўся выехаць на пачатку гэтага месяца. Я паслаў ужо не на яго адрас, а на адрас Вернікоўскага[11] 15 рублёў асігнацыямі на помнік князю Юзафу. Я прасіў, каб у выпадку, калі Фелікс ужо ў дарозе, сам да цябе адаслаў. Паслаў 28 лістапада г. г., аднак да гэтага часу няма ні ад таго, ні ад другога адказу. Адзін зямляк, які тут жыве, ахвяруе на помнік таксама

15 рублёў асігнацыямі, адсылаю іх, каб ты разам з тымі, якія дойдуць з Феліксам альбо поштай ад Вернікоўскага, і з тымі, якія сам, можа, збярэш, адаслаў у Варшаву. Адрас: Камітэту па ўстаноўцы помніка князю Юзафу Панятоўскаму[12]. Не марудзь з адсыланнем, бо аб'ява была ў чэрвені ці ў ліпені — пра тое, што там не хапае сродкаў на помнік.

Пане Ануфры, што ж табе болей сказаць. Бывай здароў — гэта страшныя словы пры развітанні, але вельмі пажаданыя пасля заканчэння ліста ў гэтых краях. Бывай здароў, і бывайце ўсе здаровы, няхай вам пан Бог памагае ў працы — каб працаваць, а ў нудзе — каб яе вытрымаць. А сям'і Казлоўскіх[13] — паклон.

*Ян*

## 22. ДА МАРЫІ ПУТКАМЕР[1]

*Сакавіка 9 дня (1883 г.), Лепель*

Шаноўная Марыя, прагну паведаміць Марыі, што ўжо ад чацвёртага лютага гасцюю ў Лепелі[2] над вялікім возерам і рэчкай, якая ўжо вольна плыве. Снег амаль што растаў. Жыццё павінна быць добрае, шкада, што тут не возера маёй пані, і буду, напэўна, блукаць каля яго самотны. Я яшчэ не разгасціўся і прашу прабачэння, што і на ўбогай паперы, і каротка напішу. Прыемна мне, што знаходжуся бліжэй ад дома. Марыя можа цяпер забяспечыць мяне абяцанымі кніжкамі. «Noworocznik»[3] леташні, аднак, я чытаў, і няма патрэбы яго прысылаць. «Вобразы»[4] нашай літаратуры хацеў бы бачыць. Прашу паведаміць мне пра сябе, пра сваіх дзетак і шаноўнага пана Лаўрына[5], якому перасылаю паклоны. Памятаю, што колішняя суседка Марыі Людвіка перасялілася недзе ў тутэйшую губерню; калі б напэўна ведаў, дзе яна павінна пражываць, то мог бы пры нагодзе даведацца аб ёй, а калі блізка, — і наведаць. Прашу ласкавага Бога, каб хоць перад смерцю дазволіў мне ўбачыць маіх мілых. Жадаю Марыі здароўя і добрых думак. Заўтра пайду на імшу; як мяне цяпер кранае набажэнства і спяванне, першы раз ледзь утрымаўся ад слёз, так было напоўнена сэрца.

*Ян*

P. S. Мой адрас: у Лепелі, у дырэкцыю Бярэзінскага канала.

## 23. ДА ЮЗЭФЫ ДАМЕЙКІ[1]

*Лютага 9 дня (1833–1839 гг.)*[2]

Шаноўная пані Юзэфа, многа прайшло часу з той пары, як я меў сапраўдную прыемнасць быць у Бортніках. Бачыў тады я невялікую панну Юзэфу, якая цяпер з’яўляецца паняй і маці. Можа быць, пані зусім не памятае пра такога даўняга госця, аднак жа прыйшло мне ў галаву ўтамляць паню просьбамі. Меў я ў сваіх руках зборнічак бортніцкіх вясковых песень, вельмі добры і добра складзены, асобна былі сабраны песні веснавыя, асобна дажынкавыя, купальскія і гэтак далей. Выпадкова згубіў той зборнічак і хацеў бы кампенсаваць гэту страту. Простанародныя песні, мала кім чутыя і заўважаныя, вельмі прыгожыя і дзівосныя. Бортніцкія былі надзвычайныя. Хацеў бы я калі, хоць далёкі ад родных старонак, сабраць тыя песенькі і як-небудзь перакласці; многа пані зрабіла б мне ласкі і паслужлівасці, калі б пажадала заняцца збіраннем гэтых песенек. Нашы сарамлівыя вясковыя жанчыны не лёгка адважваюцца пераказаць свае песні мужчыне, толькі кабета ўмее іх з лёгкасцю ўпрасіць, каб ёй расказалі. Таму не адмоў, пані, у маёй просьбе, а я не сумняваюся, што і сама знойдзеш вялікую прыемнасць у гэтым занятку. Прашу толькі настойліва захоўваць у запісах вымаўленне вясковых слоў, а таксама заўсёды пытаць і занатоўваць, калі і пры якіх абрадах ці забавах спяваюць якую песеньку. Бясконца буду ўдзячны за зробленую ў гэтых адносінах працу. Зрабі ласку пры гэтым, пані, прыняць маё ўшанаванне і пажаданне здароўя і ўсякіх поспехаў.

*Ян Чачот*

## 24. ДА КАНСТАНЦІНА ТЫШКЕВІЧА[1]

*28 снежня 1844 г., у Бортніках*

Яснавяльможны графе дабрадзею!

Я яшчэ не дзякаваў яснавяльможнаму пану за добры і аж занадта дарагі для мяне тытунь, які дагэтуль куру, успамінаючы часта Вашу сапраўды нязмерную дабрату і ласку. Выказваючы цяпер найшчыршую падзяку за такі шчодры падарунак, я асмельваюся ахвяраваць яснавяльможным пану і пані дабрадзеям экземпляр чацвёртай кніжкі маіх сялянскіх песень. Апрача таго, як

і раней, даю дзевяць экземпляраў гэтых жа кніжак для таго, каб пан граф і пані графіня падаравалі іх сваім знаёмым леплянам і барысаўчанам. Напэўна, ёсць сярод іх і дабрачынныя да сваіх сялян паны, для якіх яснавяльможныя граф і графіня дабрадзеі перададуць ім гэтыя кніжкі з прысвячэннем, і яны прымуць іх з прыемнасцю. Прашу толькі і не думаць пра якую-небудзь для мяне ўзнагароду за гэта, бо я аж занадта ўжо атрыманым падарункам узнагароджаны; хіба што які пан сам захоча нешта мне ахвяраваць (толькі каб без аніякага напамінку!), дык тады толькі я не буду пярэчыць. Я даў бы ў дзесяць разоў болей гэтых кніжак, каб толькі атрымаць прыязнасць у яснавяльможнага графа дабрадзея і каб у выпадку, калі не буду мець тут сталую кватэру ці калі абрыдзею сваім дармаедствам маім цяперашнім дабрадзеям, у мяне заставалася надзея, што яшчэ ў Лагойску можна будзе мне знайсці прытулак. Мне вельмі цяжка з маім аслабелым здароўем і з надакучлівымі часам нястачамі знайсці ў сабе якую-небудзь энергію, каб выбрацца з родных маіх аколіц; але каб адно і другое неяк паправілася, то я, апынуўшыся ў Вас, напэўна, знайшоў бы ў асобе пана графа добрага пана, пры якім можна б было мне дажыць да канца гадоў сваіх. Шкода толькі, што Вы, яснавяльможныя граф і графіня дабрадзеі, не заўсёды жывяце ў Лагойску; але калі б пры Вас звыкся з Вашым месцам, лягчэй бы было чакаць Вас у выпадку Вашага ад’езду. Паколькі я ўжо цэлых пяць гадоў ем ласкавы хлеб, хацеў бы мець сабе нейкім чынам самім запрацаваны і быць за яго шчырым слугою. Так што калі яснавяльможнаму графу спатрэбіцца, ён можа выклікаць мяне ў сваю бібліятэку і архіў — для іншага абавязку, здаецца, я ўжо не здольны.

У мяне ёсць цяжкасці з продажам старадрукаў; я даўно прасіў адну асобу купіць іх; калі ён не купіць, можа, яснавяльможны граф дабрадзей хацеў бы мець іх у сваёй бібліятэцы (калі іх там няма), таму зраблю іх спіс разам з цэнамі, якія, хоць і не нізкія, але не здаюцца мне і надта высокімі, калі паглядзець на даўнасць твораў і нават на цяперашнія цэны за ўбогія часам сённяшнія кніжкі.

Вельмі мілы мне ўспамін пра тыя кароткія хвіліны, калі я меў сапраўдную прыемнасць бачыць тут і пазнаць яснавяльможнага графа дабрадзея; дай Божа, каб я меў шчасце яшчэ бачыцца з панам і падзякаваць яму асабіста за яго ласкавую памяць і ахвяру для мяне.

З самай шчырай пашанай маю гонар быць для яснавяльможных графа і графіні дабрадзеяў найніжэйшым слугою.

*Ян Чачот*

# КАМЕНТАР

## ВЕРШЫ І ПЕСНІ ВІЛЕНСКАГА ПЕРЫЯДУ. 1818–1824

### *Развітанне з Наваградкам*

Гэта — адзін з трэнаў, пазначаны аўтарам нумарам XVI. Трэны (журботныя элегіі) Я.Чачота цэлыя сто гадоў былі невядомыя чытачу, застаючыся ў рукапісе. Толькі ў 1921 годзе знайшоў іх у польскім горадзе Лодзь сярод іншых матэрыялаў філаматаў і філарэтаў прафесар Вітольд Клінгер. Захоўваліся гэтыя матэрыялы ў дамашнім архіве Генрыкі Карпінскай з дому Брахоцкіх (унучкі каханай Я.Чачота Зосі Малеўскай). Паперы са спадчыны Зосі Малеўскай вядомыя цяпер як «Малы архіў філарэтаў» — гэта творы А.Міцкевіча, Т.Зана, Я.Чачота і А.Адынца. Больш за ўсё ў гэтым архіве аказалася твораў Я.Чачота — каля 230. Галоўным чынам, гэта былі тэксты песень, што прызначаліся Зосі Малеўскай, якая выконвала іх пад фартэпіяна — так званыя («Зосіны песні»). Першы сшытак Я.Чачот так і назваў — «Песні Яся для Зосі». І ніжэй дапісаў: «Маюцца быць з музыкай Зосі і Марылі», г. зн. Зосі Малеўскай і Марылі Верашчакі. Усяго было там сто песень. Песні «для Зосі» былі і ў іншых сшытках. Апрача «Зосіных песень», заснаваных на беларускім фальклоры, у «Малым архіве філарэтаў» былі яшчэ фальклларыстычны «Дадатак» і 24 «Трэны».

Творы Я.Чачота, змешчаныя ў гэтых рукапісных сшытках, аўтарам не датаваны. Але, як відаць, усе яны былі напісаны ў філамацкі перыяд, часткова ў турме ў Вільні яшчэ да высылкі.

У рукапісным аддзеле Вільнюскага універсітэта мне давялося пазнаёміцца з усімі гэтымі творамі Я.Чачота, старанна перапісанымі прафесарам В.Клінгерам (Ф 24–145). У трэнах Я.Чачот расказвае пра свае дзіцячыя гады, пра палі і пералескі, сярод якіх ён жыў, пра школьныя часы. У іх нямала штрышкоў, якія асвятляюць біяграфію паэта, раскрываюць яго характар.

Друкуецца ў перакладзе паводле выдання: Tygodnik Ilustrowany, 1922, N 22.

[1] Зайцы, палянты, кашкі, тарапаты — назвы дзіцячых гульняў.

[2] Боцькаўскія бізуны — ад назвы мястэчка Боцькі на Беласточчыне (над ракой Нурэц), вядомага калісьці рымарскімі вырабамі, асабліва бізунамі, якія прызначаліся для «выхавання» вучняў у школах.

Ёсць паданне, што большую частку накладзенай у свой час шведамі даніны мяшчане Боцькаў выплачвалі бізунамі свайго вырабу. Рабілі гэтыя бізуны з бычынай скуры альбо, як сведчаць старыя людзі, з зубрыных хвастоў.

*Што старыя за вар'яты!*

Верш «Што старыя за вар'яты!» — адзін з самых ранніх твораў паэта. Ён быў вельмі папулярны сярод моладзі, стаў яе любімай песняй. Ды і ствараўся ён аўтарам як песня. За яе матыў Я.Чачот узяў мелодыю беларускай народнай песні «Чаму дзеўку не любіць, калі дзеўка ладна», альбо, як пазначыў сам аўтар, «Чаму Дзюбы не любіць, калі Дзюба ладна». Блізкі Чачотаў сябар Тамаш Зан, уключаючы ў 1855 годзе гэтую песню ў свой рукапісны спеўнік, пазначыў пад яе загалоўкам: «Словы Чачота, музыка крэвіцкая, 1818–1819».

Друкуецца ў перакладзе паводле кн.: Świrko Stanisław. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. Warszawa, 1972, с. 233–234.

*Ануфравы імяніны*

Верш напісаны да дня нараджэння сябра-філамата Ануфрыя Петрашкевіча (сябры называюць яго яшчэ — Ануфр ці проста Нуфр), што святкаваўся вельмі ўрачыста 30 мая 1819 г.

Друкуецца ў перакладзе з польскай паводле кн.: Poezya fiłomatów. Wydał Jan Czubek. T. II. Kraków, 1922, s. 88–90. Там жа пад гэтым агульным загалоўкам «Ануфравы імяніны» друкуюцца і іншыя вершаваныя творы Я. Чачота і іншых філаматаў.

[1] ...злыселы грэк. — Маецца на ўвазе Анакрэон, ці Анакрэонт (каля 570–487 да н.э.) — старажытнагрэцкі паэт, аўтар эратычных і вясёлых застольных песень.

*Яжовыя імяніны*

Гэта — агульная назва матэрыялаў, пераважна вершаваных твораў, прысвечаных імянінам Ежа, як празвалі сябры старшыню Таварыства філаматаў Юзафа Яжоўскага, і змешчаных у той жа кнізе (с. 76–84.), што і «Ануфравы імяніны». Там жа была змешчана і гэтая вершаваная сцэнка.

Твор пад вызначэннем «драматычная паэма» на Беларусі ўпершыню апублікаваў У.М.Казбярук у зборніку: «Беларуская літаратура». Выпуск 5. Мн., 1977, с. 144–149. Твор выйшаў з-пад пяра паэта напярэдадні імянінаў Ю.Яжоўскага, якія спраўляліся 7 сакавіка 1819 г.

Напісаны твор на беларускай мове з выкарыстаннем паланізмаў. Друкуецца паводле выдання: Ян Чачот. Наваградскі замак. Творы. Мн., 1989, с. 29–35.

[1] Вашэць (*польск.*) — ваша міласць, спадар.

[2] Юзаф Яжоўскі (1798–1855) — родам з Украіны, з-пад Канева. Гэта, як піша ў прадмове да кнігі «Таварыства філаматаў» (Кракаў, 1924) А.Луцкі, — «адзіны не-ліцвін у сям'і філаматаў».

[3] Кантэнт (*польск.*) — задаволены.

[4] ...бжыдка мешкаюць (*з польск.*) — кепска жывуць.

[5] Ліцвіне, ліцвіны — устарэлая назва літоўцаў і беларусаў — жыхароў агульнай для іх дзяржавы Вялікае княства Літоўскае; тут гаворка ідзе пра беларусаў.

[6] Віленка — Вільня.

[7] Мазэпа — як растлумачвае сам аўтар (гл. вышэй — «Некаторыя крывіцкія ідыёмы»), нязграбны, непаваротлівы, нават неахайны чалавек, ці яшчэ — страшыдла.

[8] Маскалі — царскія салдаты.

[9] Кралявец — так называлі ў Беларусі г. Кёнігсберг (з 1946 г. — Калінінград).

[10] Усціна — як відаць, віціна, старадаўняе вёсельнае судна для перавозкі грузаў, галоўным чынам па Нёмане і часткова па Шчары, прытоку Нёмана. Даўжыня віціны — 40-50 м, шырыня — 6-7 м. Вясною віцінамі дастаўлялі з Беларусі да Кралаўца збожжа, льняное семя, канаплянае і льняное валакно. Восенню віціны плылі назад, уверх па цячэнні Нёмана — з селядцамі, соллю і іншымі таварамі. Віціны будаваліся ў вярхоўях Нёмана, галоўным чынам у Свержні, Стоўбцах і Беражной.

[11] Мадлін (Новагеоргіеўск) — крэпасць у Польшчы над ракой Віслай пры ўпадзенні ў яе ракі Нарвы. Закладзена ў 1807 г. Напалеонам I, закончана ў 1812 г. Здадзена рускім войскам у 1813 г. «Ён, бядак, кабылінку з'ядаў у Мадліне» — тут, відаць, гаворка ідзе пра ўдзел у абароне гэтай крэпасці.

[12] Схэндожыць (*польск.*) — саб'е, скосіць.

[13] Як жэ сен здае пану Язэпові? (*польск.*) — Як жа мяркуе пан Язэп?

[14] ...жаднэй стонд пахвалы (*з польск.*) — ніякай адсюль пахвалы.

[15] Лежанц (*польск.*) — лежачы.

[16] Ушыстка крычанц (*з польск.*) — увесь час крычучы.

[17] Дапніс (Дафніс) — герой рамана «Дафніс і Хлоя» Лонга.

[18] Дрвіць (*польск.*) — насміхацца.

### *На прыезд Адама Міцкевіча*

Упершыню апублікаваў Ян Чубэк у той жа кнізе, т. 2, с. 201–203. Са скарачэннямі твор змешчаны ў кнізе «Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя». Мн., 1971. Склалі С.Х.Александровіч, А.А.Лойка, В.П.Рагойша. Стар. 67.

Напісаны ў 1819 г. Друкуецца з выд.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 36–37.

[1] Ды як сен табе дзее? (*з польск.*) — Ды як табе жывецца?
[2] e t c (*лац.*) —і г. д.

*Да пакіньце горла драць!*

Гэта была вельмі папулярная сярод студэнтаў Віленскага універсітэта і ўсёй філамацка-філарэцкай моладзі песня. Як паказвае сам аўтар у пісьме Адаму Міцкевічу ад 16(28) лістапада 1819 г., ён напісаў яе да імянінаў філамата Дзіянісія Хлявінскага, а потым перарабіў да імянінаў другога сябра-філамата — рэктаравага сына Францішка Малеўскага (ён меў яшчэ два імёны — Ярош і Геранім). Ярошавы імяніны спраўляліся 1 лістапада 1819 года на кватэры ў Дзіянісія Хлявінскага, які жыў у мурах універсітэта. Тэкст песні захаваўся не поўнасцю. Варыянт песні, адрасаваны Хлявінскаму, зусім не захаваўся. Музыку да гэтай жартоўнай жыццярадаснай песні напісаў сябар-філамат Тамаш Зан.

Друкуецца з выд.: Poezya filomatów, t. II, s. 187.

[1] Тут, як адзначаецца пры публікацыі, — пропуск у рукапісе.

[2] Аўтар выкарыстаў тут звычайную жартоўную прыгаворку пры сватанні ў беларускай вясельнай абраднасці.

*Заспяваем...*

Дата не пазначана. Напісаны верш у філамацкі перыяд. Пераклад верша друкуецца з выд.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 59.

*Гэй, сябры, у гурт вясёлы!*

Дата напісання не пазначана. Напісаны верш у філамацкі перыяд. Пераклад друкуецца з таго ж выд., с. 60–62.

*Гэй, малойцы!*

Дата напісання не пазначана. Напісаны верш у філамацкі перыяд.

Матывы гэтага верша Я.Чачота пазней выкарыстаў выдатны беларускі паэт Францішак Багушэвіч у польскамоўным творы «Песня», у якім ёсць радкі:

Знаць Чачота ўсе павінны,
І пра Зана дабрачыннасць,
Пра Касцюшку, і Манюшку,
І пра песняроў.

Рукі ім падаўшы, знаю,
Зробім болей мы для краю,
Чымся ў бойках разам стойка
Праліваўшы кроў.

*(Францішак Багушэвіч. Творы. Мн., 1967, с. 115–116).*

Пераклад верша «Гэй, малойцы!» друкуецца з таго ж выд., што і два папярэднія вершы.

### *Сон свой скінуў пан вясёлы*

Гэтую песню на рэлігійную мелодыю паэт напісаў недзе ў маі 1820 г. спецыяльна да адной з маёвак прамяністых — пазнейшых філарэтаў, якую яны адзначалі ў ваколіцах Вільні. Пра гэта цікава ўспамінае ў сваіх нататках славуты Ігнат Дамейка: «…Вясёласць была ўсеагульная, а пад канец, калі ўжо збіраліся варочацца дадому, наш любы Чачот, седзячы пад дрэвам, заспяваў спецыяльна напісаную песню. (Тут падаецца тэкст песні. — *К.Ц.*) Пасля апошняй страфы мы ад радасці падхапілі Яна на рукі і амаль не задушылі ад любві. Здаецца ніколі ў жыцці я не бачыў такой сардэчнасці і шчырасці…»Усё гэта, у тым ліку і верш, І.Дамейка ўспомніў у 1872 годзе, больш чым праз пяцьдзесят гадоў!

Пераклад зроблены паводле кн.: Świrko Staniaław. Z kręgu filomackiego preromantyzmu, s. 253–255 .

[1] …І даюць штомесяц злоты! — Відаць, гаворка ідзе пра філамацкія складкі.

[2] Малако было амаль рытуальным у бяседах філаматаў і філарэтаў, якія выступалі супроць п’янства.

### *Зноў вярнуць вякі б нам тыя...*

Гэты і наступны вершы былі прысвечаны філамацка-філарэцкай урачыстасці ў гонар старшыні Таварыства філарэтаў Тамаша Зана, якая адбылася 29 мая 1821 года. Іх і прачытаў Я.Чачот на ўрачыстасці.

Пераклад зроблены паводле той жа кн., с. 252–253.

### *У дзень урачыстасці, якая спраўлялася для Тамаша Зана 29 мая 1821 года*

Пераклад друкуецца з кнігі: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 64–65.

### *Песенька на два галасы*

Напісана ў сааўтарстве з А.Міцкевічам. Дакладней, верш, як сцвярджае С.Свірка, напісаў у 1822 годзе Я.Чачот, а паправіў і дапоўніў яго ў Пецярбургу А.Міцкевіч, які папрасіў кампазітара Марыю Шыманоўскую напісаць на гэтыя словы песню. М.Шыманоуская выканала просьбу паэта. Праўда, мелодыя не была апублікавана.

Друкуецца з той жа кн., с. 63.

### *Для каго збіраю краскі?*

Тут выказаны пачуцці паэта да Зосі Малеўскай. Мяркуючы з перапіскі філаматаў, верш напісаны ў 1823 годзе, яшчэ да зняволення.

Пераклад зроблены паводле кн.: Świrko Stanisław. Z Mickiewiczem pod rękę, czyli Życie i twórczość Jana Czeczota. W-wa, 1989, s.123.

### *Трэн*

Верш напісаны дзесьці ў гэты ж час. У творы ў своеасаблівай форме выказаны, як відаць, пачуцці самога аўтара.

Пераклад зроблены паводле выд.: Rocznik literacki, 1848.R. XXXVIII, s. 500.

### *Верш, замураваны ў дзюрцы турэмнай сцяны*

Напісаны твор у турэмным зняволенні — у камеры францішканскага кляштара, дзе паэт адбываў пакаранне разам з сябрамі па згуртаваннях моладзі.

Пераклад зроблены паводле выд.: Świrko Stanisław. Z Mickiewiczem pod rękę…, s. 196.

[1] Ян Чачот гаворыць тут, відавочна, пра сябе.

[2] Маецца на ўвазе брат Адама Міцкевіча Аляксандр, член Таварыства філарэтаў, які разам з Чачотам адбываў пакаранне.

[3] Ж а ў н е р, а л ь б о К а в а л е р ы с т — так празвалі сябры філамата Міхала Рукевіча, былога ўдзельніка паходу Напалеона Банапарта на Маскву, а пасля — дзекабрыста.

[4] Т у т — бывай! (*лац.*)

[5] Чачотаў спіс вязняў францішканскага кляштара не захаваўся.

### *О ты край мой нешчаслівы*

Верш напісаны ў тым жа турэмным зняволенні ў 1823 г. Друкуецца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 66.

### *Да голуба*

Верш з «Малога архіва філаматаў». Напісаны ў турэмным зняволенні. Адрасаваны Зосі Малеўскай, якая маральна падтрымлівала Яна Чачота, перапісваючыся з ім.

Пераклад зроблены паводле выд.: Tygodnik Ilustrowany, 22, ад 27 мая 1922 г.

[1] Мова ідзе пра Зосінага брата — Францішка Малеўскага. Яго арыштавалі ў Берліне, дзе ён удасканальваў сваю вучобу, і прывезлі ў Вільню, дзе і «пасялілі» у адной з камораў францішканскага кляштара.

### *Неяк ля гаю мы з Зосяй лічылі*

Дата не пазначана. Верш напісаны ў філамацкі перыяд.

Пад загалоўкам верша ў рукапісе было напісана аўтарам: «Гэту песню вельмі часта мы з ахвотай спявалі на праходках па гаі —

Не так пясэнка,  
Як пекна наша паненка.  
А як яе ўспомніць міла!

Ды такой ніколі песенькі мілай
На свеце не было.

Бывай здароў, пане Адаме, бывайце здаровы, усе добрыя людзі і каханыя! Зося для мяне найдаражэйшая, заўсёды помніце: Зося наша найдаражэйшая, заўсёды помніце; Зося для нас наймілейшая заўсёды помніце. Ах, які Ян бедны! Бывайце здаровы, Там[аш], Ад[ам]». Відаць, гэта прыпіска была зроблена перад высылкай на Урал.

Пераклад друкуецца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 64.

### *Развітанне Касцюшкі з Юліяй*

Песня напісана ў турме, відаць, перад развітаннем паэта з Радзімай — перад уральскай ссылкай. Аўтар адштурхнуўся тут ад папулярнай у той час песні пра развітанне Тадэвуша Касцюшкі з сваёй каханай перад ад’ездам яго ў Францыю, а потым у Злучаныя Штаты Амерыкі. Толькі каханую Касцюшкі звалі Людвікай Сасноўскай. Такі быў тады звычай — мяняць у творах сапраўднае імя героя. Песня спявалася ў рытме паланеза.

Пераклад зроблены паводле выд.: Tygodnik Ilustrowany, 22, ад 27 мая 1922 г.

## ТВОРЫ ЧАСОЎ ССЫЛКІ І АПОШНІХ ГАДОЎ ЖЫЦЦЯ. 1825–1847

### *Яна далёка*

Верш напісаны недзе ў першыя гады ссылкі на Урале. Прысвечаны Зосі Малеўскай.

Пераклад друкуецца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 67.

### *Толькі Айчына і Зося...*

Верш быў уключаны ў цыкл «Зосіны песні», які 25 студзеня 1833 года аўтар пераслаў з Таржка Міхалу Верашчаку для перадачы ягонай сястры Марылі Путкамер. «Перасылаю табе, пісаў Ян Чачот, сакрэтнічак песень. Перадай іх, калі ласка, сам ці праз самыя надзейныя рукі Марылі. Прашу, каб ніхто іх не перапісваў — я не хачу выстаўляцца з імі, хачу толькі спакою на зямлі, а як памру, то пасля маёй смерці, якой я ў маім горкім становішчы вельмі зычу сабе, застанецца нейкая па мне памятка. Будзь здароў і прашу перадаць дарагой Марылі мой самы шчыры паклон». Рукапіс «Зосіных песень» шчасліва захаваўся, не згарэў у пажарах войнаў. Цяпер ён знаходзіцца ў Музеі літаратуры ў Варшаве. Усяго ў ім — 36 песень, якія С.Свірка адносіць «да групы самых каштоўных лірычных твораў Чачота».

Упершыню верш «Толькі Айчына і Зося…» пад назвай «Уцеха» быў надрукаваны ў віленскім часопісе «Rubon» (1845, т. 6). Толькі там замест «Айчына» напісана «радзіна» — «сям'я» (як відаць, маецца на ўвазе сям'я філаматаў).

Пераклад зроблены паводле кн.: Świrko Stanisław. Z Mickiewiczem pod rękę…, s. 235–236.

### *Спявай па-над Сольчай, салоўку…*

Верш таксама ўвайшоў у цыкл «Зосіны песні». Прысвечаны ён гаспадыні Бражэльцаў над ракой Сольча (цяперашні Воранаўскі раён) Марылі Путкамер, у якой часта гасцявалі філаматы.

Пераклад зроблены паводле той жа кн., с. 236–237.

### *Голуб*

Верш напісаны на Урале.

Пераклад зроблены паводле той жа кн., с. 227–228.

### *Вандроўная пташка*

Гэта адна з найбольш папулярных песень на словы Я.Чачота, музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка. Дата напісання не пазначана. Відаць, таксама напісана на Урале. Разам з нотамі песня была змешчана ў выд.: Stanisław Moniuszko. Śpiewnik domowy. Warszawa, 1848.

Пераклад друкуецца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с.78.

### *Зязюлька*

Папулярная песня на словы Я.Чачота, музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка.

Пераклад друкуецца з той жа кн., с. 79.

### *Прыляцелі саколікі*

Папулярная песня на словы Я.Чачота, музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка.

Пераклад друкуецца з той жа кн., с. 80.

### *Касец*

Пад загалоўкам верша-песні значыцца: словы Чачота, музыка Абдрагана Мулы, 1830. Абдраган Мула — кіргізскі псеўданім Тамаша Зана ў часе яго высылкі ў Арэнбург. Твор напісаны ў 1828 г. ва Уфе, дзе ў той час Я.Чачот працаваў у адной установе канцылярыстам. Спачатку твор прыпісваўся Тамашу Зану. Пад яго аўтарствам верш быў апублікаваны ў кнізе: Poezya filomatów, т. 1, с. 338, але ўжо ў другім томе гэтага ж выдання памылка была выпраўлена (т. 2, с. 414).

Друкуецца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 68.

### *Малацьбіты*

Пад загалоўкам значыцца: словы Чачота, музыка Абдрагана Мулы.

Як відаць, напісаны ў высылцы на Урале, у 1824–1831 гадах. Варыянт гэтай песні змешчаны таксама ў часопісе Rubon, 1845, т. V, с. 146–148.

Друкуецца з той жа кн., с. 68–70.

### *Кум і кума*

Год напісання невядомы.

Верш стаў папулярнай песняй, музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка. Ён і ўключыў яе ў свой другі «Śpiewnik domowy», паводле якога і зроблены пераклад.

### *Праснічка*

Дата не пазначана. Напісана ў 40-х гадах.

Песня «Праснічка», музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка (апублікавана ў яго трэцім «Дамашнім спеўніку»), была ў XIX ст. адной з самых папулярных у Польшчы. Не выходзіць яна там з рэпертуару і сёння.

У 1897 г. вядомы мінскі археолаг, аматар беларускіх старажытнасцяў і калекцыянер Генрых Татур (1860–1907) пераклаў гэту песню на беларускую мову. Яна была змешчана пад загалоўкам «Прадкі» у кнізе «Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя» (Мн., 1971, с. 331). Толькі аўтарства песні памылкова прыпісвалася Уладзіславу Сыракомлю. Памылку гэту выправіў у сваім артыкуле «Міналі гады» Ул. Мархель («Літаратура і мастацтва», 11 лютага 1972 г.).

Вось гэта песня ў перакладзе Генрыха Татура:

### Прадкі

З праснічкамі сядзяць дзеванькі, як краскі,
Прадуць сабе, прадуць слуцкія паяскі.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Паплыў аж да Рыгі кавалер з віцінай,
Слязьмі заліваўся — жагнаўся з дзяўчынай.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Гладка пража ўецца, весела дзяўчыне.
Тры дні ўспамінала аб верным хлапчыне.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Другі падвярнуўся маладзец-хлапчына,
І другому рада хотліва дзяўчына.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Гудзіць вераценца! Парвалася нітка…
Стыдом гарыць дзеўка — брыдка гэтак, брыдка…
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

### *Любым сялянам з-над Нёмана і Дзвіны*

Гэтым вершам адкрываецца фальклорны зборнік Яна Чачота «Сялянскія песні з-над Дзвіны» (Вільня, 1840). Паводле яго і зроблены пераклад.

### *Гаспадынька Франуся*

У падзагалоўку верша сам аўтар вызначае дату яго напісання: 7/19 красавіка 1842 г.

Пераклад зроблены паводле кнігі Я.Чачота: «Pieśni ziemianina, przez tłómacza Piosnek wieśniaczych z nad Niemna i Dźwiny». Wilno, 1846, s. 5.

### *Мамка*

Дата верша не пазначана. Напісаны дзесьці ў 40-х гадах.

Друкуецца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 73–74.

### *Сярмяга*

Дата верша не пазначана. Напісаны ў 40-х гадах. Пераклад друкуецца з той жа кн., с. 72.

[1] Шарварак — феадальная павіннасць у будаўніцтве і наладжванні мастоў, дарог, грэблі і г. д.

### *Вясковыя ўцехі*

Верш напісаны дзесьці ў 40-х гадах.

Пераклад друкуецца з той жа кн., с. 74–75.

### *Буракі*

Верш напісаны таксама ў 40-х гадах.

Пераклад друкуецца з той жа кн., с. 76.

### *Леў Сапега, віленскі ваявода, гетман літоўскі*

Верш напісаны ў 40-х гадах.

Пераклад друкуецца з той жа кн., с.71.

[1] Леў Сапега (1557–1633) — дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, адзін з арганізатараў Літоўскага трыбунала; пад яго

кіраўніцтвам закончана было складанне Статута Літоўскага 1588 г. Вызначаўся ліберальнымі поглядамі.

### *Дабрачынным панам і аканомам, якія клапоцяцца пра добры быт сялян*

Пераклад друкуецца з той жа кн., с.71.

Верш надрукаваны як уступ да кн.: Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny… 1844, с. 3.

### *Да мілых мужычкоў*

Верш напісаны аўтарам на беларускай мове. Упершыню апублікаваны ў фальклорным зборніку Я.Чачота: Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idyomatyzmy, w mowie Sławiano-Krewickiej, z postrzeќeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846, 62–63.

Друкуецца з гэтага ж выдання.

## БАЛАДЫ

Балады Я.Чачота падаюцца тут у тым самым парадку, што і ў так званым «Раптуляжы Чачота» — вялікім сшытку, які быў знойдзены ў архівах. Гэты рукапіс, які складаўся з розных матэрыялаў, быў уласнасцю Я.Чачота. Як мяркуе С.Свірка, змешчаныя там балады нехта перапісаў у 40-х гадах пад дыктоўку хворага ўжо аўтара, які жыў у той час у сваіх сяброў у Бортніках, Вольнай і Далматаўшчыне. Я.Чачот зрабіў толькі на рукапісе сваёй рукой дробныя папраўкі. Як паказаў С.Свірка, усе балады Я.Чачота былі напісаны ў 1818–1819 г., яшчэ да з'яўлення балад А.Міцкевіча. Для перакладу яны ўзяты з кнігі: Świrko S. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. — Warszawa, 1972.

Пра балады Я. Чачота нямала ўжо ў нас пісалася. Гэта — найбольш яркія ўзоры передрамантызму на Беларусі. Вядома, у баладах можна знайсці свае недахопы — і сляды паспешлівасці, пэўную расцягнутасць, шматслоўе, і залішняе маралізатарства. Але ж тым не менш паэт здолеў выказаць у іх усё тое, што яго хвалявала. Тут мы бачым і бескампрамісную крытыку прыгоннікаў, у якой ён даходзіў да неабходнасці адмены самога прыгоннага права, і гарачае спачуванне селяніну-беларусу, што быў вымушаны насіць ярмо паншчыны, і захапленне мудрасцю народа, яго звычаямі. Многія папракалі Я.Чачота за тое, што ён імкнуўся не адступаць ад фальклору. Так, можа, сапраўды імкненне быць дакладным у выкарыстанні фальклору перашкаджала паэту ў яго творчасці. Але ж тут трэба і зразумець Я.Чачота, які імкнуўся наблізіцца да народа, выказаць яго думы, раскрыць яго маральны кодэкс у процівагу антычалавечай маралі прыгнятальнікаў.

Зрэшты, паэт быў далёкі ад літаральнага пераказу фальклорных сюжэтаў, простага капіравання народнай паэзіі. Так, ён не мяняў, не скажаў фальклор (і рабіў гэта прынцыпова), але ж умеў і адштурхнуцца ад яго. Народныя сюжэты Я.Чачот даволі смела напаўняў сваімі назіраннямі, фактамі з гісторыі, самымі рознымі — і лірычнымі, і не лірычнымі — адступленнямі, гумарам.

Адной з прычын недаацэнкі Чачотавых балад была, на мой погляд, не да канца зразумелая польскаму чытачу іх мова, густа перасыпаная шматлікімі беларусізмамі, мясцовымі словамі і выразамі.

### *Бекеш*

У аснову балады пакладзена паданне пра Каспара Бекеша — камандзіра венгерскай пяхоты ў войску польскага караля Стэфана Баторыя, з якім ён сябраваў. Бекеш быў вядомы ў Польшчы як смелы і разумны камандзір. Смерць напаткала яго ў 1580 г. у Гародні. Паколькі ён належаў да рэлігійнай секты антытрынітарыяў і на каталіцкім могільніку не мог быць пахаваны, Баторый загадаў перавезці яго цела ў Вільню і пахаваць на ўзвышшы, якое адсюль і атрымала назву — Бекешава гара. З часам узнікла ў народзе і паданне пра гэту гару.

Як сцвярджае С.Свірка, асобныя матывы балады Я.Чачота «Бекеш» выкарыстаў у сваіх баладах «Свіцязянка» і «Рыбка» А.Міцкевіч.

Балада напісана ў ліпені 1819 г.

[1] Геба — згодна з грэчаскай міфалогіяй багіня маладосці.

[2] Сяміград, альбо Трансільванія — гістарычная вобласць на поўначы Румыніі; частка насельніцтва там — венгры.

[3] Кесь (Цэсіс) — замак і горад, які быў закладзены у XIII ст. Называўся таксама Вендань. Цяпер — цэнтр Цэсіскага раёна Латвіі «Пад Венданем была выйграна бітва з Масквой. Сапега з невялікім атрадам — каля 6000 ліцвінаў — перамог 40000 маскалёў, у выніку чаго іх правадыр Сэкін, згадзіўшыся на капітуляцыю, мусіў без зброі ісці прэч дадому праз Літву» (Я. Ч.). Як відаць з тэксту балады, Я.Чачот Кесь і Вендань лічыў рознымі гарадамі.

[4] «Няправільна называюць раку Вільню Вілейкай, бо даўней так не называлася; даўнейшая назва прыгажэйшая. У Стрыйкоўскага знойдзеш названую Вільню» (Я. Ч.).

[5] «Бекешава гара сярэдняя па вышыні паміж Замкавай і Крыжовай» (Я.Ч.).

### *Наваградскі замак*

У аснове балады Я. Чачота — як рэальныя гістарычныя падзеі, звязаныя з вайной са шведамі, так і народныя паданні і вусныя расказы старых людзей, напрыклад, пра злачынствы шведаў на Беларусі.

У баладзе «Наваградскі замак» ёсць адгалоскі спрэчак прыхільнікаў класіцызму на чале з Янам Снядэцкім і рамантыкаў, якія яшчэ толькі

выходзілі на сцэну. Я.Чачот хацеў прымірыць, паяднаць «розум» з «сэрцам», г. зн. рацыяналізм класіцыстаў і пачуццёвасць рамантыкаў.

[1] Наваградскі замак — унікальны помнік абарончага дойлідства X–XVI стагоддзяў, старажытны цэнтр Наваградка. У пачатку XVIII ст. быў узарваны шведамі.

[2] Маецца на ўвазе Наваградак, які быў рэзідэнцыяй вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Міндоўга (каля 1200–1263). У 1253 (паводле іншых звестак — у 1252 г.), прыняўшы тытул караля, Міндоўг каранаваўся ў Наваградку.

[3] Ян Казімір з дома Вазаў (1609–1672) — польскі кароль, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага.

[4] Як відаць, маецца на ўвазе Карл X Густаў (1622–1660) — шведскі кароль (з 1654). Яго агрэсіўная знешняя палітыка прывяла да вайны з Польшчай, Даніяй, Расіяй (Паўночная вайна 1655–1660; руска-шведская вайна 1656–1658).

[5] Стэфан Чарнецкі (1599–1665) — польскі военачальнік.

### *Калдычэўскі шчупак*

Асновай балады паслужыла мясцовае паданне пра тое, як некалі ў Свіцязі быў злоўлены шчупак, акальцаваны ў Калдычэўскім возеры, — ён быццам бы трапіў з аднаго возера ў другое падземнай ракою.

Як бачым, Я.Чачот «расцягнуў» гэта паданне ў даволі аб’ёмісты твор, звязаўшы з канкрэтнымі асобамі двух шляхецкіх родаў — Верашчакаў і Анцутаў (першыя жылі паблізу Свіцязі, другія — пры Калдычэўскім возеры): ён такім чынам далёка адштурхнуўся ад фальклорнай асновы.

Балада «Калдычэўскі шчупак» цікавая для нас з многіх пунктаў гледжання. Перш за ўсё — сваім ідэйным зместам. Аўтар выступае ў ёй супроць так званых «лішніх людзей» (яшчэ задоўга да з’яўлення іх вобразаў у класічнай рускай літаратуры), увасобіўшы іх у вобразе разумнага, але бяздзейнага Міхала Верашчакі.

Аўтар супрацьпастаўляе яму чалавека дзеяння, жывога, непаседлівага Яна Верашчаку, які імкнецца рабіць людзям, усяму краю дабро. Праглядваецца з балады і вобраз самога аўтара, чалавека, які лічыць за ганьбу сядзець склаўшы рукі. Ён нагадвае тых разначынцаў, што здабывалі хлеб працай сваіх рук і ганарыліся гэтым. З твора відаць вясёлы нораў Я.Чачота, які любіць пажартаваць, пасмяяцца. Не могуць не зацікавіць нас і яркія бытавыя замалёўкі ў баладзе, — абходзіны хрысцін, лоўля рыбы (удзень — венцерам, а ўночы — восцямі), заручыны і інш.

Калі ў 1905 годзе Ян Квятнеўскі ўпершыню знайшоў на Наваградчыне рукапіс балады «Калдычэўскі шчупак», аўтарства яе ён прыпісаў А.Міцкевічу. Вядома, знаходка зрабіла сенсацыю. Леапольд Мэе, які амаль адначасова знайшоў яшчэ адзін рукапіс гэтай жа балады (толькі

без уступу, з дароўным надпісам Міхалу Анцуту), выказаў меркаванне, што яна належыць пяру Я.Чачота. Але супроць гэтага былі выстаўлены новыя аргументы. На старонках польскага друку ўзгарэлася дыскусія. У час яе Я.Квятнеўскі ў палемічным запале выдаў нават цэлую брашуру «Праўда» аб «Шчупаку», у якой яшчэ раз хацеў даказаць аўтарства А.Міцкевіча. Дыскусія працягвалася некалькі гадоў, пакуль не было даказана, што аўтар «Калдычэўскага шчупака» — Я. Чачот.

Удзельнікаў дыскусіі вельмі бянтэжыла падабенства ў асобных момантах гэтай балады з баладай А.Міцкевіча «Свіцязь». Меркавалі, што гэта Я.Чачот рабіў запазычанні з Міцкевічавай балады. Але сённяшнія польскія даследчыкі даволі пераканаўча паказваюць, што Чачотаў «Шчупак» быў напісаны каля 1819 года, яшчэ да з'яўлення балад А.Міцкевіча, і, значыць, наадварот, аўтар «Свіцязі», запазычыў з гэтага твора асобныя матывы. Звярталася ў польскім друку ўвага таксама на сувязь вобраза Яна Верашчакі — героя балады «Калдычэўскі шчупак» — з вобразам Падкаморага з «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Але растлумачыць гэта можна тым, што Я.Чачот і А.Міцкевіч са школьных гадоў жылі ў адным і тым жа асяроддзі, у іх былі агульныя знаёмыя, абодва яны аднолькава ведалі ўсе найбольш цікавыя факты з гістарычнага мінулага роднай ім Наваградчыны, яе славутых людзей. І абодва імкнуліся браць тэмы для сваіх твораў непасрэдна з крыніц народнага жыцця, з жывой паўсядзённасці.

[1] Калдычэва — возера ў басейне ракі Шчары, левага прытока Нёмана, у Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці.

[2] Міхал Верашчака — адзін з уладальнікаў Туганавіч і Плужынаў, брат Марылі, каханай А.Міцкевіча.

[3] Зыгмунты — відаць, маюцца на ўвазе польскія каралі Зыгмунт І, празваны Старым (правіў у 1506–1548 гг.), Зыгмунт ІІ Аўгуст (1548–1582), Зыгмунт ІІІ (1587–1632).

[4] Цырын — даўняе мястэчка, паблізу якога быў маёнтак Верашчакаў Туганавічы. Цырын — таксама адна з «міцкевічаўскіх рэалій», А.Міцкевіч упамінае яго ў баладзе «Свіцязь». Цяпер гэта — вёска ў Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці.

[5] Варонча — вёска паблізу Малюшыч у былым Наваградскім павеце, дзе ў парафіяльным касцёле 6 ліпеня 1796 г. быў ахрышчаны Я.Чачот. Цяпер — Карэліцкі раён.

[6] Пясчанка — былы фальварак у Наваградскім павеце.

[7] Марцаліна — як мяркуе ў сваёй кнізе «Міцкевічаўскія рэаліі» Л.Падгорскі-Аколаў, гэта была таварышка Ванды і Ідаліі — дачок генерала Ксаверыя Несялоўскага, які жыў у недалёкім маёнтку ў Сэрвачы. У пісьме да А.Міцкевіча ад 11 студзеня 1823 г. Т. Зан, расказваючы, што ён весела правёў час у кампаніі харошых дзяўчат у Туганавічах, успамінае сярод іх і «гэту мілую Марцаліну». Як відаць, у яе быў закаханы Я.Чачот.

[8] Плужыны — адзін з маёнткаў Верашчакаў у былым Наваградскім павеце; цяпер — вёска ў Наваградскім раёне. Звязаны таксама з біяграфіяй А.Міцкевіча — тут ён сустракаўся з Марыляй. Назва ўпамінаецца ў яго творах, напрыклад, у «Свіцязі».

[9] Рэдут — касцюміраваны баль, маскарад.

[10] Гарадзішча — мястэчка ў былым Наваградскім павеце, цяпер — гарадскі пасёлак у Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці.

### *Падземны звон на горцы ў Пазяневічах*

У аснову балады «Падземны звон на горцы ў Пазяневічах» паэт паклаў народнае паданне пра царкву, што праваліласяў зямлю — як пакаранне за папоўскае ашуканства парафіян. У друку выказвалася меркаванне, што апісаны ў баладзе «цуд» сапраўды калісьці адбыўся ў Пазяневічах (Пузяневічах) паблізу мястэчка Турэц цяперашняга Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Як сцвярджаецца ў польскім літаратуразнаўстве, матыў западзення ў зямлю царквы з твора Я.Чачота запазычыў пазней А.Міцкевіч для сваёй балады «Лілеі».

Чачотава балада пра сквапную пападдзю і бязвольнага папа, як відаць з самога звароту паэта ў пачатку і ў канцы твора да ўяўных слухачоў, прызначалася для непасрэднага чытання недзе ў коле віленскай моладзі, хутчэй за ўсё на нейкай сходцы філарэтаў — да такіх сходак паэт заўсёды рыхтаваўся і быў там прызнаным завадатарам.

У баладзе Я.Чачота мы знаходзім канкрэтныя, не выдуманыя назвы вёсак і мястэчак Беларусі — родных мясцін паэта: акрамя Пазяневіч, Сталовічы (Сталавічы), Турэц, Мір, Дарава. Фігуруюць у баладзе таксама імёны канкрэтных асоб, якіх добра ведаў паэт. Сярод іх, напрыклад, — Фізік і Астраном. Фізікам называлі ў сяброўскім коле Тамаша Зана, а Астраномам — філамата Тэадора Лазінскага, які захапляўся прыродазнаўчымі навукамі, у тым ліку і астраноміяй. Упамінаецца ў баладзе Я. Чачота і імя «цудадзея» Антоські. Гэта быў непісьменны пастух з вёскі Дарава Антось Голец, знахар, слава пра чароўныя лекі якога дайшла ў свой час аж да Гародні і Вільні.

[1] Асьміна — старая мера аб'ёму сыпкіх цел, роўная прыкладна 105 л.

### *Радзівіл, альбо Заснаванне Вільні*

У сваёй баладзе Я.Чачот выкарыстаў народнае паданне пра Ліздзейку і заснаванне Вільні.

Гэтае ж паданне было скарыстана і А.Міцкевічам ў чацвёртай кнізе «Пана Тадэвуша». Як мяркуецца, абодва паэты ведалі яго з вуснаў народа і з «Хронікі» М.Стрыйкоўскага.

[1] Свінтарог — легендарны князь, прах якога ў 1265 г. быццам быў спалены на месцы цяперашняга кафедральнага сабора ў Вільні. Сын Свінтарога Гермунд заснаваў там капішча Перуна (па-літоўску —

Пяркунаса) — язычніцкага бога грому і маланкі, які атаясамліваўся з Зеўсам і Юпітэрам.

[2] Крывэ-Крывэйта — легендарны вярхоўны літоўскі жрэц. У Я.Чачота памылкова — Кірвэ-Кірвэйта.

[3] Закрэт, Пагулянка — прадмесці Вільні; цяпер — раёны г. Вільні.

[4] Нерыс — рака на тэрыторыі Літвы, працяг Віліі.

[5] Панары — горы, альбо ўзгоркі, якія цягнуцца ланцугом на паўднёвым захадзе Вільні.

[6] Гедымін (г. н. невядомы — 1341) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага.

[7] Гняздо па-літоўску — ліздас.

[8] Трокі — Тракай, цэнтр Тракайскага раёна Літвы

[9] Лакетка — Уладзіслаў Лакетак (каля 1260–1333), польскі кароль (з 1320 г.). Празваны так за малы рост: łokietek (*польск.*) — локцік.

### *Узногі*

Узногі — вёска, цяпер ускраіна Баранавіч. Тут у дзяцінстве, верагодна, і пачуў Я.Чачот паданне пра злога ўзножскага пана. Ёсць меркаванне, што такі жорсткі памешчык сапраўды жыў ва Узногах.

Вобраз злога пана з балады Я. Чачота «Узногі» запазычыў А.Міцкевіч для сваёй драматычнай паэмы «Дзяды», другая частка якой і пачынаецца тым, што вечарам у званіцы з’яўляецца прывід такога ж жорсткага пана-прыгонніка. Прытым гэтак жа, як і ў баладзе «Узногі», яго дзяўбуць птушкі — крукі, совы, пугачы, арліцы, у якіхператварыліся замучаныя ім прыгонныя сяляне.

[1] Лаханы (*дыялектн.*) — буякі.

[2] Лагуны (*дыялектн.*) — падваліны. Як «лаханы», так і «лагуны» свядома ўжыты ў тэксце балады Я.Чачотам, які пачуў гэтыя словы, відавочна, у родных мясцінах.

[3] Чачот тут мае на ўвазе вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці на Захадзе.

### *Мышанка*

У гэтай баладзе Я.Чачот выкарыстаў два паданні пра ўзнікненне назвы мястэчка Мыш і ракі Мышанкі, якія, вядома ж, пачуў у дзяцінстве, калі жыў тут з бацькамі.

Балада «Мышанка» паслужыла А.Міцкевічу матэрыялам для яго балады «Свіцязь», дзе ён выкарыстаў з твора Я.Чачота матывы русалкі і чароўнага зелля (толькі Чачотавы мінушкі сталі ў яго кветкамі — царамі).

[1] Хадкевічы — магнацкі род на Беларусі, ва ўладанні якіх было і мястэчка Мыш.

[2] Леннае права — сярэдневяковыя праўныя звычаі, якімі рэгуляваліся ўзаемныя адносіны паміж землеўласнікам і васалам.

[3] Цяпліводы — вёска ў былым Наваградскім павеце; цяпер — Баранавіцкі раён Брэсцкай вобласці.

[4] Мінушкі — «Plantag o major. Бабка» (Я. Ч.).

### *Свіцязь*

Балада заснавана на народным паданні пра затапленне легендарнага горада Свіцязь. Паданне і сёння бытуе ў ваколіцах возера Свіцязь, у прыватнасці ў вёсцы Малюшычы, дзе нарадзіўся Я.Чачот.

«Свіцязь», гэтая найбольшая Чачотава балада, займае, як адзначае вядомы польскі фалькларыст Станіслаў Свірка, «ключавую пазіцыю не толькі сярод балад Я.Чачота, але і ў баладнай творчасці філаматаў наогул, не выключаючы самога А.Міцкевіча». У гэтым творы філаматы ўбачылі добры прыклад выкарыстання фальклору ў паэтычнай творчасці. Ян Чачот, выбраўшы свабодную манеру апавядання, умела аб'яднаў у ёй два народныя паданні — пра затапленне горада Свіцязь і пра чалавека, што прадаў душу чорту. У баладзе акрамя паданняў аўтар данёс да нас з пачатку XIX ст. яшчэ некаторыя народныя звычаі, вераванні, прававыя нормы, паказаў адносіны народа да ліхадзейства, погляды на дабро і зло.

Увесь гэты багаты матэрыял вельмі прыдаўся Адаму Міцкевічу ў яго дарозе да народнасці. На аснове балады Я. Чачота «Свіцязь» А. Міцкевіч напісаў дзве свае балады — «Свіцязь» і «Вяртанне таты». У першай ён выкарыстаў паданне пра затапленне горада Свіцязь, у другой — момант вяртання дамоў купца і напад на яго рабаўнікоў. С.Свірка ў сваёй кнізе «З кола філамацкага перадрамантызму» прыводзіць таксама цэлы шэраг тэкставых запазычанняў А.Міцкевіча з балады Я.Чачота. А.Міцкевіч, як вядома, творча падышоў да выкарыстання фальклорнага матэрыялу, які знайшоў у творы свайго сябра, і даў свету класічныя ўзоры літаратуры рамантызму.

Балада Я.Чачота «Свіцязь» была напісана ў першай палове 1819 года. Пазней, пасля ўжо выхаду «Балад і рамансаў» А. Міцкевіча (1822). куды ўвайшлі згаданыя вышэй «Свіцязь» і «Вяртанне таты», Я.Чачот знайшоў-такі час перапісаць і дапрацаваць сваю «Свіцязь». Прытым ён дапісаў да яе яшчэ невялікі ўступ (першыя тры шасцірадкоўі, якія ўвёў у тэкст пад агульнай нумарацыяй). У гэтым уступе Я. Чачот выказаў захапленне творамі свайго сябра, фантазія якога здолела «звіць» для свіцязянак аж «тры вянкі» — тут, відавочна, маюцца на ўвазе міцкевічаўскія балады «Свіцязь», «Свіцязянка» і «Рыбка». Разам з тым Я.Чачот не ўстрымаўся папракнуць А.Міцкевіча за тое, што ён у сваіх баладах занядбаў фальклор, народныя паданні і занадта многа нафантазіраваў.

[1] Тамаш Зан, які, дарэчы, таксама напісаў баладу пра затапленне горада Свіцязь.

## СПЕВЫ ПРА ДАЎНІХ ЛІЦВІНАЎ ДА 1434 ГОДА

«Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года» — гэта паэтычная хроніка падзей паганскай Літвы, як некалі называлі ў асноўным землі цэнтральнай і заходняй часткі Беларусі. Ян Чачот задумаў гэты цыкл гістарычных спеваў яшчэ ў філамацкі, ці віленскі перыяд свайго творчага шляху, што відаць з яго пісьма да Адама Міцкевіча ад 22 сакавіка (3 красавіка) 1823 года, у якім ёсць словы: «Думаю паспрабаваць пісаць пра Вітаўта, Альгерда, Кейстута і іншых. Пра іх можна болей гаварыць, чым пра жанчын, трэба паказваць усе іх дзеі. Пагляджу, як гэта мне ўдасца. Добра б было, каб гэтыя творы не толькі можна было чытаць, але і спяваць. Яны маглі б выклікаць тады большы эфект…»Паэт змог ажыццявіць сваю задуму толькі пасля вяртання з ссылкі, у 1842–1844 гадах, калі працаваў у бібліятэцы графа Храптовіча ў Шчорсах, багатай гістарычнымі матэрыяламі. Як прызнаецца сам Чачот, у аснову песень ён браў факты са згаданых прац М.Стрыйкоўскага і Т.Нарбута. Сённяшнія беларускія гісторыкі пераканаўча паказваюць памылковасць многіх момантаў тых прац, Я.Чачот, вядома ж, не мог крытычна падыйсці да летапісных звесткаў. Адсюль — і яго памылкі. Але трэба ўлічыць, што гістарычныя факты ён апрацоўваў як мастак, акцэнтуючы ўвагу больш на маральнае аблічча сваіх герояў.

Свае «спевы» аўтар прысвяціў Марыі (Марылі) Путкамер, каханай яго сябра Адама Міцкевіча, шчырай сяброўцы ўсіх філаматаў, з якой Чачот заўсёды дзяліўся сваімі думкамі, якой пасылаў, гэтак жа, як і Зосі Малеўскай, тэксты ўласных песень для выканання іх на фартэпіяна. Відаць, паэт спадзяваўся, што і «Спевы пра даўніх ліцвінаў» будуць нейкім чынам спявацца.

### *Рынгольт Альгімунтавіч, першы вялікі князь літоўскі, жмудскі і рускі*

Пад загалоўкам адсылка: Стрыйк(коўскі), с.285. Нарбут, с.75, § 847.

[1] Рынгольт — легендарны літоўскі князь, нібыта бацька Міндоўга. Летапісы называюць яго вялікім князем.

[2] Святаслаў Усеваладавіч — кіеўскі князь.

[3] Леў Данілавіч — уладзімірскі князь (Валынь).

[4] Дзмітрый — друцкі князь.

[5] Курдас — татарскі хан.

[6] Дзітва — рака, прыток Нёмана.

[7] Магільна — тут, відавочна, блытаецца старадаўняе мястэчка Магільна цяперашняга Уздзенскага раёна.

### *Каранацыя Міндоўга. 1252 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 328.

[1] Міндоўг (1203–1263) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага. У 1253 г. прыняў тытул караля, быў каранаваны ў Навагародку (цяперашнім Наваградку) — сваёй рэзідэнцыі.

[2] Яткі — бойня, мясныя лаўкі на рынку.

[3] ...пляменнікаў дваіх. — Тут, як відаць, мова пра Таўцівіла і Эрдзівіла, ад якіх Міндоўг адабраў іх уладанні ў мэтах умацавання сваёй улады.

[4] Як лічаць гісторыкі, хрышчэнне Міндоўга было палітычным манеўрам — імкненнем стаць каралём Літвы. У сапраўднасці ён адрокся ад хрысціянства ў 1261 г.

### *Магіла Міндоўга. 1263 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 331.

[1] Ды абманам жыў. — Тут, відавочна, гаворка ідзе перш за ўсё пра яго абманнае хрышчэнне.

[2] Даўмонт — нальшанскі князь. Забіў Міндоўга за тое, што ён адабраў ягоную жонку, калі тая прыехала на пахаванне сваёй сястры — Міндоўгавай жонкі. Калі ў Наваградку стаў княжыць сын Міндоўга Войшалк, Даўмонт уцёк у Пскоў, зрабіўшыся яго ўладаром.

### *Войшалк, альбо Вальстынік Міндоўгавіч, 1264 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 339.

[1] Войшалк (1223–1268) — князь навагародскі (наваградскі), вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1264–1267), старэйшы сын Міндоўга. Каля 1254 г., аддаўшы Раману, сыну галіцкага князя Данілы, наваградскую зямлю, пастрыгся ў манахі. Пасля забойства Міндоўга і яго пераемніка стаў літоўскім князем. Войшалк быў забіты Львом Данілавічам, князем валынскім.

[2] Уладзімір — горад на Валыні, цэнтр княства.

### *Пра Яцвяга Комата, 1264 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 339.

[1] Яцвягі, альбо ядзьвінгі (яшчэ — судовы, судзіны) — заходнебалцкія плямёны, якія ў 1 — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. насялялі тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі ракі Нараў. Некаторыя гісторыкі лічаць яцвяжскімі Падляшша, Берасцейскую зямлю, частку верхняга Панямоння. Рускі гісторык XIX ст. С.М.Салаўёў, адзначаючы смеласць і непакорлівасць гэтага «загадкавага народа», пісаў, што «яцвягі ў бітвах ніколі не ўцякалі і не здаваліся ў палон, а гінулі разам з жонкамі». Яцвягі былі амаль поўнасцю знішчаны ў няроўных бітвах з іншаземцамі. С.М.Салаўёў даводзіць, што рэшткі яцвягаў быццам бы заставаліся ў

яго час на Скідэльшчыне: « Яны рэзка адрозніваюцца ад беларусаў і літоўцаў смуглым тварам, чорнай вопраткай, норавамі і звычаямі, хаця ўсе ўжо гавораць на беларускай мове з літоўскім акцэнтам». Ад яцвягаў засталіся некаторыя геаграфічныя назвы галоўным чынам на Гродзеншчыне — ёсць там, напрыклад, рака Ятвезь і на ёй жа сяло Ятвезь.

[2] Комат — правадыр яцвягаў, пра якога не раз упамінаюць летапісы. Загінуў ён 22 чэрвеня 1264 года ў бітве з палякамі.

[3] Кома — камета. Стрыйкоўскі ў сваёй «Хроніцы» піша пра камету, якая якраз у той час пралятала над зямлёй. Хадзілі чуткі, што быццам ад яе пачаўся у Польшчы мор, які лічылі карай Божай за знішчэнне яцвягаў.

[4] Баляслаў Сарамлівы — князь кракаўскі і сандамірскі, польскі кароль (1279).

### *Свінтарог Утанэсавіч. 1268–1271 гг.*

Адсылка: Стрыйк., с. 345.

[1] Свінтарог — легендарны князь Літвы (1268–1271). Паводле Нарбута, пражыў 98 гадоў. Упадабаўшы месца, дзе рэчка Вільня (Віленка, Вілейка) ўпадае Вілію, папрасіў свайго сына Гермунта пасля смерці спаліць яго цела там паводле паганскага звычаю. Гэтае месца (цяпер цэнтр Вільні) было названа імем Свінтарога. Там была святыня Перуна і палаў вечны агонь — Зніч.

[2] Мендог — так называлі яшчэ Міндоўга.

[3] Жмудзь, альбо Жамойць — адна з назваў балтыйскага племя, продкаў сучасных літоўцаў.

[4] Каб лепш караскацца на неба, і трэба было ў ахвярны агонь кінуць кіпцюры рысяў ды мядзведзяў.

### *Віцень, вялікі князь літоўскі. 1283–1315 гг.*

Адсылка: Стрыйк., с. 336–386.

[1] Віцень (г. н. невядомы — п. каля 1316) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1293–1316). Шмат зрабіў для ўмацавання і пашырэння дзяржавы.

[2] Рыжскі архіепіскап быў супраць панавання крыжакоў над Рыгай, яго падтрымлівалі ў барацьбе з імі і рыжане, якія дапамаглі Віценю перамагчы гэтых нямецкіх агрэсараў.

[3] Рамнова — легендарная паганская святыня, дзе гарэў Зніч.

[4] Браўнзберг (альбо Бранева), Каліш, Добжын — гарады ў Польшчы.

[5] Як паведамляе Т.Нарбут, Віцень быў забіты громам. Яго цела адвезлі на капішча Свінтарога і спалілі там згодна з паганскім звычаем.

[6] Аўтар тут падкрэслівае, што з імем слаўнага збройнага рыцара Віцаня звязана нараджэнне герба Пагоня.

### *Спаленне крыжака Руды ў часы Гедыміна. 1320 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 318, з «Кронікі» Дузбурга.

[1] Як расказвае храніст Пётр Дузбург, а за ім — Мацей Стрыйкоўскі, 27 ліпеня 1320 г. пад Меднікамі адбылася вялікая бітва ліцвінаў з крыжакамі. Пасля перамогі над нямецкімі рыцарамі ліцвіны, аддаючы ахвяру аднаму з паганскіх багоў, спалілі на ахвярным агні аднаго з крыжацкіх военачальнікаў па імені Руда — на кані і ў яго поўным узбраенні.

### *Тураў рог Гедыміна. 1321 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 397.

[1] Легенду пра тое, як Гедымін забіў каля ракі Віленка тура і як ён аснаваў там горад Вільня, апрача Стрыйкоўскага, падаюць яшчэ іншыя пісьмовыя крыніцы.

[2] Як паведамляе Стрыйкоўскі, Гедымін загадаў аздобіць рогі забітага ім тура золатам і дарагімі камянямі і захоўваў іх як рэліквію сярод сваіх каштоўнасцяў.

[3] На з’ездзе ў Луцку (Валынь) з’ехаліся ў студзені 1429 г. вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Вітаўт, польскі кароль Ягайла і рымскі імператар Зыгмунт І. Апошні выказаў там прапанову абвясціць Вялікае Княства Літоўскае каралеўствам і каранаваць Вітаўта. За гэта Вітаўт, які хацеў быць каралём дзеля ўмацавання дзяржавы, шчодра адарыў Зыгмунта І, аддаўшы яму нават самую дарагую родавую рэліквію — прыгожа аздоблены тураў рог Гедыміна.

### *Заснаванне Вільні. 1322 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 397.

[1] Легенду пра заснаванне Вільні выкарыстоўвалі ў сваіх творах многія пісьменнікі, у тым ліку Чачотаў сябар Адам Міцкевіч.

### *Давід, стараста гарадзенскі ў часы Гедыміна. 1322 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 388–405.

[1] Д а в і д (ці Давыд) Г а р а д з е н с к і (г. н. невядомы – 1326) — военачальнік і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, стараста Гародні. Зяць і правая рука Гедыміна. Паспяхова змагаўся з крыжакамі. У час паходу на Брандэнбург быў па-здрадніцку забіты мазавецкім воем Андрэем за зганьбаванне польскіх шляхцянак.

[2] Р э в е л ь — так называўся сучасны Талін.

[3] У л а д з і с л а ў І Л а к е т а к (1260–1333) — польскі кароль. Яго сын Казімір ажаніўся з дачкой Гедыміна Альдонай.

[4] Ф р а н к ф у р т — нямецкі горад на Одэры.

[5] Г а й д а м а к і — тут: бесшабашныя вої.

### *Альдона, Гедымінава дачка. 1325 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 404–405.

[1] Альдона — трэцяя з сямі дачок Гедыміна, нарадзілася каля 1310 г. Перад замуствам прыняла хрышчэнне і атрымала новае імя — Анна. Гэты шлюб з каралеўскім сынам паспрыяў змякчэнню стасункаў паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім.

[2] Казімір III Вялікі (1310–1370) — польскі кароль (ад 1333 г.).

[3] Як падае Нарбут, Альдоне ў пасаг было апрача ўсяго перададзена 24 тысячы польскіх і мазавецкіх палонных. Вяртанне іх было для Польшчы сапраўдным святам.

### *Альгерд і Марыя ў часы Гедыміна*

Адсылка: Нарбут, т.V, с. 8.

[1] Альгерд (каля 1296–1377) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1345–1377), трэці сын Гедыміна, бацька 12-ці сыноў (Ягайлы, Свідрыгайлы і інш.). Узяў у жонкі дачку віцебскага князя Яраслава Марыю, а калі яна памерла — дачку цвярскога князя Юльяну.

[2] Віцебскае княства канчаткова ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага ў 1320 г.: яго атрымаў Альгерд ва ўладанне як бацькаўскую спадчыну жонкі.

### *Жахлівы падзел здабычы. 1326 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 323.

[1] Старыя хронікі звязваюць з апісаным тут выпадкам забойства Давіда Гарадзенскага.

[2] Апісваючы ў сваёй «Хроніцы» гэты «падзел здабычы», Пётр Дузбург апавядае, што ліцвін, рассекшы напалам прыгожую панну, сказаў: «я раздзяліў яе на дзве часткі — хай кожны з нас возьме тую, якая яму падабаецца».

### *Гедымін Віценевіч, вялікі князь літоўскі. 1328 г.*

Адсылка: Стрыйк.; с. 409.

[1] У сапраўднасці Гедымін загінуў у 1341 г.

[2] Вялона — абарончы замак у Жамойці, на беразе Нёмана. Непадалёку крыжакі пабудавалі яшчэ адзін замак — Баербург. Якраз пры яго штурме, як паказваюць гісторыкі, і загінуў Гедымін.

[3] Жудасная зброя... — Крыжакі скарысталі ў той бітве гарматы, адно з каменных ядраў і трапіла ў Гедыміна.

[4] У выніку пераможных бітваў з валынскімі і кіеўскімі князямі Гедымін заваяваў Кіеў і Валынь і пасадзіў там сваіх прыбліжаных.

[5] Маецца на ўвазе парадненне Гедыміна з польскім каралём Лакеткам праз жаніцьбу іх дзяцей.

*Яўнута Гедымінавіч, вялікі князь літоўскі. 1329 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 412–413.

[1] Яўнута (альбо Яўнут, Яўнуцій) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1341–1345), сёмы, самы малодшы сын Гедыміна. Заступіў на трон згодна з тастаментам бацькі адразу пасля яго смерці. Быў занадта спакойны, «лянівы», яго неўзабаве сагналі з вялікакняскага пасада ягоныя больш энергічныя браты Альгерд і Кейстут. Вялікім князем стаў Альгерд са згоды Кейстута, які ўзяў у княжанне Жамойць і Трокі. Яўнуту ж аддалі Заслаўе.

[2] Свідрыгайла Леў (Баляслаў; каля 1370–1452) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1430–1432). Сын Альгерда. Вёў барацьбу з Жыгімонтам Кейстутавічам за вялікакняскі пасад, дзеля чаго ўступіў у саюз з Лівонскім ордэнам.

*Пра князькоў Карыятавічаў у часы Альгерда. 1331 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 416–418

[1] Карыятавічы — унукі Гедыміна, дзеці яго сына Карыяты Міхала, якія ўладарыў у Наваградку. Гэта — Юрка, Аляксандр, Тэадор і Канстанцін. У 1363 годзе яны памаглі Альгерду разбіць татараў пад Сінімі Водамі, за што атрымалі ва ўладанне Падоле (на Украіне).

[2] Бэкат, Смотрыч (над ракой Смотрыч) — гарады на Украіне, якія ўтварыліся вакол пабудаваных Карыятавічамі замкаў.

*Уцёкі Кейстута з Мальборга*

Адсылка: Нарбут, т. V, § 1248

[1] Кейстут (каля 1300–1382) — сын Гедыміна, князь ВКЛ. Усё жыццё змагаўся з крыжакамі. Каля 1361 г. трапіў у засаду і быў узяты крыжакамі ў палон. Прывезлі яго ў Мальборг (ці Марыенбург) да вялікага магістра Вінрыха фон Кніпродзе і пасля допыту пасадзілі ў надзейную вязніцу. Але наглядчык Альф аказаўся таксама ліцвінам: яго яшчэ дзіцем паланілі крыжакі. Альф патемна прынёс Кейстуту ў камору малаток, і той восем месяцаў прабіваў ім лаз у сцяне. Разам з Альфам, апрануўшыся ў белыя рыцарскія плашчы з чорнымі крыжамі, яны ўцяклі з крыжацкага замку.

[2] Wer-da? — хто гэта? (*Ням.*)

*Альгерд, вялікі князь літоўскі. 1330–1345 гг.*

Адсылка: Нарбут, т. V, с. 26–240.

[1] Пра Альгерда гл. каментарый да песні «Альгерд і Марыя…» Гэта папраўдзе неардынарная асоба. Ён паспяхова змагаўся з крыжакамі, палякамі, татарамі, маскоўскім царом. Пад яго кіраўніцтвам тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага падвоілася.

[2] Маецца на ўвазе паход Альгерда на Маскву, калі яго войскі нечакана з'явіліся на Паклоннай гары і вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч вымушаны быў багатымі дарамі задобрыць Альгерда. Альгерд згадзіўся на мір. Пры гэтым ён сказаў маскоўскаму князю: «Хоць мы з табой памірыліся, але мне інакш не выпадае, як толькі прысланіць кап'ё сваё да сцяны твайго горада Масквы, каб славу ўчыніць, што вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Альгерд кап'ё сваё да Масквы прысланіў».

### *Кейстут*

Адсылка: Стрыйк., с. 466, 467.

[1] Пра Кейстута гл. каментарый да песні «Уцёкі Кейстута з Мальборга».

[2] Вайдыла — прыбліжаны Ягайлы, з «плебеяў». Узяў замуж Ягайлаву сястру Марыю. Кейстут не любіў Вайдылу за яго інтрыгі.

[3] Вайдат (1342–1399) — сын Кейстута, княжыў у Полацку.

[4] У 1381 годзе Кейстут, схаваўшы сваіх вояў на вазах пад сенам ды пад скурамі, быццам падрыхтаванымі на продаж, выправіўся абозам на Вільню, заняў горад, а Ягайлу паслаў княжыць у Крэва.

[5] Як апавядае Стрыйкоўскі, у маі 1382 г. Кейстут выступіў у паход супраць свайго ўзбунтаванага пляменніка Дзімітрыя Карыбута Альгердавіча, які княжыў у Ноўгарадзе Северскім. У адсутнасць Кейстута Ягайла вярнуўся ў Вільню і заняў вялікакняскі пасад. Кейстута ж пасля яго звароту і яго сына Вітаўта пасадзіў у Крэве ў вязніцу.

### *Ганна Вітаўтава і Гэлена Амулічова. 1382 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 467, Нарбут, т. V, с. 303, § 1328.

[1] Ганна — жонка Вітаўта, выйшла за яго замуж каля 1370 г. Вітаўт (1350–1430) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1392–1430), сын Кейстута. Змагаўся за самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага, супраць уплыву польскіх феадалаў. Пры ім Вялікае Княства Літоўскае дасягнула найбольшых памераў, стала магутнай еўрапейскай дзяржавай.

### *Разлад Вітаўта з Ягайлам*

[1] Ягайла (каля 1351–1434) — сын Альгерда, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1377–1381, 1382–1392), кароль польскі.

[2] Паміж браценікамі Ягайлам і Вітаўтам вялася барацьба за трон, за ўладанні. Часта прычынай былі розныя інтрыгі прыбліжаных. У гэтых спрэчках выкарыстоўваліся іх агульныя ворагі — крыжаносцы, якія спусташалі краіну. Памірыліся браценікі толькі ў 1392 годзе дзеля барацьбы з тымі ж крыжакамі.

### *Радзівіл у часы Ягайлы. 1384 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 469, 470.

[1] Радзівіл узначальваў адзін з атрадаў ягелонскай конніцы. Як паказвае Стрыйкоўскі, быў маўклівы, але энергічны і смелы.

[2] Завіхост — польскі абарончы замак на Вісле.

### *Ягайла і Ядзвіга. 1386 г.*

Адсылка: Стрыйк., с. 473 і 474. Нарбут, т. V, с. 382–387, § 1361.

[1] Ядзвіга (1374–1399) — дачка караля венгерскага і польскага Людвіка. 18 лютага 1386 г. Ягайла ажаніўся з маладзенькай Ядзвігай і стаў каралём Польшчы. Перад гэтым ён прыняў каталіцтва, атрымаўшы новае імя — Уладзіслаў. Ядзвіга была каралевай Польшчы з 1384 г. да яе смерці. Дзяцей у яе не было.

## УЛАСНЫЯ СЯЛЯНСКІЯ ПЕСНІ

Гэтыя напісаныя добрай беларускай мовай вершы аўтар змясціў у сваім чацвёртым зборніку фальклорных матэрыялаў «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны з далучэннем іх арыгіналаў на славяна-крэвіцкай мове» — «Piosnki wiesniacze z nad Niemna i Dzwiny, z dolaczeniem pierwotwornych w mowie zlawiano-krewickiej» (Wilno, 1844) пад агульнай назвай «Уласныя сялянскія песні». Сваімі «песнямі» паэт імкнуўся ў духу Асветніцтва ўздзейнічаць на паляпшэнне маральнага стану сялянства, якому непасрэдна іх адрасаваў.

Усе творы передрукоўваюцца з кн.: Ян Чачот. Наваградскі замак, с. 37–56.

### *«Як то добра, калі мужык...»*

[1] «Меркамі называлі збожжа, якое выдавалі гарцамі ў панскіх маёнтках для пракармлення сялян вясною» (Я.Ч.).

[2] Кватэрка — ад слова кварта.

### *«Ой, чые то людзі піён і гуляён?»*

[1] «Гэта народная песня, якую спяваюць у Шчорсах» (Я. Ч.). Шчорсы (цяпер — вёска ў Наваградскім раёне Гродзенскай вобл.) належалі ліберальным графам Храптовічам; Іяхім Храптовіч (1729–1812) замяніў тут паншчыну чыншам; сын яго Адам Храптовіч (1768–1844) удзельнічаў у паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі; быў апекуном філаматаў, якім адкрыў шырокі доступ да сваёй багатай бібліятэкі.

[2] Аляшкевіч, Монічы, Гуляры — «прозвішчы заможных шчорсаўскіх гаспадароў» (Я.Ч.).

*«У лесе такуець цецярук...»*

[1] Аляндар (*простанар.*) — арандатар; тут арандатар карчмы.

*«Быў я колісь кавалём...»*

[1] Рок (*польск.*) — год.

*«Выведзьце, жаночкі...»*

[1] «Дамоў» — так гавораць у Наддзвінні; над Нёманам так не кажуць, а прамовяць: «да дому», «да дом» (Я.Ч.).

*«Ніхто цябе, татка, пахаваць не йдзе...»*

[1] Налог (*польск.*) — кепская звычка.

*«Хоць я бедны, хоць я гол...»*

[1] «Рабіць, спраўляць стол» — значыць даваць банкет на задушныя святы, якія доўга цягнуцца» (Я.Ч.).

*«Ай ей, які ён добры гаспадар!..»*

[1] «З гэтых песень можна ўбачыць генеалогію нашых «ай ей», «да пайшоў!», «ці так?», «ды так», ад якіх нават у былых пансіёнах не маглі адвучыцца паненкі; часам і панічы пасля заканчэння навук ва ўніверсітэце аздабляюць гэтымі слоўкамі сваю мову» (Я. Ч.).

*«Працуймы, дзеткі, шчыра...»*

[1] Карбач (*польск.*) — бізун.
[2] Колей (*польск.*) — чарга.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, НАВУКОВЫЯ ПРАЦЫ

Пра будучае прызначэнне Таварыства філаматаў, пра варыянты яго сённяшняй будовы, пра тое, наколькі адпавядаюць яны нашым мэтам. (З прамовы на пасяджэнні Таварыства філаматаў 7 мая 1821 г.)

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Materjały do historii Towarzystwa Filomatów (Archiwum filomatów, cz. 11). T. 2. Wyd. Stanisław Szpatański i Stanisława Pietraszkiewiczówna. Kraków, 1921, с. 396–404.

1 сакавіка 1821 г. на пасяджэнні Таварыства філаматаў, дзе абмяркоўвалася пытанне пра актывізацыю работы згуртавання, было вырашана звярнуцца да ўсіх членаў таварыства, каб кожны з іх выказаў пра гэта свае меркаванні. У адказ і была падрыхтавана прамова, з якой Я.Чачот і выступіў 7 мая 1821 г.

[1] Прыяцелі — члены Саюза прыяцеляў, альбо сяброў.

### *Думкі для ніжэйшага класа*

Друкуецца ў перакладзе паводле таго ж выдання, т. 3, 1934, с. 365–366.

У пунктах 4 і 5 праявілася пэўная супярэчнасць поглядаў Я.Чачота на рэлігію, на якую ён глядзеў вачамі асветнікаў, крытычна ставячыся да яе, лічачы рэлігію параджэннем невуцтва, але прызнаючы за ёю ролю захавальніцы народнай маралі.

[1] Школа Ланкастэра — сістэма ўзаемнага навучання, пры якой старэйшыя, больш здольныя вучні пад кіраўніцтвам настаўніка вялі заняткі з астатнімі вучнямі. Назву атрымала па імені англійскага педагога Дж.Ланкастэра (1778–1838), які распрацаваў гэты метад. Яго скарыстоўвалі дзекабрысты для пашырэння асветы і сваіх ідэй сярод насельніцтва. Узялі на ўзбраенне гэты метад навучання і філаматы. Навучанне сялян паводле гэтага метаду было арганізавана ва ўладанні графаў Храптовічаў у Шчорсах. Шмат увагі аддаваў навучанню сялян у Шчорсах філамат Францішак Малеўскі, які выступаў і ў друку за неабходнасць пашырэння гэтага метаду для асветы народа.

### *Думкі, якія павінен пашыраць вышэйшы клас*

Друкуецца паводле таго ж самага выдання, с. 366–370.

Абодва артыкулы былі напісаны з мэтай паляпшэння работы Таварыства філаматаў. Апублікаваны яны пад агульным загалоўкам «Філаматы і арганізацыя Патрыятычнага саюза». Вышэйшым класам Я.Чачот называе тут, відавочна, членаў Таварыства філаматаў як вышэйшае звяно арганізацыі, ніжэйшы клас — падначаленыя таварыству згуртаванні.

### *Рэцэнзія на твор Адама Міцкевіча «Курганок Марылі», які быў прачытаны на пасяджэнні сяброў 28 лістапада 1820 г.*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Józef Tretiak. Adam Mickiewicz w świetle nowych źródeł. 1815–1821. Kraków, 1917, с. 313–316.

Многія заўвагі былі ўлічаны А.Міцкевічам і выпраўлены.

### *Дадатак*

Гэтая невялічкая праца з’явілася як дадатак да напісаных Я.Чачотам песень для Зосі Малеўскай, якая выконвала іх пад фартэпіяна. Песні пісаліся на матыў беларускіх народных песень.

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Ludowość u Mickiewicza. Warszawa, 1958, с. 128–130. Напісана каля 1823 г.

[1] Хмель — Багдан Хмяльніцкі.

[2] Станіслаў Патоцкі Шчэсны (1751–1805) — галіцыйскі ваявода, польскі военачальнік і палітычны дзеяч. Жыў пад Уманню, па яго загаду створаны славуты парк «Сафіеўка».

[3] Маецца на ўвазе артыкул «Вясельныя абрады вясковага люду Гайнаўскай парафіі Барысаўскага павета Мінскай губерні з некаторымі песнямі і іх звычайнай нотай, сабранымі ў 1800, 1-м і 2-м гг.» (Tygodnik Wileński, 1819, 7).

### *Прадмова да сялянскіх песень з-над Нёмана (1837 г.)*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Piosnki wieśniacze z nad Niemna. We dwóch częściach. Wilno, 1837. Падаецца ў скарачэнні.

Датуецца 1834 г.

[1] Беліца — вёска ў цяперашнім Лідскім раёне.

### *Прадмова да сялянскіх песень з-над Дзвіны (1840 г.)*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny. Wilno, 1840.

[1] Курляндыя (Курземе) — старая назва заходняй вобласці Латвіі.

[2] Ліфляндыя — нямецкая назва Лівоніі, паўднёвая частка якой была аб’яднана пасля з Латвіяй, а паўночная — з Эстоніяй.

[3] Трэмбецкі Станіслаў (1735–1812) — адзін з буйнейшых польскіх паэтаў XVIII ст.

[4] У даслоўным перакладзе з польскай:

Працавала людская кемнасць і дайшла да спосабу
Адняць у сябе розум і прыблізіць дамавіну.

### *Прадмова да «сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны» (1844 г.)*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny… Wilno, 1844.

У гэтай кнізе апрача перакладаў беларускіх народных песень на польскую мову і ўласных беларускіх вершаў Я.Чачота, якія тут друкуюцца, былі змешчаны беларускія народныя песні ў арыгінале: дзесяць — «з-над Нёмана» і дзесяць — «з-над Дзвіны».

Публікуючы гэтыя песні, аўтар у спецыяльным уступе да іх паказвае асаблівасці двух дыялектаў беларускай мовы.

Каб даць чытачу ўяўленне пра прынцып падачы і характар гэтых песень, змяшчаем некаторыя з іх у тым самым парадку, у якім падае аўтар.

## Арыгінальныя сялянскія песні з-над Нёмана

### LII
### (Кн. 1, песня IXXXII)

На ціхум Дунаю жаўнер коніка сядлае,
Конік цяжка ўздыхае.
— Ой, коню, мой коню, чаго цяжка ўздыхаеш?
Чы я табе цяжак чы сядло залатое?
Чы сукенкі дарагія?
— Ні ты мне цяжак, ні сядло залатое,
Ні сукенкі дарагія;
Ой, цяжкі мне, цяжкі твае доўгія залёты!
Сам паедзеш у залёты,
Каня увяжаш да плота,
Да на буйненькам ветру,
Да на дробненькам дажджу
Стаіць конь гадзіну
І другую палавіну.
Да пакінь, пане, у карты граці,
Да паедзем, ваяваці
На прускую граніцу,
На варшаўскую уліцу.
Знайдзем там паненку
Тонку, як былінку.
Знайдзем і другую,
Да заўсім не такую.

### LVI
### (кн. 1, песня XIX)

Ой, у полі да ў чысценьком
Тры садочкі зелянюсенькі
У першом садочку пташачка салавей пее,
У другом садочку зазуль кукавала,
А ў трэцём садочку матка з сынам да размаўляла.
— Мой ты сыночку найроднейшы
Да хто ў цябе наймілейшы?
Да чы цешча, да чы жонка,
Да чы матка родненька?
— Да ў мяне цешча міла на прывет,

Жонка міла, як добры быт;
Матка ж мая родненькая,
Ты мне мілейша за ўвесь свет.
Ты ж мяне цяжэнька насіла,
Яшчэ цяжэй радзіла;
Сорак свечак ясненькіх спаліла,
Покі мяне выкарміла;
Сорак ночак цёмненькіх не спала,
Покі мяне маладзенькага згадавала.

## Арыгінальныя сялянскія песні з-над Дзвіны

### LVII
### (Кн. 2, песня XLIII)

Ні сячы, мой татулька,
Пры дарозе бярозы;
Ні касі, мой брацітка,
У лужочку травіцы;

Ні бяры, мая матулька,
У крыніцы вадзіцы;
Ні шчыплі, мая сястрыца,
У садочку цвяточкаў.

Длі дарогі бярозка,
Гэта я маладзенька.
А ў лужочку травіца —
Мая русая касіца.

У крыніцы вадзіца —
Мае дробныя слёзкі;
А ў садочку цвяточкі —
Мае ясныя вочкі.

### LIX
### (Кн. 2, песня LXXXII)

Каму ночка вяліка,
А мне ночка малюсінька.
Я ўсю ночку ні спала —

З мілінькім размаўляла.
А мой мілы рана ўстаець,
Ён коніка гатуіць і шабельку шаруіць,
На вайну паедзе, мяне дома кінець.
— А мой мілы, мілюсінькі,
Вазьмі мяне з сабою,
Назвеш мяне слугою.
Ты будзеш страляці,
Я стрэлачкі пабіраці,
Табе у ручкі даваці.
— Ах ты, жонка, жонухна,
Жонкі на вайну не язджаюць,
Яны дома прабываюць,
Хаты даглідаюць,
Малых дзетак гадуюць.
Як адтуль я вярнуся,
Прывязу табе гасцінца:
Казловыя чаравічкі,
А бяловыя панчохі».

[1] Кітайка — лёгкая баваўняная тканіна.

[2] Адамашка — шаўковая матэрыя з узорамі.

[3] Аўтарам брашуры «Аб падданых у Польшчы» быў Ю.Паўлікоўскі.

[4] Енджэй Замойскі (1716–1792) — віленскі каронны канцлер. Адзін з першых сярод землеўласнікаў, хто ў сваіх уладаннях замяніў паншчыну чыншам — рэгулярнымі натуральнымі грашовымі плацяжамі за карыстанне зямлёй.

[5] Павел Ксаверы Бжастоўскі (1739–1827) — вялікі пісар літоўскі, рэферэндар літоўскі. Адзін з ініцыятараў сялянскіх рэформ. У сваім маёнтку Мерач (пазней — Паўлава) Віленскага павета ў 1767 годзе дараваў сялянам асабістую вольнасць, замяніў паншчыну чыншам, уладу перадаў сялянскай абшчыне, пакінуўшы за сабой пажыццёвае прэзідэнцтва. Заканадаўчая ўлада ў гэтай Паўлаўскай рэспубліцы, якая ўвайшла ў гісторыю, належала «сялянскаму сейму», «міністэрству». Былі ў гэтай «рэспубліцы» уведзены свае грошы, існавала школа і лекарская дапамога.

[6] Іяахім Літавор Храптовіч (1729–1812) — прадстаўнік магнацкага роду на Беларусі, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. У сваіх маёнтках у Шчорсах Наваградскага павета і Вішневе Ашмянскага павета паншчыну замяніў чыншам. У Шчорсах пабудаваў палац, школу, уніяцкую царкву, арганізаваў адну з багацейшых у Еўропе бібліятэку з архівам.

[7] Станіслаў Панятоўскі (1755–1833) — князь, брат караля Станіслава Аўгуста, падскарбій вялікі літоўскі. У сваіх уладаннях на Украіне праводзіў ачыншаванне сялян.

### *Прадмова да «Сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны» (1846)*

Упершыню на польскай мове ў кнізе: Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny… Wilno, 1846.

У перакладзе друкавалася: Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мн., 1977, с. 86–100.

Перакладзена і падрыхтавана да друку Г. Кісялёвым.

Адразу пасля прадмовы, якая датавана 1845 г., у кнізе ідуць беларускія народныя песні ў арыгінале — 50 з-над Нёмана і 49 — з-над Дзвіны. Пад нумарам С (100) змешчаны вышэй пададзены верш «Да мілых мужычкоў». Так што ўсяго апублікавана 100 песень.

Змяшчаем тут некалькі з гэтых песень, каб зноў-такі даць чытачу ўяўленне пра збіральніцкую дзейнасць Я.Чачота.

## Крывіцкія песні з-над Нёмана

### *Велікодная, ці валачобная*

### I
### (Кн. 4, песня I)

Дзень добры, дзень, пане гаспадару!
Хрыстос васкрэс, сын божы*
Да цераз поле да шырокае,
Да цераз межы залаценькія
Ішлі-цяклі валачоннічкі,
Да пыталіся слаўнага пана,
Слаўнага пана, гаспадара.
Да чым жа ён уславіўся?
І дабром сваім, і дваром сваім.
Памятаюць дварэ ўсё павім пяром,
Ўсё павім пяром, залатым крылом.
Стаўляе сталы ўсё цясовыя,
Засцілае сталы ўсё кітайкаю,
Ўсё кітайкаю, ўсё зялёнаю,
Стаўляе кубкі ўсё срэбланыя,
Налівае кубкі зялёным віном,
Зялёным віном, чорным півам,
Чорным півам да салодкім мёдам.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Зялёнае віно пану гаспадару,
Чорнае піва для жаны яго,
Саладок мядок для яго дзетак.
Дай табе, божа, пане гаспадару,
Да піва варыці, да сына жаніці,
Гарэлачкі гнаці, дочкі даваці.
Дай табе, божа, пане гаспадару,
І ў каморы, і ў аборы;
Гдзе гара, там жыта капа,
Гдзе лог, там сена стог.
Пане гаспадару, не кажы нам ісці,
Не кажы нам ісці, кажы падарыць.
Да нашы дары невялікія,
Валачоннічкі — не дакучнічкі;
Да ў год ходзяць, да Бога просяць.
Пачынальнічку па дзесятнічку,
Старшаму пяўцу да капу яйцу,
Да кашаланошу да пірог к носу.
Хрыстос васкрэс, сын божы,
Проша, пане гаспадару!

### *Свята-юраўскія, вясеннія*

### II
### (Кн 1, песня I)

Ой, выйду я на вулачку — бычкі бушуюць,
        Юр'я, Юр'я, бычкі бушуюць.
Бычкі бушуюць, бо вясну чуюць,
        Юр'я, Юр'я, бо вясну чуюць.
Зашумелі рэчкі, ляды паплылі,
        Юр'я, Юр'я, ляды паплылі,
Зачарнела зямля, бо пааралі,
        Юр'я, Юр'я, бо пааралі.
Зазелянела бяроза, бо папукалася,
        Юр'я, Юр'я, бо папукалася.
Завесялела дуброва: пташкі спяваюць,
        Юр'я, Юр'я, пташкі спяваюць.
Зазелянела даліна: кветкі зацвілі,
        Юр'я, Юр'я, кветкі зацвілі.
Ой, выйду я, выйду кветкі збіраці,
        Юр'я, Юр'я, кветкі збіраці,
Кветкі збіраці, вяночкі віці,
        Юр'я, Юр'я, вяночкі віці,

Вяночкі віці, Юр’я спяваці.
    Юр’я, Юр’я, Юр’я спяваці.

## *Святаянскія, ці купальскія*

## VI
## (Кн. 4 песня VIII)

Ішла паненка цераз бор,
На ей сукенкаў дзевяць пол;
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

    Пайшлі дзевачкі тушыці,
    Залатымі кубачкамі ваду насіці.
    Колькі ў кубачку вады ест,
    Толькі ў дзевачак праўды ест.

Ішла паненка цераз бор,
На ей сукенка ў дзевяць пол;
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

    Пайшлі хлопцы тушыці,
    Рэшатамі ваду насіці,
    Колькі ў рэшаце вады ест,
    Толькі ў хлопцаў праўды ест.

Ішла паненка цераз, бор,
На ей сукенка ў дзевяць пол;
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

    Пайшлі жоначкі тушыці,
    Чапцамі ваду насіці;
    Колькі ў чапцы вады ест,
    Толькі ў жоначак праўды ест.

## *На Божае нараджэнне, ці калядныя*

### VII
### (кн. 1, песня VIII)

Да казаў хмялёк, да на тычкі ідучы:
— Чаму мяне да не бралі?
Да казаў хмялёк, да рассыхаючы:
— Чаму мяне да не хавалі?
Ужо вы мяне цяпер не вазьмеце,
Ужо ж вы мяне да не схаваеце,
Ані ў белыя мяшэчкі,
Ані ў дубовыя судзіначкі.
Ужо ж я раскачуся,
Ужо ж я да рассыплюся.
Да казаў Казуська да выходзячы з хаткі:
— Чаму мяне у осень не жанілі,
Ужо ж вы мяне цяпер не удзержыце,
Ужо ж вы мяне цяпер не угледзіце,
Ані ў белай сярмяжцы,
Ані ў новай хатцы;
Пайду ж я мандруючы,
Сабе дзевунькі шукаючы.

## *Жніўныя, ці летнія*

### XVII
### (Кн. 1, песня XXIV)

Да ў нашага пана
Да не добрая слава:
Па месяцу жыта жалі,
Па зарам копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто да хаты не пушчае,
Да на полю нас трымае.
Да мы позна з поля ідзём,
Да прыганятага клянём.

### *Вясельныя*

### XXX
### (Кн. 4, песня XIV)

Да ляцелі гусанькі ў чужы край,
Час табе, дзевачка, за каравай.
Сцяліце кабялцы — я сяду,
Благаславі, ойчанька, — я пайду.
    Ляцелі гусанькі выш дубу,
    Час табе, Анулька, да шлюбу.
    Сцяліце кабялцы — я сяду,
    Благаславі, матухна, — я пайду.
Да ляцелі гусанькі цераз сад,
Час табе, Анулька, на пасад.
Сцяліце кабялцы — я сяду,
Благаславі, брацейка, — я, пайду.

### *Розныя*

### XLII
### (Кн. 4, песня XXII)

Ой у полі пад вішанькаю
Там казачок забіты ляжыць,
Над ім конік вараны стаіць,
Капыцейкам зямлю сячэ,
Свайму пану вады дастае.
Табе, коню, вады не дастаць,
А мне, маладому, ад зямлі не ўстаць.
Бяжы, коню, да новага двара,
Выйдзе да цябе старая жана;
Старая жана — то матка мая.
Будзе ў цябе сынка пытаці,
Не кажы, коню, што забіт ляжу,
А скажы, коню, што ажаніўся.
Што ж у яго за сваты былі?
Былі ў яго сваты — зялёныя дубы.
Што ж у яго, коню, за музыка быў?
Быў у яго музыка — зялёны явар.
Што ж у яго, коню, за сванька была?
Была ў яго сванька — чырвона калінка.
Што ж у яго, коню, за дружкі былі?
Былі ў яго дружкі — белы бярозкі.

Што ж у яго, коню, за млода была?
Была ў яго млода — арабіначна,
Ў чыстым полі да магілачка.

## XLIII
## (Кн. 4, песня XXV)

Ой чаму ж то пан Хаміцкі той час не жаніўся,
Як у лесе на арэсе голуб урадзіўся!
Ой чаму ж ты, Бондароўна*, у той час замуж не йшла,
Як у млыне на камені пшэнічунька ўзышла?
У мястэчку Церастэчку каманда стаяла,
Там жа наша бондароўна ўсю ночку не спала.
Гаварылі бондароўне да добрыя людзі:
— Уцякай ты, бондароўна, ліха табе будзе.
О як скочыць бондароўна межамі, лугамі,
А за ею пан Хаміцкі з сваімі слугамі.
А як дагнаў бондароўну у пул лагчынэчкі,
Так ухапіў бондароўну за белы ручэчкі.
А прывёў жа бондароўну да свэй святлічэнькі,
Пасадзіў жа бондароўну на белом крэселку.
А казаў жа бондароўне песеньку співаці,
А сам пашоў пан Хаміцкі стрэльбу набіваці.
А ці лепей бондароўна ў сыром пяску гніці,
Як за мною, за Хаміцкім, ў атласе хадзіці?
— Ой лепей, пане Хаміцкі, ў сырым** пяску гніці,
Як за мною, за Хаміцкім, ў атласе хадзіці.
Ох як выцяў бондароўну пад левае вуха,
Засталася бондароўна і слепа, і глуха.
Ой казаў жа пан Хаміцкі ад ранку да ранку
Выкапаці бондароўне глыбокую ямку.
Ой казаў жа бондароўну у тры дні хаваці,
Да няхай жа наплачацца яе бацька, маці.
Ой прышоў жа яе бацька і сплясну́ў рукамі:
— Ото ж табе прышло ліха з тваімі думкамі!

* Толькі тут слова з вялікай літары, ва ўсіх астатніх выпадках — з малой.

** Так у тэксце — у першым выпадку з «о», у другім — з «ы».

# Крывіцкія песні з-над Дзвіны

## *Святаянскія, ці купальскія*

### LII
### (Кн. 2, песня LXV)

Звала Купалка Іллю на ігрышча:
Хадзі Іллішча ка мне на ігрышча.
Не маю часу, Купалечка,
Гэту ўсю ночку мне нада не спаці,
Жыта пільнаваці,
Каб змяя заломаў не ламала,
У жыце карэння не капала,
У кароў малакі не адбірала.
Адбяры, божа, таму ручкі, ножкі,
Са лба вочкі!

## *Жніўныя і дажынкавыя*

### LVII
### (Кн. 2, песня LXVII)

Сцюдзёная раса пала,
Пусці мяне дамоў, пане.
Мае дамы далёкія,
Пераходы вялікія.
А сем міль борам ісці,
А восьмая далінаю,
Дзевятая к свікратку ў двор.
А свікраток пераймаіць
З цісовымі вядзёркамі,
Шаўковымі пачопкамі.
А шлець мяне, маладзіцу,
У Дунай па вадзіцу.
А свікраток, мой татанька,
Ні вады ж ты жыдаеш,
Мяне света збываеш.
Ты мяне света збудзеш,
Усё табе адно будзець.

### *Вясельныя**

### XV
### (Спяваюць для сіраты)

Кукавала зязюля ў садочку,
Прыклаўшы галоўку к лісточку:
Хто маё гняздзечка разаўець,
Хто мае яечкі пабярэць?
Разаўець гняздзечка лебедзька,
Пабярэць яечка лябёдка.
Плакала паненка у святліцы,
Прылажыўшы галовачку к скамліцы:
Хто маю косыньку разпляцець,
Хто мае ўплёты пабярэць?
Распляцець косыньку брацішка,
Пабярэць уплёты сястрыца.

### *Хрэсьбінныя, ці хрысцінныя*

### LXXV

Хто ж у нас у полазе ляжыць?
Пёкалка наша да ў полазе ляжыць.
Да зажыдала вішнёвага соку.
— Сышчыце майго Хведарка з току —
Няхай дабудзець вішнёвага соку.
Пытаецца, да хто ж то радзіўся.
— Калі сын радзіўся, я і соку дабуду,
Калі дачушка — вадзіцай адбуду.
Калі сын радзіўся, слаўлён горад стаўлю,
Калі дачушка, я й шацёр не спраўлю.

* Вельмі шкада, што да гэтага часу не апісаны дакладна абрады і забавы нашага люду. Цяперашні час патрабуе гэтага, але мы ідзём за ім яшчэ ззаду, з вялікім нядбальствам. А вельмі цікавыя былі б гэтыя апісанні і бліжэй знаёмілі б нас з сялянамі, якіх ведаем толькі ў рабоце альбо калі бяром іх да сябе для якой дапамогі ці калі яны з данінай прыходзяць у панскі двор: і то бачаць іх тады хутчэй панскія слугі… (Я.Ч.)

## *Дзяцінныя*
## (якія спяваюцца над нашай калыскай)

### XXVI
### (Кн. 3, песня XXIX)

Люлі, люлі, люлі, прыляцелі куры,
Селі на вароцях, у чырвоных боцях,
Сталі сыкатаці, што дзіцяці даці.
Ні бобу каробу, ні гароху троху,
Ні канапень чарапень, ні ячменю жменю;
Каня варанога, быка палавога,
Цялушку рабушку, дзіцяці на юшку.

## *Розныя*

### XC

А да дымна ў полі, дымна!
За чым яно дымна?
Там ехалі татарыны,
Вязлі сабе валыначку,
Да красную паненачку,
Маладзенькую Юлячку.
Да за ей пагонь гоніць,
Яе родны татанька.
Яго дзіця разумнае
Назад аглянулася:
Пастой, татка, не ганіся,
А назад вярніся,
Я сама к табе буду
З маладзенькім зяцем,
З бялюсенькім сырам,
З малюсенькім сынам.

### XCVIII
### (Кн. 2, песня LXXXIII)

Жана па новых сенях ходзіць,
Свайго мілага просіць:
Начуй, начуй, мілы, хоць адну ноч у мяне,
Начаваў бы я і тры,
Ўжо мае коні запрэжаны,

Ўжо мае служачкі засядзеліс.
Як выйду я на вулачку,
Ўсе мужы з вайны ідуць,
Майго мілага не відаць,
Майго мілага толькі конік бяжыць,
На том коніку сядзёлачка ляжыць,
На сядзёлачку хустачка ядвабная.
Ехалі каля ваконца, ўкінулі ў аконца:
Я ж думала, хустку адвабную,
Аж кашулечку крывавую,
А з вялікімі прыгрозамі:
Каб без вады вымыта была,
Без ветру высушана,
Без качалак слізка выкачана.
Я молада дагадліва была:
Слёзкамі бела вымыла,
Ўздыхаючы цяжка, высушыла,
Ручкі ломючы, слізка выкачала.

[1] Чачот надрукаваў у сваім зборніку слоўнічак адметных, самабытных беларускіх слоў, уласцівых, на яго думку, толькі беларускай мове. Не задавальняючыся прынятым у польскай лінгвістыцы тэрмінам idiotyzm, ён прапанаваў для такіх слоў свой тэрмін — własnonazw.

[2] Ліндэ Самуэль Багуміл (1771–1847) — польскі лінгвіст, педагог. У 1807–1814 гг. выдаў шасцітомны «Слоўнік польскай мовы», які захоўвае сваю вартасць да нашых дзён (другое выданне, дапоўненае, выйшла ў 1854–1861 гг., трэцяе, фотаафсетнае, — у 1951 г.).

[3] Гл. т. VI, с. 74 трэцяга выдання слоўніка Ліндэ.

[4] У нашай публікацыі ўжываецца прынятая цяпер літара — *ў*.

[5] Так да 1843 г. называўся Свянцянскі пав. Віленскай губ.

[6] Шарфенбергеры (Шарфенбергі) — дынастыя польскіх кракаўскіх кнігадрукароў XVI ст. Лазар Андрысовіц (памёр у 1577 г.) — кракаўскі друкар, заснавальнік друкарскай фірмы.

[7] Капчынскі Ануфрый (1735–1817) — філолаг і педагог, аўтар граматык польскай мовы.

[8] Фялінскі Алоіз (1771–1820) — польскі паэт, драматург, вучоны, у 1794 г. сакратар Т.Касцюшкі. У 1816 г. выдаў працу «Падставы правапісу, які я ўжываю».

[9] Маюцца на ўвазе працяжнікі.

[10] Пачаткам кнігадрукавання ў Польшчы лічацца 1473–1474 гг. Першая кніга на польскай мове («Рай душэўны» Берната з Любліна) надрукавана ў 1513 г.

[11] У 1594 г. друкар Ян Янушоўскі, гуманіст па поглядах, распрацаваў і выдаў праект польскай арфаграфіі, у якім знайшлі таксама адлю-

страванне адпаведныя праекты паэта Яна Каханоўскага і пісьменніка Лукаша Гурніцкага.

[12] Галер Ян (1476–1525) — кракаўскі друкар і выдавец, адзін з пачынальнікаў кнігадрукавання ў Польшчы.

[13] Дзесяцітомная «Гісторыя польскай літаратуры» Міхала Вішнеўскага выходзіла ў 1840–1857 гг.

[14] Кашуцкі Станіслаў (памёр у 1559 г.) — прыдворны бібліятэкар караля Зыгмунта Аўгуста, перакладчык, паэт. У 1558 г. выдаў пераклад працы нямецкага літаратара Рэйнгарта Ларыхіуса (Лорыха) «Кнігі пра выхаванне і практыкаванні кожнага, хто мае ўладу».

[15] Леапаліта (Ян Ніч; каля 1523–1574) — тэолаг. «Біблія Леапаліты» (1561) — першы польскі друкаваны пераклад свяшчэннага пісання.

[16] «Хроніка ўсяго свету» сярэдневяковага польскага храніста і паэта Марціна Бельскага (1495–1575) выдавалася ў 1551, 1554 і 1564 гг. Пасля была дапрацавана яго сынам Іяхімам (памёр у 1599 г.) і выдадзена ў 1597 г. пад назвай «Хроніка польская».

[17] У нашай публікацыі націск захоўваецца толькі ў характэрных выпадках і пазначаецца, як цяпер прынята.

[18] Апалінскі Крыштаф (1609–1655) — польскі палітычны дзеяч, паэт, аўтар зборніка «Сатыры» (1650).

[19] Асіян — легендарны воін і бард кельтаў, які жыў, паводле паданняў, у III ст. У 1765 г. шатландзец Д.Макферсон выдаў таленавітую падборку твораў Асіяна, якая мела шумны поспех. «Песні Асіяна» на польскую мову пераклаў Ф.Д.Князьнін.

[20] Рэй Мікалай (1505–1569) — польскі паэт і празаік эпохі Рэнесанса.

[21] Лаўрышава — вёска каля Шчорсаў, цяпер Наваградскага р-на Гродзенскай вобл. Пра князя Рыманта (Рамунта, Лаўра) Трайдэнавіча і ўзнікненне Лаўрышава расказвае «Хроніка Быхаўца».

[22] Кіеўская губ.

[23] Чачот карыстаўся зборнікамі Вацлава Залескага («Польскія і русінскія песні галіцыйскага люду». Львоў, 1833 г.) і Жэготы Паўлі («Песні русінскага люду ў Галіцыі». Львоў, 1839–1840 гг.).

[24] Маецца на ўвазе артыкул «Вясельныя абрады вясковага люду Гайнаўскай парафіі Барысаўскага павета Мінскай губерні з некаторымі песнямі і іх звычайнай нотай, сабранымі ў 1800, 1-м і 2-м гг.» (Tygodnoik Wileński, t.7).

[25] Польскія сярэдневяковыя гісторыкі: Ян Длугаш (1415–1480) і Мацей Стрыйкоўскі (1547 — пасля 1582).

[26] «Кароткі збор навукі хрысціянскай для вяскоўцаў рымска-каталіцкага веравызнання, якія гавораць мовай польска-рускай». Вільня, 1835.

[27] Кнапскі Гжэгаж (1564–1639) — польскі лексікограф, укладальнік польска-лацінска-грэчаскага слоўніка (1621).

[28] Маёнтак у Наваградскім пав. Належаў Слізням, з якімі сябравалі філаматы.

### *Зычлівая заўвага для этымолагаў*

Друкуецца ў перакладзе паводле таго ж самага выдання, с. 97–101, са скарачэннямі.

[1] Ігнацы-Бенедыкт Ракавецкі (1782–1839) — польскі пісьменнік і вучоны, аўтар многіх даследаванняў, прысвечаных гісторыі старажытных славян.

[2] Яраслаў Мудры (978–1054) — вялікі князь кіеўскі (1019–1054), дзяржаўны дзеяч Старажытнай Русі. Пры ім была створана самая старажытная частка «Рускай праўды», т. зв. «Праўда Яраслава».

[3] Войцех Дэмбалецкі (каля 1585 – каля 1647) — польскі рэлігійны дзеяч, псеўдавучоны гісторык; сцвярджаў, што палякі — народ выбраны, першы сярод народаў свету, а славянская (польская) мова — першапачатковая мова свету.

[4] Пікульскі (Гаудэнты) — польскі гістарычны пісьменнік. Памёр у Львове ў 1763 г. Акрамя некаторых тэалагічных прац, лацінскіх і польскіх, выдаў у Львове ў 1763 г. кнігу «Трыумф свету, ці Усеагульная гісторыя».

[5] Бенедыкт Хмялеўскі (1700–1763) — ксёндз, аўтар кампіляцыйных рэлігійных кніг, а таксама псеўданавуковай энцыклапедыі «Новыя Атэны…» у двух тамах.

[6] Аляксандр Сапега (1773–1812) — адзін з прадстаўнікоў магнацкага роду на Беларусі, князь, пісьменнік. Аўтар кнігі «Падарожжы ў славянскія краіны ў 1802 і 1803» (1811). Памёр у Дзярэчыне.

[7] Matris slavicae filia erudita vulga lingua graeca (лац.) — мацеры славянскай адукаваная дачка, як звычайна кажуць, — грэцкая мова.

[8] Дэмасфен (каля 384–322 да н.э.) — старажытнагрэцкі аратар, палітычны дзеяч, ідэолаг афінскай рабаўласніцкай дэмакратыі.

[9] Марк Тулій Цыцэрон (106–43 да н.э.) — старажытнарымскі палітычны дзеяч, аратар, філосаф, адвакат, пісьменнік.

### *Некаторыя крывіцкія ідыёмы (уласназвы) з Наваградскага павета, а таксама асобныя словы, што розняцца па значэнні са словамі іншых славянскіх моў*

Друкуецца ў перакладзе паводле таго ж самага выдання (с. 69–96), са скарачэннямі тлумачэнняў.

[1] У арыгінале слоўнік складзены згодна з польскім алфавітам.

[2] Выдзеленыя словы і выразы падаюцца ў арыгінале на беларускай мове.

[3] Санскрыт — індыйская літаратурная мова ў старажытнасці і сярэднявеччы.

[4] Сармацкая мова — мова сарматаў, вандроўных плямён, блізкіх скіфам; сарматы ў II ст. да н.э. занялі Паўночнае Прычарнамор'е, прасачыліся ў прыдунайскія краіны.

[5] Міхал Дудзінскі — польскі пісьменнік XVIII ст., мовазнавец. У 1776 г. выдаў у Вільні працу: «Збор матэрыялаў, неабходных для ўдасканальвання мовы». У 80-х гадах працаваў настаўнікам паэтыкі ў Мінску. Аўтар апісальнай панегірычнай паэмы «Палац у Сёмкаве» (больш падрабязна пра гэта гл. у кн.: А.І.Мальдзіс. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980, с. 262).

[6] Себасцьян Фабіян Кляновіч (каля 1545–1602) — паэт, пісаў на лацінскай і польскай мовах.

[7] «Назова» — дыялект. «Назавеш імя яго Езус» («Гданьская біблія»). «Жыў у горадзе, які завецца Назарэт» (Вуек)… Звацць — значыць адначасова клікаць і зваць…» (Я.Ч.).

[8] Жмудскае, альбо Жамойцкае княства аб'ядноўвала жамойтаў — літоўскую этнічную групу.

[9] Краінскі — ад Краіна: гістарычная вобласць Славеніі (Югаславія).

[10] Андрэй Каханоўскі (год нараджд. невядомы — памёр каля 1599) — польскі паэт, перакладчык «Энеіды» Вергілія.

[11] Лукаш Гурніцкі (1527–1603) — польскі пісьменнік, публіцыст, гісторык, перакладчык.

[12] Ігнацы Влодэк (1723–1780) — польскі пісьменнік, публіцыст.

[13] Лашт — даўняя мера сыпкіх цел.

[14] Тадэвуш Чацкі (1765–1813) — польскі асветнік, гісторык, грамадскі дзеяч. Адзін з арганізатараў варшаўскага Таварыства прыхільнікаў навук (1800).

[15] Мацей Стрыйкоўскі (каля 1547 — каля 1586) — польскі гісторык і паэт. Галоўны яго твор — «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582) — каштоўная крыніца па гісторыі Беларусі.

[16] Краты — харваты.

[17] Вендыйскі — дыялект, на якім размаўляе насельніцтва Штырыі — вобласці ў Югаславіі; суседнічае з Краінай (Славенія); дыялект вельмі блізкі краінскаму.

[18] Славонскі — славенскі.

[19] Босненскі — баснійскі.

[20] Рагузянскі — ад: Рагуза; лацінская назва Дуброўніка ў Югаславіі.

[21] Далмацкі — ад: Далмацыя.

[22] Ян Амос Каменскі (1592–1670) — чэшскі педагог, рэфарматар школы, палітычны і рэлігійны дзеяч, публіцыст.

[23] Пётр Скарга Павенскі (1592–1670) — рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, пачынальнік польскай аратарскай прозы. З 1573 г. змагаўся супраць Рэфармацыі ў Літве і на Беларусі, выкладаў у заснаваных ім калегіях у Вільні і Полацку. Ініцыятар і прапагандыст Брэсцкай уніі 1596 г.

[24] Так у тэксце — у першым слове з «ж», а у другім — з «з».

[25] Відаць, маецца на ўвазе Адам Казімір Чартарыйскі (1734–1823) — магнат, кандыдат на трон Рэчы Паспалітай, драматург і публіцыст.

[26] Вацлаў Патоцкі (1621–1696) — польскі паэт.

[27] Давід Пільхоўскі (1735–1803) — польскі рэлігійны дзеяч, публіцыст.

[28] «Gazeta narodowa i obca» (1791–1792) — орган прыхільнікаў Канстытуцыі 3 мая 1791 г., асноўнага закона Рэчы Паспалітай (да 1792).

### *Крывіцкія прыказкі і прымаўкі*

Друкуецца ў перакладзе паводле таго ж самага выдання, с. 106–116.

### *Прыказкі і прымаўкі, прыстасаваныя да свят*

Друкуецца ў перакладзе паводле таго ж самага выдання, с. 116–117.

### *Адметныя выразы і параўнанні, якія можна аднесці і да прымавак*

Друкуецца ў перакладзе паводле таго ж самага выдання, с. 117–120.

## ПІСЬМЫ

### *Да Адама Міцкевіча 15(27) мая 1819 г., Мінск*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Korespondencja filomatów. 1815–1823. (Archiwum filomatów, cz. 11). T. 1. Wyd. J. Czubek. Kraków, 1913, с. 70–74.

[1] Я.Чачот прыязджаў у Мінск на кантрактавы кірмаш як пісар Масы, ці Камісіі радзівілаўскай.

[2] Мядзведзі, якіх Я.Чачот адносіць да міфічных нямейскіх ільвоў.

[3] Карвета (*італ.*) — рэверанс, падскок.

[4] Стафан — брат філамата Тамаша Зана: яго бацькі з дзецьмі жылі ў вёсцы пад Маладзечнам.

[5] Ануфры — Ануфры Петрашкевіч, філамат, які працаваў разам з Я.Чачотам у канцылярыі Масы радзівілаўскай.

[6] Adie (*франц.*) — бывай(це) здаровы.

*Да Адама Міцкевіча*
*25 ліпеня (6 жніўня) 1819, Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з той самай кнігі, с. 83–86.

[1] Адам Міцкевіч пасля заканчэння Віленскага універсітэта паехаў дамоў, у Наваградак, дзе праводзіў свае апошнія канікулы.

[2] Геранім — другое імя філамата Францішка Малеўскага, якога яшчэ называлі Ярош.

[3] Кардыналія — віленскі дом былога кардынала Юрыя Радзівіла (насупраць бакавых дзвярэй касцёла святога Яна), дзе размяшчалася канцылярыя Масы радзівілаўскай.

[4] А.Міцкевіч быў прызначаны на пасаду настаўніка школы ў Коўне.

[5] Ксёндз Станіслаў Чэрскі — выкладчык латыні і грэцкай мовы ў гімназіі ў Вільні.

[6] Казімір Пясецкі — філамат.

[7] «Арыён» — балада Я.Чачота, якая не захавалася.

[8] Прэсіеры — друкары, альбо перапісчыкі (ад слова «прэса»). Так жартоўна называе Я.Чачот братоў А.Міцкевіча Алеся і Юрася.

[9] Ян Напалеон — гэта саманайменне звязана з культам Напалеона Банапарта, вельмі пашыраным у той час сярод польскай і беларускай шляхты; гэтак жа падпісваўся ў адказ і А.Міцкевіч: пэўна ж, не без жарту.

*Да Адама Міцкевіча*
*21 верасня (3 кастрычніка) 1819 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з той самай кнігі, с. 110–113.

[1] Юзафам старшым філаматы называлі Юзафа Яжоўскага ў адрозненне ад Юзафа Кавалеўскага — малодшага Юзафа.

[2] Тэадор Лазінскі — філамат.

[3] Францішак — старэйшы брат А.Міцкевіча.

[4] Аляксандр — брат А.Міцкевіча; ён якраз запісваўся ў Віленскі універсітэт.

[5] Юрась — самы малодшы брат А.Міцкевіча.

[6] Ксёндз Фларыян Лютастанскі — наглядчык павятовай наваградскай школы святых дамініканцаў.

*Да Адама Міцкевіча*
*30 верасня – 2 кастрычніка (12–14 кастрычніка) 1819, Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 1, с. 132–146.

[1] Дзіянісій Хлявінскі — філамат, ксёндз.

[2] Тамаш Зан.

[3] Кніга Ж.-Ж.Русо «Эміль, альбо Пра выхаванне».

[4] Ігнат Мікалаевіч Даніловіч (1788–1843) — ліберальны гісторык права Вялікага Княства Літоўскага; адзін з першых

даследчыкаў заканадаўчых і летапісных помнікаў Беларусі. Быў выкладчыкам права ў Віленскім універсітэце.

[5] Nocturna diurna vertare (*лац.*) — вывучаць днём і ноччу.

[6] Ануфры Петрашкевіч.

[7] Шырокі — так называлі сябры філамата Тэадора Лазінскага.

[8] Ігнат Дамейка, філамат.

[9] Антыфоны — рэлігійныя спевы.

[10] Пачатковы радок адной са строф беларускай песні Я.Чачота «Што мы вашэці скажам…».

[11] Маюцца на ўвазе сербскія народныя песні са збору Вука Караджыча (1787–1864), сербскага філолага і фалькларыста, надрукаваныя ў віленскім часопісе «Pamiętnik Naukowy», 1819, с. 385–392.

[12] Адам Нарушэвіч (1733–1796) — польскі паэт і гісторык. Родам з Піншчыны.

[13] Піндар (каля 522 – каля 442 да н.э.) — старажытнагрэцкі паэт.

[14] Анакрэон (Анакрэонт; каля 570–478 да н.э.) — старажытнагрэцкі паэт.

[15] Publice (*лац.*) — на людзях.

### *Да Адама Міцкевіча*
### *16(28) лістапада 1819, Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 1, с. 263–277.

[1] Ярош — Францішак Малеўскі.

[2] Адна з гэтых песень, відавочна, — «На прыезд Адама Міцкевіча».

[3] Маецца на ўвазе «Ода да маладосці» А.Міцкевіча.

### *Да Адама Міцкевіча*
### *7(19) снежня 1819 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 1, с. 312–315.

[1] In crudo (*лац.*) — у чарнавым выглядзе.

[2] Малады Юзаф — Юзаф Кавалеўскі, філамат, які выступіў на пасяджэнні Таварыства філаматаў з крытычным разглядам балады Я.Чачота «Бекеш».

### *Да Адама Міцкевіча*
### *20 мая (1 чэрвеня) 1820 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 2, с. 106–109.

[1] Гаворка ідзе пра арганізаванае Тамашам Занам Таварыства прамяністых.

[2] Хто б мог спадзявацца, хто б мог даўмецца, што некалі ўся Вільня будзе нос затыкаць (*польск.*).

[3] Славінскі, Карэвіцкі, Сероцкі, Смакоўскі, Ардынец — прадстаўнікі віленскай інтэлігенцыі, знаёмыя Я.Чачота і А.Міцкевіча.

[4] На сваіх сходках і маёўках філаматы замест віна пілі малако.

[5] Віўласы — так самі сябе называлі філаматы (ад франц. viv la — няхай жыве — пачатковыя словы лозунгаў Вялікай французскай рэвалюцыі).

[6] Ксаверы Агінскі — сын князя Міхала Агінскага, падскарбія літоўскага; з 1818 г. быў блізкі да філаматаў, уваходзіў у Таварыства прамяністых.

[7] Францішак, брат А.Міцкевіча, меўся ўладкавацца на працу ў канцылярыі Масы радзівілаўскай.

*Да Адама Міцкевіча*
*26 мая (7 чэрвеня) 1820, Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 2, с. 127–129.

[1] Пэрыоха (*грэц.*) — кароткі пераказ.

[2] Ануфры Петрашкевіч.

[3] Harangue (*англ.*) — прамова.

[4] Экзорта (*лац.*) — рэлігійная прамова.

[5] Міхал Рукевіч, філамат.

[6] Ex officio (*лац.*) — па абавязку.

*Да Юзафа Яжоўскага*
*22 жніўня (3 верасня) 1820 г., Наваградак*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 2, с. 242–246.

[1] З Францішкам Малеўскім.

[2] Рута — маёнтак (пад Наваградкам) суддзі Медарда Растоцкага, сябра і апекуна Міцкевічаў.

[3] Верш А.Міцкевіча, які стаў адной з любімых песень філаматаў.

[4] Паплавы, Пагулянка — назвы віленскіх прадмесцяў.

[5] Ян Рустэм — мастак, прафесар мастацкай школы ў Віленскім універсітэце.

[6] Гаворка ідзе пра месца працы Францішку Міцкевічу, якое вызваліў Ануфры Петрашкевіч у канцылярыі Масы радзівілаўскай.

*Да Ануфрыя Петрашкевіча*
*26 кастрычніка (7 лістапада) 1820, Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 2, с. 374–385.

[1] Еж — Юзаф Яжоўскі.

[2] Графа Адама Храптовіча, уладальніка Шчорсаў.

[3] Ксёндз Канты Калікст Хадані — прафесар Віленскага універсітэта, вядомы прапаведнік, перакладчык «Генрыяды» Вальтэра.

[4] Анты — тыя, што выступаюць супраць Таварыства прамяністых.

[5] Навуковы — Навуковы саюз.

[6] Міхал Рукевіч — філамат, бацькі якога валодалі вёскай Гыжна.

[7] Бірэт — круглая ці чатырохвугольная шапачка ў духоўнікаў, вучоных.

[8] Рэч паспалітая — мяркуюць, так называўся нейкі саюз сярод пісараў Масы радзівілаўскай, створаны А.Петрашкевічам; пра гэта згуртаванне ніякіх звестак не захавалася.

[9] Liber baro (*лац.*) — тут: вольны мастак.

[10] Літаратурны саюз, якім кіраваў Я.Чачот у Таварыстве філарэтаў.

*Да Адама Міцкевіча*
*17(29) лістапада 1821, Варшава*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 4, с. 56–60.

[1] Ёсць меркаванне, што Я.Чачот ездзіў у Варшаву з нейкімі канспірацыйнымі мэтамі.

[2] Гістарычная драма І.В.Гётэ «Гёц фон Берліхінген».

[3] Пфаф, Вэнцкі, Глюксберг — варшаўскія кнігары.

[4] Таварыства прыхільнікаў навук у Варшаве — згуртаванне польскіх вучоных, якое ўзнікла ў 1800 г. як рэакцыя на ліквідацыю Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. і задачай якога была кансалідацыя палякаў, захаванне гвалтоўна раз’яднанай польскай нацыі.

[5] Станіслаў Сташыц (1755–1826) — у той час старшыня Варшаўскага таварыства прыхільнікаў навук, ідэолаг польскага Асветніцтва, публіцыст, вучоны. Выступаў з крытыкай палітычнага ладу Рэчы Паспалітай, феадальных парадкаў. У 1816 г. заснаваў у сваім памесці сялянскае таварыства, якому перадаў у вечнае карыстанне ўсе свае землі. Я.Чачот прысвяціў Ст.Сташыцу зборнік «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны…» (1846).

[6] Станіслаў Патоцкі (1755–1821) — польскі палітык, пісьменнік, тэарэтык і мецэнат мастацтва, масонскі дзеяч.

[7] Гэта выступленне Ежы Хрыстыяна Арнольда выйшла асобным выданнем пад назвай «Навуковы трактат пяты пра шчодрасць польскіх каралёў у дачыненні да лекараў, у прыватнасці ў часы караля Станіслава Аўгуста, чытаны на публічным пасяджэнні каралеўскага Варшаўскага таварыства прыхільнікаў навук 26 лістапада 1821». Выйшла ў Варшаве ў 1822 г.

[8] Валенты Скараход Маеўскі (1764–1835) — мовазнавец, гісторык і архівіст.

[9] Кракус — паводле падання, першы кароль Польшчы, заснавальнік Кракава, які да гэтага называўся Вавелем, Ванда — яго дачка, польская каралева.

[10] Польскія каралі.

[11] Людвік Асінскі (1775–1838) — паэт, крытык, прафесар Варшаўскага універсітэта, антрэпрэнёр і дырэктар Нацыянальнага тэатра.

[12] Юльян Урсын Нямцэвіч (1758–1841) — вядомы польскі паэт, палітычны дзеяч.

[13] Ігнат Красіцкі (1735–1801) — буйны польскі пісьменнік, аўтар сатыр, казак, сатырычных паэм, раманаў.

*Да Ануфрыя Петрашкевіча*
*11(23) студзеня 1822, Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 4, с. 106–107.

[1] Катаровая гарачка — так называлі брушны тыф.

[2] Vale! (*лац.*) — бывай здаровы!

*Да Адама Міцкевіча*
*26 лістапада (6 снежня) 1822 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 4, с. 359–361.

[1] Валерыян Красінскі (1795–1855) — гісторык, перакладчык, палітычны дзеяч; у 1818–1822 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, дзе пазнаёміўся з А.Міцкевічам, Т.Занам, Я.Чачотам і іншымі філаматамі.

[2] Гаворка ідзе пра першы томік паэзіі А.Міцкевіча.

[3] Ігнат Ляхніцкі — грамадскі дзеяч, выдавец часопіса «Pamiętnik Magnetyczny», што выходзіў у Вільні ў 1816–1818 гг.

[4] Ігнат Рэшка — адзін з цэнзараў, былы прафесар астраноміі Віленскага універсітэта.

[5] Юзаф Завадскі — кнігавыдавец у Вільні.

[6] Мікалай Маліноўскі (1799–1865) — філарэт, гісторык, вучыўся ў Віленскім універсітэце.

[7] Багуміл Кіслінг — выкладчык гравёрнага мастацтва ў Віленскім універсітэце.

[8] Да Францішка Малеўскага.

[9] Міхал Ачароўскі — прафесар сельскай гаспадаркі ў Віленскім універсітэце; вывучаў сельскую гаспадарку ў Германіі.

*Да Адама Міцкевіча*
*10(22) снежня 1822 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 4, с. 372–374.

[1] Антоні Эдвард Адынец (1804–1885) — польскі паэт, быў членам Таварыства філарэтаў. Родам з Ашмяншчыны.

[2] Пафлягон — так звалі сябры філамата Юзафа Кавалеўскага, альбо малодшага Юзафа.

[3] Фрыдэрык Морыц — віленскі кнігавыдавец.

[4] Ануфры Петрашкевіч , які настаўнічаў, зноў намерыўся вярнуцца на працу ў канцылярыі Масы радзівілаўскай, зноў стаць «масістам».

*Да Францішка Малеўскага*
*21 студзеня (2 лютага) 1823 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе паводле выдання: Адам Мицкевич. Собрание сочинений в пяти томах. Т. 5. М., 1954, с. 611–612.

[1] Riesengebirge(*ням.*) — гіганцкія горы.
[2] Musam invitam (*лац.*) — непрыхільную музу.

### *Да Адама Міцкевіча*
### *27 студзеня (8 лютага) 1823 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Korespondencja filomatów, т. 5, с. 21–24.

[1] «…ці прайшла агнёвую пробу» — тут, як відаць, у сэнсе: ці поўнасцю яна гатова, ці да канца адшліфавана.

[2] Маюцца на ўвазе радкі з «літоўскай аповесці» А.Міцкевіча «Гражына» (падаю іх у даслоўным перакладзе):

Пазналі мужа ліцвіны па гэтых знаках,
І ціха адзін аднаму шэпча:
«Гэта якісьці вісус з псярні крыжакоў,
Тлусты, бо прускую кроў штодзённа хлебча…»

І.Лялевель, які быў цэнзарам, непакоіўся, што рабіць з гэтай «псярняй», бо так абразліва называўся «духоўны ордэн» (гл. пісьмо Я.Чачота да А.Міцкевіча ад 18(30) студзеня 1823г., змешчанае ў тым жа выданні, т. 5, с. 7).

[3] «Першацвет» — верш, якім адкрываецца зборнік А.Міцкевіча «Балады і рамансы».

[4] У бердзе — ад беларускага «бёрда», прылады ў кроснах; выраз «у бердзе» — азначае тут гатова (відаць, пачуты Я.Чачотам на роднай Наваградчыне).

[5] Відаць, гаворка ідзе пра эпічную паэму італьянскага паэта эпохі Адраджэння Т.Таса «Вызвалены Іерусалім».

[6] «Dziennik Wileński», часопіс.

[7] Папраўка Я.Чачота была прынята А.Міцкевічам, пра што сведчыць канчатковы тэкст «Дзядоў».

### *Да Адама Міцкевіча*
### *1(13) лютага 1823 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 5, с. 29–33.

[1] Ганза — саюз партовых гарадоў на Балтыйскім моры, з цэнтрам у Гамбургу; тут — згуртаванне паэтаў.

[2] Алесь — Аляксандр Ходзька, студэнт Віленскага універсітэта, член Таварыства філарэтаў, паэт. У 1829 г. том яго вершаў выйшаў у Пецярбургу. Найбольш вядомая з гэтых твораў балада «Маліны». Знаўца персідскай літаратуры і мовы. Быў знаёмы з А.С.Пушкіным, В.А.Жукоўскім. У 1857–1883 гг. чытаў курс славянскіх літаратур у Коледж дэ Франс у Парыжы.

[3] Эмерык Станевіч — паэт, друкаваў свае творы ў «Дзенніку Віленьскім». Выдаў «Песні літоўскага народа».

[4] Ян Загорскі — паэт, родам з Наваградчыны; як сведчыць Я.Чачот, аўтар оды «Бог», змешчанай ананімна ў другім гадавіку часопіса «Dzieje dobroczynnosci» (Вільня).

[5] Юльян Корсак — паэт, перакладчык «Боскай камедыі» Дантэ.

[6] Юзаф Масальскі — байкапісец.

[7] Людвік Шпіцнагель — сын прафесара універсітэта, сябра Ю.Славацкага.

[8] Ян Дварэцкі — віленскі літаратар, малавядомы.

[9] Et sic porro (*лац.*) — і гэтак далей.

[10] Відаць, маецца на ўвазе княгіня Барбара Радзівіл (1520–1551) — жонка вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста.

[11] Відаць, маецца на ўвазе каралева Польшчы Ядзвіга; ажаніўшыся з ёй, вялікі князь літоўскі Ягайла атрымаў у 1386 г. польскі трон.

[12] Мацей Казімір Сарбеўскі (1595–1640) — польска-лацінскі паэт, тэарэтык стылю барока. Выкладаў у Полацкай калегіі.

[13] Шубраўцы — члены так званага Таварыства шубраўцаў у Вільні, якое выступала супроць прыгонніцкіх парадкаў. У сваім сатырычным часопісе «Вядомосці бруковэ» (1816–1822) шубраўцы крытыкавалі жорсткіх прыгоннікаў, выказвалі спачуванне заняволенаму беларускаму селяніну.

[14] Маецца на ўвазе А.Э.Адынец.

### *Да Адама Міцкевіча*
### *22 лютага (6 сакавіка) 1823 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 5, с. 81–85.

[1] Іяхімам Лялевелем, з якім сябравалі А.Міцкевіч і Я.Чачот.

[2] Юзаф Твардоўскі — матэматык, стаў рэктарам Віленскага універсітэта пасля Шымана Малеўскага.

[3] Міхал Шырма — філарэт, член літаратурнага саюза.

[4] Ксаверы Тэрлецкі — філарэт, член саюза ліловага (права).

[5] Дорпат — старая назва Дэрпта (цяпер Тарту — горад у Эстоніі).

[6] Sub secreto (*лац.*) — пад сакрэтам.

[7] Дадому — г. зн. на Піншчыну, у Вялесніцу.

[8] Казімір Контрым — удзельнік паўстання на чале з Тадэвушам Касцюшкам, быў сакратаром праўлення Віленскага універсітэта, член Таварыства шубраўцаў, у 1815–1818 гг. рэдактар часопіса «Dziennik Wileński». Меў значны ўплыў на студэнцкую моладзь.

[9] Міхал Баброўскі (1784–1848) — беларускі славіст і арыенталіст, тэолаг. Быў прафесарам Віленскага універсітэта. У 1824 г. быў звольнены з пасады за пашырэнне прагрэсіўных ідэяў і высланы ў Жыровічы пад нагляд паліцыі.

[10] Экземпляры «Dziennika Wileńskiego».

### *Да Адама Міцкевіча*
### *4(16) сакавіка 1823 г., Вільня*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, т. 5, с. 110–113.

[1] Ян Ходзька — бацька Аляксандра Ходзькі.

### *Да Ануфрыя Петрашкевіча і Юзафа Завадскага*
### *22 кастрычніка (3 лістапада) 1825 г., Кізіл*

Друкуецца ў перакладзе паводле кнігі: Archiwum filomatów. T. 1. Na zesłaniu. Wrocław, 1973, s. 99–103.

[1] Казімір і Мар'ян Пясецкія.

[2] Я.Чачот і А.Сузін пасля шасцімесячнага турэмнага зняволення на Урале выйшлі на «волю», а Тамаш Зан, якому далі адзін год турмы, адбываў яшчэ свой тэрмін.

[3] Тут ідзе гаворка аб працы над перакладам кнігі В.Ірвінга «Нарысы маральнасці і літаратуры англічан і амерыканцаў», якая была потым выдадзена ў Вільні ў двух тамах (1830).

[4] Гаворка ідзе пра Зосю Малеўскую.

[5] Нямецкі пераклад кнігі шатландскага тэолага XVIII ст. Джона Масона «Самапазнанне» (Лейпцыг, 1822).

[6] Гаворка ідзе, відавочна, пра «Эцюды аб прыродзе» — твор французскага пісьменніка Ж.А.Бернардзена, дэ Сен-П'ера (1737–1814), які быў упершыню апублікаваны ў 1784 г. і якім зачытваўся ў выгнанні Т.Зан.

[7] Крожскі і Панявежскі паветы Ковенскай губерні.

[8] Ад опіуму.

[9] Нямецкі філосаф І.Кант і рымскі прававед Я.Куяс.

[10] Атлас (Атлант) — паводле грэцкай міфалогіі тытан, які трымаў на сваіх плячах купал неба.

[11] Гаворка ідзе, як мяркуецца, пра «Даследаванне метрычнасці і рытмікі польскай мовы, у прыватнасці аб музычнасці польскіх вершаў» Юзафа Эльснера (Варшава, 1818).

[12] Пераклад Чачота паэзіі Яна В.Л.Глейма не быў надрукаваны.

[13] Франак — відавочна, Францішак Малеўскі.

### *Да Ануфрыя Петрашкевіча*
### *18(30) снежня 1829 г., Уфа*

Друкуецца ў перакладзе з таго ж самага выдання, с. 171–173.

[1] Ёган Готфрыд Гердэр (1744–1803) — нямецкі філосаф-асветнік, пісьменнік, літаратуразнавец. Адзін з тэарэтыкаў антыфеадальнай літаратурнай плыні «Бура і націск».

[2] Дугальд Стэвард (1753–1828) — шатландскі філосаф.

[3] Стааль-Гальштэйн (Анна Луіза Жэрмен дэ Сталь; 1766–1817) — французская пісьменніца. Аўтар кнігі «Разважанні аб

французскай рэвалюцыі» (1818), раманаў і п’ес, у якіх выступала за эмансіпацыю жанчын.

[4] Дон Мануэль Брэтон дэ лос Герэрос — папулярны іспанскі паэт першай паловы XIX ст.

[5] Ex professo (*лац.*) — па прафесіі.

[6] Ануфра — Ануфрыя Петрашкевіча.

[7] Юзаф Яжоўскі.

[8] Франусь — Францішак Малеўскі.

[9] Людвіка Кастравіцкая — сяброўка Марылі Верашчакі, многа зрабіла для маральнай падтрымкі арыштаваных філаматаў.

[10] Фелікс Кулакоўскі.

[11] Ян Вернікоўскі — філарэт, перакладчык паэзіі Піндара.

[12] Юзаф Панятоўскі (1763–1813) — польскі военачальнік, камандаваў арміяй герцагства Варшаўскага, удзельнічаў у паходзе Напалеона на Расію.

[13] Мікалай Казлоўскі — філарэт; к гэтаму часу быў ужо, як відаць, жанаты.

*Да Марыі Путкамер*
*Сакавіка 9 дня (1883 г.), Лепель*

Аўтограф на польскай мове ў ЦДГА Літвы, ф. 1135, воп. 9, спр. 28, л. 31. У перакладзе друкавалася: Пачынальнікі, с. 101–102.

Перакладзена і падрыхтавана да друку Г.Кісялёвым.

[1] Марыя Путкамер (з Верашчакаў; каля 1800–1865) — каханая А.Міцкевіча («Марыля»), сяброўка Чачота і іншых філаматаў.

[2] Чачот прыбыў у Лепель у 1833 г., атрымаўшы пасаду сакратара ў дырэкцыі Бярэзінскага канала.

[3] Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе «Noworocznik Litewski» за 1831 г. Г.Клімашэўскага.

[4] Маецца на ўвазе часопіс «Wizerunki i roztrąsania naukowe», які выдаваўся ў Вільні.

[5] Граф Лаўрын Путкамер (1794–1850) — муж адрасаткі.

*Да Юзэфы Дамейка*
*Лютага 9 дня (1833–1839 гг.)*

Аўтограф на польскай мове ў ЦДГА Літвы, ф. 1135, воп. 9, спр. 28, лл. 37–37 адв. У перакладзе друкавалася: Пачынальнікі, с. 102–103.

Перакладзена і падрыхтавана да друку Г.Кісялёвым.

[1] Юзэфа Дамейка — жонка Адама Дамейкі, брата вядомага філамата, асветніка і падарожніка Ігната Дамейкі. Паходзіла са Слізняў, якім належалі Бортнікі.

[2] Датуецца па аналогіі з іншымі пісьмамі лепельскага перыяду.

### *Да Канстанціна Тышкевіча*
### *28 снежня 1844 г., у Бортніках*

Друкуецца ў перакладзе паводле часопіса: Pamiętnik literacki, 1948. XXXVIII, с. 511–512.

[1] Канстанцін Тышкевіч (1806–1868) — беларускі археолаг, гісторык, этнограф. У Лагойску, дзе жыў з 1836 г., стварыў музей старажытнасцей, сабраў каштоўную бібліятэку.

# ЗМЕСТ

## СПЕВЫ ПРА ДАЎНІХ ЛІЦВІНАЎ ДА 1434 ГОДА

## УЛАСНЫЯ СЯЛЯНСКІЯ ПЕСНІ

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, НАВУКОВЫЯ ПРАЦЫ



## ПІСЬМЫ